

**Падтрымоўвайце беларускую прысутнасьць у сьвеце**

**- выпісвайце газэту *БЕЛАРУС***

**ды набывайце яе выданьні.**



# БЕЛАРУС

## 2007

БЕЛАРУС 2007



# БЕЛАРУС

Літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа

## 2007

# BIELARUS

Litarature almanac of Belarusan writers abroad

## 2007

Выдавецтва газэты “БЕЛАРУС”
Нью Ёрк 2007

# БЕЛАРУС
# 2007

**Літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа**
**выдаецца са жніўня 2007 году**

# BIELARUS
# 2007

**Litarature almanac of Belarusan writers abroad**
**published since August 2007**

**Заснавальнік:** Марат Клакоцкі.
**Выдавец:** рэдакцыя газэты “Беларус”.

**Адрас для допісаў:** *BIELARUS*
*P. O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
*USA*

**E-mail:** *hazetabielarus@att.net*

Падрыхтоўка тэкстаў да друку і макет - Марат Клакоцкі
Карэктар - Алена Высоцкая

У афармленьні першай старонкі вокладкі выкарыстаны здымак *Віктара Дударава*, зроблены сёлета падчас сьвяткаваньня Купальля ў Крос Рывэр, штат Нью Ёрк.

На апошняй старонцы вокладкі здымак вышыванкі-сымбалю Беларусі, які паходзіць з выявы крыніцы - кругоў на вадзе, майстрыхі *Ірыны Варабей* з Канады.

# ЗЬМЕСТ

*Падзякі. Пляны на будучыню* . . . . 4
*У добрую дарогу "Беларусу"* . . . . 5
**Ніна АКСЁНЧЫК.** Вершы . . . . 7
**Станіслаў БАБКЕВІЧ.** Дзёньнік . . . . 10
Сустрэча . . . . 16
Вершы . . . . 17
**Іван БАТРАЧКІН.** Беларускія краскі . . . . 20
**Ірына ВАРАБЕЙ.** Мая Свабода . . . . 22
Як зоркі нам сьвяцілі . . . . 25
Упартасьць кветак . . . . 27
Як яно было напачатку. *Пераклад з ангельскай* . . . . 30
**Віталь ВОРАНАЎ.** Рэнэтранс . . . . 37
Не зусім казка . . . . 55
Тэатар . . . . 56
Дамафон Мінай . . . . 58
**Зьміцер ДАВЫДЗЕНКА.** Вершы . . . . 60
**Віталь ЗАЙКА.** Чужаземны трыптых. Пра магнітафон . . . . 71
Вясельле . . . . 76
У Новым Сьвеце . . . . 78
**Янка ЗАПРУДНІК.** Што сказаў Бог беларусу . . . . 82
**Антось ЗЕЛЯНКОЎСКІ.** Уступ . . . . 87
Майстроўшчык піяніна . . . . 88
Вершы . . . . 100
**Віктар КАВАЛЕЎСКІ.** Засынае Аўстралія . . . . 104
Як пеўніка півам аблілі . . . . 105
**Пятрусь КАПЧЫК.** Вам хаханькі . . . . 110
Байкі прозаю . . . . 111
Думкі ўслых . . . . 113
**Яна ЛІЦЬВІНАВА.** Тыдзень Сьв. Мікалая, альбо Як апошнія сталі першымі
Анёл і яблыкі Беласьнежкі . . . . 115
Мата Хары й неспадзяванка . . . . 116
Самагубства па-альбанску . . . . 119
Каханьне за плотам: чортава вясельле . . . . 121
**Анатоль МАЎЧУН.** Арэна . . . . 124
Кліч . . . . 128
**Пётр МУРЗЁНАК.** Нявыдуманыя гісторыі з жыцьця
Трагічнае каханьне . . . . 129
Зламаныя лёсы . . . . 131
Вячэрня (або ўсяночная) . . . . 134
Мілыя краявіды . . . . 136
**Вольга ПРЫСМЫЦКАЯ.** Дзед Сьцяпан . . . . 141
**Іна СНАРСКАЯ.** Вершы . . . . 143
**Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ.** Вынішчэньне тыранаў. *Пераклад з расейскай* . . . 153
**Макс ШЧУР.** Сола rennt . . . . 171
Вершы . . . . 179

# ПАДЗЯКІ

*Выказваем шчырую падзяку ўсім, хто спрычыніўся да выхаду гэтага выданьня ў сьвет, хто сваім непасрэдным удзелам, а хто толькі карыснымі парадамі ці сваёй зацікаўленасьцю.*

*Асаблівая падзяка др.* ***Вітаўту Кіпелю*** *за каштоўныя парады й сп.* ***Янку Запрудніку****, які зрабіў грашовае ахвяраваньне адмыслова для друку гэтага нумару.*

*Вялікі дзякуй сп.* ***Лявону Юрэвічу*** *за дапамогу ў вызначэньні тэматыкі й канцэпцыі альманаха ды шматлікія парады.*

# ПЛЯНЫ НА БУДУЧЫНЮ

*Альманах "Беларус" быў задуманы для таго, каб даць магчымасьць беларускім творцам, і ўжо вядомым, і, што вельмі важна, толькі пачынаючым, якія жывуць у замежжы і ня маюць магчымасьці друкавацца на Бацькаўшчыне, пазнаёміць чытачоў са сваімі літаратурнымі спробамі. Спадзяюся, што гэтае прызначэньне альманах выканае і адкрые дарогу ў вялікую літаратуру не аднаму таленту.*

*З радасьцю надрукуем водгукі і рэцэнзіі на гэтае выданьне ў наступным нумары літаратурнага альманаху "Беларус", выхад якога заплянаваны на лета 2008 году. Апошні тэрмін дасылкі твораў для друку ў ім -* ***1 чэрвеня 2008 году****. Дасылаць матар'ялы найлепш скарыстаўшы электронную пошту на адрас:* ***hazetabielarus@att.net*** *. Калі нехта з аўтараў ня мае доступу да Інтэрнэту, то свае творы, запісаўшы на электронныя носьбіты інфармацыі (CD, DVD), можна даслаць поштай на адрас:*

***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
***USA***

*Калі ў некага з аўтараў творы існуюць толькі ў рукапісе, і ён ня мае доступу да кампутара, то даслаць іх можна на гэты ж адрас.*

*У альманаху "Беларус" могуць быць надрукаванымі літаратурныя творы самага рознага кшталту: паэзія, проза, падарожныя зацемкі, успаміны, але аўтары павінны жыць па-за межамі Беларусі.*

*Альманах друкуецца клясычным правапісам, таму ўсе тэксты будуць адаптаваныя да яго. Пасьля выхаду новага нумару кожны з аўтараў атрымае асобнік бясплатна і будзе мець магчымасьць набыць яшчэ некалькі па зьніжанам кошце. На жаль, выдавецтва "Беларус" ня мае магчымасьці выплочваць ганарары, бо не займаецца камэрцыйнай дзейнасьцю.*

*Замовіць наступны нумар альманаху, можна напісаўшы на вышэйпададзены адрас.*

*Будзем вельмі ўдзячныя ўсім ахвярным людзям, хто зможа падтрымаць гэтае выданьне фінансава. Вашыя імёны будуць абавязкова пададзеныя ва ўступным артыкуле, і вы першымі атрымаеце новае выданьне пасьля выхаду з друку.*

***Марат КЛАКОЦКІ***

# У ДОБРУЮ ДАРОГУ "БЕЛАРУСУ",

## ЧАРОДНАМУ ЛІТАРАТУРНАМУ АЛЬМАНАХУ

Беларуская эміграцыйная выдавецкая дзейнасьць налічвае на сваім рахунку ладна альманахаў, зборнікаў, гадавікоў, юбілейных кнігаў - друкаў непэрыядычных, адна- і шматтомных, літаратурна-мастацкага, гістарычнага профілю, дакладны тып якіх цяжка акрэсьліць, і якія выдаваліся прыватнымі асобамі, невялкімі суполкамі, газэтнымі выдавецтвамі, арганізацыямі. Публікацыі такія былі досыць папулярнымі, хоць іхная чытацкая аўдыторыя налічвала ня больш як сотні асобаў. Выдаўцы такіх публікацыяў кіраваліся найперш зацікаўленьнем чытача, давалі магчымасьць дэбюту новым маладым аўтарам, а таксама фінансавымі магчымасьцямі - быў "запас капейкі" ў выдаўца - друкуй! Пераглядаючы бібліяграфічныя даведнікі, бачыш, што й на Бацькаўшчыне альманах, гадавік і г. д. - таксама папулярны від друкаванае прадукцыі.

Адным зь першых дасюль ведамых гістарычна-літаратурных альманахаў на эміграцыі быў альманах "Беларусь", выдадзены ў Бэрліне пад рэдакцыяй Рудольфа Абіхта (1919).

У 1926 годзе ў Празе выйшаў альманах - хоць пазначаны гэты друк як "кніга 1-я" - "Замежная Беларусь" пад рэдакцыяй Пётры Крэчэўскага. Некаторыя з твораў, зьмешчаныя ў гэтай публікацыі, пазьней перадрукоўваліся асобнымі брашурамі. Таксама ў Празе, а пазьней і ў Заходняй Нямеччыне ды ў ЗША, друкаваліся часапісы, часта адзін выпуск, якія можна залічыць да альманахаў. Прыкладам, "Прамень" (Прага, 1926), "Новы прамень" (Прага, 1926), "У вырai" (часапіс літаратурнага гуртка Беларускай гімназіі імя Я. Купалы; Міхэльсдорф, 1947); "Прыйсьце" (Саўт Рывэр, 1958) ды колькі іншых публікацыяў.

Да альманахаў польска-беларускіх трэба залічыць друкі выпускнікоў Віленскага ўнівэрсытэту імя С. Баторага "Alma Mater Wilnensis", якія выдаваліся ў Лёндане ў гадох 1951, 1953, 1956 і тэматыка якіх была беларуска-польская гістарычная ды літаратурная. Беларусы-выпускнікі гэтага ўнівэрсытэту ў тых друках займалі значнае месца.

Чыста літаратурным беларускім альманахам зьяўляецца кніга "Ля чужых берагоў" (выдавецтва "Бацькаўшчына", Мюнхэн, 1955). Гэтая публікацыя адыграла выдатную ролю ў папулярызацыі беларускае літаратуры на эміграцыі. У альманаху прадстаўленыя бальшыня беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў эміграцыі, а таксама зроблены шырокі агляд эміграцыйнае літаратуры др. Станіславам Станкевічам, рэдактарам альманаху.

Пазьней літаратурны альманах быў выдадзены ў Кліўлендзе - "Пражэктар" (1967) пад рэдакцыяй пісьменьніка Алеся Змагара.

Да тыпу літаратурнага альманаху можна залічыць кнігу "Зьнічкі Случчыны" (1978), якая выйшла ў Саўт Рывэры пад рэдакцыяй паэта Янкі Золака, хоць трэба зрабіць засьцярогу, што гэта крыху зьмененая вэрсія кнігі "Песьняры Случчыны" (Слуцак, 1943).

Аўтару гэтай нататкі таксама ведама, што літаратурныя альманахі ўкладаліся ў Бэрліне (паведаміла сп-ня Ніна Абрамчык); рыхтаваў альманах Янка Золак (камунікацыя ад яго самога) ды ў 1960-х гадох у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку плянаваўся альманах "Палесьсе" (інфармацыя ад др. В. Тумаша). Аднак кнігі гэтыя ніколі не былі выдрукаваныя, хоць весткі аб падрыхтоўцы іх маглі трапіць у карэспандэнцыю, друк.

Як бачым, новае выданьне - альманах "Беларус" мае папярэднікаў.

Зычым яму памыснага распаўсюджаньня й добрай чытацкай рэакцыі.

*Вітаўт КІПЕЛЬ*



**АКСЁНЧЫК Ніна** - нарадзілася ў вёсцы Вятчын на Палесьсі. Працавала дацэнткаю катэдры беларускай філялёгіі ў Мазырскім унівэрсытэце.

Ужо сем гадоў разам зь сям'ёй жыве ў Чэхіі, палітычная эмігрантка. З мужам Уладзімерам гадуюць дачку Рагнеду.

Ніна працуе ў моўных школах выкладчыцай расейскай, беларускай і чэскай моваў. У вольны час малюе і піша.

# ВЕРШЫ

Я Бога бачу ў вобліку тваім.
Недасканаласьць рыс -
Вачэй жывая споведзь,
Адкрытая, як неба, нам дваім,
Маю душу цяплом вясновым поіць.
І я расту.
Нібыта ў забыцьці,
Вачам тваім, рукам тваім малюся.
О шчасьця міг, мне суджаны ў жыцьці!
Якой бясьсільнаю перад табой раблюся.
Баюся: зьнікнеш ты з маіх вачэй,
Агеньчык мой,
Праменьчык мой вясновы.
Хоць на імгненьне
Ўспыхне хай ярчэй
Сьвятло ў грудзях -
Я ажыву,
Я прарасту нанова.

* * *

Лаўлю - і не пасьпяваю
Занатаваць на паперы
Зорныя імгненьні
Колераў, гукаў, рыфмаў -

Неспазнаных сыгналаў
Ад космасу да душы,
Ад душы да Сусьвету.
Яны бліскавіцай-імгненьнем
Зачэпяць маю падсьвядомасьць -
І няўлоўна зьнікаюць
Недзе ў прасторах вечнасьці.
А мне застаецца толькі
Матэрыя
Маёй натруджанай думкі -
Як бляклы цень
Ад таго няўлоўнага,
Неспасьцігнутага "Я".

* * *

Быццам бы анёл ка мне ўляцеў.
Ён жа мне на ручанькі прысеў.
Да мяне пяшчотна так прыпаў
І ўтрапёна мяне ручкамі абняў.
Мае думкі сном салодкім ён загушкаў.
Мой анёл - любімая дачушка.

* * *

Брала фарбы да твайго партрэта
З пацалункаў водару, сустрэч,
Што цяплей за аксаміты лета,
Што вастрэй за самы востры меч.
Толькі бякла фарбаў гэтых сіла,
Як вачыма цалаваў мяне -
Сонца зь люстраной глыбі сьвяціла
Анёлам недасяжным, як у сьне.

* * *

Перад мальбэртам, як іконай,
Душа ірвецца да нябёс,
Каб ласкай боскай, блаславёнай
У фарбах вылепіць свой лёс.

А лёс мой - маці Беларусі,
Яе веліч, крыўда, боль.
О, як сабраць мне краскі ў скрусе
Душой, ахутанай у золь?

Каб перадаць сваё маленьне
Прад гэтай боскаю красой:
Прад васільковым азарэньнем
Палёў, расквечаных расой.
Прад гэтай вечнай песьняй хлебу,
Што з сонца высьпелых жытоў.
З ільноў, што вытканыя зь неба,
З ружовай мройнасьці садоў.
Ды ўжо даўно мая палітра -
З Палесься вечных туманоў -
Як я сама, п'е водар ветру
З маіх надпрыпяцкіх лугоў.

І блякне кобальт срэбны ранку.
Хмурнее возера блакіт -
Тут чорнай, мёртваю бусьлянкай
Ляжыць журба паміж ракіт.

Ой вы, чарнобыльскія цені
Невыказанае тугі...
Крылом зламаным птушкі Жэні
Баліць мой пэндзаль дарагі...

Знайшоўшы стыль - душа жывая
Зямелькі роднай, яе боль.
Мой лёс, ты будзь спагады раем:
Мне гэта выказаць дазволь.

* * *

*Мужу Уладзімеру*

Не заві мяне шыпшынай белай.
Косы па-дзіцячы запляту
І ўцяку за луг рамонкаў сьпелых -
Кветкай растваруся на ляту.
Высьпее зара над небакраем.
Шчодрасьцць сонца згасьне між дуброў.
Я тады пайду жаданым раем -
Высьпелая з сонца, кветак кроў.
І такою - ты кахай мяне заўсёды.
Сярод тлуму, роспачы, трывог
Полымем расквечанага глоду
Ты мяне прымі, мой сьціплы бог.



**БАБКЕВІЧ Станіслаў** - нарадзіўся 15 сакавіка 1960 году ў Будславе - мястэчку на Мядзельшчыне, адным з каталіцкіх цэнтраў Беларусі, вядомым беларускай гімназіяй - адной зь першых у Беларусі. Там у 1977 годзе Станіслаў скончыў школу. З траўня 1978 году па травень 1980 году служыў у савецкім войску.

Потым працаваў у Будславе, Вялейцы, пазьней у Маладэчне сьлесарам, брыгадзірам у калгасе, токарам, зьменным майстрам, майстрам вытворчага навучаньня. У Маладэчна завочна скончыў палітэхнікум.

З 1985 году жыве ў Ліепаі. Да 1992 году працаваў у Ліепайскай базе "Акіянрыбфлёт". Некаторы час працаваў у бізнэсовых структурах. Затым - самастойна на сваёй фірме ў галіне прамысловага прыбярэжнага лову. Зараз ходзіць у мора, у вольны час бярэ ўдзел у працы ліепайскай суполкі беларусаў "Мара".

Магчыма, у расстаньні ўсё адчуваецца больш востра і шчыра, на адлегласьці ўсё бачыцца больш пільна, таму ў Станіслава ўзьнікла патрэба занатоўваць свае пачуцьці і думкі, а таксама дзяліцца ўражаньнямі з чытачамі. Так пакрысе пачалі нараджацца невялікія апавяданьні, эсэ, гумарэскі на роднай мове. А чытачы атрымалі магчымасьць пазнаёміцца яшчэ з адным таленавітым творчым чалавекам.

Першымі чытачамі Станіслава сталі ліепайчане. Менавіта ў "Пралесцы", беларускай старонцы ліепайскай гарадзкой газэты "Курзэмэс Вардс", упершыню былі надрукаваныя творы Станіслава Бабкевіча.

# Дзёньнік адной вандроўкі з экскурсам у жыцьцё

**3 лютага 2006 году, Балтыйскае мора паміж Ругенам і Барнгольмам.**

Штармуем, стаім на якары.

З гэтага вось ліста пачынаю весьці рэгулярныя (спадзяюся) запісы. Запісваць свае думкі і ўражаньні. Шкадую, што шмат сюжэтаў, задумак страціліся зь цягам часу, бо не былі своечасова занатаваныя. А занесеныя на паперу, у далейшым маглі б быць распрацаваныя да літаратурнага твору. Таму трэба запісваць!

Трэба пісаць! Цяпер я ўжо ўпэўнены, што не пакіну гэтага занятку. Адчуваю, што патрэба пісаць увайшла ў маю кроў. Праз паўтары месяцы мне споўніцца сорак шэсьць гадоў. А пісаць толькі пачынаю... Ці ня позна? Ці

варта? Думаю, што варта. Ёсьць што сказаць людзям. Пражытыя гады і пе-ражытыя падзеі не прайшлі дарэмна. Назапашаны жыцьцёвы вопыт і загартаваны характар. Раней не хапала ні таго, ні другога. Ці можа, я да сябе занадта крытычна ставіўся?

Пісаць пачаў я ўжо і ня памятаю, наколькі даўно, яшчэ ў школе. Але з таго напісанага я зьнішчыў усё, а з далейшага - амаль усё. Пераважна гэта былі вершы й спробы пісаць фантастыку, якой я захапляўся. Недзе ў першай палове 80-х дасылаў падборку сваіх вершаў у адзін тоўсты, тады яшчэ савецкі, часапіс. Але адказу не атрымаў. На тым усё скончылася. Потым былі іншыя турботы...

Але ўвесь гэты час, павінен зазначыць, я пісаў. Пісаў у галаве, назапашваў тое, што зь цягам часу можа (і павінна!) выліцца на паперу і годна таго, каб быць прапанаваным увазе чытача.

Надышла пара перанесьці назапашанае на паперу.

Я ўжо 20 год пражыў за межамі Беларусі. За гэты час на Радзіме зьмянілася не адна эпоха. 20 гадоў я адарваны ад каранёў. Але самавызнаньне маё як беларуса не завяла і ня страцілася, а ўзрасло, акрэсьлілася.

Я - беларус. І маё прызначэньне - дзе б я ні быў, быць беларусам.

**4 лютага 2006 году. Паміж Ругенам і Барнгольмам.**

На якары.

Сёньня дзень народзінаў маёй аднаклясьніцы, маёй першай любові, маёй першай жанчыны, маёй першай жонкі. Колькі часу мінула... Адышло ўсё ў небыцьцё. Кахаў. Цяпер усё адляцела. Адляцела? Але хацеў бы сустрэцца. Проста пагутарыць. Каб жылі, то ў мінулым годзе адзначылі б срэбранае вясельле. Цяпер у мяне трэцяя жонка. А можа, не было ніводнай - шлюбу ня браў ні разу. Пражылі шэсьць год. Абодва дурныя былі. Каб мелі дзяцей - не пакінуў бы ніколі.

Хочацца мець сям'ю. Перад сабой, перад людзьмі і перад Богам. Калі ходзіш у мора, то гэта так жадана і так недасягальна. Але ж заўсёды спадзяесься, што камусьці патрэбен і нехта чакае. Хоць грошы. Такі вось гумар сумны.

Сёньня першая субота ў лютым. Паводле звычаю, сёньня павінен адбыцца ў нашай школе баль-сустрэча з выпускнікамі. 29 год таму я скончыў Будслаўскую сярэднюю школу.

Даўно выношваю думку напісаць вялікі твор (маю на ўвазе памер!) пра падзеі Другой сусьветнай вайны на матар'яле, апавяданым у большасьці маёй мамай. Пра майго дзеда, беларускага патрыёта, польскага жаўнера; пра маю маці, тады дзяўчынку-падлетка... Цяжар вялікі. Задуму выношваю зь юнацтва. Тады пісаць ня мог сабе дазволіць. Па вуліцах хадзілі тыя, хто быў непасрэдным удзельнікам тых падзеяў. Што я мог казаць ім ці сваім аднагодкам? Што я мог давесьці ім? А хто раскажа сёньня новаму пакаленьню пра тыя падзеі, калі ня я! Вось і надышла мая пара. Цяпер трэба сьпяшацца дадаткова набіраць факталягічны матар'ял. Трэба сьпяшацца апытаць тых, хто застаўся жывы і быў сьведкам тых падзеяў. І ў першую чаргу, трэба пакланіцца маёй роднай цётачцы Хрысьціне. Яны з мамаю з тройні (быў яшчэ хлопчык, ды памёр у маленстве). Адныя й тыя ж вочы. Мама мне многа-

многае апавядала. А паколькі я нарадзіўся й вырас там, дзе адбываліся падзеі, то мае быць эфэкт прысутнасьці. Я гляджу з таго месца ля ракі, зь якога ўбачыла мая мама, як вядуць па дарозе страляць майго дзеда, і я там, і гэта ўсё адбываецца са мною...

Многа дае Інтэрнэт. Патрэбна працаваць зь ім. Друкуюцца ўспаміны часоў вайны маіх аднавяскоўцаў. Чытаю і раз за разам знаходжу супярэчнасьці. Тое датычыцца маёй сям'і, а значыцца, і непасрэдна мяне. Патрэбен дэталёвы аналіз, апрацоўка. А гэта час і час і, значыцца, на жаль, грошы. Так. Як вядома, час - гэта грошы.

Можа, каб ня зьехаў з роднага кута - не было б той тугі і таго жалю. Не пякло б так сэрца і не было б мяне - ня толькі паводле нараджэньня ды паходжаньня, але і паводле вызнаньня - беларуса. Але я многае аддаў бы, каб жыць на Радзіме. Той, хто ня бачыў жыцьця, хай скажа: і чаму ж не жывеш на Радзіме, перашкод жа табе няма. Гэта так. І зусім ня так. Ня ведаю, як можа быць на эміграцыі шчасьлівым шчыры беларус. Толькі касмапаліт. Хацеў бы, ды цяжка зразумець мне тых, хто па сваёй ахвоце, не аглядаючыся, назаўсёды пакідае Радзіму. Хоць і сам, урэшце рэшт, такі.

"Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць..."

Чытаю раман Кастуся Акулы (Аляксандра Качана) "Змагарныя дарогі" (выдавецтва "Мастацкая літаратура", Менск, 1994 год). Каб сказаць, што твор уразіў мяне, захапіў, дык не. Канчатковую думку акрэсьліць наконт таго змагу па заканчэньні чытаньня. Цікавыя мне акалічнасьці таго часу. Хочацца лавіць дух, настрой, атмасфэру. Зусім неадназначныя эмоцыі выклікаюць дзеючыя асобы, па сутнасьці, яшчэ падлеткі ці нават дзеці. Юнакі без жыцьцёвага вопыту, якія думаюць, што вольныя ў сваіх думках, што дзейнічаюць на карысьць сваёй Радзімы. Блажэнны той, хто веруе! Усё пытаньне ў тым, наколькі задэкляраванае адпавядае сутнасьці.

Цікавая мова. Так не размаўлялі ўжо, калі я быў малым. Трэба ўважліва прачытаць і запомніць.

**7 лютага 2006 году, Няксё, Барнгольм, Данія.**

Каля 10-й гадзіны раніцы мясцовага часу.

Зайшлі на "пераўзбраеньне". Перааснасьцілі стодары: на кожны дадалі па ліхтару ці па два з фотаэлемэнтам на ўключэньне і зь мільгаючым сьвятлом. Такія патрабаваньні ў нямецкай рыбалоўнай зоне. Да гэтага безупынна працавалі ў моры роўна суткі. Паднялі 48 мяшкоў-сетак у 1150 кілаграмаў рыбы. Пад "рыбаю" нашыя рыбакі заўжды разумеюць толькі траску. Усё астатняе падаецца пад сваім назовам. Вельмі многа было камбалы.

Учора разгрузіліся і адпачываем. Сёньня выйсьці ў мора не дае вецер. Штармуем на беразе. Агульнасудавыя работы.

Тут я займаю пасаду мэханіка. Маю ўласную каюту. Гэта вельмі добра, бо маю лепшыя ўмовы, каб пісаць.

**7 лютага 2006 году, 20.45.**

Выйшлі зь Няксё на промысел.

**8 лютага 2006 году. 2.30.**

Сталі на якар.

**8 лютага 2006 году. 13.00.**

Выставіліся.

**13 лютага 2006 году**

Швэцкая рыбалоўная зона.

Добры вечар! - кажу сам сабе. Сёньня ўжо другі дзень плённай працы ў моры. Ёсьць рыбалка! Сёньня паднялі 750 кг, учора - 550.

Колькі часу ўжо нічога не запісваў. Увесь вольны час чытаў. "Змагарныя дарогі" Кастуся Акулы пайшлі ня вельмі. Адклаў. Штосьці не захапляюць героі. Але трэба прачытаць абавязкова як дакумэнт эпохі. Наконт узьнёсласьці думак героя - пытаньне. Спрэчным мне яно здаецца. Маладыя людзі проста шукалі лепшай долі. А вось дух тагачасных падзеяў праз твор хацелася б зразумець. Тут аўтар, каб быў дома, ня змог бы зманіць.

Сёньня споўнілася восем год маёй уласнай фірме. Восем год. А перад тым было іншае жыцьцё. Цяпер мне б, можа, і хацелася, каб яго ніколі не было. Хоць я й быў пры грашах ды пры некаторай уладзе над людзьмі, якія залежалі ад мяне, але ў ладзе з сабою я ня быў. Дзякуй Богу, "новы рускі" зь мяне не атрымаўся, і я застаўся старым беларусам. Але адрэзак жыцьцёвага шляху са сьнежня 94-га па студзень 98-га проста так не закрэсьліш. І ня трэба! Быў такі час.

Вельмі добра чытаецца зборнік артыкулаў Аўгена Калубовіча "Крокі гісторыі".

**14 лютага 2006 году. Балтыйскае мора.**

Сёньня Дзень Сьвятога Валянціна. З нагоды шэраг летуценьняў... Мо хто і мяне дзе ўспомніць.

**21 лютага 2006 году. Няксё, Барнгольм, Данія.**

Пражыты тыдзень, нічога не пісаў. Час прайшоў у працы. Здабылі больш за чатыры тоны рыбы. 18-га быў дзень народзінаў маёй жонкі. "Адзначыў", набіраючы сеткі на палубе.

Некалькі дзён таму згарэла латвійскае рыбалоўнае судна "Бэрзупэ". Мінулым заходам стаялі побач. Там адзін хлопец, Андрэй, хадзіў у мяне на "Лайме", калі я пачынаў. Судна, кажуць, так і стаіць згарэлым на якары ў моры. Каманду зьнялі з плоціка катэрам берагавой аховы Даніі.

У моры зламалася сеткапад'ёмная машынка. Рамантаваліся тут, у Тома. 7600 дацкіх крон. Іх памер аплаты за гадзіну - дзённы заробак у нас на беразе.

**22 лютага 2006 году. Раніца.**

Выйшлі зь Няксё. Ідзем на промысел. Паўночны вецер каля 10 мэтраў у сэкунду.

**23 лютага 2006 году.**

Дзень адзначылі працай. Добры вынік!

Сёньня памятная дата для тых, хто прайшоў вайсковую службу. Каб было з кім, пэўна б, выпіў кілішак гарэлкі. Але з усёй каманды зь пяці чалавек тэрміновую службу прайшоў я адзін. Капітан прайшоў яе "завочна": у мараходцы была ваенная катэдра. А астатнія, паводле ўзросту, краіны пра-

жываньня і паводле статусу, які маюць, - "неграмадзяне", наагул ня ведаюць, што гэта такое. Ну і добра!

Мой бацька казаў: "Не было яшчэ ў пісанай гісторыі пакаленьня людзей на нашай зямлі, якое б не перажыло вайну. Я сваю вайну перажыў, дай Божа, каб ты перажыў сваю!" Бацька ведаў, што казаў. Казаў ён мне гэта ў пачатку 80-х. Калі выбухі грымелі далёка - недзе за Пянджам. Калі маёй матулі ня трэба было баяцца паштальёна, бо я адслужыў ужо й вярнуўся, а малодшы мой брат Паўла вучыўся ў мараходцы, а адтуль не забяруць. Калі яшчэ не была абвешчаная перастройка-перабудова. Калі толькі ўладальніка крылатых броваў пахавалі пры Крамлёўскай сьцяне, і чакаўся шэраг іншых дзяржаўных пахаваньняў. Бацька бачыў: адыходзіць старое. Павінна прыйсьці на зьмену новае. А якое будзе гэтае новае? Што прынясе з сабою? Людзі баяліся вайны. Бо ведалі, што гэта такое.

Маё пакаленьне не мінула вайны. Развал імпэрыі ў пэўным сэнсе й быў вайной. Потым былі іншыя войны, але ўжо не на нашай зямлі. Мінула. Мінула? Яшчэ колькі да сканчэньня майго веку?

**28 лютага 2006 году. 45 міль ад Барнгольму, швэцкая рыбалоўная зона.**

Апошні дзень каляндарнай зімы. На вуліцы - марозіць. Каля -2 па Цэльсію. Другі дзень няма пэўнай рыбалкі. Заўтра ўсё бярэм на борт і ідзем у Няксё.

Сёньня закончыў рыфмаванае "нешта". Штосьці накшталт байкі. Наагул, на гэтым судне пішацца ня вельмі. Памятаю, на "Мэтэоры", дзе я быў памочнікам мэханіка і жыў у каюце на траіх, дзе зьбіраліся ўсе й гулялі ў даміно, палілі бесьперапынна, і пры гэтым яшчэ відзік выдаваў нейкую стралялку, я пісаў і пісаў. Мог адключацца ад усяго і займацца сваім, лежачы за фіранкай на другім паверсе "шконкі". Памятаю, не назапасіў паперы, дык адна байка зьявілася на адвароце плякату з рэклямай аўтамабільных літых колаў. Цяпер больш чытаю. У галаве склаўся цікавы сюжэт з майго рыбацкага жыцьця. Трэба занатаваць.

**5 сакавіка 2006 году. Адкрытае мора.**

На календары вясна, а на двары зіма.

Некалькі дзён таму былі ў Няксё. У Інтэрнэце прагледзеў пошту. Ад Таццяны Казак нічога няма. А чакаў. Добра яе разумею. На ўсё часу проста не знайсьці. І так колькі маіх рэчаў адрэдагавала і зьмясьціла на сайце "Сьвітанка". Ня ўсё ж адразу пасьпець.

Пайшоў ужо другі месяц нашай працы ў моры. Лаўлю сябе на думцы: дзеля чаго ўсё гэта? Выкрэсьліваю з жыцьця дні. Амаль літаральна: як на насьценным календары крэсьліць харчовыя дні матрос - вось і дзень адбылі, сьпісалі. Выкрэсьліваю, а дні ж не бясконцыя! Хочацца працаваць, зьдзяйсьняць, вучыцца... А тут?! Каманда п'е. Як усе рыбакі. Дзякуй Богу, не дамагаюцца таго ж ад мяне. Добра, што наконт гэтага ёсьць паразуменьне.

Напісаў верш. Больш ня буду нішчыць. Ні гэты, ні наступныя. Хопіць! Так і закапаеш сябе. Вынесу да аўдыторыі. Хай судзяць!

**7 сакавіка 2006 году. 3 гадзіны ночы.**

Мінулы дзень быў напоўнены выпрабаваньнямі. Былі ў Няксё. П'яны капітан выводзіў судна з порту. Проста страшна за сваё жыцьцё. Каманда таксама п'яная. Ім усё роўна - непрытомныя. Напэўна, на гэтым я й скончу тут сваю кар'еру. З гэтым капітанам у мора я больш ня выйду.

**8 сакавіка 2006 году. 18.00.**

Віншую цябе, мая Ліда, са сьвятам. Віншую сваю дачушку, майго Анюцёнка.

Ловім кручкамі. Учора працоўны дзень доўжыўся 17 гадзін. Злавілі ўсяго 475 кг на 6 тысячаў кручкоў. Сёньня 175 кг на 4 тысячы. Рахунак кепскі. Цяпер перабягаем. Пераход 23 мілі.

Будую пляны на самастойную працу ў моры. "Лайма" наўрад ці здолее выйсьці ў мора зноў. А папрацавала добра. Чатыры гады майго жыцьця. Будаваў сваімі рукамі, потым імі ж трымаў штурвал... Колькі працы, колькі перажыта! Надыходзіць час "Пілігрыма". Рэнавацыя. Буду прыстасоўваць пад працу кручкамі і сеткамі.

Мару аб тым, як абсталюю свой куточак у Руцаве. Два з паловаю гэктары. Лес і пожні. Ёсьць дзе прыкласьці рукі. І хатка зграбная. Пабудаваная ў 1964 годзе. Крыху не такая, у якой вырас я, але даволі падобная да многіх у Беларусі. Блізка мора і біясфэрны запаведнік Папэ. Побач Кляйпэдзкая шаша.

Напэўна, дадому траплю толькі пасьля 15-га.

**12 сакавіка 2006 году, субота. Балтыйскае мора, 60 міляў ад Няксё, 20.30**

Увесь сакавік на двары тэмпература ад 0 да -3 С. Сёньня вецер 18 м/с. Выбралі толькі 1000 кручкоў. Вынік на гэтую колькасьць добры - 210 кг. Заўтра, напэўна, апошні дзень працы. З раніцы маемся выставіць 2000 кручкоў. Цяпер выстаўлена з учарашнімі 4000. Усяго будзе 6000.

Сёньня чытаў Янку Брыля ў расейскім перакладзе. Зборн...

**13 сакавіка 2006 году, 18.15 судавога часу, 17.15 мясцовага (дацкага).**

У апошні раз дапісаць не ўдалося. Капітан падняў, бо валакло, наносіла на падводны кабель. Выбраў якар і перабеглі.

Ноччу прыйшлі ў Няксё. Зранку выгрузіліся. Абслугоўваў дзьвігуны. Потым была якая гадзіна пабегаць па горадзе.

У Ліды 18 лютага быў дзень народзінаў. З гэтай нагоды я накупляў ёй, здаецца, чатырнаццаць пакетаў з цыбулінамі розных кветак, у тым ліку колькі гатункаў улюбёных яе глядыёлусаў, а таксама два кусты саджанцаў ружаў. Нават памятаю назвы: "Каралева Англіі" і "Лёндан".

Дзецям (усім чатыром) накупіў марцыпанаў.

Заўтра ўвечары будзем у Вэнтсьпілсе, а ў сераду 15-га, спадзяюся, буду ў Ліепаі.

**14 сакавіка 2006 году, 30 міляў да Вэнтсьпілсу.**
Сёньня будзем у Латвіі.

**15 сакавіка 2006 году, бераг Балтыйскага мора паміж Вэнтсьпілсам і Ліепаяй.**
Вось і скончылася мая вандроўка. Праз гадзіну буду дома. Завітаў сюды, каб скончыць свае запісы і ўволю пад'есьці яблыкаў.

Ёсьць тут на шашы такое месца. Мора падступіла да самага асфальту. Праз год-другі праглыне. Колькі часу таму зрабілі аб'езд. А па старой дарозе можна пад'ехаць на самы абрыў. Назіраць і разважаць. Ці любавацца і мроіць. Каму як.

Мора... Месца працы рыбака. Як палетак для селяніна. Зямелька цягне з працаўніка яго моц і надае сваю моц, ён аддае ёй сваё здароўе і лечыцца яе зёлкамі. Ён праклінае яе і беражэ яе. Калі надыходзіць красавік, і зямелька паруе на сонцы, ворыва просіць сялянскіх рук, ён прагне яе. Так і мора. Як ральля для сейбіта, так і хваля для рыбака. Рыбак жыве морам. Рыбак праклінае яго, як ката, і паважае, як бацьку. Праклінае яго, калі там, і зноўку мкнецца туды, як толькі сышоў на бераг. Мора - маё жыцьцё. Праз хуткі час я зноў буду бачыць яго з борту. Яно зноў абдыме мяне ў чарговы раз. І ў чарговы раз адпусьціць. Спадзяюся. Колькі такое яшчэ паўторыцца?!

Ем яблыкі. Як я прагнуў іх у моры! Не было там ніякай зеляніны. Сасіскі і сардэлькі размарожаныя і вараныя былі саланей і гарчэй за мора. Яблычкі! У маім садочку ў Руцаве па восені вас будзе многа. Вельмі многа. А дзе буду я? Ці пакаштую хоць адно?

Сёньня мой дзень народзінаў. Перагорнута сорак шостая старонка маёй жыцьцёвай кнігі.
Ну што ж - паехалі далей!

# Сустрэча

На двары стаяў ужо далёкі 1990 год. Наш рыбалоўны траўлер ашвартаваўся ў Паўднёвым порце Буэнас-Айрэсу. Пасьля працяглага рэйсу экіпаж сьпяшаўся набыць для сябе й блізкіх нейкія рэчы - "атаварыцца". З гэтай мэтай мы дзяліліся на групкі і накіроўваліся ў горад. Я ж ня вельмі захапляўся такім заняткам. Больш, чым сумесныя вандроўкі па крамах ды таннае аргентынскае віно, мяне вабіў сам горад - ягоная геамэтрычная правільнасьць пляніроўкі, велічныя касьцёлы, абшар самай шырокай у сьвеце вуліцы, архітэктура прыватнай забудовы, поўныя людзей паркі. Назіраў тамтэйшае жыцьцё. А прытаміўшыся, прыкмячаў адметную кавярню і з асалодай смакаваў мясцовы напой.

Аднойчы, загадзя намеціўшы кірунак, я выйшаў на аўтобусны прыпынак ля прахадной порту і спытаў дарогу ў немаладога сэньёра, які знаходзіўся там. Гішпанскую мову я ведаў слаба, і таму ўжываў ангельскія ды расейскія словы. Так адразу высьветлілася, што мой суразмоўца ведае расейскую мову, і завязалася гаворка. А калі стары даведаўся, што я зь Беларусі, то ўзяў мяне пад локаць і зазірнуў у вочы. І нам ужо былі непатрэбныя аўтобусы, якія падыходзілі і адыходзілі, мы не заўважалі людзкі натоўп, які абцякаў нас...

Ён распавядаў мне пра сваё жыцьцё, пра шлях, якім трапіў сюды. Што жыў у Заходняй Беларусі, меў сваю краму, а пасьля верасьня 1939 году быў арыштаваны й сасланы далёка за Урал. Як у час вайны рызыкнуў уцячы. І рушыў не на захад, дзе малолі жорны вайны, а на ўсход. Як эскімосы па лёдзе перавезьлі яго праз Бэрынгаў праліў. Як праз колькі часу трапіў у Аўстралію, а ўжо потым - у Паўднёвую Амэрыку...

- Вы дзе нарадзіліся? - запытаў я.

- У Солах, там і жыў...

- А я ў Будславе, - адказаў я.

Нейк неўпрыкметку я перайшоў на беларускую мову. Вочы старога глядзелі ў мае, і я зазірнуў у іх. Я бачыў, як у сівога васьмідзесяцічатырохгадовага габрэя каціліся сьлёзы па шчоках.

- Я з тых самых часоў ня чуў нашае мовы, - казаў ён мне і ніколькі не саромеўся сваіх пачуцьцяў.

Мы стаялі яшчэ доўга і размаўлялі. Яму трэба было нагаварыцца, нагаварыцца на мове сваёй Бацькаўшчыны, нагаварыцца на ўсё астатняе жыцьцё.

У той дзень я ўжо нікуды не пасьпеў патрапіць.

А потым быў пералёт. Праз дваццаць шэсьць гадзін мы павінны былі апынуцца ў Маскве. Прайшло ўжо некалькі гадзін пералёту, і мы знаходзіліся над Панамскім перашыйкам. Маё месца было ля вакна, і я назіраў. З вышыні каля дваццаці тысячаў мэтраў я бачыў адразу два кантынэнты і два акіяны. Вечарэла. Там, пада мною, на ціхаакіянскім узьбярэжжы сьвяціла сонца, а на атлянтычным - гарады запальвалі агні... Думалася: якая яна малая, нашая Зямля. Наколькі маленькі наш агульны дом, і наколькі вялікая нашая маленькая радзіма, дзе ты аднойчы нарадзіўся.

# ВЕРШЫ

## Пра жалуды
### (байка)

Дзік толькі што пакінуў Стада Падсьвіняча,
Навукі скончыўшы ледзь-ледзь.
Але! Ягоны бацька Вепр - во ўдача!
А ў сваяках і Кныр калгасны, і Мядзьведзь.

І вось патрапіў ён, і не абы-куды -
На прадпрыемства, што экспартуе жалуды.
А Вавёрка, што фірму заснавала
І ёй дагэтуль беззаганна кіравала,
Ды па паклёпе аддадзена была пад суд.
Мо, не ашчадная, маёмасьць Пушчы марнавала?
І покуль выпутацца ўдалося з гэтых пут,
Ужо заняты быў Дзіком чырвоны кут.

Мараль ня буду прыплятаць сюды,
Бо дзея ў Пушчы адбылася ў дзевяностыя гады.

* * *

*Славаміру Адамовічу*

Ня страць, ня страць сябе, дружа,
На імшалых каменных пагорках!
Філятовыя дзіўныя горы і дзікая ружа -
Не скуюць у палон твайго палкага сэрца,
Не астудзяць у салёных бяздонных фіёрдах.
Не забудзь
сваёй хаты
адлеглай
акенца!

Цягнік адгрукоча па Ілаўскім мосьце,
У Будслаўскіх мурах дагарае зара.
І чакае матуля на лаўцы пры плоце -
Ці мільгне дзе знаёмая сынава постаць,
А ці лясьне дзе клямка на брамцы з двара.
Не мільгне,
і ня лясьне,
і пара
ісьці спаць.

*16 сакавіка 2007 г.*

## Каласавікі

Я сярод лесу рос,
сяброўства зь лесуном вадзіў,
па ранішняй лагодзе рос,
я з кошыкам і ножыкам хадзіў.

І таямніцу запаведную
мне лес у адзнаку дараваў -
адну, другую, трэцюю...
і гэту я спазнаў.

Як жыта закрасуецца,
шыбую я ў баркі
зь ляснога цуду цешыцца,
шукаць баравікі.

Каласавікі адметныя:
барэткі яркай замшы,
а ножкі крэпка-крэпкія,
зь зямлі тугую сілу ўзяўшы.

Жар-птушкам казачным складаем
мы паэтычныя радкі,
а па лясах усьлед за маем
красуюцца баравікі.

## Травень
## (песьня)

Спазьніўся травень гэтым годам,
Зазімак быў уладаром.
І красавіцкі неба сподак
Быў перакулены ля студні над вядром.

Сягоньня выйшаў з дому я на золку,
Гады шчыруе мне зязюля.
Учора стаў лясок зялёны зноўку,
А сёньня ён гудзе як вулей.

Жыцьцё заўсёды мае дзейсьніцца,
І траўню кожны рад заўжды.
Хто ўдаль глядзіць, хто азіраецца -
Каму якія ёсьць гады.

* * *

Я хату маю ў лесе пры дарозе.
Тут хараство такое - будзь здароў!
Ды ўсё ж мне сумна пры нагодзе,
Бо да Радзімы вырыты чужыны роў.

**БАТРАЧКІН Іван** - нарадзіўся на Гарадзеншчыне. Служыў у савецкім войску і пасьля звальненьня жыве ў Малдове. Сябра беларускай грамады ў Рэспубліцы Малдова.

## Беларускія фарбы

Беларускія фарбы не забыць мне ніколі.
Іх так шмат у лясах, на лугах і на полі.
Як прыходзіць вясна, зелянеюць бярозкі,
Што гурбою стаяць на прыгорку ля вёскі.
Хто хоць раз іх пабачыць - ня зможа забыць,
Як зялёны лісточак вясной зіхаціць.
Гэта вабіць ваш позірк сваёй прыгажосьцю,
Быццам добрыя сябры прыходзяць у госьці.
А на полі зялёным, дзе жыта расьце,
На далёкія гоны прастор красаце,
Васільковыя вочкі блакітным узорам
Дабаўляюць цудоўна прывабнасьць прасторам.
А як лён зацьвіце - гэта ж мора паўстала!
На зямлю быццам чыстае неба упала.
Так блакітная фарба хвалюе нам вока.
Раптам вось паплывеш, як па рэчцы шырокай.
Кінеш позірк на поле, дзе грэчка цьвіце,
І зьдзіўляесься гэткай бялёсай красе.
Нават сьнег не раўняй зь яе бялізною -
Малако калыхаецца белай ракою.
Пах плыве над зямлёю духмяны, мядовы
Ап'яняе, туманіць людзкія галовы.
Лёгка марыць аб шчасьці парою такой,
Б'ецца радасна сэрца, а ў думках спакой.
А як лета настане, і збожжа пасьпее,
То як золата хтосьці на полі пасеяў.
Зьбірайце багацьце, на гумны вазіце,
У амбары на шчасьце на зіму кладзіце.
Так і восень прыходзіць. Для новай красы
Быццам у золата хтось апранае лясы.
Верасы - як цьвітуць на палянах лясоў -
Кожны дзень любавацца я імі гатоў.
А бярозка з асінкай лісточкам сваім
Засыпаюць зямліцу, як золатам тым.
Толькі хвоя зялёнай працягвае быць,
Хоча нават зімою зь вясною дружыць.
І калі на галінах у ёлак лясных

Белы сьнег на зялёных хваінах густых
Заіскрыцца сярэбраным чыстым узорам -
Паглядзеўшы на гэта, забудеш пра гора.
Так захочацца весела песьні сьпяваць,
Пра прыродныя фарбы вершы складаць.
Так прырода нам радуе сэрца і душу,
Шчыра людзям дае падарункі свае,
А пагэтаму я шанаваць яе мушу,
Абавязкі людзкія - захоўваць яе.
Там, дзе кветкі цьвітуць,там, дзе пчолкі лятаюць -
Там працоўныя людзі душой спачываюць.
Хай жа будзе такая прыгожасьць заўсёды,
Каб мінулі Радзіму ліхія нягоды,
Каб ніколі-ніколі радзімай зямлі
Не крануліся чорныя фарбы вайны!



**ВАРАБЕЙ Ірына** - празаік, журналістка, майстрыха, фатограф. Сакратар Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, сябра рэдкалегіі газэты "Беларускае слова". Сябра Канадыйскай Асацыяцыі Вышывальніц.

Нарадзілася ў 1959 годзе ў Менску. Ад 1999 году жыве ў Таронта.

Піша па-беларуску й па-ангельску, перакладае. Публікуецца ў "Беларускім слове" (Канада), "Беларусе" (ЗША), "Дзеяслове", "Нашай Ніве" (Менск).

У 2005 годзе ў сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" выдадзеная ейная кніга "Там, дзе сэрца маё".

У рамках Таронтаўскага Сэмінару "Stitchers Mosaic-2005" ладзілася ейная выстава вышыванак "Belarusan Expressions".

Пэрсанальная старонка ў Інтэрнэце: www.iv.belaruscanada.com

# Мая Свабода

## (да 50-годзьдзя "Радыё Свабода")

Аэрапорт "Пірсан" пасьля некалькіх гадзінаў вопытаў у сваім эміграцыйным адстойніку, урэшце выплюнуў нас у чорную верасьнёўскую ноч.

І сябраў мінівэн паімчаў нас, адурэлых ад недасыпаў і поўнай страты адчуваньня часу, па хуткасным гайвэі міма начных агнёў і такіх нязвыклых, незразумелых чорных сілюэтаў невядомай нам краіны. "Нязнаны, новы сьвет..."

..."Ты, сынок, што той жураўлік зь песьні, усё сьпяшаесься ў палёт. Ня ведаеш яшчэ, што радзіма мілейшая... Ат, едзем жа ж у белы сьвет, як у капеечку. Хто ведае, што нас там чакае. Глядзі, мо і ня раз яшчэ там пачуеш "эмігрант паршывы".

Цяжкое рашэньне. Я тады ўзяла асадку, падзяліла аркуш надвае й напісала "за" і "супраць". Пад загалоўкам "супраць" апынуўся толькі адзін запіс: "настальгія".

Едзем - вырашыла я. І дала згоду сваёй сяброўцы, што ўгаворвала нас ехаць зь ёй у Канаду...

Усе маўчалі. Кожны, уткнуўшыся ў шыбы носам, напружана ўглядаўся ў цемру таронтаўскае ночы, у гэтыя загадкавыя, амаль незямныя, ляндшафты новае краіны.

Заціснутая з усіх бакоў усімі нашымі вялізнымі валізкамі, самлеўшы, я клявала носам на сумку. Напружаньне і сто-трывогі апошніх дзён раптам зрынулі, і нейкі ўнутраны голас (ці, можа, анёл-ахоўнік?) спагадліва так паўтараў: "Усё. ...Усё ўжо скончылася. ...Усё цяпер ззаду. Усё. ...Цяпер гэта - твая краіна. ... Гэта твая краіна." І, расьціраючы вочы, я прагна ўглядалася ў чорныя сілюэты за вакном, як быццам недзе там у іх можна было ўгадаць контуры свайго будучага жыцьця...

Раніцай сябры павезьлі нас па горадзе. Вядома, у крамы дый на горад паглядзець. Першае ўражаньне ад спальных раёнаў з прыватнымі дамкамі: ціхі-ціхі казачны горад. Казачны - таму што бязьлюдны: па вуліцах пехам ніхто ня ходзіць, усё збольшага на самаходах стараюцца.

На вуліцах мноства маленькіх крамаў (узгадваюцца нашыя шапікі-шпакоўні). А назвы... назвы на ўсялякіх мовах: акрамя лацінскіх літараў - грэцкія, арабскія, індыйскія, герогліфы. А во раптам і нечым цёплым ахінула! - бачу: "Кулинария" родная!

Сходнікі вузенькія. Губляесься ў калаўроце розных твараў, розных моваў. Стракатасьць гішпанскае, дзеканьне кітайскае, шамканьне карэйскае, ляляканьне арабскае. І ўсе ўсьміхаюцца: старэнькія бабулькі ў красоўках і шлёмах на роварах, захутаныя мусульманкі за стырном у самаходах.

У крамах ля ўваходу на адмысловых паліцах - газэты, таксама на розных мовах. У адной, на першай старонцы, - вялізная карыкатура на Жана Крэцьена і Біла Клінтана. Сябар сабраў стос газэтаў на расейскай мове і сунуў мне: "Чытай". "А грошы?" - разгубілася я. "Якія там грошы! Усё задарма!"

Казачнасьць гораду прыдавала яшчэ адна дэталь. Мы нідзе ня ўбачылі ніводнага паліцэйскага самаходу, ніводнага паліцыянта.

- Мамка, а як яны выглядаюць, тыя паліцыянты? Якая ў іх форма?

- А хто ж іх ведае, сынок. Бач, нямашака іх нідзе.

- А можа, пашукаць?

- Неназаляўся б ты ўжо так крэпка. Так і чакай, у каталажку трапіш..

- А дзе ў іх тут каталажка? Ну тая, што кшталту нашай на Валадарцы? Ці на Акрэсьціна?

Мае першыя лісты дадому сталі пачынацца адной і той жа фразай: "Мы ўжо два тыдні ў Канадзе, а паліцыянтаў яшчэ ня бачылі...", "Мы паўтары месяцы тут, а ніводнага паліцыянта...", "Мы ўжо тры месяцы..."

- Мама, мне сорамна перад сябрам. Ён пытаецца, якая форма ў канадыйскіх паліцыянтаў. Не напішу ж я яму, што чырвоненькая, як на тых паштоўках. Гэта ж несур'ёзна.

Пошукі паліцыянтаў пагражалі ператварыцца ў маніякальную ідэю. А людцы ж мае добрыя! А што за дзікая краіна! Дзе ж вашая паліцыя? Хто ж парадак будзе адсочваць?

Сьнежаньскім вечарам на куцьцю мы зь сяброўкай рабілі сваю першую вылазку ў мясцовы "лікёрстор". Каляды ж наперадзе й першы Новы год, вось і атаварваліся мы на ўвесь традыцыйны сьвяточны сэзон. Кожнага ж разу не набегаесься: крама далёка, на кожным рагу тут не прадаецца, бо сьпіртное - адзіны ў Антарыё тавар, на які трымае манаполію дзяржава.

Набралі мы тады бессаромна поўныя торбы, сяброўка ўжо выйшла на двор, і я, разьлічыўшыся ў касе, накіравалася да выхаду. Яшчэ знутры праз

шкляныя дзьверы бачу: стаяць перад ёй два здаравенных бамбізы, усе ў чорным, абвешаныя рацыямі, грудзі пукатыя: бронекамізэлі. Ззаду стаіць белы зь сінім пасам і зь мігалкамі самаход. "Паліцыя!" - здагадалася я і тут жа саслабела ў нагах. Рэфлексы спрацоўвалі хутчэй, чым сьвядомасьць - рванулася назад, тут жа апамяталася... У галаве поўная блытаніна... і я на ватных нагах падыходжу і жаласна (што тое казьляня ў знакамітым мульціку) прамаўляю: "Па-лі-цыя..."

- Поліс, поліс, - радасна заківаў мне ў вадказ той, што стаяў бліжэй. - Мэры Крыстмас!

- Што?

- Ірка, рот закрый, - тузанула мяне сяброўка. - Яны кавы выйшлі папіць. Ды вось зь дзеўкамі пагаманіць захацелася. Сама зь перапуду ледзь... Мэры Крыстмас, дыр! - тут толькі я заўважыла духмяныя кубкі ў іхных руках ды лагодныя ўсьмешкі на тварах.

А гамонка нашая па-ангельску простая - на пальцах дый на інтуіцыі. Адзін, чарнявы, толькі пасьміхаўся моўчкі; другі ж, бяляваты, быў надта эмацыйны й вясёлы ды стракатаў без упынку:

- Я - Джоні. ...А мой сябар - Алі. ...А як вас завуць? ...Я з Італіі, а ён з Самалі. ...Як даўно вы тут? ...О! Вэлкам то Кэнада! ...А вы адкуль? ...О! Беларусь! ...Ведаю, ведаю! Я быў там! 7 год таму. ...Прыгожая краіна, прыгожыя людзі! ...Я люблю Беларусь! ...У вас там праблемы зараз? Так? ...Я ведаю, я сачу. ...Так, так, там кепска, вельмі кепска. ...But I love Belarus!

Больш падрабязна пагаварыць аб цудоўнай краіне Беларусі не выпадала. Дый сябар, размаўляючы па рацыі, цягнуў яго ўжо за рукаў: на дзяжурства. Джоні напасьледак яшчэ раз завярнуўся да нас і хуценька залапатаў, адыходзячы:

- Скажыце... скажыце нешта... на вашай мове... гэтае ...вельмі вашае... як...

- Хай ня лезе, - буркнула я (пад уплывам такога нечаканага эмацыйнага ўздыму, відаць), - а лезе - хай ня плача!

- ...як слоган, як дэвіз.

- Ірка, што ты балбоніш? ...Жыве Беларусь!

- А што гэта значыць? Пераклад?

Напарнік ужо махаў яму з самаходу, ён сьпяшаўся.

- Гэта... ну... накшталт вашага "No pasaran!"

...Самаход ужо разьвярнуўся і выяжджаў з паркінгу міма нас. З вакна ўзмыла ўверх рука са сьціснутым кулаком:

- Хай ня лезе! Жыве Беларусь!

Цалкам зьбянтэжаныя, мы моўчкі глядзелі наўздагон паліцэйскаму самаходу. Потым адна на адну. Потым зарагаталі. Потым...

Напэўна, гэты букет, сплецены з перажытай за некалькі хвілінаў усяе гамы кантраставых пачуцьцяў - ад апошняга ў тваім жыцьці, таго рэфлекторнага, нажытага папярэднім досьведам прыступу жывёльнага страху, што схлынуў разам і саступіў месца новаму, раптоўнаму, салодкаму адчуваньню вызваленасьці - і абвастрыў усьведамленьне простай, як сьвет, праўды - нармальнага, здаровага адчуваньня свабоды. І разам зь ім - прадчуваньне свайго месца ў гэтай краіне. І яе - у маім жыцьці. Не, ня ведала я

яшчэ тады, чым я буду займацца ў маёй новай краіне, контуры маёй будучыні усё яшчэ заставаліся загадкавым цёмным ляндшафтам. Ня ведала я, як лёгка й натуральна загавару я тут па-беларуску. І ніхто ў сьпіну мне не працэдзіць пагардліва: нацыяналістка! Ня ведала я, што стану тут пісаць па-беларуску і аб Беларусі - і ніхто за гэта не абзаве мяне "адмарозкам".

Што буду рабіць тут беларускую газэту - і мяне не пакараюць за гэта штрафам у выглядзе невымернага падатку. Я буду адкрыта сьвяткаваць тут Дзень Беларускае Волі - і мяне ня схопяць за каўнер і не адвалакуць у паліцэйскі пастарунак.

Я яшчэ ня ведала гэтага.

Але нейкім шостым пачуцьцём - можа, тым, дзе менавіта й захоўваюцца самыя першасныя натуральныя чалавечыя пачуцьці - я зразумела тады: там мая Краіна, дзе мая Свабода.

*Таронта, травень, 2004*

# Як зоркі нам сьвяцілі

Зоркі юнацтва сьвецяць ярчэй. Кветкі юнацтва пахнуць мацней. Трава ў юнацтве - зелянейшая, неба блакітнейшае, вада макрэйшая, а соль салянейшая. Сябры юнацтва - найвярнейшыя. І застаюцца такімі назаўсёды.

Якія маладыя мы тады былі, як шчыра мы любілі і як верылі ў сябе...

Маё юнацтва засталося там, дзе ўзімку суворыя маразы закоўваюць рэкі ў серабрыстыя ільды, а ўлетку малочныя туманы спавіваюць вазёры ў ранішнюю росную прахалоду. Дзе ўвосень пранізьлівы вецер аплаквае кароткае лета бясконцымі блакітнымі дажджамі. Там - у краіне, што завецца Белая Русь. Там засталіся мае сябры, якія меліся быць вернымі назаўсёды.

Толькі сябрамі не пакрыўдзіў мяне Лёс...

А вось і мы - юныя спартоўцы-байдарачнікі, чые лодкі ўспорваюць хвалі, вятры, туманы, ільды і дажджы... - сябры зборнай рэспублікі. Мы былі вельмі блізкія. Вядома. Зьяжджалі ж з дому на дваццаць (а то й болей) дзён штомесяц. Тры дзяўчыны, што жылі разам у гатэлях (ну, хлушу... - часьцей гэта было проста абы-якое жытло) і ўсё рабілі разам: працавалі, адпачывалі, дзяліліся рэчамі й грашамі. Было, і сварыліся. Часам былі закаханыя, і часам разам у аднаго ж.

Дзіўная, дурасьлівая кампанія - мы былі маладыя, жыцьцярадасныя й вясёлыя, знаходзячы нагоду для жартаў усюды й заўсёды. Гарэзьлівыя й дасьціпныя, увесь час нешта імправізавалі, забаўляючы нашых сяброў па камандзе. Прыдумкам нашым не было канца, даставалася і трэнэрам ад нашых жартачкаў ды розыгрышаў.

Мы былі дружныя. Але часам мы марылі аб нашай будучыні, намагаючыся ўявіць сабе сваіх дзяцей і мужоў і нават саміх сябе ў новым стагодзьдзі. І здаваліся сабе там зусім старымі.

Таня да нашае дзівацкае кампаніі не належала. Але яна любіла бавіць з намі час. Мы былі "скандальныя", а яна цярпець не магла аніякіх сварак і заўсёды мірыла нас, як старэйшая сястра. Мы звалі яе "Чайка". Ня ведаю чаму. Яна была найлепшым чалавекам, якога я калі ведала. Жыцьця-радасная й рамантычная, ведала на памяць сотні вершаў і чытала іх нам адвячоркамі, нагадваючы, што вясна ўжо тут, ужо блізка (нейкі блазан назваў веславаньне "летнім відам спорту"!). У яе быў цудоўны голас, і яна сьпявала нам ціхія, прыгожыя песьні (вядома ж, аб каханьні), і мы даравалі ёй усе "грахі" за гэтыя ейныя песьні.

Была ў яе дзівацкая мара. Па заканчэньні інстытуту яна хацела працаваць трэнэрам і трэніраваць менавіта дзяўчынак. Называлася гэта - "падымаць беларускае жаночае веславаньне". Гэта была даволі блазноцкая ідэя: усе нашыя трэнэры былі мужчынамі. Але ж... яна была апантаная.

Зь цягам часу мы ўдзьвёх зблізіліся найбольш. Пару вечароў шчырае дзявочае балбатні - і мы зразумелі, якія роднасныя нашыя душы. Ёй ня трэба было нічога тлумачыць: яна разумела мае думкі й пачуцьці, нават калі я маўчала. Я была рада, што мне так пашчасьціла, і ганарылася, што яна пасябравала менавіта са мной, і нашыя любыя сяброўкі зьлёгку раўнавалі нас абедзьвюх.

Таня пісала вершы і даслала некаторыя ў сваіх лістох мне (яна жыла ў іншым горадзе). Я, дурнота (часам я бываю такой цяжкадумнай), такі зразумела ўрэшце, толькі праз дваццаць гадоў, што гэты верш быў прысьвечаны мне:

А звезды?..
Как светили звезды нам!
В них было столько радости и грусти.
Та радость оттого была,
Что рядом были - ты и я.
А грусть -
что ночь была последней
в жизни.

Таня загінула, калі ёй было дваццаць два.

Я праводзіла яе на той збор на Каўказ і на разьвітаньне пажадала "лёгкае вады". А назад так і не сустрэла... Там раптам наляцеў штармавы вецер, і яна ня ўправілася з лодкай. Яе падвяла "рамантычная звычка" трэніравацца адной, убаку ад каманды.

...Я памятаю дзень і час, калі яна - ейная душа - прыйшла да мяне ...і засталася ўва мне. Дзесяць гадоў я спраўджвала ейную мару. Гэта было ...(ня ведаю...) Гэта была - мая страсьць. Маё жыцьцё.

Хто зможа мне гэта растлумачыць?

Дыялектычны матэрыялізм, які я так старанна й доўга вывучала?...

# Упартасьць кветак

*О, толькі б ведаць вы маглі,*
*зь якой гразі*
*тут кветкі вырасьлі мае*

Ніколі ня думала, што мастацкі твор можа нагэтулькі паўплываць на жыцьцё чалавека, што зьменіць яго цалкам. Пакуль мой юны канадыйскі настаўнік ангельскае мовы не задаў мне такую незвычайную тэму для майго школьнага хатняга эсэ.

Гэта вымусіла мяне перагартаць сваё багатае жыцьцё, як кнігу. Я разважала над ім і раптам нечакана для сябе самой выявіла: сапраўды... Было такое ў маім жыцьці, што зьмяніла мой лёс, і было гэта неаднойчы.

Адно што я была зьбянтэжаная: пра якія ж з тых выпадкаў распавесьці?

Можа, расказаць яму, як я зьдзівіла сваіх школьных настаўнікаў?

...Пасьля заканчэньня школы я раптам пайшла вучыцца на філялягічны факультэт. Чаму раптам? ...Ну так, хаця я й разьбіралася выдатна ў мовах і граматыцы, але на ўроках літаратуры й двух словаў не магла зьвязаць разам, а мае сачыненьні заўсёды былі "няправільныя" і "недарэчныя". Меркавалася, што я выпраўлюся па дакладныя навукі: я была выдатніцай у хіміі, матэматыцы і асабліва ў чарчэньні...

Але ў 10 клясе я прачытала раман І. Мележа "Людзі на балоце".

Вядома, гэта была ня першая мая беларуская кніга. І што мяне ўразіла ў ёй, я ўжо ня памятаю. Але я сказала тады: "Я іду вывучаць беларускую. Мая бабуля на ёй гаварыла. Гэта мова маіх продкаў". Мама была ў паніцы, ледзь ня плакала. Яна ўжо ведала, як я пасьпела захапіцца лінгвістыкай, а паколькі працавала на філялягічным факультэце, то ведала ягоныя парадкі: "Студэнта беларускага аддзяленьня ніколі ня прымуць на катэдру агульнага і славянскага мовазнаўства, як ты гэтага хочаш. Туды бяруць студэнтаў толькі з аддзяленьня расейскае мовы".

Я ведала гэта, але была ўпартай. Ня ведаю чаму.

Выглядала так, што беларуская мова не была сябрам ані "славянскага братэрства", ані сусьветнае супольнасьці моваў наагул.

Сапраўды, гадамі і стагодзьдзямі нам на нашай жа зямлі прамывалі мазгі, што беларуская - гэта ня мова. Гэта немаведама што, але дакладна не для "высшего общества". Нейкая "мужыцкая гаворка": грубая, брыдкая - фу-у... Няма на зямлі месца для гэтай недарэкі. Асабліва "просветлённые умы" лічылі яе "мёртвай мовай".

Я, аднак, зь першае ж унівэрсытэцкае лекцыі зь Нілам Гілевічам выйшла закончанай нацыяналісткай.

Ат, сапраўды... я была таленавітай (не баюся падацца нясьціплай: ужо што было - то было). Так, я вывучала агульную лінгвістыку (хаця і на расейскай мове) і паказвала свае цудоўныя здольнасьці да яе, зьдзіўляючы маіх выкладчыкаў. Забаўна было: кожны месяц я адсутнічала па два-тры тыдні (я тады была яшчэ спартоўкай), але, прылятаючы са сваіх спартовых прыгод, хуценька здавала экзамэны, наштудоўвала аднакурсьнікаў і старшакурсьнікаў, пісала ім курсавыя - і адлятала ізноў.

Як любіла я лінгвістыку!

Любоў была ўзаемнай: здаецца, ніхто больш ня быў так адораны падчас майго студэнцтва. Мама так ганарылася мною.

Мяне ўгаворвалі застацца ў асьпірантуры ...на любой катэдры, але толькі ...не агульнай лінгвістыкі.

Але, але, але...

Уся мая навука скончылася тым, што я плюнула на яе - і пайшла ў спорт. (На пятым курсе мяне запрасілі на працу трэнэра ў дзіцячую спартовую школу, і я працавала й вучылася, там і засталася пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту.)

Бедная мая мама... яна так і не даравала мне маёй упартасьці.

Ці, можа, расказаць яму амаль што містычную гісторыю?

...Яшчэ студэнткай я чытала толькі што апублікаваны ў часапісе раман У. Караткевіча "Чорны замак Альшанскі" - гэты дзівосны, містычны дэтэктыў. Твор зрабіўся адпраўным пунктам для мяне. І ня толькі таму, што адкрыў маёй сьвядомасьці шлях да роднай гісторыі і легендаў.

Я чытала адзін з прарочых сноў галоўнага героя, дзе ён бачыў падзеі старажытнай легенды, якую дасьледаваў, такімі, як яны і былі, - сцэна пагоні ў начным лесе - і раптам я ўбачыла гэты лес, коней, гэтых людзей, іхную вопратку. Усё было так выразна - я пачула конскі храп, зьвяганьне збруі і нават той яхідны голас: "Ну што, Валюжыніч, удалася табе твая змова?"

Я зразумела - я была там! Гэта была я - я скакала на конях, у тых адзеньнях, я білася на шаблях...

Так абудзілася мая генэтычная памяць.

Дзесяць год пазьней, калі пачаліся ўсе гэтыя нацыянальныя рухі, сталі ўсюды зьяўляцца нашыя сапраўдныя нацыянальныя сымбалі. Вядома, раней - у маім жыцьці - я не магла іх бачыць. Але я зараз успамінаю і дзіўлюся: яны не былі для мяне нечаканымі. Я не задавалася пытаньнямі, як іншыя: чаму бел-чырвона-белы? Якая Літва? Што за Пагоня? Хто такі Вітаўт?

Я не даведвалася - я пазнавала і ўспаміналa.

Некалі я іх ужо ведала. Гэта я - некалі - уразалася на кані ў бітвы і гінула пад гэтымі штандарамі і пад гэтымі песьнямі.

Так семяно памяці, пасеянае пакаленьнямі, усё ж прарасло.

СЕМЯ... Яно мае вялікую сілу ў сваёй прыродзе.

Гэта яно - семяно - трымае мяне ў сувязі з маімі продкамі. Гэтая генэтычная памяць дапамагла мне шмат гадоў пазьней адкрыць адметную гісторыю адной старажытнай песьні.

Напэўна б, я далучылася да нацыянальнага руху. Але жыцьцё завязала мяне ў вузел і наступіла ботам на горла. Яно наладзіла мне зацяглы экспэрымэнт на фізычнае і маральнае выжываньне. А "перабудова" выкінула мяне за каляіну жыцьця. Я ўпраўлялася толькі з падлікам сваіх стратаў: праца, грошы, здароўе, сябры, каханьне, упэўненасьць, воля, надзея... Сваякі адыходзілі адзін за адным, пакідаючы мне толькі зайздрасьць да іх - калі душа разам з усімі яе кампанэнтамі пакідае цела, цела імкнецца за ёй.

Дзесяць гадоў (якія маюць быць найлепшымі) былі выдраныя з майго жыцьця і адкінутыя прэч.

А мы так і не навучыліся жыць у гэтым сьвеце.

І мая улюбёная бацькаўшчына вышчаміла мяне, як пасту зь цюбіку.

Калі мы выпраўляліся ў Канаду, зайшлі на разьвітаньне да мае сяброўкі Алы Сьвірыдзенка - мастачкі, якая навучала майго сына батыку. Гэта быў клясны пакой, увесь запоўнены работамі ейных вучняў. Я разглядала іх, і маю ўвагу прыцягнула адна карціна.

Звычайна батыкавыя сюжэты яскравыя, радасныя: кветкі, матылі, рыбкі...

На гэтай жа быў - пень. Не такі стары, аднак сьсечаны. Мёртвы ва ўсіх сваіх абрубках. Падсечаныя галіны раскінуты, як рукі ў расьпяцьці. Калі нешта жывое і было ў ім, дык гэта толькі твар, застылы ў пакуце.

"Дрэва, што не прыносіць плёну, - сьсякаюць і кідаюць у вагонь", - успомніла я.

"И не растёт трава на голой правде, листва на вещих кольях не растёт". *

- Што ты глядзіш так доўга? - падышла да мяне сяброўка. - Зьдзіўленая? Так, часам і такое бывае ў батыку. Дзіўнае, непрыемнае - але добрая праца.

- Гэта я.

Яна не зразумела мяне:

- Ты што, здурэла? Ты - маладая, прыгожая кабета і ... і та, та, та...

Колькі разоў, пасьля, я прасіла свайго сына намаляваць такую ж карціну для мяне. Не разумее мяне і ён: "Ой, мама, кінь ты гэта! Ты ня бачыш? Гэта ж - страшыдла! У цябе ніякага густу." (Ці гэта, можа, такі мой мазахізм...)

Нядаўна, калі я рыхтавала гэтае эсэ, я дастала фотаздымак карціны, каб глянуць на яе яшчэ раз...

Так: стары, крывы пень. З гэткім калецтвам далёка ня пойдзеш. Змучаныя вочы кідаюць апошні позірк скрозь мяне далей ...куды? ...у неба?.. Пасечаныя галіны раскінутыя вольна, як крылы...

І тут я заўважыла маленькую, кволую кветачку на баку пня. Я ня бачыла яе раней.

Чаму?

А вы? Вы ня ведаеце, чаму на старых пнях вырастаюць кветкі?

Цветы, что выходят к дорогам,
гибнут раньше других.
Их топчут безжалостно ноги,
руки срывают их.

Но все-таки с наступленьем
света и теплоты
вглядись, с каким исступленьем
к дорогам выходят цветы.*

** Зь вершаў майго брата Аляксандра Вараб'я.*

# ПЕРАКЛАД
(з ангельскай)

*Паўлін ДЖОНСАН (Тэкеянўакей)*
*Pauline JOHNSON (Tekahionwake)*

## Як яно было напачатку

Яны ўважаюць, што гэта таму, што я - чырвонаскурая. Але я ёсьць нечым яшчэ: я - жанчына.

Я памятаю, як убачыла яго ўпершыню. Ён прыйшоў сьцежкай разам з трапэрамі з "Гадсан Бэю", і яны пасталі ў дзьвярах тыпі майго бацькі. Нават тады, чатырнаццаць гадоў таму, ён выглядаў старым; ягоныя валасы здаваліся такімі ж тонкімі й белымі, а рукі такімі ж дрыжачымі й бясплотнымі, як і месяц таму, калі я бачылася зь ім, - і аб чым я малюся ягонаму Богу - апошні раз.

Мой бацька сядзеў у тыпі, шліфуючы бычыны рог і палячы; мама, загорнутая ў коўдру, - схіліўшыся над сваёй працай зь пер'ем на бычынай скуры побач зь ім; а я сядзела ля ўваходу, лайдачачы й назіраючы, як я заўсёды назірала, тонкі далёкі пас небасхілу й прэрыі, дзівячыся, як я заўсёды дзівілася, што ж ёсьць тамака, за імі. І тады прыйшоў ён, гэты лагодны стары зь белымі валасамі й тонкім бледным тварам. Ён быў апрануты ў даўгі чорны каптан, што быў, як я цяпер ведаю, знакам ягонай гаспадаркі, у ягоных руках была чорная ў скураной вокладцы кніга, безь якой усе тыя гады, што я яго потым ведала, ніколі ня бачыла.

Трапэры патлумачылі бацьку, хто ён такі: Вялікі Настаўнік, Лекар чалавечых душаў, той самы Чорны Каптан, пра якога мы чулі раней; той, хто прынёс мір туды, дзе была вайна, і чыя чароўная чорная кніга дае нешта вялікшае за ўсе Запаветы Шчасьлівага Паляваньня нашых продкаў.

Ён шмат пра што распавядаў нам у той дзень, бо мог гаварыць на мове Кры, а бацька слухаў і слухаў, і калі яны ўрэшце пайшлі, бацька запрасіў яго прыходзіць і сядзець у тыпі яшчэ.

Ён прыйшоў, хадзіў праз увесь час, і бацька прымаў яго. Але мама - ах, мама! - яна заўсёды сядзела моўчкі, робячы пер'е. Ён ёй ніколі не падабаўся, гэты Вялікі Чорны Каптан.

Ягоныя расповеды зачароўвалі мяне. Я ў захапленьні слухала пра дзіўнае новае месца, якое ён называў "нябёсамі", аб залатой кароне, аб белых апранахах, аб цудоўнай музыцы; і тады ён расказваў і пра тое другое дзіўнае месца - пекла. Мы з бацькам страшэнна не ўпадабалі яго; мы баяліся яго, яно нам сьнілася, даводзіла нас да дрыжыкаў. О, хай бы ён спыніў гаварыць аб ім! Цяпер я ведаю, што, бачачы, як яно ўплывае на нас, ён карыстаў яго, як той венік, каб запрэгчы нас у гэтую ягоную новую рэлігію. Але мама, ...мама, пэўна, ведала ўжо тады, таму што кожнага разу, як ён пакідаў тыпі, яна сачыла, як ён ішоў павольна цераз прэрыю, і калі ён хаваўся за даляглядам, зьдзекліва сьмяялася:

- Калі ўжо тыя белыя зрабілі гэнае "чорнакаптанавае" пекла, то няхай самі туды й шыбуюць. Яно якраз для таго, хто яго першым знайшоў. Для

індзейцаў няма ніякага пекла, а толькі Край Шчасьлівага Паляваньня. Чорны Каптан мяне не напалохае.

А потым, калі прайшло колькі тыдняў, аднойчы, стоячы ўжо ў дзьвярах тыпі, ён паклаў сваю старую белую руку на маю галаву й сказаў бацьку:

- Аддай мне гэтае дзяўчо, правадыр. Пусьці яе ў місіянэрскую школу, няхай яна будзе са мной, я буду навучаць яе вялікаму Богу й Ягоным вечным нябёсам. Яна вырасьце шляхетнай жанчынай і вернецца, каб прывесьці свой народ да Хрыста.

Мама зыркнула вачыма.

- Не! - сказала яна.

Гэта было самае першае слова, якое яна сказала Чорнаму Каптану.

Бацька сядзеў, палячы. Не прайшло й паўгадзіны, як ён сказаў:

- Я - стары, Чорны Каптан. Я ўжо не пакіну Бога маіх дзядоў. Мне не падабаюцца вашыя дзіўныя Боскія шляхі - усе, якія ёсьць. Мне не падабаюцца Ягоныя два новыя месцы для мяне, калі я памру. Але вазьмі гэтае дзіця, Чорны Каптан, і зьберажы яе ад пекла.

Першае гора ў маім жыцьці было, калі я пераступіла парог місіі. Зь мяне зьнялі замшавую сукню, сказаўшы, што цяпер я хрысьціянская дзяўчынка й мушу апранацца, як усе белыя людзі ў місіі. О, як я ўзьненавідзела гэтую цесную новую баваўняную сукенку й гэтыя скураныя чаравікі! Але я была малая, я нічога не сказала, толькі падумала пра той час, калі я вырасту й буду рабіць тое, што й мая мама, і апранацца ў аленевую скуру й коўдру.

Маё наступнае сапраўднае гора было, калі я пачала гаварыць па-ангельску, бо мне забаранілі ўжываць словы на Кры. Па правілах школы, кожнае дзіця, ад якога пачуюць родную мову, павінна атрымаць пакараньне. Я ніколі гэтага не разумела, не магу зразумець і цяпер, чаму ўжываньне майго дарагога Кры мусіла было выкараняцца ці было нагодай для пакараньня.

Яна была строгай, гаспадыня школы, але справядлівай, бо ўсё ж мела сэрца й твар, як у свайго брата, Чорнага Каптана. Я засумавала з тае пары, што перастала называць яго так. Трапэры ў склепе называлі яго "Сьв. Пол" за ягонае, як мне казалі, самаахвярнае жыцьцё, за добрыя ўчынкі, за ягоны рэдкі прыгожы стары твар; таму й я называла яго "Сьв. Пол", але часьцей "войча Пол", хаця апошняга тытулу ён неяк не любіў, бо быў пратэстантам. Але паколькі я была ягонай любіміцай, ягонай найдаражэйшай на ўсю школу, ён дазваляў мне гаварыць, як я хачу, ведаючы, што гэта былі толькі словы любові майго сэрца. Ягоная сястра была ўдавой і маці сьмяшлівага русявага хлопчыка блізу майго веку, які быў маім заўсёдным сябрам у гульнях, і які вучыў мяне ангельскай на свой собскі дзіцячы манэр. Я была прыхільная да гэтага хлопчыка, як была прыхільная й да ягонае маці й ягонага дзядзькі, майго "айца Пола", але калі мая дзявоцкасьць прайшла, а прыйшла жаноцкасьць, я чамусьці дзіўна стамілася ад іх усіх; я засумавала, о, Божа, як я засумавала па старым вольным жыцьці! Гэта прыйшло з маёй жаноцкасьцю, праз вушы.

Што з таго для мяне цяпер, што яны навучылі мяне ўсім сваім манэрам - іхным штукам у адзеньні, іхнаму чытаньню, пісаньню, іхным кнігам? Што з таго, што "айцец Пол" любіў мяне, што купцы ў склепе называлі мяне харошанькай, што я была любіміцай усіх, ад фабрыканта да бяднейшага трапэра ў прыходзе? Я хацела сваіх людзей, свайго собскага старога жыцьця,

мая кроў клікала мяне туды, але мне заўсёды гаварылі, што я не павінна вяртацца да тыпі майго бацькі. Я чула, як яны гаварылі міжсобку, што мяне трэба трымаць далей ад паганскага ўплыву; яны гаварылі адзін аднаму, што калі я вярнуся ў прэрыі, у тыпі, я дэгенэрую, скачуся ў паганства, як гэта было зь іншымі дзяўчынкамі; выйду мо замуж за паганца - і ўсе гады іхнай працы й навучаньня пойдуць прахам.

Я нічога не гаварыла, але чакала. І тады аднойчы ўначы пачуцьці нахлынулі на мяне. Я была ў гадсанбэеўскім склепе, як прыйшоў адзін індзеец з поўначы зь вялікім мехам аленевых скураў. Як яны яго вывернулі, рапт ягонага пранізьлівага водару запоўніў увесь склеп. Я падышла й на хвілінку нахілілася над скурамі, пасьля ўтапіла ў іх твар, глынаючы, п'ючы іхны водар, што закружыў мне галаву, як віно. О, дзікі цуд драўлянага куродыму, ягоная далікатнасьць, неўтаймаваны ягоны пах! Я піла яго ў свае грудзі, усё маё нутро насычалася ім, аж пакуль мне не закружыла ў галаве, а сэрца быццам скурчылася ў фізычнай агоніі. Успаміны дзяцінства абрынуліся на мяне, паглынулі мяне. Я выйшла са склепу ў нейкім дзіўным ціхім шаленстве і, хутка ідучы да місіянэрскага дому, сутыкнулася з айцом Полам і запатрабавала пусьціць мяне "дадому", прынамсі на адзін дзень. Ён прыняў просьбу з такой жа адмовай, з тым жа пяшчотным уздыхам, якім мяне так часта адорвалі, але гэтага разу ні жаданьне, ні куродым, ні туга з таго не паменшалі.

З начы ў ноч я цішком зьбягала на край сяла сачыць, як садзіцца сонца за гару, наглядаць за далёкім небасхілам і прэрыямі, тужыць і тужыць па сваім бацькоўскім доме. А Лорэнс - вечна гэты Лорэнс - мой русявы, сьмяшлівы дзіцячы сябра, прыходзіў і клікаў мяне:

- Істэр, дзе ты? Мы сумуем па табе; хадзі, Істэр, хадзі са мной.

А калі я не вярталася ў той жа час, ён падыходзіў і клаў свае крэпкія рукі мне на плечы, сьмяяўся мне ў вочы й казаў:

- Гуляка, гуляка, Істэр; а хіба мы ня можам зрабіць цябе шчасьлівай?

Мой дзіцячы сябра зьнік гады таму. Цяпер ён быў высокім, страмкім юнаком, прыгожым, як малады правадыр, толькі са сьмяшлівымі блакітнымі вачыма й з гэтымі вечнымі русявымі кучарыма на скронях. Ён быў уцехай у гэтым маім паўвыгнаньні, маім сябрам, маім братам, аж пакуль аднаго вечару гэта сталася:

- Істэр, Істэр, а хіба я не магу зрабіць цябе шчасьлівай?

Я не адказала яму. Адно глядзела на раўніны й думала пра тыпі. Ён падышоў блізка-блізка. Агарнуў мяне крэпка рукамі, я ўткнулася тварам яму ў шыю, і мы гэтак моўчкі стаялі. Я чула, як хлынула кроў з майго сэрца аж да самых кончыкаў пальцаў. Я кахала яго. О, Божа, як я яго кахала! Адным шалёным, сьляпым раптам ўсё гэта найшло, толькі таму што ён трымаў мяне вось так і парывіста шаптаў:

- Не пакідай мяне... Не пакідай мяне, Істэр: мая Істэр, мая дзіцячая каханка, мая сяброўка, мая таварка, мая маленькая Кры-нічка... Няўжо ты пойдзеш да сваіх ці застанесься, застанесься са мной, з маімі рукамі, як яны трымаюць цябе цяпер?

Але. Больш ніякіх тыпі, ніякіх дзікіх абшараў прэрыяў, ніякай задурэлай далікатнасьці задымленай скуры, ні замшавай пасьцелі, ні мяккіх

пульхных макасінаў; ні цёмных твараў маіх суродзічаў, ні гартаннай пяшчоты салодкай Кры-мовы - адно гэты чалавек, што трымае мяне ў сваіх руках, у сваім сэрцы. Мая душа малілася ў той момант ягонаму вялікаму беламу Богу, каб Ён даў мне адно гэтае.

...Ужо на зьмярканьні мы пераступілі браму місіі. Абое былі ўсхваляваныя да дрыготкі. Айцец Пол чытаў вечаровую малітву ў вялікім пакоі за галяй; ягоны мяккі па-сьвятоцку голас шапацеў за дзьвярыма, як нашае дабраславеньне. Я нячутна паднялася ў свой пакой і праседзела там нерухома гадзіны.

Унізе прабіла гадзіну апоўначы, штурхануўшы мяне ад маіх шчасьлівых летуценьняў, і ў той жа момант мяне прывабіў выбліск сьвятла. Мой пакой знаходзіўся ў куце будынку, і вокны зь яго глядзелі проста ўніз у кабінэт айца Пола, у які ён якраз і ўваходзіў зь лямпай.

- Авохці, Лорэнс! - пачула я ягоны ўскрык. - Што ты тут робіш? Я думаў, дзіця маё, што ты даўно ўжо ў ложку!

- Не, дзядзька, ня ў ложку, але ў снах, - адказаў Лорэнс, падымаючыся з вакна, дзе ён, пэўна, правёў такія ж начныя гадзіны, як і я.

Айцец Пол крыху пакорпаўся, знайшоў сваю вялікую чорную кнігу, зь якой ён гэтым разам такі расстаўся, і ўжо зьбіраўся пайсьці, як цікаўнасьць да абставінаў, чаму Лорэнс знаходзіцца тут у такі незвычайны час, здаецца, стукнула яму ізноў.

- Хадзі лепш спаць, сыне мой, - сказаў ён проста і потым дадаў зь цікаўнасьцю. - Што-небудзь здарылася, што трымае цябе тут?

Тады Лорэнс сказаў:

- Не, дзядзька. Хіба... адно.., што я - шчасьлівы і усё.

Айцец Пол стаяў няўцямны. Потым:

- Гэта - ...?

- Істэр, - сказаў Лорэнс ціха, але з годнымі, такімі прывабнымі вачыма.

Айцец Пол паставіў лямпу на стол, але, як звычайна, не выпускаючы з рук той чорнай кнігі, вялікага казаньня свайго жыцьця. Ягоны твар быў яшчэ бялейшым, чым я калісь бачыла - магільным.

- Распавядзі, - патрабаваў ён.

Я выцягнулася са свайго вакна й бачыла іх абаіх. Я слухала ўсім сваім сэрцам, бо ж Лорэнс гаварыў пра мяне, пра сваё каханьне, пра новую радасьць, што адкрылася нам у тую ноч.

- Ты нічога не сказаў ёй аб шлюбе? - спытаўся айцец Пол.

- Ды не. Але яна пэўна разумее, што...

- Ты гаварыў аб шлюбе? - паўтарыў ойча Пол з суворым звонам у голасе, што быў для мяне навіной.

- Не. Але...

- Добра. Тады добра.

Кароткае маўчаньне. Лорэнс стаяў, уперыўшыся ў старога, як быццам першы раз яго бачыў, і назіраючы, як той, падапхнуўшы вялізны фатэль да стала, павольна ўсеўся ў яго; потым мэлянхалічна ёрзаючы, разваліўся ў ім. Галава старога ладна нахілілася, але вочы, бліскучыя, былі надзіва прывабныя. Ён пачаў:

- Лорэнс, дзіця маё, твая будучыня ёсьць найдаражэйшым для мяне з усіх зямных інтарэсаў. - Чаму ты ня можаш ажаніцца з гэтай дзяўчынай...

Не, не, сядзі, сядзі, дай жа ж я скончу, - дадаў ён падвышаным тонам, як Лорэнс запярэчліва ўскочыў. - Я ўжо даўно вырашыў, як табе добра ажаніцца. Ну, напрыклад, з дачкой фабрыканта з Гадсан Бэю.

І тут Лорэнс пырснуў рогатам:

- Як, дзядзька? Ідачка Макінтош? Ажаніцца з гэтым жаўтавалосым пульхным мячыкам, гэтым кацянём, гэтай пекнай лялечкай?

- Чакай! - сказаў айцец Пол зь мяккай настойлівасьцю. - Яна ж белая, Лорэнс.

Мой каханы схамянуўся.

- Што, дзядзька? Што ты маеш на ўвазе? - прамармытаў ён.

- Толькі гэта, сын мой: бедная Істэр, яна ж - сумніўнай крыві. Як гэта так, табе - пляменьніку місіянэра, прыёмнаму сыну, можна сказаць, - ажаніцца з дачкой паганскага індзейца? Ейная маці безнадзейна нецывілізаваная; у ейнага бацькі хаця й ёсьць нейкія рыскі француза, але... Паўкроўка, разумееш, дзіця, паўкроўка.

Потым, прыжмурыўшы хітра вочы, ён дабавіў так жа мякка й безапэляцыйна:

- Нядобрай, нядобрай мяшанкі кроў, ты ведаеш гэта. Ты ведаеш таксама, што я люблю гэтую дзяўчыну, бедную дарагую Істэр. Я хацеў адвесьці яе ад злога паганскага ўплыву; яна ж дачка нашае Царквы; і я хачу, каб у яе не было іншых бацькоў. Але ніколі нельга сказаць, што тоіцца ў замкнёным у клетцы зьверы, які некалі быў вольным. Я ўсім сэрцам з індзейцамі, сыне мой; усё маё сэрца, усё маё жыцьцё прысьвечана таму, каб прывесьці іх да Хрыста, але ажаніцца з адной зь іх - гэта зусім іншая рэч.

Ягоныя маленькія старыя вочы ўпіліся ў Лорэнса, як каршун у пацука. Сэрца маё ільдзінай абрынулася долу.

Лорэнс, белы, бездыханны, моўчкі ўтаропіўся ў яго.

- Зьедзь куды-небудзь, - узьняўся стары. - У Вініпэг, Таронта, Мантрэаль. Забудзь яе. Потым вяртайся да Іды Макінтош. Яднаньне Царквы й Гадсан Бэю будзе добрай справай і зможа ўрэшце рэшт спрыяць мэце майго жыцьця - цывілізацыі ўсяго племені, дзеля якога мы столькі працуем, каб прывесьці яго да Бога.

Я слухала, седзячы, што скамянелая. Няўжо гэтыя словы вымаўляліся маім найпачасьнейшым настаўнікам, тым, каго я шанавала, як аднаго з тых сьвятых зь ягонай чорнай кнігі? Ат, не, мне не падалося гэта. Мой белы бацька, мой сябра, які ўсё жыцьцё ўдаваў, што любіць мяне, што клапоціцца аб маім шчасьці, спанукаў чалавека, якога я кахала, забыць мяне, ажаніцца з дачкой фабрыканта - таму што... чаму? Таму, што ў мяне чырвоная скура, таму, што ў мяне старая добрая, годная паганская маці й прыстойны франка-індзейскі бацька. Раптам у вадначасьсе аказалася, што ўся ягоная апека, ягоная паказная любоў, якой ён мяне адорваў ад самага майго дзяцінства, - іх ніколі й не было. Я ненавідзела гэтага старога місіянэрскага сьвятара, як я ненавідзела ягонае бела-людзкае пекла. Я ненавідзела ягоныя даўгія белыя валасы; я ненавідзела ягоныя танклявыя белыя рукі; я ненавідзела ягонае цела, ягоную душу, ягоны голас, ягоную чорную кнігу - ох, як я ненавідзела ўсё, што тычылася яго.

Лорэнс сядзеў нерухома, тварам у далоні, а стары працягваў:

- Не-не, толькі не дачка тае паганскае маці, ты ня можаш давяраць ёй,

сыне мой. Што ты будзеш рабіць з жонкай, якая можа ў любы дзень кінуць цябе й вярнуцца да сваіх прэрыяў ды аленевых скураў. Ёй нельга давяраць.

Ягоныя вочы звузіліся, заблішчэлі і таямніча, па-змоўніцку, нахіліўшыся да Лорэнса, ён зашаптаў:

- Успомні ейную маўклівасьць, ейны нячутны поступ; гэтая дзяўчына шульгае вакола, што той прывід; а ейныя хуткія пальцы, ейная прага да волі - я ня ведаю, чаму, але пры ўсёй маёй прыхільнасьці да яе яна нагадвае мне нешта дзіўнае - зьмяю.

Лорэнс здрыгануўся, падняў твар і глуха прамовіў:

- Ты маеш рацыю, дзядзька. Пэўна, што мне ня варта... Я сыду, я забуду яе й тады... тады, хай... так, ты маеш рацыю, гэта сапраўды іншая рэч - ажаніцца з адной зь іх.

Стары падняўся. Нядужыя пальцы ўсё так жа сьціскалі чорную кнігу; мяккія, белыя валасы апраўлялі ягоны лоб, што ў таго апостала; вочы палагоднелі, страціўшы хітры пагляд; плечы выпрасталіся ў постаць прыстойнага пасланьніка жывога Бога - ён прадстаўляў сабой таго, каго гандляры называлі "Сьв. Пол".

- Дабранач, дзядзька. І дзякуй, што ты дапамог мне апамятацца.

Гэта былі апошнія словы, якія я пачула з вуснаў і таго старога шатаны, і ягонага слабога, няшчаснага родзіча. Ойча Пол завярнуўся й пайшоў з пакою. Я глядзела, як ягоныя сухія рукі - рукі, якія я так часта адчувала на сваёй галаве падчас сьвятых дабраславеньняў - клацнулі дзьвярной клямкай, павольна павярнулі яе, потым, з бледным тварам, захіліўшы галаву ў свае думы, ён выйшаў з пакою - выйшаў разам з вар'яцкай атрутай маёй нянавісьці, што рушыла ўсьлед за ім, як той д'ябал, пра якога ён мяне навучаў.

І што цяпер зь ягонай дабрынёй і апекай? Што мне да ягонага Бога, зь ягонымі нябёсамі й ягоным пеклам? Ён выкраў мяне з маёй роднай веры, ад маіх бацькоў, маіх суродзічаў і, урэшце, ад таго жыцьця ў каханьні, якое магла б запекаваць такая годная жанчына, як я. Божа! Як я ненавідзела яго!

Я пракралася да каморы ў маім пакойчыку. Намацала клунак, у які не заглядала гадамі - так, ён тут. Замшавая сукня, у якую я была апранутая маленькай дзяўчынкай, калі мяне прывезьлі да місіі, - засунула яе пад пахі й нячутна сышла па лесьвіцы. Загляну ў кабінет, скажу "бывай" Лорэнсу, і потым...

Я расчыніла дзьверы. Ён ляжаў на канапе, дзе нядаўна шчэ сядзеў белы й зьнямелы, слухаючы айца Пола. Я ціхенька падышла да яго. Божа ў нябёсах, ён ужо спаў! Як я нахілілася да яго, уся паўната ягонай дасканалай прыгажосьці адразу ахінула мяне. Стромкая фігура, круглы рот, які амаль што сьмяяўся нават у сьне, сьветлыя раскіданыя валасы, гладкая шыя. Божа! Як я яго кахала!

І тут намаляваўся вобраз дачкі фабрыканта. Я ненавідзела яе. Я ненавідзела ейны дзіцячы тварык, жоўтыя валасы, бялявую скуру. "Ня выйдзе яна за яго замуж! - сказала мая душа. - Я заб'ю яго - заб'ю ягонае прыгожае цела, ягонае ілжывае, крывадушнае сэрца".

Здаецца, нехта гаварыў у маім сэрцы. Ён гаварыў і гаварыў ізноў: "Забі яго, забі. І ён не дастанецца ёй. Забі. Гэта разаб'е сэрца айцу Полу й атруціць ягонае жыцьцё. Ён забіў самае дарагое ў цябе, у тваёй жаноцкасьці

- забі ягонае дарагое, роднае, ягоную надзею - сына сястры, пляменьніка Лорэнса". Але як? Як?

Як там казаў той гадкі стары: на каго я падобная? На дзіўную зьмяю. Зьмяя? Ідэя сама вілася вакол мяне зьмяінымі кольцамі. Што гэта тут, у маёй клумцы, расшытай пацеркамі, у маёй скураной сукні? Маленькая пушачка з кары, што дала мне мама на расстаньне са словамі: "Не чапай зашмат, але, можа, будзе час, калі ты захочаш гэта!" О! Я добра ведала, што гэта - завостранае пёрка, змочанае атрутай нейкай дзіўнай зьмяі.

Я ўкленчыла перад ім і даткнулася вуснамі да ягонай рукі. Я багатварыла яго. О, як, як я яго кахала! І тут зноў перад вачыма ейны дзіцячы тварык, ейныя жоўтыя валасы... Я драпнула двойчы яму па запясьцю кончыкам пяра. Адна маленечкая кропелька чырвонай крыві вылузалася, ён паёрзаў. Я патушыла лямпу й высьлізнула з пакою - з дому.

Па начах мне сьняцца жахі бела-людзкага пекла. Навошта яны навучалі мяне яму, толькі каб шпурнуць мяне туды?

Мінулай ноччу, калі я коўзалася побач з маці па бычыных скурах, Дэн Гандэрсан, трапэр, палячы, разгаварыўся з бацькам. Ён сказаў, што стары айцец Пол зусім згорбіўся ад гора, што пасьля майго зьнікненьня я пад падазрэньнем, але доказаў няма. Хіба гэта не было проста ўкусам зьмяі?

Яны ўважаюць, што гэта таму, што я - чырвонаскурая.

Здаецца, яны забыліся, што я - жанчына.



**ВОРАНАЎ Віталь** - нарадзіўся 18 сакавіка 1983 году ў Менску. Літаратар, перакладчык, выдавец. Сузаснавальнік і старшыня "Беларускага культурна-асьветніцкага цэнтру ў Познані" і выдавецтва "Белы Крумкач". Студэнт Унівэрсытэту імя Адама Міцкевіча ў Познані і Заходнячэскага Ўнівэрсытэту ў Пльзені. Перакладчык "У чаканьні Гадо" Сэмюэла Бэкета і "Віня-Пыха" Алана Мілна на беларускую мову.

Цяпер жыве ды навучаецца ў Чэхіі.

# РЭНЭТРАНС
## п’еса

*БЯЗЬДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:*
**Тамашняя**
**Тамашні**

### БЯЗЬДЗЕЯ ПЕРШАЯ

*Бязьлюдны кавалак зямлі ці то шэрая са шматлікімі вышчарбінамі падлога ў цэнтры кватэры на вуліцы імені галоўнага ў краіне вусяка – трутня. Каля нестандартнага памеру люстра стаіць расьліна, падобная на кактус, пацярпелы ў выніку ядзернага выбуху ў суседняй краіне. За люстрам сьцяна з надпісамі: “люблю бегаць басанож” і “далоў дзяржаўны абутак”, напісанымі кітабамі. Ля вакна з падвойнай шыбай стаіць Тамашняя. На вузкай канапе, абшытай дэрматынам ляжыць Тамашні. Цемра.*

**Тамашні.** Ты там?
**Тамашняя** *(сама сабе, паўшэптам, летуценна)*. Гадзіны пік ужо даўно мінулі, а я ўсё яшчэ з гэтым недарэчным гадзіньнікам на руцэ. Што ж – пачынаю старыцца. Вакно крыху адчыненае, крыху зачыненае, так каб ня ўбачыць зашмат і так каб зашмат не пачуць, каб схавацца. Я проста мушу быць цяпер нябачная, я павінная запоўніцца вакуўмам, належыць глядзець налева. Трэба б зрабіць штосьці, мо разьбіць штосьці. Але што? Калі вось так стаю сабе тут, здаецца мне, што я трохі не... (*Паўза.*)

Не, не, не. Але ж тут душна. Цікава, як там зараз у Буэнас-Айрэсе. Можа, дарма тут сумую, калі там цяпер марасіць дожджык і ходзяць людзі. Ах, гэтыя людзі, людзі.
**Тамашні.** Сьціхні! Суседзі пачуюць. Тары-бары, тары-бары. Ты б лепш занялася чымсьці карысным. Павышывала б лепш, падліла б кактус, пасядзела б, адпачыла.
**Тамашняя.** Адпачыла? А дзе я стамілася? Сьвіней не гадуем, дзякуй богу. (*Паўза.)* Ад другога пакаленьня. *(Паўза.)* Зрэшты ў гэткай цемры не разабраў бы, дзе сьвіньня, а дзе чалавек.
**Тамашні.** Уключыла б *(шэптам)* сьвятло. *(Паўза.)* І разабрала б. Кожны б ужо сам разьбіраўся. Ці гэта наагул аж так істотна?
**Тамашняя.** Ня ведаю, як табе, але мне істотна. Я бачу: табе ўжо шмат што абыякава. Дзе той чалавек, зь якім я пабралася?
**Тамашні.** На канапе.
**Тамашняя.** Дзе ягоны імпэт, заўзятасьць, годнасьць урэшце? Дзе мары?
**Тамашні** *(летуценна сьпявае)*.

Падымі мяне па-над зямлёю,
Падымі мяне ў сьветлы абшар,
Падымі мяне па-над міт...

**Тамашняя.** Ты ўжо нават словаў ня памятаеш.
**Тамашні.** Словы ня самыя важныя. Справа ў мэлёдыі. *(Напявае мэлёдыю. Спрабуе насьвістваць)*.
**Тамашняя.** Калісьці б ты кінуўся ў вагонь за тыя словы.
**Тамашні.** У вагонь. У вагонь. А хто дасьць працягласьць жыцьцю?
**Тамашняя.** Жыцьцю? Ты гэта называеш жыцьцём? Ды лепш бы ты згарэў са сваім жыцьцём, перш чым прымусіў каго тут нараджацца.
**Тамашні.** А чаму сама ня кінесься, калі такая разумная? Жывеш жа ўсёткі. Няхай і ня тут, няхай там у сваім Дупа-Сраясе.
**Тамашняя.** Буэнас-Айрэсе! Абізгаліна ты більдзюжная.
**Тамашні.** Мне ўсё адно. Я жыву тут! Тут і памру!
**Тамашняя.** Ты ўжо памёр. Зірні на сябе ў люстра. Убачыш марную імітацыю жыцьця.
**Тамашні** *(спалоханы)*. Як гэта памёр? Што ты вярзеш за глупствы? *(Ускоквае і падбягае да люстра, намагаецца прыгледзецца, але нічога ня бачыць.)* Ня можа быць! Сапраўды памёр! *(Ліхаманкава трасецца і размахвае рукамі.)* Памёр, памёр, сапраўды памёр! І дзе я цяпер – у раі, у пекле?
**Тамашняя.** У чыстцы. *(Паўза)* Але ў вечным, зь якога няма выйсьця.
**Тамашні** *(надалей трасецца)*. Я ж павінен быць у раі!
**Тамашняя.** Усё правільна. Ты там, дзе ты павінен быць – маеш тое, што заслужыў.
**Тамашні** *(надалей трасецца)*. Я ж служыў, служыў вельмі аддана.
**Тамашняя.** Відаць, гэтага было недастаткова. *(Паўза)*. Альбо ўсё-ткі ня так аддана, як ты кажаш.
**Тамашні** (*надалей трасецца)*. Я ж увесь жывот, з высокай мэтай! Ай! *(Кладзе руку на кактус.)* Баліць! Баліць! Значыць, не такі ўжо мёртвы!

Значыць, жывы! Усё яшчэ жывы! *(Пачынае бегаць па пакоі і гучна выкрыкваць усё тыя ж словы.)* Жывы! Жывы! Жывы!
**Тамашняя.** Каб на цябе трасца!
**Тамашні** *(стомлены і задыханы, ізноўку кладзецца на канапу.)* Жывы, жывы, жывы.
**Тамашняя.** Напаўздохлы.
**Тамашні.** Ты нават не ўяўляеш, што гэта значыць – зразумець, што ты яшчэ жывы, што яшчэ не памёр.
**Тамашняя.** Уяўляю. Але калі гляджу на цябе, усе мае ўяўленьні расплываюцца.
**Тамашні.** Ты нават не ўяўляеш! Я жывы! Ты разумееш – я жывы! Ты бачыш? Адроджаны дзедаўскім духам.
**Тамашняя.** Я ня бачу нават, дзе твой труп. Ня кажучы ўжо пра прысутнасьць нейкага жыцьця.
**Тамашні.** Як гэта ня бачыш? Як можна не заўважаць жывога? Жывога, якое побач?
**Тамашняя.** Цемра...
**Тамашні** *(шэптам)*. Сьвятло! Уключы сьвятло – і ты ўсё ўбачыш!
*Тамашняя падыходзіць да ўключальніка, падымае руку, каб уключыць сьвятло, але не ўключае. Вагаецца.*
**Тамашні.** Уключы сьвятло, кажу! Калі ня хочаш, каб жыцьцё прашмыльгнула ў цябе перад носам. *(Працяглая паўза.)* Ня злуй жа мяне. *(Працяглая паўза.)* Яшчэ хвіля – і ты прымусіш мяне скінуць цябе з балькону.
**Тамашняя.** З гаўбца! Трэба казаць «з гаўбца»! Правільна кажуць «з гаўбца»! З выбухным ‘г’ напачатку! Пайду на гаўбец! Вешаю бялізну на гаўбцы! Кідаюся з гаўбца! Прываліла гаўбцом! Разумееш?
**Тамашні.** Табе зараз будзе ўсё роўна. З гаўбца ты лясьнесься вобземель ці з балькону! Ну а ў гістарычным рахунку, у кантэксьце шматтысячных дзеяў гэта будзе мець, павер мне, яшчэ меншае значэньне. Уключы гэтае халернае сьвятло!
*Тамашняя выцягвае запальнічку і ўзіраецца ў яе.*
**Тамашні.** Яшчэ хвіля, і я зраблю гэта без аніякага ваганьня.
*Тамашняя запальвае запальнічку і наводзіць сьвятло на Тамашняга.*
**Тамашняя.** Калі гэта зробіць цябе шчасьлівым. Калі *(Паўза.)* ласка.
**Тамашні.** Ты думаеш, што гэты паршывы замяняльнік асьвеціць пакой? Скулу табе з такім сьвятлом, а не жыцьцё!
**Тамашняя.** Думаю што... Ай! *(Абпаліўшы пястук, адкідвае запальнічку, пачынае плакаць.)*
**Тамашні.** Я ж казаў табе, асьцярожна. Ну дай пацалую. Ня плач, ня плач, а то суседзі пачуюць.
**Тамашняя** *(плачучы)*. Вось яна, рэчаіснасьць, вось яно, жыцьцё. Халера.
**Тамашні.** Толькі ня плач, я не магу глядзець, як ты плачаш, я не магу ня бачыць, як ты плачаш. Я кахаю цябе.
**Тамашняя** *(плачучы)*. Вось яно, пракляцьце.
**Тамашні.** Ня плач, сонейка, ня плач, мая пралесачка, ня плач, мая вя-

сёлачка, мая... дурдолачка. Ты ж ведаеш, што я ніколі б гэтага не зрабіў. Ты ж ведаеш, як я цябе кахаю. Ты ж памятаеш, як я цябе кахаў.
**Тамашняя.** Ня памятаю.
**Тамашні.** Ты ж павінная памятаць. Ты была ўжо дарослая, калі мы...
**Тамашняя.** Калі яшчэ раз прымусіш мяне зрабіць гэта, я адыду прэч!
**Тамашні** *(удавана)*. Не адыходзь, не пакідай мяне.
**Тамашняя.** Адыходжу.
**Тамашні** *(яшчэ больш удавана)*. Не адыходзь, я малю.
**Тамашняя**. Можаш лічыць, што я адышла, што мяне тут няма... што я ў Буэнас-Айрэсе.
**Тамашні.** Калі ты ў Буэнас-Айрэсе, то я... то я.... *(Задумваецца.)* то я таксама ў Буэнас-Айрэсе.
**Тамашняя**. Вось яно, наканаваньне. У цябе атрафіраваліся мазгі. Аніякае здольнасьці ўяўленьня.
**Тамашні** *(абураны)*. У мяне няма ўяўленьня! У мяне няма ўяўленьня! *(Падыходзіць да вакна, пасьля вяртаецца і, хапаючы Тамашнюю за крысо капоты, валачэ да вакна.)* Бачыш? Усюды цёмна. Чаму нідзе няма сьвятла. Чаму ўсе вокны зачыненыя. Яны, ты чуеш? *(Цэдзячы слова.)* Я-н-ы ня маюць уяўленьня. *(Крычучы.)* Яны! Яны! Я...!
**Тамашняя.** Ша! Замаўчы! А то пачуюць... *(Вагаецца.)* крумкачы.
**Тамашні.** О не, маўчаньню канец, я ўжо ніколі ня буду маўчаць. Я пратэстую. *(Без імпэту.)* Я станоўча пратэстую. Я пратэстую сьвядома й публічна. Я, грамадзянін рэспублікі. *(Задумваецца.)* Каралеўства... Галяктыкі... Я пратэстую супраць блудных сабак і занядбаных катоў, супраць імпарту замежнай каўбасы і хлеба з дадаткам кмену, і наогул супраць кмену – гэта нетрадыцыйна, яго няма ў кроніках! *(Паўза. Думае.)* Урэшце я пратэстую *(Вагаецца.)* супраць мазалёў і невыгоднага абутку са знакам якасьці трутня. Я супраць таго, хто супраць мяне. Жыве Адыдас! *(Стомлены й выразна зь сябе задаволены, сядае на канапу.)* Чула? Ты бачыла, як я іх...
**Тамашняя** *(Не зацікаўленая тым, што адбылося)*. Скажы мне нешта прыемнае, абдымі, пацалуй, прыгадай мне, што я шчасьлівая, перакананай мяне, што я *(Паўза.)* не адна.
**Тамашні** *(вяртаючыся на канапу)*. Не вярзі глупстваў, жанчына. Падумай лепш аб будучыні нашых дзяцей.
**Тамашняя.** У нас няма дзяцей.
**Тамашні.** Рацыя, у нас дзяцей няма. *(Патасна.)* Але ёсьць у іншых!
**Тамашняя.** У нас няма дзяцей. Чаму мы ня маем дзяцей? Я б іх дагледала, я б іх песьціла, я б іх выхоўвала, я б ім апавяла пра Буэнас-Айрэс. Я б не была такой... самотнай.
**Тамашні.** Самота нас прынамсі яднае...
**Тамашняя.** Гэта ня ты прыдумаў. Зрэшты, нас нават самота *(Паўза.)* разьядноўвае. *(Паўза.)* Нас нічога не яднае.
**Тамашні.** Рацыя, нічога, акрамя *(шэптам)* ідэі.
**Тамашняя.** Ты пра што?
**Тамашні** (*шэптам*). Я пра гэта. (*Паказвае на ўключальнік.*)

**Тамашняя.** Гэтая твая *(шэптам)* ідэя нас калісьці загубіць. Чуеш? Ты чуеш? Яны ўбачаць *(шэптам)* сьвятло, яны скемяць, яны прыйдуць. Ты чуеш? Яны нам гэтага ніколі не даруюць.
**Тамашні.** Кабета... Жанчына... Прыгожы пол... Баязьлівы пол... Ты баісься дыхнуць. Ты ня бойся. Ты паглядзі на продкаў! На мяне ўрэшце паглядзі! Я не баюся. *(Цішэй.)* Я нічога не баюся.
**Тамашняя.** Яны ўзламаюць дзьверы. Яны гвалтавацьмуць. Яны рабавацьмуць. Яны зьнішчацьмуць.
**Тамашні** *(перадражніваючы)*. Муць, муць, муць. Ты баісься дыхнуць, а ты ня бойся. Ты ўдыхай, удыхай поўнай грудзьдзю. *(Хапае яе за грудзі.)* Да тваёй годнасьці рукой падаць. Ты гэта разумееш? Ты ўсьведамляеш, як ты блізка? Ты ня бойся.
**Тамашняя.** Я баюся.
*Тамашняя падбягае да канапы, каб абняцца. Пачынаюць валтузіцца.*
**Тамашні.** Ты ня бойся!
**Тамашняя.** Я баюся.
**Тамашні** *(крычучы)*. А ты ня бойся, маць тваю!
**Тамашняя** *(спалоханая, удавана)*. Я не баюся. Я не баюся. Я не баюся.
**Тамашні.** Ну вось і ладачкі.
**Тамашняя** *(дрыжучы)*. Я не баюся. Я не баюся. Я не баюся.
**Тамашні.** Цудоўненька.
**Тамашняя** *(супакойваючыся)*. Я не баюся... баюся... баюся...
**Тамашні.** Баяцца трэба толькі саміх сябе – казала мая бабуля. Вядома, маючы на ўвеце грэх.
**Тамашняя.** Баюся. *(Паўза.)* Грэх?
**Тамашні.** А яшчэ была такая карціна – страх.
**Тамашняя.** Страшна.
**Тамашні.** Ты вельмі падобная да той *(Паўза.)* жанчыны.
**Тамашняя.** Жудасна.
**Тамашні.** Кабеты.
**Тамашняя.** Катастрафічна.
**Тамашні.** Цёткі.
**Тамашняя.** Цынічна.
**Тамашні.** Зь вялікімі *(паказвае)* цы...
**Тамашняя** *(перабівае)*. Цытрынамі.
**Тамашні.** Я б хацеў цябе намаляваць.
**Тамашняя.** Ты ж ня ўмееш маляваць.
**Тамашні.** Я ня ведаю, ці ўмею. Ніколі не спрабаваў.
**Тамашняя.** На мне экпэрымэнтаваць ня трэба.
**Тамашні.** Зь некага заўсёды трэба пачынаць.
**Тамашняя.** Толькі не зь мяне.
**Тамашні.** А з каго тады?
**Тамашняя.** Хоць бы *(Думае.)* зь яе. З той з цытрынамі.
**Тамашні.** Гэта ўжо будзе рэпрадукцыя.
**Тамашняя.** Больш як узнаўленьне.
**Тамашні.** Усяго толькі копія.
**Тамашняя.** Намалюй іншыя *(Паўза.)* цытрусы. *(Паўза.)* Альбо нао-

гул іх не малюй. Пакінь адно галаву, а калі можаш, то толькі вочы, найлепш заплюшчаныя.
**Тамашні.** Я не фатограф.
**Тамашняя.** І не мастак.
**Тамашні.** Гэта пакажа гісторыя. *(Паўза)* Дакладней, будучыня.
**Тамашняя.** А чаму не сучаснасьць?
**Тамашні.** Таму што сучаснасьць надта кароткая. *(Пстрыкае пальцамі.)* Міг – і яе няма.
**Тамашняя.** Так як нас.
**Тамашні.** Мы ўсё яшчэ тут.
**Тамашняя.** Не навечна.
**Тамашні.** Дзякуй богу.
**Тамашняя.** Літаральна.
**Тамашні.** Затое застанецца яна.
**Тамашняя.** Хто?
**Тамашні.** Адзіная.
**Тамашняя.** Здаецца, ты меўся маляваць.
**Тамашні** *(патасна)*. Бацькаўшчына.
**Тамашняя.** Дарэчы. У цябе быў бацька?
**Тамашні.** У кожнага быў бацька. Пра гэта ж выразна напісана ў кнізе.
**Тамашняя.** А калі ты быў апошні раз на ягонай магіле?
**Тамашні.** Я яшчэ не знайшоў магілы дзеда, а ты пытаеш, калі я быў на магіле бацькі... Пачынаць трэба з крыніцы. З самых вытокаў!
**Тамашняя.** Ты байструк.
**Тамашні.** Хто?
**Тамашняя.** Сукін сын.
**Тамашні.** Гэта залежыць, зь якога боку паглядзець.
**Тамашняя** *(ступае вакол канапы)*. З кожнага.
**Тамашні.** Якія факты ўзяць на разгляд *(шэптам)* на дзённае сьвятло.
**Тамашняя.** Гаўно.
**Тамашні.** Уключы сьвятло!
**Тамашняя** *(падыходзіць да ўключальніка, падымае руку, каб уключыць сьвятло, але зараз жа раптоўна яе адводзіць)*. Я не зраблю гэтага, я не пашлю нас на пэўную сьмерць, на яўнае вынішчэньне, у сырую дамавіну... Нашых дзяцей...
**Тамашні** *(разьюшаны)*. Не даводзь жа мяне да шаленства. *(Працяглая паўза.)* Я цябе папярэджваю. *(Цішыня.)* Выкіну з балькону. *(Паўза.)* То бок з гаўбца як... як... *(Мысьліць.)* Як сьцяг.
**Тамашняя** *(стаіць нерухома)*. Калі гэта дадасьць табе моцы й веры...
**Тамашні** *(узьнёсла)*. Ты будзеш ляцець, як штандар, як палотнішча, якое ўбачаць сотні мінакоў, тысячы вачэй.
**Тамашняя.** У гэткай цемры табе гэтага ня ўбачыць... ніколі ня ўбачыць Буэнас-Айрэс...
**Тамашні.** Ты будзеш лунаць у паветраных хвалях як... як... *(Мысьліць.)* Як сымбаль... Ты чуеш? Як сымбаль... *(Мысьліць.)* Нашага... *(Мысьліць.)* Нашага бун... *(Мысьліць.)* Нашага паў... *(Мысьліць.)* Як сымбаль нашага *(Мысьліць.)* АДРАДЖЭНЬНЯ!

**Тамашняя** *(гістэрычна)*. Я разаб'юся. І буду ляжаць там у калюжы крыві.
**Тамашні** *(заікаецца)*. Як ...
**Тамашняя.** На брудным бруку.
**Тамашні.** Як...
**Тамашняя.** Пад акампанэмэнт варожых абцасаў.
**Тамашні.** Як...
**Тамашняя** *(абясьсіленая, падае)*. Як сьмерць нашага адраджэньня...
**Тамашні.** У той дзень. Памятаеш той дзень? Ты тады была спараніла?
**Тамашняя.** Па-мойму, сёньня гэта ўжо неістотна.
**Тамашні.** Можа, сёньня гэта неістотна. Але заўтра, а яшчэ больш пасьлязаўтра гэта можа стаць вельмі важным. Драбніцы зь цягам часу пераўтвараюцца ў глыбы, каменьчыкі – у скалы, а... *(Думае.)*
**Тамашняя.** Чаму ўсё пераўтвараецца *(Паўза.),* акром нас?
**Тамашні.** Мы мусім трываць *(Паўза.)* непарушнымі.
**Тамашняя.** Хіба што лічыць *(Лашчыць свой твар.)* вось гэтыя зморшчыны.
**Тамашні.** Іх амаль не відаць. Ты такая ж, як тады, *(Вагаецца.)* амаль такая ж *(Паўза.)* пругкая.
**Тамашняя.** І ты амаль такі ж. *(Паўза.)* Можа, толькі крыху менш *(Вагаецца.)* стойкі.
**Тамашні.** Давай паставім п'есу.
**Тамашняя.** Ты ж толькі што адну паставіў.
**Тамашні.** Думаеш, гэтага будзе дастаткова?
**Тамашняя.** Што?
**Тамашні.** Нічога.
**Тамашняя.** Ты там?
**Тамашні.** Я тут.
*Абдымаюцца.*

ЗАСЛОНА

## БЯЗЬДЗЕЯ ДРУГАЯ

*Той жа кавалак зямлі. Тая ж падлога. Тая ж вуліца таго ж імені. Усё тое ж. Адно надпісы на сьцяне ўжо менш выразныя. Бязьдзейныя асобы памяняліся месцамі. Цемра.*
**Тамашняя.** Ты там?
**Тамашні.** Дэ-жа-вю. *(Паўза. З захапленьнем.)* Дэжавю!
**Тамашняя** *(манэрна)*. Якое жахлівае слова.
**Тамашні.** У мяне дэжавю!
**Тамашняя.** Запазычанае.
**Тамашні** *(смакуючы)*. Дэ-жа-вюю.
**Тамашняя.** Ад барбараў.
**Тамашні.** Я...
**Тамашняя** *(перабіваючы)*. Тут ужо быў. І навошта табе гэтае дэжавю? Так і кажы – я тут ужо быў.
**Тамашні.** Але я не пра гэта.

**Тамашняя.** Ну тады можаш сказаць – гэта ўжо са мной здаралася.
**Тамашні**. Але...
**Тамашняя.** Альбо – усё як тады, *(Паўза. Задумваецца)* у той момант.
**Тамашні** *(з жалем)*. Далёка ня ўсё.
**Тамашні.** Ведаеш, я часам сабе думаю.
**Тамашняя.** Вось, вось. Ты думаеш, а трэба мысьліць.
**Тамашні** *(папраўляючыся)*. Мяне здумляе часам...
**Тамашняя** *(перабівае, узлокціўшыся на канапе, кідае пагарджальны пагляд)*. Цябе?
**Тамашні.** Як гэта так?
**Тамашняя.** Ды што ўрэшце?
**Тамашні.** Як жа гэта так?
*Тамашняя роспачна выкідае ўгору рукі і хапаецца за галаву.*
**Тамашні** *(з сумам)*. Як гэта магло з намі здарыцца? Як мы маглі такое дазволіць. Як?
**Тамашняя.** Ён пытаецца як. Быццам бы нехта сумняваўся. З-за таго, што ты стаяў вось там, *(Паказвае.)* каля таго вакна, як і цяпер. Мне здаецца, ты ніколі яго не адчыняў. І піў, піў бязь меры.
**Тамашні** *(крыкам)*. Я мусіў піць! З таго дня... ты ж ведаеш... калі пачаў галадоўку. Я мусіў піць, *(Паўза.)* каб ня есьці!
**Тамашняя.** Ня есьці кожны дурань умее. А ты б спрабаваў ня піць!
**Тамашні.** Я спрабаваў і тое, і другое.
**Тамашняя.** І што?
**Тамашні.** Нічога не атрымалася.
**Тамашняя.** Трэба было памерці. Як той, што на гары ў Буэнас.
**Тамашні.** Ты ўпэўненая *(Паўза.)* наконт *(Паўза.)* гары. Зрэшты, *(Думае.)* у нас няма гор.
**Тамашняя.** Трэба было ўтапіцца ў балоце.
**Тамашні.** Як ты можаш такое казаць – утапіцца ў балоце. Ты ж ведаеш, што я на дух не выношу... *(Думае.)*
**Тамашняя.** Сьмерці.
**Тамашні.** Жаб. *(Паўза.)* Так, я ненавіджу жаб! Жабы зялёныя!
**Тамашняя.** А чым ты адрозьніваесься ад іх? Га?
**Тамашні.** Я цывілізаваны. А яны *(шэптам)* – вынік мутацыі *(паказвае направа і кажа шэптам)* пасьля выбуху.
**Тамашняя.** Выбуху чаго?
**Тамашні.** Я ня ўпэўнены, але ў мяне ёсьць моцныя падставы.
**Тамашняя.** Так.
**Тамашні.** У мяне ёсьць нязьбітыя аргумэнты.
**Тамашняя.** Але.
**Тамашні.** І абгрунтаваныя падазрэньні.
**Тамашняя.** Ага.
**Тамашні.** Каб прыйсьці да высновы.
**Тамашняя** *(адухоўлена)*. Словы, словы, словы.
**Тамашні.** Каб меркаваць.
**Тамашняя.** Маркетаваць.
**Тамашні.** Што тры стагодзьдзі таму.

**Тамашняя.** Годзе!
**Тамашні.** Што тры стагодзьдзі таму. Нашыя балоты былі чыстыя!
**Тамашняя** *(сьпевам)*. Божа! Забяры маё жыцьцё!
**Тамашні.** Чыстыя чысьцінёй найчысьцейшай.
**Тамашняя.** Я забылася другі радок.
**Тамашні.** Празрыстыя празрыстасьцю найпразрысьцейшай.
**Тамашняя.** Выратуй зьнямелую...
**Тамашні.** Белыя бельлю найбялейшай.
**Тамашняя.** Тады адкуль узяліся такія мурыны, як ты?
**Тамашні.** Колер не галоўнае. Галоўнае – мова.
**Тамашняя.** Дык чаго ты прычапіўся да гэтых жаб? Боўдзіла. Чым адрозьніваецца твая мова ад іхняй?
**Тамашні.** Мілагучнасьцю.
**Тамашняя** *(зноў сьпявае)*. Божа, забяры яго жыцьцё.
**Тамашні.** Па-мойму, там іншыя словы.
**Тамашняя.** Ты ж сам казаў. Што галоўнае – мэлёдыя.
**Тамашні.** Галоўнае няўлоўнае.
**Тамашняя.** Я не лічу, што ўсё ўжо страчана. *(З энтузыязмам.)* Ты яшчэ можаш памерці, у цябе ўсё *(Паўза.)* наперадзе.
**Тамашні.** Ужо запозна.
**Тамашняя** *(шэптам)*. Уключы сьвятло.
**Тамашні.** Зрэшты, *(Паўза.)* гэта нецывілізавана.
**Тамашняя.** Абнадзей мяне... *(Паўза.)* усіх нас.
**Тамашні.** Не па-наску!
**Тамашняя** *(крыкам)*. Будзь адзін раз мужчынам! *(З плачам.)* Маць тваю!
**Тамашні.** Не перабірай меры, *(Паўза.)* дарагая. Ты добра ведаеш: тое, што я нарадзіўся мужчынам, а ты жанчынай – гэта *(Паўза.)*... гэта *(Думае.)* гэта поўная выпадковасьць.
**Тамашняя** *(наўзрыд)*. Як я цябе ненавіджу! Як я цябе ненавіджу!
**Тамашні.** Не хвалюйся, я табе дарую.
**Тамашняя.** Як я цябе ненавіджу!
**Тамашні.** Адпускаю твае грахі.
**Тамашняя.** Як я цябе ненавіджу!
**Тамашні.** Падстаўляю другую шчаку.
**Тамашняя.** Каб ты здох.
**Тамашні** *(радасна)*. А вось гэта па-наску. Гэта мне падабаецца. Гэта цывілізавана! За гэта *(Паўза.)* я цябе кахаю.
**Тамашняя.** Я ненавіджу!
**Тамашні.** Я кахаю!
**Тамашняя.** Я ненавіджу!
**Тамашні.** Я кахаю!
*Тамашняя супакойваецца.*
**Тамашні.** З гэтага магла б атрымацца нават неблагая песьня. *(Пачынае сьпяваць.)* Я ненавіджу, я люблю.
**Тамашняя** *(папраўляе)*. Я кахаю!
**Тамашні** *(радасна)*. Бачыш, *(Паўза.)* аказваецца, і ты здольная яшчэ кахаць.

**Тамашняя.** Адно ўспамінаць.
**Тамашні.** Гэта ужо вельмі шмат, ты нават не ўяўляеш, якое гэта мае калясальнае значэньне для... *(Паўза.)* для *(Думае.)* будучыні. *(Патасна.)* Прышлае каханьне зямлі адродзіцца нашым мінулым каханьнем!
**Тамашняя.** Ты калі-небудзь мне здраджваў?
**Тамашні** *(спалохана)*. Калі?
**Тамашняя** *(з сумам)*. Калі-колечы.
**Тамашні.** Ты пра якое стагодзьдзе пытаеш? Пра які пэрыяд? *(Раззлаваны)*. Няўжо так цяжка захаваць гістарычныя рамкі? Усім нам было б лягчэй.
**Тамашняя.** Прызнайся.
**Тамашні.** А зрэшты, крыніцы ў гэтым пытаньні разыходзяцца. Існуе некалькі гіпотэзаў, безьліч інтэрпрэтацыяў, мноства спэкуляцыяў.
**Тамашняя.** Май гонар!
**Тамашні.** Дзясяткі архіваў, сотні тэчак, тысячы дакумэнтаў, ну і ўрэшце мільёны сьпісаных аркушаў! Мільёны, разумееш? Мільёны!
**Тамашняя** *(з жалем)*. Разоў? *(Паўза.)* Ты жывёла! Ты проста жывёла!
**Тамашні** *(з энтузыязмам)*. Зубр. Магутны зубр!
**Тамашняя.** Семянны бык.
**Тамашні.** Гаспадар пралесу!
**Тамашняя.** Хлява.
**Тамашні.** Наш гонар.
**Тамашняя.** Сорам.
**Тамашні** *(пагрозьліва)*. Зважай на словы.
**Тамашняя.** Зь якога гэта часу цябе хвалююць словы?
**Тамашні** *(паказвае на надпісы на сьцяне)*. З часу, калі я напісаў вось гэта.
**Тамашняя.** Гэта было напісана да нас.
**Тамашні.** Няхай. Але *(Паўза.)*, але *(Паўза.)*, але мне давялося гэта расшыфроўваць.
**Тамашняя.** Я думаю, табе не ўдалося.
**Тамашні.** Чаму ты так мяркуеш?
**Тамашняя.** З таго, што табе шмат чаго не ўдалося.
**Тамашні.** Ты несправядлівая. Уважліва прыглядзіся, *(Паказвае на надпісы.)* ты сама ўсё зразумееш.
**Тамашняя.** Я нічога ня бачу.
**Тамашні.** Як? Як можна ня бачыць жывое праўды? Векавой мудрасьці?
**Тамашняя.** Я НІЧОГА *(Паўза.)* ня бачу.
**Тамашні.** Перапёлачка, што з табой? Ты асьлепла?
**Тамашняя.** Цемра!
**Тамашні.** Гэта ты пра што?
**Тамашняя.** Ты добра ведаеш, пра што я.
**Тамашні.** Згода, калі ты дасі рады адна, калі ты...
**Тамашняя** *(настойліва)*. Дам.
**Тамашні** *(паддаўшыся, з сумам)*. Добра.
*Тамашні падыходзіць да ўключальніка, падымае руку, каб уключыць сьвятло, але не ўключае. Вагаецца.*

**Тамашняя.** Баязьлівец!
**Тамашні.** Ты, напэўна, дасі рады? (*Паўза.*) Безь мяне?
**Тамашняя.** Лепш, чым з табой.
**Тамашні** (*вагаючыся*). А дзеці?
**Тамашняя.** Няма.
**Тамашні.** Дык можа, пачакаць,.. *(Паўза.)* калі будуць?
**Тамашняя.** Ня будзе.
*Тамашні адводзіць руку ад уключальніка і пачынае шукаць запальнічку.*
**Тамашні.** Халера. Дзе яна падзелася?
**Тамашняя.** Хто?
**Тамашні.** Запальнічка.
**Тамашняя.** Памятаю толькі, што моцна абпаліла пястук.
**Тамашні** *(пачынае шукаць)*. Гэта не галоўнае. Галоўнае, каб хапіла газу.
**Тамашняя.** Жахліва пячэ.
**Тамашні.** Як скрозь зямлю праваліласяя.
**Тамашняя.** Калі скрозь зямлю, то, можа, у Буэнас.
**Тамашні.** Дзе ж яна магла падзецца?
**Тамашняя.** А ты ўпэўнены, што яна калі-колечы ў нас была?
**Тамашні.** Гэта больш чым бясспрэчна.
**Тамашняя.** А вось я зусім ня ўпэўненая.
**Тамашні** *(паказвае)*. А пястук?
**Тамашняя.** З гэтым можна жыць,.. *(Паўза.)* мне здаецца.
**Тамашні** *(забыўшыся на запальнічку)*. Ну дай пацалую.
*Падыходзіць і цалуе. Пачынаюць цалавацца, што пераходзіць у пяшчоты, якія пераходзяць ва ўступную гульню. Аднак калі справа даходзіць да распрананьня, Тамашні падскоквае і вяртаецца да вакна.*
**Тамашняя** *(зьдзіўлена)*. Пацучок, я што-небудзь *(Паўза.)* зрабіла ня так?
**Тамашні.** Я прыдумаў!
**Тамашняя.** Ага... *(Спакушальна.)* Ну і што ты прыдумаў, мой маленькі бычок?
**Тамашні.** Я ведаю!
**Тамашняя.** Ах ты мой дзюдзік, ну што, што?
**Тамашні.** Геніяльна! Проста геніяльна.
**Тамашняя** *(узбуджана)*. Ах, ах, так, так.
**Тамашні.** Мы зробім!
**Тамашняя** *(яшчэ больш узбуджана)*. Так, так, зрабі, зрабі!
**Тамашні.** Флэш-моб!
**Тамашняя** *(зьдзіўлена)*. Флэш-што?
**Тамашні.** Бліскавічны натоўп (*Паўза.*) Ты і я.
**Тамашняя** *(раззлавана)*. А ты зноў з гэтымі барбарызмамі!
**Тамашні** *(смакуючы)*. ФЛЭШ!
**Тамашняя.** Ну назаві гэта па-людзку.
**Тамашні.** МОБ!
**Тамашняя.** Лятучка, бліскаўка, маланкцыя. Скарыстай бязьмежныя магчымасьці!

**Тамашні.** Ты і я. Уяўляеш? Ты і я *(шэптам)* басанож.
**Тамашняя.** У мяне і так ногі халодныя. Кроў не даплывае. Ты зусім пра мяне ня думаеш.
**Тамашні.** Мы басанож. Уяўляеш? Сьпярша тут *(шэптам)* каля самага надпісу, вакол канапы.
**Тамашняя.** Ты звар'яцеў. У мяне анэмія, я не магу кроку ступіць, а ты пра канапу.
**Тамашні.** Ну а пасьля *(грамчэй)*, а пасьля. Пасьля *(цішэй)*, пасьля *(шэптам)* мы шчыльнымі радамі выйдзем вунь туды *(Паказвае на бальскон, то бок гаўбец.)*, на прастор.
**Тамашняя.** Ты хочаш, каб я памерла першая.
**Тамашні.** Гэта нашае права! Гарантаванае *(Паўза.)* прыродай!
**Тамашняя.** Забойства не дазваляе ніводнае права.
**Тамашні** *(раззлаваны)*. Добра! Добра! *(Прымірэнча.)* Ты можаш ісьці ў шкарпэтках.
**Тамашняя.** І ніводная прырода.
**Тамашні.** Я магу цябе нават несьці. *(Патасна.)* Я ахвяруюся за і дзеля ўсіх!
**Тамашняя.** Ты ахвяруеш за сябе *(Паўза.)* і дзеля сябе, бо я, што магла, ужо ахвяравала.
**Тамашні** *(заклапочана)*. Толькі што мы пакажам?
**Тамашняя.** Нашае няшчасьце.
**Тамашні.** Што абвесьцім?
**Тамашняя.** Нікому ня горш, чым нам.
**Тамашні.** У якой форме, *(шэптам)* каб не загінуць на месцы.
**Тамашняя.** У форме твайго адмерзлага мазгаўя.
**Тамашні.** Ты проста геній! Ты мая разумка! Мы будзем есьці марожанае!
**Тамашняя.** Смактаць марозіва.
**Тамашні.** Хто будзе смактаць, хто лізаць, а яшчэ іншы – несьці, як, *(Паўза.)* як *(Паўза.)* крыж!
**Тамашняя.** Ты забыў пра важныя абставіны.
**Тамашні.** Якія абставіны?
**Тамашняя.** Цяпер, здаецца, зіма.
**Тамашні** *(зьбянтэжаны, доўга думае)*. Ну і няхай, няхай і зіма. *(Паўза.)* Мы здымем зь сябе ўсе непатрэбныя падазрэньні. Разумееш? Паўсюль сьнег. Трашчыць мароз. Усе апранутыя з ног да галавы. Холад працінае халодныя рукі і ногі, насы і вушы – і ў гэтым натуральным асяродзьдзі, быццам нічога ніякага, апынаемся мы, а ў руках у нас *(шэптам)* марозіва. *(Паўза.)* Сымбаль.
**Тамашняя.** Чаго?
**Тамашні.** Ну няўжо ты не разумееш? Сымбаль таго, *(Паўза.)* што мы чакаем лета!
**Тамашняя.** А як жа ў шкарпэтках па гэтым сьнезе, па такім марозе?
**Тамашні.** Для посьпеху акцыі, для перамогі, вядома, *(Паўза.)* у межах вынятку, падкрэсьліваю, – не саступства, ці, крый божа, уласнае выгады, а, паўтараю, – вынятку, мы можам абуць нешта на ногі.
**Тамашняя.** Нас могуць не зразумець.

**Тамашні.** Ты маеш рацыю. Мы... *(Думае.)* мы абуем па адной назе... *(Паўза.)* ты левую, *(Паўза.)* а я правую, *(Паўза.)* рушым адным фронтам *(Паўза.),* і ўсё стане ясна. Ясна як *(шэптам)* сьветлы дзень.
**Тамашняя.** Ты хочаш зрабіць зь мяне калеку. *(Паўза.)* Але я згодная.
**Тамашні** *(кідаецца абдымацца)*. Дарагая мая.
**Тамашняя** *(адрынаючы абдымкі)*. Але прашу цябе. Давай адкладзем гэта хаця б да вясны. Зімою ногі патрэбныя як ніколі. Ну і чаканьне лета ў кантэксьце вясны будзе нашмат больш дарэчы.
**Тамашні.** І гэта будзе яшчэ больш сымбалічна!
**Тамашняя.** Так.
**Тамашні.** І нашмат больш мэтадычна.
**Тамашняя.** Але.
**Тамашні.** І цяплей у пяты.
**Тамашняя.** Ага.
**Тамашні.** Што б я рабіў безь цябе? Дзе б я быў?
**Тамашняя.** Ня ведаю, але ведаю, *(летуценна)* дзе была б я.
**Тамашні.** Мы былі наканаваныя адзін аднаму лёсам.
**Тамашняя** (*задуменна*). Ах...
**Тамашні.** Таксама як нам было наканавана адрадзіць (паказвае на падлогу) гэтую зямлю.
**Тамашняя.** Як бачыш, наканаваньне спаўняецца не заўсёды *(тры разы стукае па падлозе)*.
**Тамашні.** А я ня веру ў гэтыя прымхі.
**Тамашняя.** У што-небудзь трэба верыць.
**Тамашні.** Але не ў што-колечы.
**Тамашняя.** А ў што верыш ты?
**Тамашні.** У адраджэньне.
**Тамашняя.** А што гэта? Якая ў гэтым твая роля?
**Тамашні.** Я адраджэнец.
**Тамашняя.** Хутчэй выраджэнец.
**Тамашні** *(смакуючы)*. Ад-ра-джэ-нец.
**Тамашняя.** Вырадзень.
**Тамашні** *(патасна)*. Я.
**Тамашняя.** Вырадак.
**Тамашні.** Што?
**Тамашняя.** Нічога.
**Тамашні.** Ты там?
**Тамашняя.** Я тут.
*Абдымаюцца.*

ЗАСЛОНА

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ І АПОШНЯЯ, або ЭПІТАФІЮМ ДА БЯЗЬДЗЕЯЎ

*Той жа кавалак зямлі, але быццам бы ня той. Тая ж падлога, але чымсьці іншая. Тая ж вуліца, таго ж імені, але напісаная на новы*

*лад. Усё тое ж, а амаль што нічога. Надпісаў на сьцяне няма. Расьліна, ужо не падобная ні на што, ссохла. Бязьдзейныя асобы, сьціснутыя і цёпла апранутыя, сядзяць на кукішках на бальбцы, то бок гаўбконе і трымаюць у руках незапаленыя сьвечкі. Дзьверы ў пакой застаўленыя канапай. Цемра.*
**Тамашні і Тамашняя.** Я...
*Сьмяюцца.*
**Тамашні.** Кажы, кажы...
**Тамашняя.** Не, не, ты кажы.
**Тамашні.** Камусьці усё ж давядзецца пачаць.
**Тамашняя.** Здаецца, што нікому. *(Паўза.)* З нас.
**Тамашні.** Падумай толькі пра двох першых людзей. Яны ж таксама неяк пачыналі?
**Тамашняя.** Ня знаю, затое ведаю, як скончылі. *(Паўза.)* Зрэшты, ім было лягчэй.
**Тамашні.** Вядома. Пачынаць з нуля заўсёды лягчэй. *(Думае.)* Чым пачынаць спачатку.
**Тамашняя.** Гэта дакладна ня тое самае.
**Тамашні.** Ва ўсе часы. *(Паўза.)* Спрадвеку.
**Тамашняя.** Калі *(Паўза.)* ласка, не пачынай спачатку. *(Паўза.)* Бо я не датрываю да канца.
**Тамашні.** Нехта *(Паўза.)* з нас *(Паўза.)* можа не датрываць.
**Тамашняя.** Толькі ноч.
**Тамашні.** Кожная ноч мусіць датрываць да свайго сьвітаньня.
**Тамашняя.** Кожнае сьвітаньне да свайго дня.
**Тамашні** *(з сумам)*. Кожны дзень да свайго зьмярканьня.
**Тамашняя.** Кожнае зьмярканьне да сваёй...
**Тамашні** *(плача)*. Не кажы.
**Тамашняя** *(не зьвяртаючы ўвагі)*. І так кругом, няспынным колам.
**Тамашні.** Малю цябе, не кажы.
**Тамашняя.** Толькі што зімою ночы доўгія. Але зіма таксама мусіць некалі...
**Тамашні** *(наўздрыг)*. Ніколі.
**Тамашняя.** Некалі скончыцца. *(Паўза.)* Хіба што ня той клімат, ня тая геаграфічная шырыня *(Паўза.)* даўжыня. Хіба што глябальнае пацяпленьне?
**Тамашні** *(раптоўна супакойваецца)*. Хіба што...
**Тамашняя.** Аднак ёсьць і іншая тэорыя.
**Тамашні** *(з надзеяй)*. Так?
**Тамашняя.** Пра глябальнае пахаладненьне.
**Тамашні** *(з роспачу)*. Я ж цябе прасіў.
**Тамашняя.** Гэта ад мяне не залежыць. *(Паўза.)* І ад цябе таксама.
**Тамашні.** Ад некага ж гэта, мусіць, залежыць.
**Тамашняя.** Хто яго ведае...
**Тамашні.** Хто-небудзь ведае.
**Тамашняя.** Я – не.
**Тамашні** *(з надзеяй)*. А можа, гэта ўжо ня ноч? Можа, *(Паўза.)* пачалося?

**Тамашняя.** Яшчэ ня скончылася.
**Тамашні.** А можа, і такое магчыма: пачалося, пакуль скончылася.
**Тамашняя.** Хутчэй скончылася, пакуль пачалося.
**Тамашні.** Раней я ніколі ня мог адрозьніць золку ад прыцемку.
**Тамашняя.** Гэта амаль адно і тое ж.
**Тамашні.** Асабліва калі быў малым.
**Тамашняя.** І тое, і другое *(Паўза.)* наганяе сум.
**Тамашні.** І мяне клалі спаць.
**Тамашняя.** Сум і роспач.
**Тамашні.** І калі я прачынаўся.
**Тамашняя** *(роспачна)*. Роспач.
**Тамашні.** Я ня мог зразумець, якая пара дня.
**Тамашняя** *(абыякава)*. Роспач.
**Тамашні.** Я ненавідзеў сваіх бацькоў.
**Тамашняя.** Чаму ты кажаш у мінулым часе?
**Тамашні.** Бо іх няма.
**Тамашняя.** Але ты ненавідзіш іх надалей.
**Тамашні.** Гэта ўжо ня тое, што калісь. Мы нават ненавідзім *(Паўза.)* па-іншаму *(Паўза.)* зь бегам часу.
**Тамашняя.** І кахаем.
**Тамашні.** Мне прыгадаліся героі адной драмы.
**Тамашняя.** Гэта неверагодна, я падумала пра іх таксама. Толькі што гэта была камэдыя, а ня драма.
**Тамашні.** Я ўпэўнены, што гэта была драма.
**Тамашняя.** Тады ты проста памыляесься.
**Тамашні.** А чаму гэта я памыляюся, а ня ты? Якія факты сьведчаць на тваю карысьць? Ты можаш гэтаксама памыляцца, як і я. Верагоднасьць памылкі для кожнага аднолькавая.
**Тамашняя** *(абыякава)*. Магчыма, мы памыляемся абыдвое.
**Тамашні.** Гэта хутчэй за ўсё.
**Тамашняя.** Альбо абыдвое маем рацыю.
**Тамашні.** І гэта ня выключана ў нашым становішчы.
*Цалуюцца.*
**Тамашняя.** А пра што ішло ў гэтай камэдыі... *(Паўза.)* драме... *(Паўза.)* няважна.
**Тамашні.** Дзяўчына скідваецца з бальkону.
**Тамашняя.** З гаўбца.
**Тамашні.** Так, з гаўбца. І ляжыць там далавах.
**Тамашняя.** А гэта ня быў часам хлопец?
**Тамашні.** З таго, што я чытаў і бачыў, гэта была дзяўчына, але я не выключаю, што хлопец там мог быць таксама.
**Тамашняя.** Я ўпэўненая, што гэта быў хлопец.
**Тамашні.** Яны маглі там быць абыдвое.
**Тамашняя.** І абыдвое скінуліся.
**Тамашні.** Сьпярша яна, а за ёй ён.
**Тамашняя.** Я думаю, што наадварот.
**Тамашні.** Гэта няважна. Важна, якія былі прычыны...

**Тамашняя.** Мне сама важна, ці кахаў ён яе.
**Тамашні.** Якія абставіны...
**Тамашняя.** Ці кахала яна яго.
**Тамашні.** Якія ўмовы і г.д.
**Тамашняя.** Ну і... *(Паўза.)* і... (*вагаецца*) ці была яна цяжарная.
**Тамашні.** Добра, што хоць ягоная цяжарнасьць выключаецца.
**Тамашняя.** А калі была, то ў каторым месяцы.
**Тамашні.** Прынамсі ў фармальным сэнсе гэтага слова.
**Тамашняя.** Ты заўсёды бачыш толькі фармальны бок. А пачуцьці...
**Тамашні.** Ён штурхнуў яе.
**Тамашняя.** А не яна яго?
**Тамашні.** Магчыма. Аднак выпала сьпярша яна.
**Тамашняя.** А ён скінуўся за ёй? Бо ня мог вытрымаць безь яе?
**Тамашні.** Бо не хацеў жыць у турме.
**Тамашняя.** Ёсьць яшчэ сярод нас адважныя людзі.
**Тамашні.** Але. Як дзяды.
**Тамашняя.** Іхныя дзяды былі там таксама.
**Тамашні.** Мне нічога пра гэта невядома. Але гэта немагчыма выключыць. Галоўная, аднак, прычына.
**Тамашняя.** Яны таксама кахалі адзін аднога.
**Тамашні.** Яна сказала, што адыходзіць.
**Тамашняя.** Бо кахае іншага?
**Тамашні.** Бо хоча зьехаць.
**Тамашняя.** Я ведаю куды. Туды... *(Не наважваецца сказаць.)*
**Тамашні.** Гэта раззлавала яго.
**Тамашняя** (*у захапленьні*). І ён вырашыў забіцца?
**Тамашні.** Ён вырашыў забіць яе.
**Тамашняя** (*мэлянхалічна*). Ах, скінуцца з каханьня.
**Тамашні.** Магчыма, што яна проста разьвешвала праньнё і...
**Тамашняя.** Выскачыць з хмарачосу.
**Тамашні.** З трэцяга паверху.
**Тамашняя.** І ляцець, ляцець, як птушка.
**Тамашні.** Ейная галава трэснула аб валун.
**Тамашняя.** Хто пасьмеў пакінуць гэты валун у тым месцы?
**Тамашні.** Ледавік. Некалькі тысячаў гадоў назад.
**Тамашняя.** І за гэты час не знайшлося каму яго адтуль прыбраць?
**Тамашні.** Затое ён, па-мойму, выжыў.
**Тамашняя.** Каб на яго пранцы.
**Тамашні.** Што азначае пранцы і для яе. Хаця ў гэтых акалічнасьцях зусім не адназначна.
**Тамашняя.** У мяне такое ўражаньне, быццам гэта былі мы.
**Тамашні.** Гэта выключана з прычыны *(Думае.)* пранцаў.
**Тамашняя.** Ты ўпэўнены?
**Тамашні.** Упэўнены. *(Паўза.)* Але ня цалкам.
**Тамашняя.** Я сама вінаватая.
**Тамашні.** Пэўныя рэчы становяцца зразумелымі праз гады з часу здарэньня.

**Тамашняя.** Трэба было заўважыць гэты момант.
**Тамашні.** Толькі ў пэрспэктыве.
**Тамашняя.** І адысьці.
**Тамашні.** Мне здаецца, што мы размаўляем на двох розных мовах.
**Тамашняя.** На двох варыянтах. Колькі табе трэба тлумачыць?
**Тамашні.** Праблема не ў варыянтах.
**Тамашняя.** А ў чым?
**Тамашні.** У перадумовах іх паўстаньня.
**Тамашняя.** Пакуль ты разьбярэсься ў паўстаньні, трэба будзе ўжо заняцца скананьнем.
**Тамашні.** Дарэчы, *(Паказвае на сьвечкі.)* можна б паспрабаваць *(Думае.)* далучыцца.
**Тамашняя.** Можна б.
**Тамашні.** Калі ня мы... *(Паўза.)* дык хто?
**Тамашняя.** Ніхто.
**Тамашні** (*правярае кішэні*). Дзе нашыя запалкі?
**Тамашняя.** Мы іх згубілі.
**Тамашні.** Калі?
**Тамашняя.** Даўно.
**Тамашні.** А запальнічка?
**Тамашняя.** Мы яе не знайшлі.
**Тамашні.** Таксама даўно?
**Тамашняя.** Не, *(з сумам)* нядаўна.
**Тамашні.** Жахліва. *(Адкладвае сьвечку.)* Але мы яшчэ даможамся свайго.
**Тамашняя.** Наўрад ці.
**Тамашні.** Мы будзем стаяць!
**Тамашняя.** Сядзець.
**Тамашні.** І выстаім.
**Тамашняя.** Вылежым.
**Тамашні.** Да апошняй кулі.
**Тамашняя.** Дулі.
**Тамашні.** Табе не халодна?
**Тамашняя.** Я ня памятаю, калі мне апошні раз было цёпла.
**Тамашні.** Мне *(Смакуючы.)* жахліва сьцюдзёна.
**Тамашняя.** Ты, здаецца, палюбіў гэтае слова.
**Тамашні.** Можна жахліва зьзюзець.
**Тамашняя.** Ты нават пачаў ім злоўжываць.
**Тамашні.** Давай згуляем (Паўза.), каб разагрэцца.
**Тамашняя.** У моўныя асацыяцыі.
**Тамашні.** Было б лепш у нешта больш *(Думае.)* даўняе.
**Тамашняя.** Архаізмы?
**Тамашні.** Артэфакты.
**Тамашняя.** Давай тады згуляем у нас, *(Паўза.)* тамашніх *(Вагаецца.)* напачатку.
**Тамашні.** Для мяне гэта балесны ўспамін.
**Тамашняя.** Няма нічога больш балеснага, чым гэтая ноч.

**Тамашні.** Яна таксама *(Паўза.)* калісьці будзе толькі ўспамінам. Сапраўды. *(Думае.)* вельмі дзіўная ноч.
**Тамашняя.** Надзвычай доўгая.
**Тамашні.** Падазрона ціхая ноч.
**Тамашняя.** Быццам бы нехта меўся нарадзіцца.
**Тамашні.** Дай Бог.
**Тамашняя.** Бог застыў. Застыў на гары, ня кінуў нас і не памёр, але застыў і...
**Тамашні.** Чакае?
**Тамашняя.** Чакае.
**Тамашні.** Няйнакш як...
**Тамашняя.** Не кажы гэтага. Пра некаторыя рэчы варта памаўчаць.
**Тамашні.** Забабоны.
**Тамашняя.** Бо ў душы мы паганцы.
**Тамашні.** Веруючыя.
**Тамашняя.** Спаняверaныя.
**Тамашні.** Цікава, чаму.
**Тамашняя.** Бо жывем толькі тым, што было.
**Тамашні.** Гэта значыць, што мы памёрлі?
**Тамашняя.** Гэта значыць, што мы не адрадзіліся.
**Тамашні.** Можа, паспрабаваць нанава *(Паўза.)* адрадзіцца?
**Тамашняя.** Нарадзіцца. *(Паўза.)* Гэта ўжо называецца – нарадзіцца.
**Тамашні.** Нашыя дзеці *(Паўза.)* паспрабуюць.
**Тамашняя.** У нас няма дзяцей.
**Тамашні.** Ну так. Я забыўся. Я зусім забыўся.

*З-за вакна даносяцца стрэлы аўтаматаў і гул рухавікоў. Абыдвай кідаюцца да ўключальніка. Націскаюць. Сьвятло не запальваецца. Нехта грукаецца ў дзьверы.*

**Голас**. Вы тут?

*Усчынаецца невыносны галас. Тамашняя і Тамашні стоць падаюць на падлогу. Цемра.*
*Людзі, апранутыя ў чорнае, у касках гарнякоў на галовах з запаленымі лямпамі выносяць на сцэну дзьве труны з надпісамі “тутэйшая” і “тутэйшы”, акуратна ставяць. Пасьля ўкладваюць целы Тамашняй і Тамашняга ў адпаведныя труны, палова жагнаецца, палова ксьціцца, і ўсе выходзяць. На сцэну ўваходзяць тры сьпявачкі, запальваюць дзьве сьвечкі, садзяцца ў галовах нябожчыкаў і пачынаюць апошняе адпяваньне.*

ЗАСЛОНЫ НЯМА
НІХТО НЯ ПЛЯСКАЕ
ГЛЕДАЧЫ ВЫХОДЗЯЦЬ
*(Хто жагнаецца, хто ксьціцца...)*

*2003-2007*

# Не зусім казка

У лесе, на ручайку, які ўліваўся ў балота, жылі бабры. Жылі яны на тым месцы з часу, як там прабег ручай, што было даўным-даўно, а таму пра тыя далёкія дзеі даводзіцца збольшага адно дадумвацца. Вядома, што перад ручаём яны там быць не маглі, бо ж бабрам для жыцьця патрэбная вада. А ўжо дакладна вядома тое, што былі яны там перад балотам. Чаму? А таму, што балота яны ўтварылі высілкам сваіх уласных лапак ды зубоў. Павыкапалі вакол балота розных коблаў з адмысловымі калідорчыкамі і таемнымі ходамі, склепамі і каморамі для прыпасаў. Так вось і гаспадарылі ў лесе доўгія гады, ажно пакуль у лес не прыйшлі ваўкі. Хаця бабры бачылі, што ваўкі зусім ад іх адрозныя, але ім гэта, хутчэй за ўсё, не перашкаджала. А калі нават і перашкаджала, дык што яны маглі проці ваўкоў? Ваўкі хутка пачалі адчуваць сябе гаспадарамі. Яны сказалі, што паселяць у лесе ўсялякае зьверыны. Навялі туды align="розны"рознага стварэньня, якога бабры ніколі на вочы нават ня бачылі. Вядома, ваўкі прывялі іх у лес, каб тыя множыліся і давалі ім смачную пажыву, бо баброў яны есьці не жадалі. Быццам бы мяса ў іх нясмачнае, ды пакуль угонісься за імі па ручаях і балацявінах, дык празябнеш увесь наскрозь. Зьверына напачатку не замінала, але пасьля ня стала на яе ніякай управы. Не пасьпееш зрабіць запору, як ужо нехта па ёй прагойсае, паламае, паскочыць далей ды слова на прабачэньне ня скажа. Усё гэта надакучыла бабрам жахліва, але зьмяніць штосьці было немагчыма, а калі нават нешта ўсё ж такі можна было зрабіць, бабры пра такі спосаб ня ведалі. Бабры ўжо нават прызвычаіліся трываць усю гэтую немач, якую з сабою прынесьлі прыхадні, але ў адзін дзень трываць сталася немагчыма. Бабры ўчынілі бой за свой лес. Для ваўкоў і іншых стварэньняў было вялікай нечаканасьцю, што бабры на такое ўсё ж адважыліся. Той бой яны, аднак, прайгралі. Ды і пачыналі яны яго ня дзеля перамогі, а хутчэй дзеля таго, каб паказаць ваўкам і ўсім іншым, хто спрадвечны гаспадар лесу. Пасьля таго, як бунтаўшчыкоў разьбілі і выставілі на публічнае асуджэньне ўсяго жывёльнага сьвету, ваўкі вырашылі іх прагнаць. Бабры ціха, без супраціву і якіх-колечы словаў пацягнуліся ў невядомым накірунку. Некалькі баброў пакінулі ў лесе, ім трэба было далей займацца балотам і даглядаць ручай, але цяпер пад пільным назіраньнем ваўкоў. Шмат часу прамінула з моманту тых здарэньняў. Бабры так і туляліся па сьвеце. Яны надалей рабілі тамы на ручаях, пракладалі кладкі, чысьцілі вадаёмы, але ўвесь час марылі аб тым, каб вярнуцца дадому, у лес. Прыйшоў час, што сум скітаньня перарос іхнюю боязь перад вяртаньнем, і яны вырашылі неадкладна рушыць у дарогу дадому. Так і зрабілі. Вярнуўшыся, аднак, яны ўбачылі, што ніякага сьледу ад іхнага прабываньня ў гэтым лесе няма. Усё, што яны там стварылі, ужо не існавала. На спатканьне бабрам, якія вярнуліся ў лес, выйшаў іншы бобр. Ён упэўнена падышоў да іх і гучна, каб усе лясныя жывёлы чулі, запытаўся: "Вы хто такія?" Бабры сьпярша не зразумелі недарэчнага пытаньня, а пасьля няўцямна адказалі, што яны бабры, гаспадары лесу, якія калісьці гэты лес добраўпарадкавалі і былі пасьля адтуль прагнаныя ваўкамі і іншымі жывёламі, але хочуць цяпер вярнуцца ў свае мясьціны. Усе слухалі, што казалі бабры, зь вялікай

цікавасьцю і ўвагай. Як толькі яны закончылі свае тлумачэньні, бобр, які выйшаў ім на спатканьне, павярнуўся да сабраных жывёлаў, разявіў рот і на ўвесь голас закрычаў: "Вы чулі? Яны бабры!" Па ўсім лесе пранёсься жахлівы рогат, які ў гэтай мешаніне рознага стварэньня гучаў больш як дзікі роў. Бабры не маглі надзівіцца ўсёй гэтай сцэне і таму стаялі цалкам зьбянтэжаныя. Калі рогат аціх, мясцовы бобр дадаў: "Не, вы не бабры!" "Не бабры, не бабры, не бабры!" - раптоўна падхапілі ўсе сабраныя, якіх у лес у свой час панавалаклі ваўкі. Цалкам зьбітыя з панталыку і вельмі засмучаныя, бабры разьвярнуліся і падаліся ў той бок, адкуль прыйшлі. Калі апошні зь іх зьнік з вачэй лясных жыхароў, бобр які вёў перамовы, раптам расьпераззаўся, зьняў зь сябе бабровую скуру і кінуў яе ў калюжу, якая засталася на месцы колішняга балота. Кажуць, бабры падаліся жыць у месца, скуль выцякае лясны ручай, але надалей мараць пра тое, каб вярнуцца ў свой лес і на сваё балота.

*2006*

# Тэатар

*Натальлі і ейным снам*

У пэўнай краіне людзі мелі два ўлюбёныя заняткі: хадзіць у тэатар і атрымліваць падарункі. Выглядала гэта наступным чынам. Сьпярша яны кожнага дня ішлі ў тэатар, глядзелі там нешта новае, а пасьля атрымоўвалі падарунак. Дакладней, яны атрымлівалі не падарунак, а цыдулку, на якой было напісана, што гэта за рэч. Праблема была ў тым, што яны ня ведалі, дзе яе трэба шукаць. Так і разбрыдаліся па ўсёй ваколіцы ў пошуках свайго падарунку. Бывала, што пасьля ўсяночных пошукаў падарунак знаходзіўся ў тым ці іншым месцы, а здаралася, што не знаходзіўся наогул. Часам атрымлівалася страшэнная блытаніна, бо людзі знаходзілі не свае падарункі, а пасьля, ведаючы, што гэта за рэч, не хацелі вяртаць яе законнаму ўласьніку. Аднак людзі былі даволі шчасьлівыя.

Аднаго дня, калі людзі прыйшлі ў тэатар, каб паглядзець чарговы паказ, са сцэны да іх зьвярнуўся нейкі зусім незнаёмы мужчына:

- Людзі, браты мае і сёстры, я ведаю, што трэба рабіць, каб стала лепш! Але пра гэта я раскажу вам пасьля паказу.

Сказаўшы гэта, незнаёмец зьлез са сцэны. Людзі былі вельмі зьдзіўленыя. Па-першае, яшчэ ніколі не здаралася, каб хто-небудзь вось так папросту залазіў на сцэну і прамаўляў, па-другое, яны не разумелі, што гэта значыць "рабіць, каб стала лепш". Сама цікава, што людзі не зьдзівіліся ні гэтаму чалавеку, ні таму, адкуль ён наогул узяўся.

Падчас паказу ва ўсім тэатры стаяў пошапт. Усе замест таго, каб, як заўсёды, глядзець спэктакаль, нешта шэптам абмяркоўвалі з суседзямі. Усіх цікавіла, што значыць "рабіць, каб стала лепш". Не было асобы, якая не чакала б хуткага заканчэньня спэктаклю. Такое здаралася ўпершыню.

Калі паказ скончыўся, на сцэну залез той самы мужчына і пачаў такімі словамі:

- Усе нашыя няшчасьці з таго, што мы ня ведаем, дзе нашыя падарункі! Але няшчасьцю прыйшоў канец! Я ведаю, што трэба рабіць!

"Што трэба рабіць? Што трэба рабіць? Што трэба рабіць?" - усхваляваліся ўсе гледачы і, сьціснуўшы хто зубы, хто далоні, а хто калені, не маглі дачакацца, калі пачуюць адказ на гэтае пытаньне.

- Трэба! - кажучы гэта, мужчына ўзьняў угору руку, а ў залі запанавала мёртвая цішыня, - трэба, каб на лістку, дзе напісана, які падарунак мы сёньня атрымліваем, было таксама напісана, дзе яго шукаць!

Пасьля некалькіх хвілін поўнага маўчаньня ў залі раздаліся апляадысмэнты. Пляскалі ўсе. Некаторыя выкрыквалі: "Слушна!", яшчэ іншыя: "Трэба!", а яшчэ некаторыя па чарзе першае і другое. Адразу ж пасьля гэтага ўсе атрымалі лісткі, дзе было напісана, які падарунак яны атрымалі і дзе яго шукаць. Усе, непамерна шчасьлівыя, разбрыліся па ваколіцы да месцаў, дзе іх чакалі падарункі. Аднак падарункаў сваіх яны так і не знайшлі.

Наступнага дня абураныя людзі ўварваліся ў тэатар і чакалі тлумачэньняў, яны былі гатовыя на ўсё. На сцэне яны ўбачылі таго самага мужчыну, які напярэдадні ўвёў усё гэтае замяшаньне.

- Людзі! - як і раней, пачаў мужчына. - Сталася нешта неверагоднае. Нашыя падарункі скралі!

"Скралі! Скралі! Скралі!" - разьнеслася па ўсёй залі. - "Хто скраў? Хто скраў? Хто скраў?" - пранеслася другая хваля.

- Пытаньне ня ў тым, хто скраў, - адрэзаў мужчына, - а ў тым, што рабіць, каб гэта больш не паўтарылася - тут мужчына зрабіў кароткую паўзу, - і я ведаю, як гэта рабіць!

- Што трэба рабіць? Што трэба рабіць? Што трэба рабіць? - ізноў, як і папярэдняга дня, загучаў натоўп.

- Трэба, - мужчына ўзьняў руку, - каб на лістку, дзе напісана, які падарунак мы сёньня атрымліваем і дзе яго трэба шукаць, было таксама напісана, хто яго скраў! - раптоўна апусьціў руку прамоўца.

Адразу ж гэтага вечару адбылося ўручэньне лісткоў, на якіх было напісана, які падарунак і дзе шукаць, а таксама хто яго скраў. Усе былі так узбуджаныя навыўвядзеньнямі, што нават не заўважылі, што па сталай завядзёнцы трэба было б паглядзець паказ, якога і так у той дзень не было. Выправіўшыся на пошукі, людзі, аднак, ізноўку нічога не знайшлі.

Празь дзень ня менш абураны натоўп уварваўся ў тэатар, аднак на гэты раз прысутных было нашмат меней. Як і папярэдне, са сцэны прамовіў мужчына.

- Я ведаю, што трэба рабіць...

Такая самая працэдура паўтарылася наступнага дня. І паўтаралася зноў і зноў, а ў тэатральнай залі заставалася з кожным днём усё менш і менш людзей. Самае дзіўнае, што ніхто ўжо ня памятаў ні на падарункі, ні тым больш на спэктаклі. Цяпер часткай спэктаклю былі яны самі.

*2006*

# Дамафон Мінай

*Андрэю Мрыю*

Быў у нас такі дзіўны час, а можа, і не такі ўжо дзіўны, ну, прынамсі, няшмат дзіўнейшы за іншыя часы, якія ў нас былі, што ва ўсіх пад'ездах панялі моду ставіць дамафоны. Ужо амаль усе пад'езды шматкватэрных дамоў нашага не вялікага, але і не малога места карысталіся дабрадзействам гэтай хітрай вынаходкі, а ўсе астатнія ім зайздросьцілі. А зайздросьціць было чаго. Пад'езды з дамафонамі былі чыстыя, у іх не адбываліся вечныя, як гэта было раней, п'янкі ды пагулянкі мясцовых жлуктаў; яны былі таксама пад'ездамі бясьпечнымі, дзе злодзею прабрацца было нашмат цяжэй; ну і нарэшце, дамафон можна было выкарыстоўваць як тэлефон - скончыўся час, калі, забыўшыся прышчэпак да праньня, трэба было на ўвесь раён дзерці глотку, каб нехта ў кватэры на сёмым паверсе пачуў, а пасьля яшчэ скінуў гэтыя самыя няшчасныя прышчэпкі долу. Таму ўсе пад'езды можна было падзяліць на тыя, якія ўжо мелі дамафон, тыя, якія яго якраз усталёўвалі, і тыя, якія зьбіраліся вось-вось яго ўсталяваць. Ну можа, з выняткам аднаго пад'езду.

Адзін пад'езд ані ня меў дамафону, ані ня быў у працэсе яго інсталяцыі, ані не зьбіраўся яго паставіць. Зьбірацца то ён зьбіраўся, але на перашкодзе ўсяму праэкту стаяў адзін чалавек - Мінай. Дзеля ўсталяваньня дамафону патрэбная была згода ўсіх жыхароў пад'езду, і тое, што іншым пад'ездам давалася дужа хутка і бязь ніякай валтузьні, гэтаму пад'езду не ўдавалася нізашто. У ім, як касьціна ў горле, стаяў на сваім Мінай і казаў, што ў ягоным пад'езьдзе гэтага гаўна ня будзе.

Мінай быў пэнсіянэрам-апівудам, ці хутчэй можна сказаць, апівудам-пэнсіянэрам, чалавекам бязь ніякага занятку, ці тым больш зацікаўленьняў, хіба што з зацікаўленьнем выпіць. Увесь дзень Мінай нязрушна праседжваў на лаве перад пад'ездам і лічыў, што калі ён там, "то на які х... патрэбны гэты дурафон?" "Дамафон - гэта я, - сказаў на сходзе пад'езду Мінай, - і іншага нам ня трэба". З таго часу Міная так і пачалі называць - Мінай Дамафон альбо проста Дамафон. Ня могучы знайсьці на Міная ніякае ўправы, жыхары хутка прызвычаіліся да таго, што іхны дамафон быў жывы і няспынна сядзеў на лаве перад домам ад раніцы да вечару, а бывала, і ад вечару да раніцы. Сьпярша, канечне, вельмі перажывалі, што іхны дамафон не такі, як ва ўсіх, і ў якасьці тэлефону яго таксама ня выкарыстаеш, а таму ізноў трэба было гарлапаніць на ўвесь раён, каб нехта скінуў тыя халерныя прышчэпкі. Пазьней, аднак, уся справа падзабылася і да свайго дамафону яны, можна сказаць, прызвычаіліся.

Здарыўся нават адзін выпадак, калі Мінай давёў усім, што ён - найлепшы дамафон з усіх магчымых. Пайшоўшы пасікаць за дом, каб дарма не валачыся на першы паверх, дзе месьцілася ягоная кватэра, ён заўважыў, што на трэцім паверсе з гаўбца на гаўбец пералазіць злодзей. Доўга ня думаючы, ён узяў таўшчэзную штахеціну, якая падпірала дзьверцы ў парнік Ванды Гурковіч, і шурнуў ёй у злодзея, ды зрабіў гэта так лоўка ды цэльна, што штахеціна трапіла злодзею ў самую лабешку і той павіснуў ад удару на гаўбцовай парэнчы, пагайдаўся некалькі разоў і рынуўся вобземель так, што

ў вушах у Мінaя ажно зазьвінела. Гэта ўжо толькі пазьней аказалася, што быў гэта ня злодзей, а муж той самай Ванды Гурковіч з трэцяга паверху, і лез ён не ў суседзкую хату красьці грошы, а з суседзкай у сваю, бо спадарыня Ванда забыла пакласьці ключ ад кватэры пад дыванок, як яны папярэдне дамаўляліся, ды і штахеціна была ня проста штахецінай, якая падпірала дзьверы ў парнік Ванды Гурковіч, а штахецінай, якая падпірала ўвесь парнік і выдзерці якую была патрэбная неймаверная сіла, якой Мінаю ў экстрэмальнай сытуацыі, відаць, нязбракла. Цяпер муж спадарыні Ванды ляжаў у больніцы і павінен быў заставацца там яшчэ прынамсі месяцы два, пакуль пазрастаюцца ўсе ягоныя косьці. Ляжаў таксама ўвесь сёлетні ўраджай Ванды Гурковіч, бо, абваліўшыся, парнік папаламаў усе каліўцы, якія яна так старанна пялегавала. Ляжаў таксама Мінай на сваёй лаўцы, страшэнна задаволены самім сабою і сваім спрытам. Задаволеныя былі таксама жыхары пад'езду, бо самае галоўнае тое, што Дамафон выказаў сваю ўвагу, захаваў празорнасьць ды апэратыўнасьць, а Гурковіч сам павінен быў паведаміць Дамафону, што зьбіраецца пералазіць праз балкон. Усё павінна быць, як у цывілізаваных людзей.

Аднак хутка пасьля гэтага выпадку, калі ніхто гэтага не чакаў, а найменш сам Мінай, ягонае здароўе раптоўна падарвалася і ён пачаў шпурляць у суседзкія вокны вялікімі булыжнікамі ды выкрыкваць: "Злодзей! Злодзей! Злодзей!" Забіраць Дамафона прыехала белае аўто, зь якога выйшлі людзі ў белых халатах, запакавалі яго ў машыну ды зьехалі ў сваім накірунку. Дамафон ужо дадому не вярнуўся, і толькі муж Ванды Гурковіч чуў, што яго паклалі ў суседнім аддзяленьні, дзе ён надалей застаецца дамафонам.

Адразу ж пасьля гэтага здарэньня жыхары ўсталявалі доўгачаканы дамафон і цяпер, як усе цывілізаваныя людзі, тэлефанавалі па прышчэпкі.

Кожны час калі-небудзь мінае. Але гэта зусім не гарантыя таго, што наступны ня будзе яшчэ дзіўнейшы за папярэдні.

*2007*



**ДАВЫДЗЕНКА Зьміцер** - нарадзіўся ў горадзе Менску 21 студзеня 1978 году ў сям'і выкладчыкаў.

Вершамі захапляўся зь дзяцінства, але пісаць іх пачаў толькі ў 17 гадоў.

У 1995 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт на юрыдычны факультэт. Скарыстаўся магчымасьцю ажыцьцявіць сваю мару вывучаць міжнароднае права й міжнародныя зносіны ў ВНУ з адпаведнымі сталымі традыцыямі, паступіў у Маскоўскі Дзяржаўны Інстытут Міжнародных Зносінаў (МГИМО) на міжнародна-прававы факультэт. Пасьля закончыў там асьпірантуру па спэцыяльнасьці "міжнароднае прыватнае права".

Зараз жыве ў Маскве, працуе ў недзяржаўным Інстытуце міжнароднага прыватнага й параўнаўчага права і Калегіі адвакатаў.

# ВЕРШЫ

## Санэт

Чароўнай зьявай дзіўнай прыгажосьці
Ты ў сэрцы зруйнавала прахалоду.
Кляну цябе, кляну сваю прыроду,
Дзе месца ёсьць для рэўнасьці і злосьці.

Але, каб з хаты сьмецьце не выносіць,
Забуду горыч. Помню асалоду,
Пяшчоту мілых рук і позірка лагоду,
Запал жаданьня выйсьця шчыра просіць.

Наіўна думаць, быццам ты сьвятая,
Але ці пакахаў бы я бязгрэшную такую.
Давай любіць, пакуль зямля сьвяткуе
Ўрачыстасьць ціхую мядовага спатканьня!
..................................................................

Вядома, сэрцу ты любіць не загадаеш,
Але ж успыхне – і агню ўжо не стрымаеш.

*Верасень 1995*

## Шчырыя словы

Шчырыя словы
Трэба казаць,
Цяжка бывае нам моўчкі трываць.

Лічыш, дарма:
Сэнсу няма…
Просіцца праўда на волю сама!

Боль прыхаваны –
Нясьцерпны цяжар,
Мусіць раскрыцца душэўны пажар.

Можна ўцячы
Ад чыіхсьці адзнак,
Ды ад сябе немагчыма ніяк.

Нібы ўраган
Ці варожы таран,
Душы зьнішчае самападман.

Крохкае цяжка захоўваць…
Хай жыве шчырае слова.

*Верасень 1995*

## Стрыечныя браты
### (верш-перасьцярога)

*Любоў злая..·*

Стрыечныя браты
Дахаты завітаюць,
Стрыечныя браты
Прывабнымі бываюць.

У дальніх сваякоў
Складаныя стасункі,
Прымай у хату зноў
Ліхія падарункі.

Стрыечныя браты –
Якая небясьпека!
Імкненьне да бяды
Ўласьціва чалавеку.

Трымаць пачуцьцяў жар
Няможна пад кантролем,
Хісьнецца гаспадар –
Прарвецца чорт на волю…

Гаворыць сэрца ўслых –
І сорам, і сумленьне,
І забабонаў шыхт
Зьнікаюць у імгненьне.

Зірнеш адзін разок
У вочы канавыя –
І п’еш атруты сок,
Салодка сэрца ные.

Пільнуе з-за кута
Раптоўнае каханьне.
Малюе чорт-мастак
Таемныя жаданьні.

Каханьня пачуцьцё
Бывае недарэчным,
Вядзе цябе жыцьцё
І да братоў стрыечных...

Спакусу адгані,
Шаленству не паддайся,
Ты сэрца барані,
Глядзі – не закахайся!

Стрыечныя браты –
Знаёмся асьцярожна,
Прыстойнасьці масты
Спаліць жадае кожны.

Стрыечныя браты –
А раптам ён адчуе,
Што ўзрушаная ты,
І хто тады ўратуе?..

Як прыйдуць яны зноў,
Чытай перасьцярогу,
А лепш трымай братоў
Падалей за парогам!

*Кастрычнік 2003*

## Міла ў небясьпецы

*Прысьвячаецца ўсім дзяўчатам,*
*якія (ледзь ня) трапілі ў бяду*
*праз сваю неабачлівасьць*

Дзяўчыначка юная Міла
З хлапцамі ліхімі пайшла,
Аўтобус апошні згубіла,
Дарогу дамоў не знайшла.

Завабілі хцівыя хлопцы
У дзікі далёкі гушчар.
І зьвёз невядомы кіроўца
Ад гэтых бяздушных пачвар.
У хаце агеньчык самотны –
Дзядуля сівенькі ня сьпіць,
З-за ўнучкі Людмілкі гаротнай
Ягонае сэрца баліць.
Калоціцца сэрца і плача,
Дзяўчыначка, дзе жа ты, дзе?
Твой шлях хіба месяц адзначыць,
І неба счарнела ў нудзе.
“Ня слухала б хлопцаў паганых,
Што ў пастку цябе завялі,
Іх словаў салодкіх, падманных”, –
Ёй кажуць лясы і палі.
Край браслаўскі гадам адпомсьціць –
У холадзе й цемры сядзяць.
Хай кожны нягоднік запомніць,
Як дзеўчын самотных кідаць.
Вось неба сьлязьмі залілося,
І шэпчуцца сосны ў журбе...
Хутчэй бы, Людмілка, ўдалося,
Нарэшце пабачыць цябе!

*Жнівень 2003*

## Да дня народзінаў Веранікі

Што мне сёньня нагадае
Гэты восеньскі дзянёчак,
Чым адметны ён, чым зьзяе,
Як агеньчык-вугалёчак?

У лесе высьпела сунічка?
Салаўём зайшлась сінічка?
Пацякла зь зямлі крынічка?..
Нарадзілась Веранічка!

Да бацькоў прыйшла уцеха,
Не адна, а зь непакоем:
Ох, няўрымсьлівая дзеўка,
Цяжка з жваваю такою!

Ёсьць калючкі ў гэтай ружы,
Можа кожнага зьбянтэжыць:
Дух пярэчаньня (ды й дужы!)
Гэтай дзеўчыне належыць.

Мой букецік пажаданьняў
Ты аддай ёй, восень, у рукі:
Плёну многа з намаганьняў,
На карысьць каб шлі навукі;

Ў віры танцаў закруціцца,
Песьняў мёдам наталіцца
Ды настрой іскрысты мець.

І такое пажаданьне
Ў той букецік пакладу я:
Як чаромха з мрояў мая,
Як з садоў чароўных ружа,
Як Радзімы ўвасабленьне,
Кожнае ў жыцьці імгненьне
Красаваць, цьвісьці, квітнець!

*Кастрычнік 2002*

* * *

Хай людзкасьць і чуласьць цябе атачаюць,
А зло і няпраўда згараць ці растаюць,
У сэрцы пануюць любоў і спакой,
А ўдача заўсёды сябруе з табой.

Усьмешка твая хай сяброў саграваε,
А гора дарогі да ганку ня знае,
Шануюць сумленныя й шчырыя людзі,
А злыдняў у жыцьці і блізка ня будзе!

## На Міланшчыне

Пасярод лясоў кудлатых,
У баку ад мітусьні
Над вадой хіліцца хата,
Дзе мае праходзяць дні.

Калі цемра адступае,
Пачынаюць шчабятаць
Разам восем папугаеў
Так, што немагчыма спаць.

Кацяняты, нібы дзеці,
Пачынаюць валтузьню
На мяху ці на газэце –
Усё да іх ідзе ў гульню.

Віск паўлінаў замяняе
Крыкі ранішнія пеўня:
Хто прыгожа выглядае,
Можа не баяцца сцэны.

Нібы ветразь над вадою –
Белы лебедзь шпацыруе.
Статак карпаў за "кармою",
Быццам імі ён кіруе.

Качка-маці клопат мае –
Вучыць пільнасьці малых.
Паслухмяна шыхт трымаюць
Дзесяць шарыкаў жывых:

Качаняты часта гінуць,
Бо ідзе пагроза зь неба.
Варта ў сажалку закінуць
Піцу ці кавалак хлеба,

Ажно ў ёй вада бруіцца,
Быццам кіпень на агні,
Так імкнуцца наталіцца
Карасі ды акуні.

Вось і я, як качка тая,
Вывадак малых вяду.
Нам кіроўцы саступаюць,
Запавольваюць хаду.

Крыкі ў цішыні расталі:
Гэта восьлік сімпатычны,
Вушы доўгія ён мае
І чатыры капыты.
Да суседа завітаю;
Трэба быць самакрытычным:
Сапраўды, магчыма, часам
На яго падобны ты?

Так хацеў бы забаўляцца,
На асла глядзець старога,
На палёт паўліна вольны
І на ранішні туман,
Ды ўжо трэба адпраўляцца
Мне на досьвітку ў дарогу,
Бо чакае неспакойны,
Мітусьнёй п'яны Мілан.

*Італія, ліпень 2003*

## Ліст з Італіі

Баўлю час я ў дзіўным краі
Ля падножжа Альпаў стромых
І мясьцін, зь якіх паходзіць
Пан вялікі Жыгімонт.

Прамысловасьць тут буяе,
Беспрацоўе невядома.
Край памежны гэты носіць
Імя гучнае П’емонт.

Тут лацінская культура
Сустракаецца з паўночнай,
Экспрэсіўная натура
Стрыманай глядзіць у вочы.

У размовах ужываюць
Рыма-гальскую трасянку.
Стравы грапай дапаўняюць
На вясёлай пагулянцы.

Экстрэмальная прырода,
Да дзівацтваў клімат схільны.
Гор узьняты ў неба мост…
Тут паўлін трымае горда,
Нібы сьцяг ці герб фамільны,
Доўгі свой стракаты хвост,
Ці павольна пераходзіць
Зь сябруком аўтадарогу,
Не зважае, што кіроўца
Можа хвост адпрасаваць…

Ноччу кот на шафе шкодзіць,
Ці сігае на падлогу,
Трэба шчыльна зачыніцца,
Калі хочаш добра спаць.

Край той горны, навальнічны:
Часта ў ім маланкі неба
На кавалкі расьсякаюць,
Вецер шкоды шмат наносіць,
Дрэвы і платы ламае
І дарогі засьцілае
Лісьцем і гальлём сучастым.

Сонца ўсё раней заходзіць,
І паўлін свой хвост адкінуў,
Стаў жывёлай непрыкметнай,
Нібы курыца ці гусь.

Пэўна, час прыйшоў, народзе,
Нам вяртацца у краіну
Памяркоўнасьці адметнай,
Больш прывычнай, – Беларусь.

*Жнівень 2003*

## Багацьце

Кожны чуў: наш край маркотны,
Анічога ў ім няма,
За мяжой шукай вабноты,
Не губляй тут час дарма.

Бедаком сябе лічыць –
Гэта сорам, браце:
Ты зірні – вакол ляжыць
Дзіўнае багацьце.

Граньне гусьляў, флейты сьпеў,
Гук дуды магічны,
Шэпт лістоты старых дрэў,
Рух вады крынічнай,

Бліскавіц вясновых зьзяньне,
Пошум пушчаў і дуброў,
Вод імклівых віраваньне,
Статкі лосяў ды зуброў,
Соснаў гожых калыханьне
Ды паселішчы баброў –

Краю нашага аздобы.
Толькі крокі запаволь,
Скінь свой смутак і жалобу,
Адпачыць душы дазволь.

Выйдзеш зранку ўвесну ў поле –
Там шчабечуць жаўрукі.
Зойдзеш у лес, дзе дыхаць вольна, –
Бой вядуць цецерукі...

А касьцёлаў ды капліцаў –
Нібы пэрлін на дне мора,
Замкі, вежы, сьцен байніцы,
Там схаваны таямніцы
Ў сутарэньнях, калідорах.

З чоўнам, роварам ці пешкі
У край сьпяшайся церазь Мёры,
Дзе блакітныя прасторы.
Вабяць там лясныя сьцежкі,

Леднікоў эпохі рэшткі –
Камы, озы ды азёры.

Там рупліўцы адраджаюць
Старажытныя рамёствы,
Да мастацтва дотык маюць
І маленькі, і дарослы.

Войса, Струста, Снуды, Несьпіш –
Цуд такі ты ў сэрца ўмесьціш.
Ноччу ў іх глядзіцца месяц.
Толькі ў воды іх нырніце,
Ці з пагорка паглядзіце –
Згадкі лепшыя ўваскрэсяць.

Варты жалю той бядак,
Хто ў нару забіўся
І ад скарбаў тых, дзівак,
Сам адгарадзіўся.

*Люты 2003*

## Калядныя абрады

Ноч, даўжэйшая у годзе,
Неўзабаве надышла.
Зь першай зоркай у народзе
Запрашаюць да стала.

Стол стаіць, пакрыты сенам,
А на ім абрус ляжыць,
У мігценьні летуценным
Елка ля вакна стаіць.

У кутах – снапы са збожжа,
Ў місцы на стале – куцьця:
Талісман ад сіл варожых,
Сымбаль вечнага жыцьця.

Хутка ўся сям'я зьбярэцца,
Прыйдуць добрыя сябры,
Згода ў хаце застанецца,
Звады й крыўды – на двары.

З кожным паламай аплатку,
Каб традыцыя жыла,
У доме пажадай парадку,
Дабрабыту і цяпла.

Жонка мужу пажадае:
Каб ты сьвету не відаў
З-за вялікага ўраджаю
(Ды здароўя не губляў).

Гаспадар адкажа жонцы:
Хай жа буйных гарбузоў,
Буракоў, гуркоў ды морквы
Хопіць нам да маразоў!

Пачынаюцца варожбы:
Сьверб дзяўчат апанаваў,
Каб хлапец які харошы
Шлюб хутчэй прапанаваў.

З-пад абрусу ты сьцяблінку
Асьцярожна выбірай:
Возьмеш доўгую былінку –
Будзе добрым ураджай.

Адчыняй шырока дзьверы,
Паважаны гаспадар:
Калядоўшчыкаў намеры –
Атрымаць за песьні дар.

Тут Каза, Мядзьведзь ды Конік
Віншаваць цябе прыйшлі.
Час заплясkаць у далоні:
Добру вестку прынясьлі.

Сьвята слаўнае Калядаў
Лучыць розныя часы:
Да язычніцкіх абрадаў –
Хрысьціянаў галасы.

Уся Эўропа адзначае
Збаўцы вечнага прыход.
Хай жа Бог ва ўсім спрыяе
Ў гэты дзень і ў Новы год!

*Сьнежань 2002*

## Урачыстае віншаваньне з нагоды сьвята Дзядоў

Землякі, браты, сябры,
Доўжым звычай мы стары:
Ушаноўваць памяць тых,
Хто нас у сьвет прывёў усіх.
Кім бы продкі ні былі –
Земляробы, кавалі,

Ваяводы, ваяры,
Гандляры ці гусьляры –
Дар ад іх мы прынялі:
Нам жыцьцё яны далі.
Ды ласкавымі былі:
І імя нам наракли.

Хай жа продкі ганарацца
Нашай справай на зямлі
Будзем волатамі ў працы,
У баі і на піры.

Покуль помнім мы пра іх,
Месца нам сярод жывых.
Хто мінуўшчыну забыў,
Той і прышласьць загубіў.

Найшаноўныя дзяды,
Будзем помніць вас заўжды!
У нашых думках – продкаў справа:
Незалежная дзяржава!

*Лістапад 2002*



**ЗАЙКА Віталь** — нарадзіўся 1961 годзе ў Лагойску. Скончыў фізфак Белдзяржунівэрсытэту. Браў удзел у працы нефармальнага Беларускага навукова-гуманітарнага таварыства ў канцы 1980-х гадоў. Дэлегат Устаноўчага зьезду БНФ 1989 году. У 1991-1995 гадах працаваў у Навуковым цэнтры імя Ф. Скарыны, займаўся беларуска-габрэйскімі культурнымі сувязямі і праблемамі нацыянальнай ідэнтыфікацыі. З канца 1990-х гадоў — у ЗША, бярэ ўдзел у дзейнасьці беларускай грамады Амэрыкі. Аўтар шэрагу публікацыяў навуковага характару і культуралягічных артыкулаў.

# ЧУЖАЗЕМНЫ ТРЫПТЫХ

## Пра магнітафон

Імпартны касэтны магнітафон — гэта была мая пракаветная мара.

У той час, у савецкі, усе ганяліся за “імпартам”, асабліва гарадзкія. Ну і мы таксама сталі прасякаць, што да чаго. Паставіш на якой вечарынцы магнітафон, на дзьве касэты, ды японскага вырабу — і ўся ўвага адразу на цябе, на гаспадара такой цуд-машыны. Дзяўчаты робяцца прыхільныя, хлопцы на перакурцы паміж танцамі пытаюцца з павагай пра дынамікі, частоты, колькі каштуе.

Ну і вось, пасьля школы падаўся я ў Берасьце, скончыў тэхнікум электрасувязі, і акурат праз пару тыдняў, у канцы траўня, забіраюць мяне ў войска. Трапіў я перш на тры месяцы ў Печы пад Барысавам, у вучэбку. Тады перавялі ў Кіравагград. І адтуль накіравалі ў Сярэднюю Азію, у Тэрмэз. Рота нашая была напалову з узбэкаў, а напалову збор-брыгада, “Мой адрас — Савецкі Саюз”. Землякі зь Беларусі, пскоўскія, масквічы, некалькі малдаванаў, з Латвіі людзі. З узбэкамі адносіны былі нармальныя. Пару разоў, праўда, біліся зь імі масквічы і два беларусы нашыя, тады мірыліся.

Акурат 1 студзеня 1982 году пераехалі граніцу, калёна дайшла за два дні да Мазары-Шарыфа. Ужо ў Тэрмэзе адчуў, што жыцьцё ў гэтых краёх зусім не такое, як у нас, але Мазары-Шарыф зрабіў дужа вялікае ўражаньне. Купалы мячэцяў, базар, ішакі. Вуліцы скрозь як лябірынт, сьцены-*дувалы*, усё з гліны. Бы ў кіно, кругом народ апрануты, як разбойнікі-басмачы. Абарваныя дзеці круцяцца, як мухі, вакол нас. Кабеты закручаныя ў накідкі, у вялікія хусткі. Базар — казка “1001 ночы”. На ім

ёсьць усё: ад разынак і пярсьцёнкаў да стрэльбаў і машынаў. Прадаюць горы пладоў розных, авечак і вярблюдаў, дровы, адзеньне. І – японскія магнітафоны.

Неяк камроты паслаў мяне разам з Халбоевым Эргашам на базар па батарэйкі. Знайшлі там крамку. Усярэдзіне цесна, увесь маленькі пакойчык забіты апаратурай, блішчастыя навюткія магнітафоны вісяць на сьценах, стаяць у кардонах на паліцах, на падлозе. Упадабаў я некалькі, пытаю кошт. Гаспадар падымае рукі, хітае галавой. Кажа па-расейску: "*Многа*, *многа*". Я праз Халбоева пытаюся, колькі ж каштуе. Узяў ён крэйду – у яго была маленькая дошка такая – напісаў мне "70" і паказвае на адзін магнітафон, а на другі – "90". Запомніў я, і ўвечары пытаюся землякоў Халбоева – як тут можна рублі абмяняць? 75 рублёў было ў мяне схавана. Яны пасьмяяліся, кажуць: «Тут рублі ня ходзяць, можаш выкінуць».

Праз пару месяцаў абвыкся. У горадзе было збольшага ціха, мы стаялі ў бараках з гліны на ўскрайку гораду, але да цэнтру можна дайсьці пешшу хвілін за 20. Грошай нам плацілі ўсяго 5 чэкаў (гэта чэкавыя рублі) на месяц, у ваенторгаўскай крамцы можна было купіць які адэкалён ці кансэрвы. Узбэкі навучылі занесьці прадаць на базар. Я быў тады дужа гэтым захоплены. Нас ніхто ня рушыў, начальства як бы забылася на нас. Звычайна я сядзеў у радыёмодулі, прымаў сабе радыяграмы, перадаваў замкамроты. У роце добра тапілі, ды і зіма была пераважна як у нас восень, месяц які лістапад. Ежа была лепей за гнілыя агуркі й варанае сала, што было і ў вучэбцы, і ў Тэрмэзе. І пайка нармальная, часта бараніна, я да яе прызвычаіўся. Старaслужачых было мала, узбэкі ў нашай роце збольшага мірныя, напружваць асабліва не было каму. Адным словам – рай, нягледзячы на тое, што амаль усе перахварэлі жаўтухай. Кожны марыў так дацягнуць да дэмбелю. У мяне на магнітафон празь некалькі месяцаў сабралася ўжо зь дзясятак даляраў і куча мясцовых грошай-аўгані.

І вось 5 сакавіка, сярод ночы, абудзіліся мы ад выбухаў і ад кулямётных чэргаў. Павыскоквалі на двор – сьветла як днём, гараць нашыя машыны-наліўнікі, "Уралы" і некалькі будынкаў. Страляніна, вухаюць мінамётныя выбухі. Я за аўтамат і да модулю, а ён таксама заняўся. Там усе мае грошы! Хаваў іх пад рацыяй, каб хто ноччу ў казарме ня выцягнуў. Бягу туды, а з высотак аднекуль сталі біць кулямёты ДШК. Павалілiся ўсе, страляюць ва ўсе бакі, камандаў не чуваць, поўны гармідар і неразьбярыха. Празь якія паўгадзіны няма модулю – дашчэнту згарэў. Вось так прапалі мае капіталы. А тыя аўгані – у пачках. Насіць няма як. Даляраў толькі дужа шкада. Так вось скончылася мая першая спроба здабыць магнітафон.

* * *

Як згарэла рацыя, мяне паставілі ў кулямётны ўзвод, пацягаў цынкі з набоямі. Пасьля перакінулі ў стралецкі ўзвод, дзе і пазнаёміўся з латышом Андрысам зь Елгавы. Сышліся на глебе матаболу. Я займаўся яшчэ ў школе і быў у камандзе тэхнікуму. Неяк мы езьдзілі на чэмпіянат "Кубак дружбы" ў Цэсіс, дзе, як аказалася, выступаў тады й Андрыс. Мы сталі "трымаць мазу", дзялілі цыгарэты, пасылкі, варылі разам чыфір.

1 чэрвеня нам паведамілі, што ў кішлаку Сабзыманд за Мазарамі - патаемны апорны пункт духаў і што заўтра трэба на досьвітку падабрацца туды і захапіць кішлак. Ён стаіць так – палова на гары, а палова спаўзае ўніз, у даліну. Зайшлі начным маршам з другога боку на самую гару, і на сьвітаньні камроты даў ракету, два ўзводы пайшлі ў атаку, адзін закрываў магчымы адыход духаў. Нас чакалі з даліны, увесь агонь быў на той край кішлака. З нашага краю быў толькі кулямёт, які хутка змоўк, і яшчэ асобныя стрэлы з “бураў”. Калі ўзялі першую ад гары вуліцу, з-за дувалаў раптам падняўся моцны агонь – духі пасьпелі перадыслакавацца. Некалькі кулямётаў ДШК прыціснулі ўвесь наш узвод, сядзім чакаем, пакуль гранатамётчыкі выкураць кулямёты. Сэрыя выбухаў – кулямёты сьціхлі. Я з Андрысам ды яшчэ двума пскоўскімі хлопцамі закідалі гранатамі двор насупраць, ускочылі праз вароты. І тут пскоўскіх адразу забіла выбухам гранаты, кінутай з вакна. Мы закідаем у вакно яшчэ па гранаце – і наперад у дом. У пыле нейкія цені, давай біць па іх з аўтаматаў, енкі, крык дзіцячы – ажно як пыл асеў, бачым, што на падлозе дзьве кабеты ў цёмным, бы купы лахманоў, мужчына – нерухомыя, і дзіця б’ецца, трымціць яно, усё ў крыві. Не зразумець, ці хлопчык, ці дзяўчынка, у нейкім рызьзі, гадоў 8-9. Кінуліся далей, я толькі пасьпеў азірнуцца – дзіця сьціхла.

Чую тут, што намок рукаў. Глянуў – усё плячо ў крыві. Пераскочылі вулічку, ускочылі ў другі дом. Здаецца, ціха. “Андрыс, – кажу, – у мяне нешта з рукой”. Парваў ён мне рукаў, паклаў індпакет, перацягнуў уверсе руку. Здаецца, магу ісьці далей, толькі муціць крыху. Тут Андрыс кажа: “Глянь, магнітафон!” І туды. Бачу – ля вакна стаіць на нейкай скрынцы блішчасты срэбраністы дзьвюхкасэтнік, акурат як зьяўляўся мне ў марах. Ён як знарок бы на выставе. Нешта ня тое. “Стой!” – крычу Андрысу. “Міна! Кладзіся!” А ён ужо схапіў і павярнуўся да мяне. Ззаду дало, бела-чырвоным шуганула. Дом здрыгануўся, бомкнула шкло. Праз дым і пыл бачу ляжыць Андрыс тварам уніз. Сьпіна разварочаная, у крыві, як фарш. Прыпадняў яго – твар белы, хрыпіць: “Адрас у кішэні”, – а сам неяк напяўся, вывернуўся і абмяк.

Мне потым гэта ўвесь час у сьне мроілася, што я крычу, але голасу няма, Андрыс ня чуе, бярэ магнітафон, а бомба з фотаэлемэнтам выбухае. Калі ажаніўся, жонка сварылася, што падскокваю, крычу, не даю спаць.

Цягну Андрыса да дзьвярэй і бачу магнітафон: ляжыць сабе цэлы, толькі прысыпаны пылам. Хацеў сакануць па ім, але – нешта мільганула ў вакне. Праз двор бяжыць цень у трантах, бліснула зброя. Я – за АКМ, даў зь яго доўгую чаргу. Цень здрыгануўся, паваліўся, заціх. Падышоў туды – малады хлопец. Вусы ледзь-ледзь выбіліся, маладзейшы за мяне. На галаве як шаль такі стракаты. Аўтамат побач. Чамусьці нямецкі, шмайсер, як у немцаў у кіно. Пазьней мы бачылі іх шмат, зброі з той вайны. ППШ і ППС таксама. Тады, у Сабзымандзе, было гэта ў навіну.

Андрыс быў непрытомны. Праз паўгадзіны ён памёр. Пакуль выносілі на поле параненых, пакуль прачэсвалі кішлак, чакалі на верталёты – падступіў вечар. Падышла рота аўганскай міліцыі – царандой. Усе чарнявыя і вусатыя, у зялёных аднолькавых фрэнчах, а порткі – якія ў каго знайшліся. Падумаў я – хай хоць якая памяць пра Андрыса будзе. Пабег, забраў той магнітафон. Аказаўся фірмы «Саньё», спраўны, навюткі, батарэйкі на месцы...

Раптам батарэйкі паплылі перад вачыма, бачу, што ўсё неяк пераварочваецца. Я валюся на зямлю... Самлеў – страта крыві ад раны ў плячо.

Першы мой магнітафон, як і першы забіты чалавек, – ён цяжэйшы мне быў, чым сто кіляў боекамплекту.

* * *

Потым, у ліпені, перавялі мяне радыстам у іншую роту, далі рацыю. Я ўжо пакаштаваў пляну, анашы, але не ўцягнуўся ў гэтую справу. Рота стаяла трохі далей ад Мазары-Шарыфа, узбоч дарогі на горад Шабарган, ля кішлака. Зямляк з Мазыра, Вашчук, кажа, што ўзбэкі гавораць: "Шарыф" гэта "высакародны", і назва значыць "Высакародны Мазыр". Дужа яму падабалася. Запраўлялі ў роце скрозь дзяды-хахлы – з Сумаў, Варашылаўграду – і ўзбэкі. Афіцэры ўсё некуды езьдзілі. Часта заставаўся толькі адзін дзяжурны. Я ўжо амаль год праслужыў, мяне не рухалі, але вось аднаго габрэя з Магілёву моцна даставалі. Ён быў інтэлігент, целяпук, непрыдатны для простага жыцьця. А тут яшчэ да ўсяго габрэй, Гарэлік прозьвішча. Чарнявы, шчуплы, з сэмітычным такім бляскам уваччу. У нашым модулі, дзе ён быў "прапісаны", толькі й чуваць: "Жыд, б***, сюда!" – ад хахлоў ды "Падхады жід, біляд!" – ад узбэкаў. Ганялі яго як маладога рабіць розныя брудныя працы, білі. І вось як быў я ў каравуле, Гарэлік адмовіўся нешта выконваць. Галоўны "дзед" Супруненка, такі быў здаровы, на гарылу падобны, кажа ўсім: "Ставім жыда на тормаз. Будзе на дыеце, пакуль не скажу. Дазваляецца толькі ваду піць". Афіцэрам, канешне, ні-ні, каб ні слова. Дзень прайшоў, другі ідзе – Гарэлік на тормазе. Суп, як Супруненку звалі, гаворыць: "Хто, б***, тормаз жыду саб'е, сам на тормаз стане".

Я кажу нашым, зь Беларусі: «Земляка прыпарылі, трэба неяк ратаваць. А нас шасьцёх у роце было, Гарэлік – сёмы. Вашчук кажа: "Я да гэтага не мяшаюся, мне жыд – не зямляк". Кажу яму: «Ну мы і народ. Усе дружныя, узбэк за ўзбэка, масквіч за масквіча. Адны мы, як палова ў вецер, ва ўсе бакі. Гэтак з нас, беларусаў, ніхто дэмбелю не пабачыць». Паслухаў ён, праўда. Пастанавілі, што трэба нам, як зямелям, пагутарыць з Супам, каб пусьціў Гарэліка. Кінулі пальцы, хто скажа. Выпала мне.

Суп быў дурнаваты, шалёны нейкі, усе баяліся ягонага нораву й ягонай сілы. Зайшоў я да яго ў капцёрку, ён акурат абедаў.

– Што скажаш, бульбаш?

– Гарэлік другі дзень без жратвы. Трэба неяк па-іншаму.

– Гэта як? Шлёпнуць?

– Можа, у каравул пару разоў без чаргі. Ці яшчэ што. Але так вось – ня робіцца.

– Дзед, па-твойму, ня ведае, як робіцца? Гэткага барзога салабона ў каравул, да зброі? Зьняць такога з тормазу – дорага каштуе!

Суп на хлеб сабе паклаў жаўток варанага яйка. Плюшчыць яго лыжкай, на мяне пазірае.

– Я ад зямеляў кажу – каб тормаз спыніць.

– А ты пастаў за яго магнітафон.

Адказаць я не пасьпеў. У капцёрку ўскочыў Вашчук: "Зьбег жыд, нідзе няма!" Суп выйшаў на двор. "Гляньце кругом, зараз зловім". Кінуліся

нароссып вакол кішлаку, завёўся УАЗік. Дзяжурны афіцэр таксама ўжо даведаўся, ускочыў у машыну, зь ім яшчэ пара чалавек. Паехалі па дарозе ў бок Шабаргану, пыл за імі курыць. І празь нейкі час раптам – выбух. УАЗік падарваўся на міне! Кінуліся туды, дабеглі – машына ўверх коламі, целы раскіданыя. Аднаго чалавека забіла, два іншыя, у тым ліку капітан Томчын, – параненыя.

Выклікaны верталёт забраў параненых. Вярнуўся камроты, капітан Мельнічук. "Дастаньце мне, – кажа, – Гарэліка, жывога або мёртвага". Увечары ў той жа дзень прывялі Гарэліка. Увесь зьбіты, твар счарнелы. "Фашысты вы, – кажа. – Горшыя за немцаў".

– А ты, ты хто? – Мельнічук яму. – З-за цябе ў нас адзін забіты, двое параненыя! Супруненка! Ты таксама адкажаш, я ведаю, што тут было! Але табе, Гарэлік, за дэзэртырства трыбунал гарантую. Вашчук! Пасадзіць Гарэліка пад арышт у шыфравальным модулі. Тваё аддзяленьне – на варту. І каб пальцам ніхто не даткнуў, адкажаш галавой. Йэхх, сукі, на хвіліну гаспадарку няможна пакінуць!

Справу замазалі б, але Томчын меў зуб на Мельнічука. Ужо зьбіраліся перасылаць Гарэліка ў дывізію, як Мельнічук кажа: "Можна ўратаваць, калі падмазаць палітаддзел. Трэба нейкая імпартная штучка. Тут добра пайшоў бы касэтны магнітафон. Як думаеш, млад-сяржант?" Пасьля сьмерці Андрыса магнітафоны мне ўжо ня мроіліся. Я безь вялікага шкадаваньня занёс "Саньё" Мельнічуку на патрэбную справу. Гарэлік застаўся.

Калі аднаго дня мы з аддзяленьнем паехалі па боекамплекты, на роту напала група "духаў". Сталася так, што на пасту быў Гарэлік, некалькі ўзбэкаў і латышоў. Завязаўся бой, Гарэлік здолеў разьмеркаваць людзей, яны трымалі абарону ў тыя крытычныя хвіліны, пакуль не далучылася рота. Напад адбілі, узялі двух палонных.Трох духаў знайшлі забітымі, яшчэ аднаго іхняга цяжкапараненага дастрэлілі. З нашага боку загінуў адзін: старшы сяржант Супруненка. За месяц да дэмбелю.

Гарэліку далі яфрэйтара, па прадстаўленьні на яго прыйшоў мэдаль "За адвагу", астатнім "За баявыя заслугі". А тут яшчэ і магнітафон, які Мельнічук завёз у палітаддзел, неспавядальнымі шляхамі лёсу вярнуўся ў роту, з гравіраванай таблічкай: "Яфрэйтару Гарэліку за мужнасьць і гераізм па выкананьні інтэрнацыянальнага доўгу ў ДРА". Яго ўручыў Гарэліку разам з мэдалём намесьнік начальніка палітаддзелу, падпалкоўнік Ісаеў.

Увечары Гарэлік падышоў да мяне: "Ёсьць размова". Зайшлі ў капцёрку, дзе запраўляў некалі Суп, няўдалы дэмбель. Гарэлік паставіў на стол магнітафон. "Бяры, гэта твой. Той самы".

– Не. Тут жа напісана – табе.

– Хацеў табе аддзячыць. Пакуль – гэта.

– Не. Не магу.

– Ты за яго рызыкаваў жыцьцём. Ды й памяць пра Андрыса. Харошы фацэт быў.

Я дастаў прыхопленую пляшку "шпагі", наліў у алюмінавыя конаўкі на стале. "За тых, каго з намі няма". Выпілі. Я запаліў чынарык. "Супа ты грохнуў?" – пытаю. Гарэлік закэрхаўся.

– Не. Духі. Зла я на яго не трымаў. Ён дзед, мусіў трымаць фасон.

– Не пашанцавала Супу. А ты ня помсьлівы. Памятаеш, як ён цябе? На тормаз ставіў, на магнітафон хацеў зьмяняць...

– Пэўна ж. Цяпер тут во і я, і магнітафон тут. А Суп, дзе ён цяпер?

## Вясельле

1 студзеня 1983 году скончылася мая аўганская служба, роўна год. Дабыў яшчэ пяць месяцаў у Тэрмэзе, дзедам даслужваць лёгка. І паехаў дахаты, зь японскім магнітафонам. А ўсярэдзіне пуста неяк, бы агнём выпекла. Дзеўкі ў нашым гарадзкім пасёлку ўсе былі мае. Цыгарэты «Кент», мэдалі, размовы пра Аўган. А галоўнае – магнітафон. Вось за яго я змагаўся і за яго ваяваў. І няма ў мяне ніякага аўганскага сындрому. Інтэрнацыянальны доўг свой я споўніў, нават атрымаў на яго «дывідэнд».

Як выйшаў на дэмбель – гэта як быццам рыбе ў сажалцы спусьцілі ваду. Туды кінуся, сюды – усё ня тое, нечага не стае. Цягне некуды бегчы, нешта рабіць, некага шукаць. І вось цяпер успомніў той час – тады Беларусь здалася сапраўдным домам, Бацькаўшчынай. Раней думалася так – і ў Цэсісе людзі жывуць, і ў Кіраваградзе, і ў Тэрмэзе. Адна краіна. А цяпер – не, думаю. Свае мясьціны ёсьць свае.

З Гарэлікам я зрэдку перапісваўся, пакуль ён ня зьехаў за мяжу. З Вашчуком таксама перапісваўся і з узбэкамі. З Халбоевым Эргашам і з Ісламавым Шаўкатам.

І вось гэны Ісламаў аднаго разу паклікаў на вясельле. Я акурат падаў дакумэнты на працу, час яшчэ быў. Я лёгкі на пад'ём, узяў і прыляцеў, грошай крыху было. Дзіўнае ў іх вясельле – мужчыны сабе, жанчыны – сабе. Пайграла музыка, нанятыя танцоры пакруцілі рукамі. Замест гарэлкі моладзь курыла плян, але я на той момант – усё, завязаў. Мы з Ісламавым выпілі маёй гарэлкі, зьезьдзілі на ловы. А ў ягонага бацькі сокалы, ловы – як у старажытнасьці. Ну і зьбіраюся я дахаты. Тут Ісламаў мне кажа: "Коля, *тут такой дэла...*" І павёў знаёміць з сястрой. Завуць Мухабат. Я на вясельлі яе здалёк толькі бачыў. Дзяўчына з твару – рэдкай прыгажосьці, вочы – як калодзежы два, голас прыемны. Сталі зь ёй гаварыць – яна па-расейску нічога так, лепей за брата. Гаварылі ўсё пра школу, у каго які выпадак быў. Потым у клюбе іхным былі ў кіно – я ні халеры не зразумеў, нейкае расейскае, з артыстам Міронавам, але па-ўзбэцку дубляванна. Ну, кажу празь дзень Ісламаву, трэба мне ехаць, з наступнага тыдня – першы дзень працы. А Ісламаў кажа: "Якая праца?! *Атбэй тэлілграм – отпуск бірош, жыніцэ будэш!*" Я яму: "Што ты, жартуеш, маўляў, ці звар'яцеў, можа?!" Не, ён сваё. Аказваецца, па іхных законах, як я зь дзяўчынай дзень пагуляў, і мы адны заставаліся, хай некалькі хвілін – усё, мушу браць за жонку. Дзяўчына, можа, і нічога, але я жаніцца не зьбіраюся пакуль! Жарты жартамі, а мясцовасьць захалусная, няма куды падзецца. Кругом людцы ўзбэцкія, размаўляць не ўдаецца. "*Ні паньімам*". І пясок скрозь як кінуць вокам. Што рабіць – ісьці пяскамі, як той Сухаў у кіно? Я

ўсё ніяк прыйсьці ў сябе не магу. Як так, прыехаў да сябра, пад кулямі разам былі, а тут такое. Кажу Ісламаву: “Як жа ты, сука, мяне ў такую гісторыю ўтравіў?! Шаўкат! Мы ж у Аўгане разам пацелі й мерзьлі! Дай мне хоць выехаць адсюль, калі кропля сумленьня засталася!”

Пайшоў ён, не сказаў нічога. Тады мне сваякі ягоныя і старэйшы брат увечары кажуць, што Ісламаў зьехаў па справах, а мяне заўтра ў ЗАГС павязуць. “А як не – дык па-іншаму гаварыць будзем!” Я ўсё думаю, што гэта сон якісьці, кідаюся на іх з кулакамі, а мяне ўпяцёх скруцілі ды ўкінулі ў пакой бяз вокнаў. На падлозе нейкія палавікі, сьвятло толькі праз шчыліну ў дзьвярах. Ну, думаю, няўжо я ня сплю, каб у канцы XX стагодзьдзя, у Савецкім Саюзе такое выраблялі. Можа, я сапраўды якую слабіну даў і яны падумалі, што можна гэтак са мной абыходзіцца? Думаю пра гэта, апошнія дні ў памяці перабіраю... Канешне, каб цяпер ведаў, то да той дзяўчыны за кілямэтар не падышоў бы, але каб такое... Увечары брат Ісламава з другімі братамі дзьверы адчыніў, стрэльба ў руках. “Ты, кажа, гонар сястры запляміў. Тут толькі два выйсьці ёсьць – або жаніцца, або заб’ем і ў пустэльню кінем. Покуль знойдуць, птушкі й лісы да касьцей аб’ядуць, ніхто не пазнае, хто быў гэта і што”. Ну, думаю, справа зусім дрэнны набірае абарот. “Заўтра раніцай або ў ЗАГС, або капец табе. Выбірай! Пад’ём а пятай”. Нават есьці не далі нічога. Дакумэнты й грошы мае ў чамадане, пры мне толькі пара рублёў і тое, што на мне, – кашуля, нагавіцы, чаравікі. Узбэцкі палоньнік, бляха.

Вырашыў зьбегчы. Сьцены ў доме зусім слабыя, дзьверы таксама. За дзьвярыма – увесь час галасы. Час ад часу нехта зазірае ў шчыліну. Паспрабаваў сьцены – нейкая дранка, аблепленая глінай, угінаецца ад удару, але як зломіш – можа абрынуцца ўся сьцяна разам са страхой. Мацаю дзьверы – замкнёныя на некалькі клямак, але прабоі «дыхаюць». Счакаў, пакуль усё сьціхла. Наваліўся трохі плячом – паехалі прабоі, упёрся мацней – заскрыгатала, забрахалі сабакі. Счакаў зноў, пакуль сьціхнуць сабакі, наваліўся зноў. Тут бачу – сьвятло, ліхтарык. Ключ у замку заскіргатаў, клямкі бомкнулі. Адчыніліся дзьверы – Ісламаў. “Хадзі за мной. Нічога не кажы. Я цябе выведу”. Пайшлі мы кругом праз двары, тады вакол кішлаку. На дарозе – “казёл”, ГАЗ-69. “Сядай, – кажа. – Чамадан я твой узяў”. Завёў ён “казла”, паехалі. “Мяне, кажа, таксама пад замком трымалі. Вось толькі выпусьцілі. Мухабат, сястра мая – няма яе ўжо. Задушылася яна. Павесілася”.

Я вушам ня веру:

– Што? Як?!

– Перажывала дужа, што супраць тваe волі робіцца.

– Дык вы падурнелі тут усе, дзікія вы людзі зусім!

– Эх брат, дзікія і ёсьць. Табе можна пасьмяяцца, а мы ў гэтым вырасьлі і жывем. Яе згвалціў быў сын сакратара райкаму, былы аднаклясьнік. Як я яшчэ ў Аўганістане быў. Бацька счарнеў увесь, шукаў помсты, але сакратара перавялі некуды, а сын яшчэ далей зьехаў. Замуж час падыходзіў, але ўсе ж ведаюць... Я казаў, каб яе куды ў горад, на фабрыку. Але браты й бацька ўпёрліся – “будзе з намі!” І вось так неяк з табой... Падурному ўсё. Браты падставілі, каб цябе “засквары̆ць”, і мяне скарысталі. Прабач, калі зможаш... Вялікае гора.

— Шаўкат! Няўжо ты ня ведаў, што мне рыхтуецца?

Ісламаў памаўчаў, а тады кажа:

— Ведаў... Думаў, можа, вы сыдзецеся. Яна — прыгажуня на ўвесь раён. Раней сватоў наяжджала — адзін за адным. І сакратарчук гэны лез. А ён брыдкі дужа з твару, яна яшчэ ў школе ад яго адбівалася. І вось узяў хітрасьцю і сілай яе ў машыне...

— Але я! Я тут пры чым?!

— Хацелі мы сястру ўратаваць... Па нашых законах яна мусіла забіць сябе. Адзінае выйсьце пабачылі — каб аддаць за каго. Хто топіцца — за брытву хопіцца... Цяжка ўсім, а мне ў сто разоў цяжэй, што ўцягнуў цябе. Прабач.

Даехалі мы да гораду Каравулбазару, адтуль сеў я на аўтобус, дабраўся да Бухары і адтуль, праз Ташкент і Маскву, самалётам — дадому.

Успамінаю дасюль тую сваю нявесту.

## У Новым Сьвеце

Прыкладна праз год 10 як адслужыў, сустрэў на зборцы «аўганцаў» знаёмага па Тэрмэзе. Ён за немалыя грошы прапанаваў месца ў дэлегацыі вэтэранаў Аўганістану ў Амэрыку, на сустрэчу з вэтэранамі вайны ў Віетнаме. Я трымаў тады невялічкую тэлемайстэрню, пачыняў і зьбіраў на замовы тэлевізары. Цікавіўся палітыкай, падтрымліваў БНФ і незалежнасьць нашай рэспублікі. Ужо сям’я тады была, двое дзетак, але з жонкай мы разышліся.

Падумаў я — трэба пачаць нанова і на новым месцы. Грошы былі ў мяне. Даў на лапу таму фацэту з аўганскага аб’яднаньня, трапіў у групу. Зьезьдзіў у Менск на падрыхтоўчы сход. Надумаў я кінуць якар у Амэрыцы, знайсьці там якую працу, а тады паглядзім далей. Прадаў усё што меў, частку грошай і машыну жонцы аддаў. Усе амаль з нас былі інваліды — хто без рукі, хто без нагі, у каго твар моцна пашкоджаны. Я быў пададзены як кантужаны. Хоць пару разоў быў паранены, але кантузіі насамрэч ня меў. Перад адлётам мне кажуць: «Яны заяўлялі аднаго кантужанага, так што будзеш кантужаны». Завезьлі нас у Маскву, сабралася ўся група, людзі зь нябожчыка-Саюзу. Адтуль рэйсам без пасадак ажно да Вашынгтону. Прымала арганізацыя «Амэрыканскі легіён», вазілі па розных гарадах, жылі мы ў гатэлях, як каралі. Па-ангельску я са школы пык-мык, асобныя словы толькі разумею, усё празь перакладчыкаў. Пабылі мы на Ніягары, у Нью-Ёрку, у Лас-Вэгасе, у Тэхасе ды розных іншых мясьцінах, месяц канчаецца, хутка назад. І вязуць нас у Філядэльфію, а назаўтра ужо самалёт зь Нью-Ёрку назад дадому. А я з кім ні загаворваў, каб як застацца — бяз выніку. «Не, ня ведаем, ня раім. Лепш у сваім краі зьвяртацца ў амбасаду». Ага, у амбасаду! Я памятаю, якія чэргі там. Няма дурняў.

Было ў мяне пры сабе 500 даляраў, я пытаю ў адной пакаёўкі ў гатэлі — яна аднекуль з былога Саюзу: «У каго можна спыніцца на месяц-два, даляраў за 200?» Яна назаўтра кажа, што яе швагер здасьць пакой за 250.

Пагадзіўся, спытаў адрас і як даехаць датуль зь Нью-Ёрку. Назаўтра завезьлі нас у Нью-Ёрк, у нейкі музэй афрыканскага мастацтва. Сталі вадзіць па залях. Я падышоў да хлопца аднаго, нацмэна з Буратыі і даю ліст заклееены: «Перадай гэта нашаму камандзіру, як будзеце адлятаць увечары. А мне трэба да адной дзяўчыны». Той скеміў, кажа: «Шчасьліва заставацца, удачы». У тым лісьце я напісаў, што паеду да знаёмых у Флёрыду, каб адпачыць яшчэ пару тыдняў. Што пашпартныя праблемы буду вырашаць сам. І што я жывы-здаровы, шукаць мяне з паліцыяй ня трэба.

Валізу сваю я меў з сабой. Знайшоў аўтавакзал і паехаў назад у Філядэльфію. Пасяліўся ў таго швагра пакаёўкі, Аркадзя. Пакой малы, як кладоўка, бяз вокнаў. Месца толькі пад раскладны ложак, крэсла і маленькі стол. Кіслая справа, але выбіраць не выпадае. Пытаюся ў гаспадара, як наконт нейкай працы. Ён кажа, што цяжка, працы цяпер тут нідзе няма, і за плату ён мяне выведзе на агенцыю, што займаецца пошукам. Я сказаў, што падумаю, а сам вырашыў адшукаць агенцыю самастойна. Трапілася на вочы нейкая расейская газэта, стаў гартаць і знайшоў цэлую старонку тых агенцыяў і пошуку працы. Перапісаў усё сабе ноччу, а назаўтра пайшоў па абʼявах. Як я хадзіў пешкі і як езьдзіў аўтобусамі – нават цяпер успамінаць ня хочацца, праезьдзіў даляраў 60. Знайшоў працу ў адным месцы, разьбіваў два дні перагародку ў некага ў падвале, выносіў сьмецьце – заплацілі мне толькі 50 даляраў, але і тое – пачын, першы заробак. Потым перабіваўся яшчэ выпадковымі працамі. Аддаў за другі месяц аплату за пакой – і ледзь наскроб грошай павячэраць.

Ну, думаю, тупік нейкі. Зайшоў да гэнага Аркадзя, а ён сядзеў у сябе зь нейкім нацмэнам, па выглядзе узбэк ці туркмэн. «Грузавіком можаш кіраваць?» Кажу, што як праедуся раз, дык змагу. Толькі вось тутэйшых правоў кіраваньня ў мяне няма. «Не праблема, абы ўправіўся з машынай». Дамовіліся заўтра раніцай сустрэцца, адвёз мяне Аркадзь у нейкую прамзону. Там стаяў вялізны грузавік, «трок», і даўгая шаланда-прычэп пры ім. «Выедзь за вароты і заедзь назад». Я на такіх ніколі ня езьдзіў, але, думаю, што мне губляць. Неяк управіўся, даў круг па двары, выехаў і заехаў, як было сказана. Той узбэк кажа: «Мяне зваць Алік. Вось табе 100 даляраў, едзеш за мной і робіш усё, што скажу». Заехаў за ім на нейкі іншы двор, там кітайцы на ўезьдзе і калючы дрот зьверху па плоце. Загрузілі мяне нейкімі скрынямі. Алік на сваёй машыне – на выхад, я за ім. На выезьдзе кітайцы нешта доўга хадзілі, праглядалі паперы, зазірнулі ў кабіну. Алік стаў зь імі спрачацца. Тады як крыкне: «За мной!» У машыну – і газу. Выскачылі праз вароты, завярнулі ўправа, тады ўлева – кругом нейкія закінутыя сховішчы або фабрыкі. Пакруціліся з паўгадзіны – ззаду нікога не відаць. Заехалі ў нейкі корпус, за намі зачыніліся вароты. Алік падскочыў: «Глушы, вылазь». Узбэкі нейкія шаланду перакінулі на іншы «трок», з майго паскручвалі нумары. Алік даў мне скрутак, кажа: «Тут тысяча. Ты нічога ня бачыў і нідзе ня быў. Калі што, знайду цябе праз Аркадзя. Будзеш языком мянціць – з-пад зямлі дастану».

Ну, думаю, не такой працы я шукаў. Усярэдзіне калоціцца нешта. Зусім нейк расклеіўся, дэпрэсьняк бярэ. Не шанцуе нам, беларусам, падзецца няма дзе. Ва ўсіх свае суполкі. Узбэкі вунь сваю мафію нават прыдбалі. А нас ганяе па сьвеце кожнага паасобку.

Выйшаў на прыпынак нейкага аўтобусу, праехаў на ім да нейкай вуліцы, выйшаў. Што рабіць далей – ня ведаю. Праходжу паўз бар. Людзі глядзяць тэлевізар, пры трунках, некаторыя зь дзяўчатамі. Шчасьлівыя, падумалася. Ёсьць пасьля куды пайсьці, ёсьць з кім. Дай жа і я хоць крыху пасяджу, адпачну трохі. Замовіў сабе ўіскі, арэшкаў нейкіх, гляджу бэйсбол – ані ня цямлю, што робіцца, хто з кім і як гуляе. Адну шклянку выпіў, другую, тады трэцюю – бяз закусі пачало шумець у галаве. Побач за стойкай сядзела дзяўчына-гішпанка, раз-пораз зь цікавасьцю на мяне паглядала. Я дастаў грошы заплаціць бармэну – з рук пакаціліся па стойцы пару манэтаў, і да той дзяўчыны. Яна злавіла, падае з усьмешкай. Я нават забыўся, як сказаць па-ангельску, кажу: «Спасіба!» А яна мне ў адказ таксама па-расейску: «На здарове!» І засьмяялася, а я – за ёй. Кавалер яе, гішпанец, высунуўся, паглядзеў на мяне, твар каменны.

Пасьля я памятаю крыху як у тумане, урыўкамі. Як ішоў за імі па вуліцы, было ўжо цёмна. Як яны ўдвух стаялі каля машыны, крычэлі адно на аднаго. Як фацэт ударыў дзяўчыну па твары, а я, падскочыўшы, ударыў яго. Памятаю, як пішчэлі недзе сырэны паліцыі, я бег некуды. Як потым сядзеў пад сьцяной нейкага дому. Потым пачуў, як сыгналіць машына, падняў галаву – мне махае зь яе тая самая дзяўчына. Я ўскочыў да яе ў машыну. Мы доўга некуды ехалі, яна нешта казала, а я не разумеў ані слова.

Прачнуўся ад сонечных промняў у твар. Невялікі чысты пакой. Я пад коўдрай на ложку. Недзе гудзіць пральная машына, чуваць пахі кавы й пральнай вадкасьці. Адчыніліся дзьверы – твар той дзяўчыны, з падбітым вокам, але ўсьміхаецца. У прыгожым кімано, падышла да ложку, працягнула руку: «Эрыка!»

– Коля.

Што было потым у той дзень, я праміну. Назаўтра раніцай да нас у хату зайшла кабета-расейка, што працуе разам з Эрыкай. Яна пераклала, што Эрыка кідае свайго бойфрэнда і хацела б дапамагчы мне з працай. Але ёй трэба ведаць, хто я, што магу рабіць. Праз гэтую перакладчыцу я сказаў пра сябе ўсё як ёсьць. Што віза скончылася, і што хацеў бы тут застацца. Што магу рамантаваць тэлевізары ды хатняе начыньне, рабіць электрыку, вадзіць «трок», класьці цэглу. Мы заехалі да Аркадзя па мае рэчы, і ўжо празь дзень я пачаў працаваць з братам Эрыкі, ён ставіў і пачыняў кандыцыянэры і вентылятары пад стольлю.

Жыў у Эрыкі. Яна скардзілася, што кожную ноч я падскокваю і крычу. Я ведаю. Так скардзілася мая былая жонка. Паціху сабраў крыху грошай, але тут брат Эрыкі ажаніўся і пераехаў з Філядэльфіі ў далёкі штат. Я зноў стаў шукаць працу. Рабіў у румынаў, пачыняў тэлевізары. У палякаў быў на разбурэньні старых дамкоў. У альбанцаў – на разборцы на запчасткі старых аўтаў. Крыху навучыўся ангельскай мове.

Пачаў рабіць у адной кампаніі, што прыбірала офісы. Я кіраваў маленькім трактарам, што чысьціць фае вялікіх білдынгаў. Неблагія грошы. І вось там мяне чакаў «стрэл зь мінулага». Сярод тых, хто працаваў у нашай зьмене, былі нейкія азіяты, як высьветлілася – аўганцы. Аднойчы да мяне падышоў малады хлопец. Спытаў, ці быў я калі ў Аўгане. Я сказаў, што не. Яшчэ праз тыдзень ён зноў падышоў да мяне. Спытаў, ці чуў я пра Мазары-Шарыф і пра Сабзыманд. Я кажу: «Чаму ты пытаесься? Што табе трэба?»

Ён кажа: «А вось чаму». Ён паказвае мне фотаздымак – некалькі савецкіх жаўнераў з групай аўганцаў. Сярод іх – знаёмыя мне твары... Вашчук, Супруненка... і – гэта хіба я? «Вось гэта – ты, *бачэ*. Я памятаю цябе». Аўганец забраў фотку, павярнуўся і пайшоў. Пра гэты выпадак я доўга ня мог забыцца, але потым яго адсунулі ўбок розныя новыя падзеі і ўражаньні.

Аднойчы я вяртаўся з працы пазьней звычайнага. Скончыліся цыгарэты, мусіў спыніцца на адной пуставатай вуліцы. Зайшоў у начную крамку, перакінуўся там парай фразаў зь вясёлым гаваркім прадавачом. Выйшаўшы з цыгарэтамі, адчыніў дзьверцы і сеў у машыну. Калі я захлопнуў яе, нешта сьціснула горла. Шнур? Краем вока пасьпеў заўважыць чалавечы твар. Гэта быў той аўганец.

У долю сэкунды перада мною пранеслася маё жыцьцё: вось я малы таплюся ў рацэ і нехта зьнізу падымае мяне, вось абганяю бульбу за плугам, вось выступаю за каманду па матаболе, страляю ў некага ў Аўгане, вось танцы і магнітафон, вось трымаю сваё першае дзіця, тузаюся з працы на працу тут, у Амэрыцы.

Нехта пляскае мяне далонямі па твары, я расплюшчваю вочы – нейкі незнаёмы чалавек глядзіць на мяне зьверху. Неба з аднаго боку пачынае ружавець.

Я сеў на зямлі, побач ногі іншых людзей. Незнаёмае месца. Перад маім тварам – зноў твар таго аўганца. На ламанай ангельскай ён кажа: «Маю сям'ю забілі ў Сабзымандзе. І ты быў сярод іх. Я памятаю цябе». Я спрабую штосьці сказаць, ды з горла толькі нейкае бульканьне. Той падняў руку: «Маўчы. Слухай. Я забіў бы цябе. Але тут іншая зямля, іншы абычай. Ты пачаў новае жыцьцё. І я пачаў яго таксама». Ён уважліва паглядзеў мне ў вочы. «Ідзі. І помні, што я таксама тут. На гэтай зямлі». Твар зьнік. За сьпінай чую віск жвіру, буханьне дзьвярэй, шаргатаньне колаў. Краем вока бачу ўбаку, каля сьцяны, сваю машыну. Неба стала зусім сьветлым.

Я пачаў новае жыцьцё. Я ў Новым Сьвеце.



**ЗАПРУДНІК Янка** (да траўня 1945 году **Сяргей Вільчыцкі**) — нарадзіўся 8 жніўня 1926 году ў мястэчку Мір на Наваградчыне. Пасьля сканчэньня пачатковай школы ў Міры вучыўся ў Баранавічах у прагімназіі, а тады — у гандлёвай школе (1942—1944). Быў сябрам Саюзу Беларускай Моладзі. Выехаў з Бацькаўшчыны ў чэрвені 1944 году. У 1947 годзе скончыў Беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе (Заходняя Нямеччына). Належаў да беларускага скаўтынгу. Пасьля двух гадоў працы вуглякопам у Ангельшчыне вучыўся на гістарычным факультэце Лювэнскага Ўнівэрсытэту ў Бэльгіі (1950— 1954). Гэты пэрыяд жыцьця апісаў у кнізе “Дванаццатка. Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі; 1946—1954 гг.” (Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 2002). Трыццаць сем гадоў адпрацаваў журналістам/рэдактарам/прадусэрам Беларускай службы радыё “Вызваленьне/Свабода”. Паралельна зрабіў дактарат з гісторыі ў Нью-ёрскім Унівэрсытэце (1969). Выкладаў гісторыю Расеі й Савецкага Саюзу ў Кўінскім каледжы Нью-ёрскага Гарадзкога Ўнівэрсытэту (1971—1975), а таксама гісторыю й палітыку Беларусі ў Гарыманаўскім Інстытуце Калюмбійскага Ўнівэрсытэту (1994).

На пэнсіі з 1991 году. Аўтар кнігаў “Belarus: At a Crossroads in History” (Boulder, CO: Westview Press, 1993); “Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях” (Менск, выд. “Бацькаўшчына”, 1996); “Historical Dictionary of Belarus” (Lanham, MD: Scarecrow Press, 1998; 2-е выданьне ў суаўтарстве зь Віталем Сіліцкім выйшла ў 2007 годзе); поўная бібліяграфія працаў зьмешчана ў 30-й кнізе “Запісаў БІНіМ” (2006).

# Што сказаў Бог беларусу

Пасьля таго як Бог стварыў сьвет і чалавека ды пасьля таго, як людзі расьсяліліся па ўсёй зямлі, Госпад паклікаў да Сябе, аднаго па адным, пасланцоў ад розных куткоў зямлі, каб накіраваць людзей да жыцьця праведнага й справядлівага. Усім, што прыходзілі да Тварца, патрэбная была мудрасьць Божая для іхных народаў. Да кожнага пасланца Міласэрны Бог гаварыў шэсьць дзён і кожнага выслухаў.

## 1

1. І сказаў Бог беларусу ў першы дзень: Я стварыў цябе паводле вобразу і падабенства Майго, удыхнуў у цябе дыханьне жыцьця і зрабіў цябе душою жывою.

2. Я даў табе розум і волю, і працавітасьць, каб ты карыстаўся імі дзеля дабра свайго й сваіх бліжніх.

3. Я даў табе жанчыну як спадарожніцу на тваім зямным шляху. Вы й дзеці вашы будзеце тварыць паводле вобразу й падабенства вашага. І зямля ваша будзе ў дастатку.

4. Нашчадкі ў вас будуць прадаўжаць вашу вечнасьць, будуць вашым замагільным жыцьцём.

5. Закладаю ў вас энэргію й творчы талент, каб вы працягвалі Маю працу.

6. Прыглядайцеся да навакольля. Бачце, як стварэньні Мае множацца паводле роду іхняга: усякае быльлё, кустоўе, дрэвы, усякая рыба, жывёла й птушка крылатая, і плямёны людзкія – усё працягваецца паводле роду іхняга.

7. У разнастайнасьці прыроды – Мая сутнасьць. Будзьце верныя ёй, стварайце паводле роду свайго і будзеце дабраслаўёныя за гэта.

8. Тое, што вы створыце, будзе вашым Эдэмам, у якім Я паставіў дрэва жыцьця, каб квітнеў і ня зьвёўся род ваш.

9. Вы будзеце ўнікальныя ў Маім шматстайным сьвеце, будзеце адказныя за захаваньне шматстайнасьці.

10. Узнагародай вам за вернасьць Маім запаветам будзе радасьць творчай працы й быцьцё працягам Мяне Самога.

## 2

1. І сказаў Бог беларусу на другі дзень: Я стварыў зямлю круглаю, каб кожная мясьціна адчувалася роўнаю зь іншымі. Кожная зь іх – непаўторная.

2. Дару табе Абяцаную Зямлю. Ты й нашчадкі твае з роду ў род будзеце ў адзінстве зь ёю.

3. Даю табе зямлю добрую, зямлю, дзе крыніцы й азёры выходзяць з далінаў і ўзгоркаў, дзе жыта каласістае й садавіна багатая, дзе лясы грыбныя й ягадныя.

4. Зямля твая багатая нетрамі, у ёй знойдзеш усё для бязьбеднага бытаваньня.

5. Ты будзеш адказны перада Мною за сваю зямлю. Ведай яе, як птушкі ведаюць гнёзды свае; барані яе, як пчолы бароняць вульлі свае.

6. Любі й даглядай зямлю, яна напоўніць тваё жыцьцё зьместам і сэнсам існаваньня.

7. Зямля будзе карміць цябе ня толькі хлебам, але й духам, які дасьць табе дужасьць, вытрываласьць і творчае натхненьне.

8. Зямля будзе прамаўляць да цябе гукамі й фарбамі. Яна адгукнецца ў тваёй душы мастацтвам, якое дасьць табе асалоду на адпачынак.

9. Валодаючы кавалкам зямлі, ты будзеш вольны ад прыніжэньня й паняверкі.

10. Твая зямля будзе табе духовым грунтам нават тады, калі ты апынесься далёка ад яе.

## 3

1. І сказаў Бог беларусу на трэці дзень: ты ня будзеш самотны ў гэтым сьвеце. Твае сёлы й гарады будуць заселеныя мноствам суродзічаў зь земляў крывіцкіх, дрыгавіцкіх і радзіміцкіх. Супольна вы будзеце даглядаць дадзеную вам Бацькаўшчыну.

2. Вы станеце народам Маім, будзеце, як цагліны ў сьцяне, трымаць адзін аднаго, узмацняючы гэтым моц кожнага. І наваколье ня будзе вам страшным.

3. Як аднаму з Маіх народаў даю вам роўнасьць з усімі іншымі. Пакідаю вам Мае запаветы, каб вы ня зьбіліся з тропу.

4. Што б вы ні рабілі, рабіце на карысьць свайго дабрабыту й дабрабыту Бацькаўшчыны. Адно з другім неразлучна зьвязана.

5. Сям’я й народ будуць асноваю вашага бытаваньня.

6. Вы будзеце паважаць бліжніх сваіх. Гэтая павага будзе вашай самапавагай. Найбліжнім кожнаму з вас будзе той, хто дбае пра дабро сям’і й дабро Радзімы.

7. Вы будзеце памятаць дзядоў і прадзедаў сваіх. Памяць продкаў ахавае вас ад фальшывых прарокаў.

8. Вы будзеце ўшаноўваць тых, хто жыцьцё сваё прысьвячае працы на дабро люду паспалітага. Іхныя імёны асьветляць жыцьцёвы шлях дзецям вашым.

9. Вашым сьмяротным грэхам будзе зайздрасьць суседу, вашым дабрадзействам — умеркаванасьць з гарэлкай.

10. Даю вам свабоду й абавязак працаваць на яе. Толькі працаю на свабоду вы забясьпечыце права людзьмі звацца ды магчымасьць нацыяй стацца.

## 4

1. І сказаў Бог беларусу на чацьверты дзень: дзьве рэальнасьці закладзеныя ў аснову Майго сьвету — чалавек і народ. Імі вызначаецца Мой лад на зямлі.

2. На прасторах Майго валадарства Я стварыў мноства языкоў, і ніводзін зь іх ня лішні. Гукі ўсіх моваў мілыя Мне.

3. Мова твая — Мой дар табе, адзеньне тваёй душы.

4. Мовай сваёю ты будзеш услаўляць Мяне, каб прымальнай была Мне твая ўдзячнасьць.

5. Я ўдыхнуў у цябе здольнасьць называць рэчы й зьявы сваімі імёнамі. У мове закладзены гукі й фарбы твае зямлі. Твая мова будзе ейным голасам.

6. У аснову запавету пра шанаваньне прародзічаў Я паклаў перахоўваньне мовы продкаў, каб душы іхнія маглі спачываць спакойна.

7. Праз мову ты будзеш трымаць лучнасьць з прашчурамі. У мове — твая й тваіх нашчадкаў вечнасьць. Аддаючы зямлі нябожчыкаў, ты будзеш пяяць: “Вечная памяць”.

8. У цябе будуць пакаленьні тварцоў мовы, ахоўнікаў тваёй духовасьці. Ты перадасі сваёй мовай самыя глыбінныя пачуцьці твае несьмяротнае душы, самыя высокія ўзьлёты творчае думкі.

9. За вернасьць мове Я ўзнагароджу цябе квітненьнем культуры ды павагай сярод народаў Маіх.

10. Гукамі роднай мовы ты будзеш вяшчаць канец паняволеньню. Ведай: родная мова – волі аснова.

## 5

1. І сказаў Бог беларусу на пяты дзень: Я адухавіў зямлю тваю духам пладавітым і шчодрым.

2. Дух Мой будзе праяўляцца жыватворна ў тваіх думках і ва ўсіх учынках тваіх. Дух творыць жыцьцё.

3. Ты й дзеці твае будзеце памінаць дзядоў, каб унукі ня сталіся бяздушнымі.

4. Памятай імёны сваіх сьвятых, узводзячы новыя сьвятыні.

5. Дух Мой будзе праяўляцца ва ўсім, што ты зробіш і што ты створыш; будзе сьведчыць пра Мяне як Тварца твайго. Ты будзеш называць імя Маё ў тваіх штодзённых малітвах.

6. Дух Мой напоўніць зьместам тваё мастацтва, твае песьні й пісьменства.

7. Ён будзе клікаць цябе да дабрадзеяньня, каб не анямела душа твая.

8. Дух Мой будзе ўшчуваць нашчадкаў тваіх, калі яны занядбаюць Мае запаветы.

9. Ён будзе нагадваць табе пра Бацькаўшчыну, калі доля закіне цябе далёка ад яе.

10. Ён будзе абаронцам твае свабоды: Госпад ёсьць Дух; а дзе Дух Гасподні, там свабода.

## 6

1. І сказаў Бог беларусу на шосты дзень: Усё ў Маім сусьвеце рухаецца, нічога не стаіць на месцы. Рух і тварэньне – існасьць усяго жывога.

2. У руху і тварэньні ты будзеш апраўдваць сваё існаваньне, свой боскі пачатак.

3. Я закладаю ў цябе існае ў Маім сьвеце суіснаваньне гармоніі й хаосу, моцы й хіласьці, добрага й благога.

4. У табе будуць змагацца тварэньне й руйнаваньне, дужасьць і хіласьць, дабро й зло. Хвала табе будзе за перамогу першага над другім.

5. Сьмяротны й грэшны, ты будзеш барукацца зь няпамяцтвам. Перамагай яго.

6. Памяцьцю пра сваю зямлю, пра пачатак і працяг твайго роду ты будзеш паказваць Мне, што ты верны Маім запаветам.

7. Удумвайся ў долю прашчураў. За ўвагу да іх яны адудзячацца табе тым, што дадуць крыніцу натхненьня й прагу творчасьці.

8. Мастацтва будзе тваім голасам сярод народаў Маіх.

9. Не закопвай талентаў у багну бязьдзейнасьці й гультайства.

10. Ты будзеш даставаць з глыбіняў свае душы думы-песьні, на якіх будуць узрастаць прадаўжальнікі твайго роду. Песьня – выказьнік душы. Высьцерагайся засільля чужых песень, каб ня сталі ярмом.

## 7

1. Выслухаўшы Бога, беларус прамовіў: Магутны Божа, Тварэц мой, Ты мудры й добры. Ты шчодра абдарыў мяне розумам, даў вялікае багацьце для цела й душы.

2. Я сузіраю ўсё жывое й захапляюся мудрасьцю тварэньня Твайго.

3. У гармоніі сусьвету я чую голас Твой.

4. Я ўглядаюся ў неба й не спасьцігаю бясконцасьці Твайго валадарства.

5. Я аглядаю зямлю, лясы й рэкі і ўсюды адчуваю руку Тваю.

6. Я чую птушак, якіх Ты стварыў, і цешуся галасамі іх.

7. Я смакую штодзённа плады Твае.

8. Я ўдумваюся ў спадчыну продкаў і разумею сваё прызначэньне ў гэтым сьвеце.

9. Хвала мудрасьці й дабрыні Тваёй і слава Табе.

10. Дай мне толькі, Міласьцівы Божа, больш сілы волі, каб я змог выкарыстаць усе дары Твае на дабро сябе самога й бліжніх маіх. На дабро Беларусі.

У згодзе з духам Бібліі

*Лістапад лета Божага 2006*



**ЗЕЛЯНКОЎСКІ Антось** – нарадзіўся ў Менску ў 1986 годзе. Жыве ў Флёрыдзе ад 2002 году. Вучыцца ва ўнівэрсытэце й працуе. Бавіць вольны час маляваньнем, практыкаваньнем вершаскладаньня і сустрэчамі зь цікавымі людзьмі.

# УСТУП

Нярэдка ў мяне складаецца ўражаньне, што я жыву на ўскрайку сьвету. Гэтае пачуцьцё было сапраўды моцным, калі падчас аднае з маіх вандровак па Флёрыдзе я ехаў па мосьце, які злучае Тампу з Сэнт-Пітэрсбургам. Уявіце сабе: вы едзеце па гладкае шашы, якая зграбна выгінаецца на разьвілцы, над вамі вісіць шырокае блакітнае неба зь ледзьве заўважнай прысутнасьцю аблокаў. Наяўнасьць зямлі можна праігнараваць – раўніна ейных паўвыспачак, чыя глеба напалову складаецца з балотаў ды хмызоў, надае эфэкт лёгкасьці. Да таго ж пляжны белы пясочак сьціпла мігціць у ранішняй смузе, размываючы ўспрыняцьце кантрасту паміж вадой ды зямлёй. А вакол вада. Так, бо за вамі і перад вамі бачны заліў няабсяжнага ўсясьветнага акіяну, што бесклапотна плёскаецца ў казытлівым сьне.

Калі я вяртаюся ў мясцовасьць маёй працы й навучаньня – Джэксанвіль, што ў Паўночнай Флёрыдзе, дзе пальмы не зьяўляюцца лясной дамінантай, то бачу шмат падабенства са Случчынай ды Палесьсем. Цікава, я толькі цяпер пачынаю ацэньваць прыгажосьць роўнядзі, бо ў Беларусі мне падабаўся іншы ландшафт – Менскае ўзвышша зь ягонымі ўзгоркамі й скатамі, з нашай найвышэйшай гарой Сьвятой ды хвойнікамі, якія растуць там, дзе іх пакінула ў спакоі сякера земляроба й пасяленца. У тых мясьцінах ляжыць мой родны Менск.

Шмат хто заве Беларусь ускрайкам Эўропы (хаця слушней яе было б назваць ейным усходнім фарпостам). Таму часам я з іроніяй думаю, што быў закінуты з аднаго ўскрайку на другі, але гэта толькі імгненныя ўражаньні.

Паколькі я пачаў з уражаньняў, то мушу імі й скончыць гэты ўступ. Пачуцьці, выкліканыя прыгожымі й незабыўнымі імгненьнямі, якія здараюцца вакол назіральніка, адорваюць яго натхненьнем ды надаюць насычанасьць ягонаму жыцьцю. І я ведаю са свайго невялікага, але зьмястоўнага вандроўнага досьведу, што кожнае месца на Зямлі можа гэта зрабіць.

# Майстроўшчык піяніна

Малады чалавек паклаў шрубацяг ды выпрастаўся. Яго зацёкшая сьпіна й перанапружаныя далоні адчувалі прыемнае разьняволеньне. Маладзён далучыўся да старэйшага чалавека паблізу, які ўжо стаяў з хвіліну ў агляданьні плёну іхняе двухдзённае працы. Юнак зачаравана глядзеў на разьбу корпусу музычнае прылады, якая, нягледзячы на высакароднасьць свайго веку, мела яшчэ моц абмаладзіцца ды зноўку гучаць, нібы на пачатку свайго гераічнага існаваньня. Так, гераічнага, і малады майстроўшчык не спыняўся дзівіцца стойкасьці ды высокай якасьці гэтага велічнага, хоць і габінэтнага памеру, піяніна.

Павярнуўшыся да мужчыны побач, юнак вымавіў расслабленым голасам:

– Ну як, амаль скончылі?

Старэйшы майстроўшчык кіўнуў галавой. На ягоным твары зьявіўся тонкі цень задавальненьня зробленай працай.

Ягоны малады памочнік Андрэй ведаў, што Сяргей Пятровіч быў шчасьлівым чалавекам, які зьдзейсьніў сваю мару вольнае асобы – працаваць незалежна, займацца тым, што прыносіць супакой зямны й духоўны. Юнак бачыў у майстры прыклад, які быў варты пераймањня, і часам хваляваўся аб тым, ці зможа знайсьці сабе занятак, які б адпавядаў ягонаму собскаму пакліканьню.

– Андруш, прайдзіся яшчэ трошкі па актавах, – прамовіў бацька. – Я хачу яшчэ раз паглядзець дотыкі.

Хлопец падышоў да клявіятуры ды пачаў павольна націскаць на пажоўклыя клявішы. Сяргей Пятровіч зазірнуў унутр інструмэнту. Нібы прамяні, стройныя струны дрыгаталі ад дакрананьня да іх малаточкаў.

– Цэлая, чвэрць, восемка, стаката! – казаў Сяргей Пятровіч і прыглядаўся да мэханізму, які адказваў вялебным гукам быццам на ягоны заклік.

– Цэлая, чвэрць, стаката! – паўтарыў майстроўшчык. – Выда-атна, – нарэшце працягнуў ён. – Зачыняем.

* * *

Андрэй заўсёды цікавіўся жыцьцёвым шляхам свайго бацькі, які няшмат апавядаў пра тое, адкуль яны прыехалі, бо з прыроды быў ня надта гаваркі. Маці Андрэя, Ірына, час ад часу распавядала аб гісторыі іхняй сям'і, незвычайнай і цікавай, як і любая эмігранцкая гісторыя.

Майстроўшчык прыехаў у Краіну Дастатку разам з маладою жонкаю ды малым Андрэем у 1993 годзе. Бацькі Сяргея Пятровіча ў свой час прадалі менскую кватэру, каб даць маладой сям'і грошай "на развод", а самыя зьехалі на лецішча ў Ратамцы, дзе актыўна займаліся земляробствам.

Сяргей Пятровіч быў абачлівым маладым чалавекам і ілюзіяў наконт Амэрыкі ня меў. Відаць, гэта было з-за савецкае адукацыі, якая засьцерагала маладыя камуністычныя сэрцы не паланяцца абяцанкамі Захаду. Да таго ж дадаваўся цынізм, які вырас з расчараванасьці навакольлем. Гэта разам з прагаю новага жыцьця й надало цьвярозасьці тады яшчэ Сержуку (як ён калі-нікалі называўся ў суполках ля Траецкага сярод студэнтаў-адраджэнцаў). У Менску ён, насуперак жаданьню бацькоў выправіць яго ў кансэрваторыю, скончыў тэхнічную вучэльню. У кансэрваторыю ён ня здолеў здаць уступны экзамэн, і яго забралі на два гады ў войска. Пасьля войска ён падаўся ў вучэльню, дзе набыў спэцыяльнасьць мэханіка. Ён засяродзіў сваю ўвагу на тым, што ведаў лепш за ўсё, – фартэпіяна.

Зь цягам часу ягонымі паслугамі пачалі карыстацца ў адміністрацыі Ліцэю Мастацтваў імя Ахрэмчыка, у сем'ях дзяцей, якія вучыліся там, ды ў іншых музычных школах Менску і нават аднойчы ў кансэрваторыі. Таму Сяржук заўсёды круціўся ў творчым коле сталіцы, спакойна й саркастычна сузіраючы прымхі ды дзівацтвы ягоных чальцоў.

Па пераезьдзе ў Джэксанвіль ён адразу ж пачаў шукаць магчымасьці павялічыць сродкі, якія атрымаў ад бацькоў. Ён працаваў 55 гадзінаў на тыдзень, жонка 40 – ёй трэба было даглядаць сына. Балазе, малому ўжо было шэсьць год, а сям'я пераехала ў ліпені, таму яны здолелі зарэгістраваць яго ў першую клясу для навучэнцаў, ангельская мова якіх была ня роднай. Бацькі маглі спакойна працаваць, ведаючы, што хлопчык прыстасоўваецца на новага асяродзьдзя ў досыць надзейных руках. Андрэй, як таго й чакалася ад дзетак ягонага ўзросту, хутка навучыўся мясцовай гаворцы і неўзабаве ў школе страціў сваю адрознасьць.

Сяргей Пятровіч рабіў аўтамэханікам – праца запатрабаваная, ды тым ня менш, ён заўсёды памятаў аб сваёй першапачатковай спэцыяльнасьці майстроўшчыка фартэпіяна. Былі моманты, калі, вяртаючыся з працы ў боўдзе й поце, ён спыняўся ў Мандарынскім парку ды аглядаў раку Сьвятога Яна. Гэта надавала яму спакой. Пранікнёны бесклапотным плёскатам хваляў аб драўляныя слупы пірсу, Сяргей прыпамінаў Дняпро ў той частцы, дзе рака магутна расьцякалася ў паўднёвай Палтаўшчыне, дзе жылі ягоныя бабуля зь дзядулем па матчынай лініі. О, салодкія ўспаміны юнацтва! Ці думаў ён калі, што давядзецца апынуцца так далёка ад Радзімы. Усё ж, выходзячы на раку Сьвятога Яна, Сяргей Пятровіч апаноўваўся спакоем. Думаючы аб недарэчнасьці свайго лёсу, ён запэўніваў сябе, што тое, чым ён займаецца, – гэта толькі часова.

Трэба згадаць, што Сяргей Пятровіч ніколі ня грэбаваў сваёй прафэсіяй аўтамэханіка. У Амэрыцы, асабліва ў Флёрыдзе, праца з машынамі была й ёсьць запатрабаванай і паважанай, бо так шмат люду залежаць ад аўта. На станцыі тэхнічнага абслугоўваньня ён працаваў разам зь іншымі расейскамоўнымі, таму гэта было ня так складана. Але ж ён хваляваўся, што можа ўжо ніколі не навучыцца эфэктна гаварыць па-ангельску. Ягонай жонцы было лягчэй. Па-першае, яна была выкладчыцай ангельскай мовы ў

Менску. Ірына дапамагала мужу запаўняць усе неабходныя паперы і была тым чыньнікам, які засьцярог новапрыбылую сям'ю ад блытаніны ў бясконцых формах, на якіх з-за адсутнасьці досьведу так шмат эмігрантаў было падманута незьлічонымі махлярамі, якія бязьлітасна нажываюцца на недасьведчанасьці "навічкоў".

Сяргеева сэрца клікала яго ў іншы род дзейнасьці. І кожны раз, калі ён мэдытаваў на рацэ ці калі крочыў па атлянтычным узьбярэжжы, прыходзіў да думкі, што яму трэба шукаць шляхі да аднаўленьня сваёй сапраўднай прафэсіі.

Найперш ён дамовіўся з жонкаю размаўляць у сям'і толькі па-ангельску (калі яны былі не пры сыне), каб практыкавацца. Ёй практыкі ставала, бо яна працавала ў супэрмаркеце. Ірына шчыра дапамагала мужу, бо вельмі паважала ягоныя памкненьні і бачыла ў іх шмат будучыні.

Сяргей стаў заходзіць у музычныя крамы ды пытацца, ці ня трэба ім мэханік. Было нялёгка запэўніць мэнэджара ўстановы праглядзець ягонае рэзюмэ. Майстроўшчык спрабаваў глянуць на сябе вачыма амэрыканцаў – няведама адкуль, з моцным акцэнтам. Да таго ж Джэксанвіль першае паловы дзевяностых яшчэ не аценіў каштоўнасьць усходнеэўрапейскага працаўніка напоўніцу, гледзячы на гэтых чужынцаў праз прызму яшчэ сьвежых халоднаваенных стэрэатыпаў ды гісторыяў пра пераўтварэньне Брукліну ў сталіцу расейскае мафіі ў заходнім паўшар'і. Сяргей Пятровіч толькі ўхмыляўся на гэта, нагадваючы сабе аб тым, што хутка навучыўся ў Новым Сьвеце, нягледзячы ні на што, заставацца пазытыўным. "Пуня згарэла, ну й пацукі зь ёй, – казаў адзін зь ягоных сяброў у Менску, што зачытваўся Караткевічам. – Не бяда, адбудуем – во гэта новае мысьленьне". Гэта быў адзін з успамінаў аб родным горадзе.

Нарэшце Сяргей Пятровіч намацаў адну краму патрыманых інструмэнтаў, кіраваў якою паўночнік з імём Майк. Уладальнік пратэставаў свайго заяўшчыка на адным з піяніна, што патрабавала рамонту. Упэўніўшыся ў здатнасьці Сяргея Пятровіча, Майк узяў ягоны нумар тэлефону.

З таго моманту жыцьцё пацякло весялей.

Пастунова Сяргей Пятровіч пачынаў працаваць сам на сябе. Нумар за нумарам, кліент за кліентам – ён стала выяжджаў рамантаваць піяніна і арганы. Шматлікія цэрквы, клюбы і прыватныя сядзібы мелі ягоны тэлефон і адрас электроннай пошты. Калі як майстра, калі як дарадчыка, Сяргея Пятровіча запрашалі, і ягоныя паслугі адпаведна аплочваліся.

Раз на тыдзень майстроўшчык любіў выходзіць на раку Сьвятога Яна, калі адзін, калі з жонкай, ды глядзець на шырыню воднае роўнядзі, сузіраючы калыханьне магутных дрэваў, што навісалі над тым размашыстым рукавом Атлянтыкі. Ён быў шчасьлівы й пастунова забываўся на Менск.

* * *

Юзэф Маліновіч быў ведамым майстроўшчыкам піяніна.

Ён пачаў стала займацца тым, чым не займаўся дагэтуль ніхто, ва ўсялякім выпадку на ягоным узроўні – будаваць фартэпіяна. У той час у занядбаным літоўскім краі не было кваліфікаванага ў гэтай галіне чалавека. Усе інструмэнты імпартаваліся праз Каралевец альбо Варшаву ці Гданьск.

Спадар Маліновіч пачаў з рамонту прыладаў. Пачаў яшчэ з раньняга юнацтва, калі звалі яго Язэпкам ці Юзікам, у роднай Росі. Змалку ён хадзіў у тамтэйшы касьцёл Найсьвяцейшае Тройцы. Бацька Юзэфа, Марцін, працаваў на велізарным панскім млыне, а дзед Ян быў вартаўніком у касьцёле.

Юзік любіў глядзець на млын: як тая самая вада, у пяшчоце якой ён з задавальненьнем плёскаўся, прымушала круціцца магутныя колы так, што тыя малолі зерне. Як хлопчык пісаў пазьней у сваім дзёньніку, гэта “было любімым заняткам у вольны час, пакуль бабуля не ўзяла мяне з сабой на хоры у касьцёле”.

Бажніца ў тым засьценку была невялічкай. Гмах быў абгароджаны мурам у два мэтры зь вежай-званіцай на рагу. Унутры нічога шыкоўнага – аўтар з чатырма калёнамі й абразом сьвятога Казіміра-каралевіча, пацямнелым ад часу. На белых сьценах віселі стацыі, і падчас чытаньня пасланьняў парафіяне сядзелі на разных лавіцах. Увогуле, касьцёл быў тыповым спрошчаньнем Віленскага барока, якое часта сустракалася ў глыбокіх кутках Панямоньня, што надавала сёлам і засьценкам таго краю непаўторную духоўнасьць і эстэтыку.

Зайшоўшы на хоры з бабуляй, хлопчык убачыў прыгожую канструкцыю, якая выглядала нібы велізарная белая скрыня з залацістымі ўпрыгожаньнямі і стройнымі трубамі. “Што гэта?” – пытаўся Юзік. “Гэта арган”, – адказала бабуля. “Што на ім робяць?” Бабуля заўсьміхалася зь недасьведчанасьці ўнука. “Памятаеш, ты мяне пытаў пра чароўны гук зьверху?” – старая перавяла позірк на інструмэнт. У малога адкрыўся рот. Ён ніколі ня мог уявіць, што той чароўны музыка ці анёл, як яму здавалася, жыў вось тут “пад дахам”. Вось і адбылася сустрэча з магічным музыкам. “Але ён ня сам грае”, – заўважыў ён. “Не, ня сам, для гэтага ёсьць арганіста, – адказала кабета, – Мікалай».

Юзік зьдзівіўся, што той самы Мікалай – стрыечны брат садоўніка – граў на аргане й ствараў такія прыгожыя гукі. Пра яго хлопчык чуў ад падлеткаў з парафіяльнай школы, якой апекаваўся пан Вышчынскі (абыходзячы царскую адукацыйную сыстэму), дзе Мікалай выкладаў. Яны казалі, што ён меў злосны гумар і любіў кпіць з вучняў. Яны за гэта чынілі над ім жарцікі: то хавалі ягоны партфэль, то запускалі жабу ў адну з шуфлядак ягонага стала. Ён на гэта нічога не рабіў, бо ведаў усіх сваіх студэнтаў, якіх было ўсяго дзесяць. З тае хвіліны хлопчык захацеў неяк пазнаёміцца зь ім.

Неяк падчас споведзі Юзік прызнаўся ксяндзу, што моцна зайздросьціць Мікалаю з таго, што той грае на “варганi”. Пробашч засьмяяўся, што трошкі зьбянтэжыла хлопчыка.

Айцец Марэк ведаў пра цікаўную натуру хлопчыка і бачыў у малым патэнцыйнага прадаўжальніка душпастырскае дзейнасьці ў Росі. Бацькі ж марылі праз пробашча дастукацца да пана, каб той дапамог малому з адукацыяй. Марцін, Юзікаў тата, бачыў у свой час сьвет – яму давялося зьезьдзіць аднойчы ў Горадню, таму ён спадзяваўся, што ягоны сын, такі таленавіты й здольны хлапчына, мог бы паспрабаваць сябе ў большым сьвеце.

“Пробашч Марэк зьвярнуўся да Мікалая, каб той мяне штудыяваў у музыцы. Той спачатку шукаў адгаворкі, але ўрэшце звыкся з ідэяй, што я буду, гэтак мовіць, швэндацца вакол яго. Ён ня вельмі прыхільна ставіўся да наскае сям’і. Праўда, ён ведаў, што ня меў шмат вагі ў Росі, яго цярпелі,

таму што хлопцы пасьля яго школы ўсё ж такі маглі чытаць і пісаць па-польску”, – так пазьней пісаў спадар Маліновіч. Такая характарыстыка Мікалая была вынікам пазьнейшага больш цьвярозага й абазнанага погляду на дзяцінства й на тое, што адбывалася ў засьценку. Бо хлопчыкам ён быў вельмі захоплены тымі здольнасьцямі, якія меў Мікалай. “Пры ўсёй хмурасьці Мікалая, я здолеў пасябраваць зь ім, і ён сачыў за тым, каб я правільна сядзеў за арганам, ды каб мае пальцы правільна націскалі клявішы. Калі я падрос, то зразумеў, што я адбіраў ягоны вольны час, які ён бавіў, сустракаючыся з Адэлькай, зь якой ажаніўся праз два гады”.

Як высьветлілася, Юзэф вельмі любіў даглядаць арган. Яму ўвесь час карцела пакорпацца ў мэханізме. Ён нават паведаміў аб гэтым Мікалаю, на што той яму адказаў:

– Выкінь гэта з галавы.

Але ён не выкідваў. Юзэфу было восем з паловай гадоў, калі ён адрамантаваў садоўнікаў кішэнны гадзіньнік. Той не працаваў ужо год, і ўладальнік насіў яго з сабою як атрыбут важкасьці, бо, як было ведама, адно пан меў падобную рэч. Свой гадзіньнік садоўнік купіў у Горадні ў аднаго габрэя. Аднойчы, згубіўшы яго ў касьцёльным садку, садоўнік вельмі засмуціўся. З тыдзень ён распытваў усіх, ці не знаходзіў хто гадзіньніка, нават абяцаў узнагароду. Толькі на восьмы дзень прылада знайшлася. Яе прынёс Юзік. І ня толькі прынёс, але цяпер гадзіньнік цікаў.

Не марудзячы, аб усім гэтым паведамілі пану Вышчынскаму. І той паабяцаў фундаваць далейшую адукацыю хлопца. Сваё слова ён стрымаў. У дванаццаць гадоў Юзэф Маліновіч выправіўся ў Горадню на навучаньне.

* * *

У адзін яркі травеньскі дзень Андрэй працаваў у памяшканьні крамы Майка. Ён толькі што прывёз стары хатні арган з дому ўнука памерлага музыкі зь мясцовага кальвінскага збору. Нашчадак ня меў патрэбы ў сямейнае рэліквіі і таму надумаў ад яе пазбавіцца як найхутчэй. Сяргей Пятровіч, пачуўшы сынава апісаньне інструмэнту па тэлефоне, дазволіў яго ўзяць, бо вырашыў, што пасьля рэстаўрацыі яго можна было б няблага прадаць. Арган, хоць і стары, але ня быў у занядбаным стане.

Калі разам з Майкам Андрэй пасоўваў арган у кут, то пачуў, як адчыніліся дзьверы – увайшоў чарговы кліент. Аднак па кроках мужчыны здагадаліся, што гэта была кліентка. Прыцягнуўшы арган у прызначанае месца, Андрэй пакрочыў да касы. Азіраючы ўстанову, там стаяла маладая жанчына ў шэра-блакітнай блюзцы й чорных штанах. Бялявая, з блакітнымі вачыма, яна выглядала вельмі прывабнай у крамным паўзмроку. Андрэй усьміхнуўся й прамовіў:

– Вітаю, чым магу дапамагчы вам?

Жанчына ўсьміхнулася ў адказ:

– Вітаю, мне параілі зьвярнуцца да спадара Сяргея, які працуе тут і рамантуе інструмэнты.

– Так, – адказаў Андрэй, – яго зараз няма, але я буду рады перадаць яму вашую просьбу.

– Мне трэба адрамантаваць адно вельмі старое піяніна і ў досыць кароткі тэрмін.

– Дазвольце мне тады ўзяць ваш нумар тэлефону і імя, каб ён з вамі стэлефанаваўся.

Яна зноў усьміхнулася, прадыктавала нумар і назвалася Гэлен.

– Дзякуй, калі вам будзе зручна, каб ён патэлефанаваў? – удакладніў хлопец.

– Сёньня ўвечары будзе файна.

– Добра, я абавязкова перадам.

Гэлен падзякавала, і яны разьвіталіся.

Неўзабаве Андрэй з Майкам зачынілі краму, і хлопец вярнуўся дадому. Пасьля вячэры ён займаўся сваімі справамі, слухаў музыку, калі ў пакой зайшоў бацька.

– Слухай, Андрэю, – прамовіў ён. – Тая дзяўчына, якая заходзіла сёньня, мае вельмі цікавы інструмэнт.

– Праўда? – зьдзівіўся маладзён. – Ты пасьпеў яго паглядзець?

– Так, у мяне тут думкі зьявіліся... Я думаю, што мы маглі б выкупіць яго і, адрамантаваўшы, прадаць у якую-небудзь прыватную калекцыю, бо рэч гэтая сапраўды вартасная.

– І што там за інструмэнт? – спытаўся зацікаўлены хлопец.

– Вельмі рэдкай работы. Падобную вытворчасьць я бачыў толькі ў адным зь Львоўскіх музэяў. Там такая літарка “M” на шчытку. Фірмовая марка. Тое піяніна было старапольскае вытворчасьці.

– І гэтае таксама? – спытаў Андрэй.

– Было б цяжка ў гэта паверыць, але такое эмблемы я яшчэ ня бачыў ні на адным іншым інструмэнце ў Амэрыцы.

Андрэй кіўнуў.

– Жанчына, што выклікала мяне, Гэлен, будзе ў Джэксе да наступнага чацьвярга і хацела, каб мы адрамантавалі яго. Я думаю, калі б мы маглі яго купіць і прадаць, то было б добра. Яна, здаецца, ня надта падазрае аб ягонай каштоўнасьці.

На наступны дзень, у суботу, бацька з сынам прыехалі на сядзібу Гэлен. Дом быў звычайным аднапавярховым будынкам з цаглянай абкладкай на вулічным баку, з высачэзнымі дрэвамі, што трымалі будынак і падворак у прыемным цені. Такое жытло будавалі ў Джэксанвілі ў канцы васьмідзясятых гадоў дваццатага стагодзьдзя для сярэдняй клясы. Будыніна выглядала старой, але не закінутай.

Майстроўшчыкаў вітала Гэлен, шляхетная жанчына, не нашмат старэйшая за Андрэя.

– Вельмі прыемна сустрэць вашэць ізноў, – яе блакітныя вочы міла ўсьміхаліся паводле агульнапрынятых стандартаў ветлівасьці. – І вашэць таксама, – сказала яна ў бок хлопца.

– Мне таксама, – адказаў ён.

Утрох яны прайшлі ў дом. У асьветленай залі насупраць зашарканай канапы стаяў інструмэнт. Па стане сваёй захаванасьці ён нагадваў адзін з хатніх арганаў, выстаўленых у Сэнт-Аўгустынскім Мэмарыяльным Музэі, куды Андрэй заходзіў на мінулым тыдні. Піяніна перад ім было карычнева-

га колеру. Краі былі ашлякаваныя, а ў сярэдзіне корпусу над клявіятурай цьмянае сьвятло звонку адлюстроўвалася на запыленых выгінах зграбных узораў. Узоры складаліся з нэабарочных ляўраў, што, нібы воблака, агорт-валі тарч з выявай вершніка, які ўзьняў меч над шаломам.

Майстроўшчыкі пастаялі некалькі імгненьняў моўчкі перад музычнай прыладай.

— Аналягічнае піяніна, якое я бачыў у Львове, мела выяву трызубца, — абарваў цішыню Сяргей Пятровіч.

Раптам абодва мужчыны ўздрыгнулі ад нечаканага пытаньня гаспадыні:

— Ізвините, вы говорите по-русски?

— Так, — адказаў Андрэй, — і вы таксама?

Гэлен кіўнула. Абодва майстроўшчыкі здагадаліся па яе акцэнце, што яна альбо вывучыла расейскую мову ў Амэрыцы, альбо пераехала сюды вельмі малою і ня мела шмат расейскамоўных таварышак.

— Вашэці нарадзіліся ў Амэрыцы ці... — пачаў Андрэй.

— Так, я амэрыканка, — адразу адказала маладая жанчына. — Але амаль усе мае продкі прыехалі зь Беларусі.

На твары Сяргея зьявіўся выраз зьдзіўленьня.

— Праўда? — спытаў ён. — Мы таксама зь Беларусі.

Гэлен заўсьміхалася. Яе твар зьмяніўся, з новай радасьцю яна прамовіла:

— Вы размаўляеце па-беларуску?

Абодва візыторы сумеліся.

— Ну так, трохі гутару, — адказаў Сяргей Пятровіч.

— А малады чалавек? — Гэлен павярнула твар да Андрэя. Той здагадаўся, што ад яго чакаюць адказу:

— Нет, sorry.

— It's OK. Я разумею. Я нарадзілася ў Кліўлендзе, Агаё, там зараз і жыву, сюды я прыехала, каб наведаць майго дзеда, прафэсара Рэльніка. Гэта піяніна належыць яму.

Сяргей Пятровіч кіўнуў галавою, нібы ўсьведамляючы нешта. Ён паказаў вачыма на ўзор на інструмэнце ды прамовіў:

— Я адчуў нейкую повязь зь Беларусяй, калі ўбачыў гэта.

Гэлен падышла да корпусу ды правяла пальцамі па выразанай Пагоні. Яна сур'ёзна глянула ў вочы Сяргею Пятровічу:

— Цяпер вы разумееце, спадзяюся, якое гэтая рэч мае значэньне.

— Так, разумею, — па-беларуску адказаў Сяргей Пятровіч.

Андрэй заўважыў, як Гэлен уважліва паглядзела на ягонага бацьку, нібы чакаючы нейкай кпіны ці пагарды ў адказе суразмоўцы. Сяргей Пятровіч глянуў на герб ды прамовіў:

— Я понимаю.

Жанчына ўсьміхнулася й зірнула на Андрэя:

— А зараз, спадарства, я пакіну вас, каб болей не адцягваць вашую ўвагу.

Сказаўшы гэта, яна выйшла з пакою. Андрэю падалося, што яна ўсьміхалася.

Сяргей Пятровіч адкрыў сваю працоўную скрыню. Потым падышоў да піяніна ды прыгледзеўся, як яно мацавалася. Андрэй стаяў побач ды глядзеў на бацьку.

— Ты што, сапраўды прапанаваў ёй прадаць інструмэнт? — спытаў ён з дакорам.

— Ну так, я ж не падазраваў, што яна такая беларуска, — Сяргей Пятровіч азірнуўся ды нахіліўся да сына. — Відавочна, яна ведае каштоўнасьць гэтай рэчы, у адрамантаваным стане яна можа прадаць піяніна за добрыя грошы. Як яна казала, гэты інструмэнт належыць ейнаму дзеду. Былы калябарант, напэўна.

Андрэй слухаў, ужо адкручваючы балты са свайго боку.

— Іх было няшмат, але яны калябаравалі зь немцамі падчас вайны, — распавядаў бацька. — Брыдкі быў час, мярзотная гісторыя, мярзотная гістарыяграфія.

— Ты мне ніколі не распавядаў пра Беларусь, тата, — прамовіў Андрэй.

— Сам ніколі не пытаў, — адказаў бацька.

— Я залез у Інтэрнэт ды пачытаў. Я нават ня ведаў, што ёсьць беларуская мова.

Старэйшы майстроўшчык прыпадняў бровы ды абыякава прамовіў:

— Каб на ёй яшчэ нехта размаўляў. Вось гэтыя во нашчадкі й карыстаюцца ёй.

— Не, я бачыў у Інтэрнэце шэраг сайтаў зь Беларусі, я нават чытаць спрабаваў.

Сяргей Пятровіч задуменна глянуў на сына, трымаючы ў руцэ шрубацяг.

— Я памятаю, ты зусім быў маленькім, мы хадзілі ў Траецкае прадмесьце, па Верхнім Горадзе, глядзелі на рэшткі старых кляштараў ды дамоў яшчэ царскіх часоў, — Андрэй заўважыў выраз захапленьня на твары бацькі. Потым, падсумаваўшы раптоўна наплыўшыя ўспаміны, Сяргей Пятровіч дадаў:

— Нічога так было.

Бацька кіўнуў у бок накрыўкі, якую яны адкручвалі. Майстроўшчыкі пераглянуліся і паднялі яе.

— Так, што мы тут маем? — прамармытаў Сяргей Пятровіч. Ён гмыкнуў ды зьвёў бровы. — Так, так, Адруш, націсьні на клявішу.

“До” пачуўся гук.

— Наступную. Увогуле прайдзіся па актаве.

* * *

У 1922 годзе малады мэханік Юзэф Маліновіч зразумеў, што ня зможа займацца толькі піяніна. Крэсы былі ў занядбаньні. Разадраны дзьвюма войнамі край выглядаў вынішчаным і закінутым. Тысячы бежанцаў накіраваліся альбо на ўсход, альбо на захад, і мала хто вярнуўся, каб аднаўляць родныя сядзібы. Урад Другое Рэчы Паспалітае, прыход якога ў Літву Маліновіч вітаў, пачаў быў рабіць захады па аднаўленьні эканомікі краю. У дзёньніку мэханіка можна было прачытаць наступнае: “Мы вельмі ўсхваляваныя з таго, што нарэшце адроджаная Рэч Паспалітая. Уся Літва чакае падтрымкі з боку Варшавы. Сам Пілсудзкі, віленчук паводле паходжаньня, палымяна абяцае росквіт ды разьвіцьцё, і мы ведаем дакладна, што ў сталіцы выдзяляюцца грошы на падняцьце нашае гаспадаркі. Яшчэ Польшча ня ўмёрла!”

Тым ня менш, на працягу гэтых чатырох гадоў у Маліновіча былі цяжкасьці з працаўладкаваньнем. Музычная майстроўня, дзе ён працаваў, урэшце закрылася. Яе ўладальнікі, Укэрты, старая віленская сям'я нямецкага паходжаньня, усё ж зачынілі яе, калі зразумелі, што кайзэраўскія войскі сыходзяць зь места назаўжды. Малады майстроўшчык застаўся бяз працы. Але дзякуючы сваёй тэхнічнай адукацыі ён здолеў уладкавацца на чыгунку, у аднаўленьні якой былі зацікаўленыя ўсе патэнцыйныя кіраўнікі тагачаснай Вільні.

На той час ён ажаніўся зь дзяўчынай з Залядзьдзя, суседняе з Росьсю вёскі. Альжбэта была вельмі ўзрадаваная, што атрымала магчымасьць зьехаць у Вільню з маладым і адукаваным чалавекам, які паходзіў з тых жа самых мясьцінаў. Юзэфава жонка пачала працаваць у габрэйскай сям'і гувэрнанткай, і падчас ліхалецьцяў вайны дзякуючы ёй Маліновічы маглі спакойна ўздыхнуць, што не апухнуць з голаду.

Сытуацыя значна зьмянілася, калі баніфрацкі прыёр з касьцёлу Сьвятога Крыжа зьвярнуўся да Маліновіча з просьбай адрамантаваць арган. Праца аплочвалася, бо стары кляштар атрымаў падтрымку ад новага ўраду Рэчы Паспалітае. Грошай з выручкі хапіла, каб надрукаваць у «Віленскім Кур'еры» аб'яву аб рамантаваньні фартэпіяна і арганаў.

Па меры таго як Вільня прыходзіла ў сябе, да Юзэфа Маліновіча паступала ўсё болей і болей замоваў. Майстроўшчык заангажаваў Альжбэту ў рахункаводзтва. Склаўшы абавязкі гувэрнанткі, Маліновічыха з радасьцю працавала з мужам. Неўзабаве ў іх нарадзілася дачка.

На працягу 1924 году спадар Маліновіч паступова мяняў выгляд сваёй дзейнасьці. Калі пры першых замовах ён хадзіў на месцы рамонту, то цяпер выношваў плян гандлю інструмэнтамі. Яны жылі ў маленькае кватэры ў доме на вуліцы Завальнай у аддаленьні ад мескага жыцьця. Ашчаджаючы на чым толькі можна, Маліновіч перапрадаў першую скрыпку ў ліпені таго ж году. У жніўні ён адкрыў сваю крамку, дзе мог прымаць кліентаў. Да яго прыносілі свае інструмэнты вучні музычнай школы. Дзякуючы рэкамэндацыям ад касьцёлаў аб ім даведаліся ў старых віленскіх дамах, зь якіх выходзілі супрацоўнікі Ўнівэрсытэту Баторыя, а праз іх і адміністрацыя Віленскай опэры. У лютым наступнага году Маліновіч выправіўся ў Варшаву, дзе замовіў цэлую партыю скрыпак – для патрэбаў аркестры. На яго цяпер працавала тры чалавекі – два каталікі й адзін праваслаўны. Альжбэта нарадзіла сына і займалася выключна ўлікам хатніх выдаткаў. Майстроўшчык піяніна быў вядомы як чалавек з добрай прафэсійнай ды маральнай рэпутацыяй.

Чарговыя зьмены наступілі ў верасьні 1925 году, калі да фірмы "М-Музыка" зьвярнулася лютэранская парафія, якой трэба было адрамантаваць сваё старое габінэтнае фартэпіяна.

Інструмэнт быў у поўным занядбаньні. У яго гніў корпус, і некаторыя струны гублялі гучнасьць. І хоць быў ён прыгожага вырабу, было відаць, што, акрамя музэю, яму пасавала знаходзіцца хіба што толькі на сьметніку.

Але фартэпіяна, якія "М-Музыка" дастаўляла праз Варшаву, былі дарагімі, і маленькая эвангелічная парафія наўрад ці магла б назьбіраць сродкаў, каб набыць новы імпартны інструмэнт. Але скарбнік лютэранскага прыходу, пан Штук, нібы агучыў уласныя думкі Маліновіча:

– Улічваючы вашую абазнанасьць ды майстэрства датычна фартэпіяна, вы маглі б пачаць самі канструяваць інструмэнты, – ён усьміхнуўся й дадаў, – улічваючы ўрадавую дапамогу маладым польскім прадпрыемствам, гэта было б ня так цяжка.

Майстроўшчык ведаў, што сакратар меў рацыю. Маліновічу надакучвала матацца зь Вільні ў Варшаву па тавар, прадаваць сваю прадукцыю было б куды лягчэй. Перад прадпрымальнікам паўставала новая задача, рашэньне якой Маліновіч ведаў толькі тэарэтычна.

Пасьля таго, як Юзэф прадаў сакратару Штуку найтанейшае піяніна са зьніжкай, ён пачаў праводзіць вечары з алоўкам ды паперай, праэктуючы й мадэлюючы. Ён ведаў, як сабраць і разабраць піяніна і рабіў гэта неаднаразова. Але была праблема з матар'яламі. Калі аб здабычы дрэва яму ня трэба было непакоіцца, то выраб струнаў, пэдаляў, малаточкаў патрабаваў мэталю і ягонага адмысловага апрацаваньня. Але ідэя была ідэяй. Спадар Маліновіч быў чалавекам ідэі з самага свайго самаўсьвядомленьня, і ён ведаў у глыбіні душы, што рана ці позна сутыкнецца з пытаньнем вытворчасьці фартэпіяна ды нават аргану. Задума была вартай спаўненьня, Маліновіч бачыў ейную каштоўнасьць як для сябе, гэтак і для краю.

Ён выношваў гэтую ідэю на працягу двух дзён і вырашыў сесьці за складаньне пляну, каб прадставіць яго ў гаспадарчым дэпартамэнце ды па магчымасьці атрымаць выгадную пазыку ў банку.

* * *

Андрэй азірнуўся, калі Гэлен увайшла ў залю.

– Ведаеце, – усхвалявана прамовіла яна. – Я вельмі ўзрадавана, што магу падзяліцца з кімсьці маімі росшукамі па гісторыі гэтага інструмэнту. Дзякуй вам вялікі, што выказалі зацікаўленасьць.

Малады чалавек усьміхнуўся ды сьціпла адказаў:

– Дзякуй вам, што зайшлі да нас у салён.

Гэлен паказала Андрэю на канапу, а сама ўладкавалася ў крэсьле насупраць. У яе руках была тоўстая тэчка. Зь яе дзяўчына выцягнула сшытак ды стос фотакопіяў. Расклаўшы ўсё перад Андрэем, яна сказала:

– Найперш, не называйце мяне Гэлен, калі мы не гаворым па-ангельску. Мяне завуць Алена.

Андрэй кіўнуў галавою, нібы ўтрэсваючы гэта ў сваёй памяці.

– Вось гэта дублікаты дзёньніку Юзэфа Маліновіча, – пачала яна, – якія я здабыла ў Парыжы.

– Стваральніка гэтага піяніна? – удакладніў хлопец.

– Так, адтуль і літара "М" на невялічкай тарчы, якая выглядае як воблачка, але насамрэч гэта стылізаваная маліна.

– Заўважце, што ён, як і шэраг іншых слынных прадстаўнікоў польскае Вільні, паходзіў з Заходняй Беларусі.

Яна спынілася на сэкунду ды глянула, ці слухае яе суразмоўца. Назвы "Польская Вільня", «Заходняя Беларусь» для гэтага амэрыканскага беларуса былі відавочна чужымі. Таму яна вырашыла карыстацца гэтымі тэрмінамі далікатна, вытрымліваючы іх у гусьце рамантычных назоваў, накшталт Шыра ці Лотлорыена з "Валадара Кольцаў", але ні ў якім разе не

напружваючы хлопца. Яна вырашыла таксама не казаць яму пра Міцкевіча, Дастаеўскага і іншыя постаці, чыё сапраўднае паходжаньне не было яшчэ агульнапрызнаным сусьветнай гістарыяграфіяй. Божачкі, ці ведае ён наогул, хто такія Адам Міцкевіч і Фёдар Дастаеўскі? Не, напэўна, ён чуў пра іх, бо іхныя імёны час ад часу сустракаюцца нават у амэрыканскіх падручніках.

– Дык вось, – працягвала яна, – Юзэф Маліновіч пачаў выпісваць дрэва ў віленскім краі; струны, пэдалі, малаточкі – у Становай Волі, што ў Цэнтральнай Польшчы. Ён нават езьдзіў на той завод, каб пракансультаваць вытворцаў адносна парамэтраў гэтых частак. “Антон Луцкевіч паведаміў мне, што некалі ў Вільні ліцейная справа была вельмі разьвітай, прынамсі на ўзроўні, які задавольваў патрэбы тагачаснага войска. Напрыклад, адліваліся гарматы, адна з найбольш знакамітых мела назву “Гідра”. Часам здаецца, што ў старой Вільні індустрыя была больш разьвітая, чым цяпер. Але каму як ня нам гэта папраўляць?”

– У 1928 годзе Беларускі клюб гораду Вільні замовіў у яго габінэтнае фартэпіяна для музычных імпрэзаў. Калі яны атрымалі інструмэнт, то запрасілі Юзэфа Маліновіча наведаць адну з тых імпрэзаў, прысьвечаную гадавіне Грунвальдзкай бітвы, – яна сьціснула распавяла Андрэю аб вялікай сечы. – У той час беларусы яшчэ адчувалі нейкую адлігу, да таго ж дата была важкай і для гісторыі Рэчы Паспалітае, таму спадар Маліновіч пайшоў на імпрэзу без асаблівых хваляваньняў. Напэўна, залішне казаць, што калі ён пачуў сьпевы на мове, якую ўжо амаль забыў, то яго прабралі сьлёзы, і ён вымушаны быў выйсьці з залі. Як пан Юзэф пісаў пазьней, у яго была нават думка далучыцца да гэтае асацыяцыі. Але лёс склаўся іначай. У 1930 годзе ён пераехаў зь сям'ёю ў Варшаву, дзе адкрыў галоўны офіс сваёй фірмы. Ён меў шмат замоваў. Адна зь іх паступіла зь Львову, дзе ваш бацька бачыў фартэпіяна падобнага стылю і з тым самым лягатыпам.

Раптам пачуўся глухі голас з суседняга пакою:

– Алена! Аленачка!

Гэлен падскочыла.

– Даруйце, гэта мой дзед Пятро Рэльнік, ён непасрэдна зьвязаны зь лёсам гэтага інструмэнту.

Яна выйшла з пакою. Андрэй удумваўся ў тое, што пачуў. Як шмат адбылося ў тыя часы!

Раптам адчыніліся дзьверы пакою і разам з Гэлен выйшаў вельмі стары чалавек. Яго валасы былі рэдкія й белыя, пастава трохі скрыўленая, і сам мужчына выглядаў вельмі кволым.

– Дзеду, – прамовіла жанчына па-беларуску. – Дазвольце прадставіць вам Андрэя, сына й памочніка спадара, які адрэстаўраваў ваша піяніна. Андрэй, гэта прафэсар Рэльнік.

Прафэсар Рэльнік агледзеў маладзёна. Той павітаўся:

– Очень приятно.

Стары чалавек ухмыльнуўся й адказаў:

– Сам цікавісься гісторыяй піяніна? Што ж, добра, што нехта нечым цікавіцца ў нашыя часы.

Спадар усеўся на крэсла, якое стаяла насупраць Алены. Ён склаў далоні на кіёчку ды прамовіў:

– Мая ўнучка занатоўвае гісторыю пра маё юнацтва, пра тое, як я ўпершыню сутыкнуўся з гэтым інструмэнтам, мае ваенныя гады, эміграцыю.

Ён змоўк, яго вочы сьвяціліся доўгай памяцьцю, і выраз твару меў сьлед доўгага і нялёгкага жыцьцёвага шляху, па якім ён прайшоў нязломным.

Каля дзьвюх хвілін у пакоі вісела маўчаньне. Стары паглыбіўся ў свае думкі, нібы ўглядаючыся ў пражытыя гады. Потым спадар Рэльнік парушыў маўчаньне, велічна прамовіўшы:

– Што ж, Андрэю, я вельмі ўдзячны, што вы з бацькам адгукнуліся на наш запыт і адрамантавалі гэтае піяніна. Я таксама вельмі цешуся, што ты цікавісься гісторыяй свайго краю.

Ён змоўк і глянуў на Алену. Унучка падышла да яго ды дапамагла выйсьці з пакою. Перад тым як зьнікнуць, стары азірнуўся ды кінуў у бок Андрэя:

– Мне вельмі радасна і ў той жа час вельмі боязна за моладзь. Будзь разумным. Бывай.

Малады чалавек падняўся ды прамовіў:

– Дзякуй. Было вельмі прыемна з вамі пазнаёміцца.

Спадар Рэльнік кіўнуў з усьмешкай ды сышоў разам са сваёй унучкай.

Праз момант яна вярнулася. Андрэй глянуў на свой наручны гадзіньнік ды сказаў:

– Я шмат аб чым даведаўся, і хацелася б даведацца яшчэ больш, але мне трэба ісьці.

Алена ўсьміхнулася і глянула суразмоўцы ў вочы.

– Што ж, час ёсьць час. Дзякуй вялікі за выдатны й тэрміновы сэрвіс, і яшчэ раз паўтаруся, што мне было вельмі прыемна пазнаёміцца з чалавекам, які нарадзіўся ў дзедавай краіне.

Андрэй даў ёй сымбалічны паклон.

Алена правяла яго да выхаду. Ён павярнуўся да яе ды прамовіў:

– Я спадзяюся, што мы падтрымлівацьмем сувязь.

– Так, і я яшчэ не распавяла вашэці гісторыю майго дзеда і яго непасрэднае дачыненьне да лёсу інструмэнту.

– Вельмі інтрыгуюча, – адказаў Андрэй. – Я заўважыў, што чалавечыя лёсы пераплятаюцца самым незвычайным чынам.

– Так, – з таямнічай усьмешкай сказала Алена. – Гэта магчымасьць зьдзейсьніць тыя ж глупствы альбо навучыцца чамусьці.

– Альбо зрабіць досьвед больш непаўторным, мажліва.

У знак згоды яна прыпадняла бровы, падарыла яму давінчаўскую паўусьмешку і працягнула руку.

– We'll keep in touch, – прамовіў ён.

– Абавязкова, – згадзілася яна.

У той цёплы вечар Андрэй зразумеў, што адкрыў для сябе нешта цалкам новае і захапляльнае.

Гэта быў толькі пачатак.

# ВЕРШЫ

## Прастора

Нарэшце ў пакоі сталася сьвятлей –
Час прыйшоў раскладваць фарбы.
Пэндзлік зноўку прагне зачапіць алей,
Сукно пацалаваць пяшчотна, гарна.

У адзін пах зьядналіся кава й шкіпідар
Ўпусьціць трэ ветрык – адчыні вакно,
Накіды прыгожых зданяў ці пачвар
Хочуць узысьці на палатно.

Вочы гострай дзідай, нібы ў арла,
Упіліся ў сьцяну плоскае пустэчы.
Зь ветрам муза натхняльная прыйшла
Каб інсьпіраваці пошук чалавечы.

Подыхам паветра падмацавана цела,
Музы ўзносяць мастацкі розум ў зоры.
Ў новую вандроўку ты заходзіш сьмела
Скрозь плоскасьць, у імя прасторы.

## Reincarnatio

Сама як дзіўны ды узьнёслы птах
І ты ракла, што хочаш быць
Ёй, каб меці крыльляў зацны ўзмах
Ды ў вольным небе гарна жыць.

Мы ўдваіх нібы ў гарачым сьне
Ды мы зьбянтэжаныя йзноў
Не, я не шукаю вінаў у табе.
Я мкнуся ўсё знайсьці тваю любоў.
Нам трэ пачуці тыя песьні
Перараджэньня, што пяюць лясы.
Ты гімн чароўны, напрадвесьні,
Нясучы сонка, сьвежае красы.

Пераўтварэньне ёсьць нібыта сон.
З табою разам нам удвох ня сьпіцца.
Рэальнасьць сьмерці ёсьць праклён.
Дык жывем жыцьцё, каб ім дзівіцца!

## Да Anais

Я неаднойчы кідаў позірк свой на ўсход,
Калі ціха стаяў паміж зямлёй і акіянам.
У поўнай згодзе з сабой існаваў які год.
Я прыходзіў туды, каб згасіць свае раны.

Я доўга блукаў пад музыку хваляў.
Пытаўся ў сусьвету аб месцы сабе.
Напоўніўшы грудзі, паветрам я марыў,
Пра веліч Радзімы, і што ўбачу цябе.

Я ўбачыў цябе, тваю ўсьмешку ды зьзяньне,
Узрадваўся вобразу пякноты самой.
Нашы размовы сталі быццам сьвітаньне
Ды прэч зышла цемра самоты маёй.

## Незьнішчаемы вочап

Яны спадзяваліся, што храмаў рум
Ёсьць гострым крэсам нашай рэліі.
Паклаўшы душы й асэрдзі пад глум,
Паставілі нумар на шэрай магіле.

Яны былі ўпэўнены, што наш народ
Будзе змрочнаю лузай у роднай краіне.
Што ён плюне ў студню і ў свой радавод
Ды, трымаючы ралы, ціха загіне.

Але кроніка лёсу народу жыве,
Хоць хай і канцар з вагнём яе паляць.
Здань неўміручасьці вечна нясе
Вадзейства, якім крывадушнікаў джаліць.

Бо над грудам-капчом продкавай справы
Незьнішчаемы вочап высока стаіць.
Згублёным у цёмным удольлі, яскравы,
Напрамкам надзеі ён гарна блішчыць.

## Акіян

Як спасьцігнуць сутнасьць акіяну?
Як бы мы доўга ні шукалі
Ён ціхі, бурны, нечаканы.
Паглынуты памкненьні ў прыліву хвалях.

З кім параўнаць цябе магчыма.
Акіян, сам такі розны?
Ці мо зь любае вачыма.
Сам часам плаўны, часам грозны.

Але ці быў калісь ў яе вачах
Вагонь гарачы й навальніца?
Ці бачыў сам на яе руках
Сутаргі вазьні? Не, яна – таямніца.

О акіян, ты поўны тайны ды спакусы,
І я хачу крычаць па ўсёй зямлі,
Я зьнік, і цісьне рэўнасьці прымус,
Што не спасьцігнуць ейнай глыбіні.

У тваіх вачох людзі шмат шукалі.
І калі ўбачыўся з табой, то зразумеў,
Што мяне хвалі суцяшалі,
Што разьвітацца зь ёю не пасьпеў.

## Птушыны сьпеў

Шчэ не асыпалася залоцьцем лісьце
Ды ліхтар сівой Мазовіі ня згас.
Не чакалі тут другога прыйсьця.
Прусы сань пусьцілі ў чарговы раз.

Не чуваць ім болей гоман мора,
Не панаваць больш між сьвятых лясоў.
Маўчаньне стала абняменьнем з гора.
Як анёл белы чорны крыж узьвёў.

Блакіт вачэй прабіць няздольны
Зьмярцьвеласьць сэрца райтара.
Ён увекі піць закляты неспатольна
Вольны дух і кроў пагана-жыхара.

І вершнік боскі плача ў асалодзе,
Бо ні арол, ні палестынскі леў,
Ня далі ўзрушанасьць прыгодзе
Як над мурамі той путшыны сьпеў.

## Троп шкарляту

Асэрдзе б’ецца трапным рытмам
Я адрываю позірк ад цябе,
Але заўзятым нат малітвам
Не схаваць глыбокага адбітку,

Што ўва мне
Зрабіўся келіхам, што поўны
Жарсьці церпкага віна.
Я п’яны, і аж нязьмястоўна
Радкі складаю безь сьвятла.

Бо я асьлеплены каханьнем,
Яго бліскучасьцю, калі
Вуснаў наскіх дакрананьне
Запаліла камяні.
О троп шкарляту на маіх вуснох!
Пах памады і парфумы,
Чорны аксаміт начы і мы удвох
Займаемся экзарцаваньнем суму,
Вандруючы ў наскіх снох.

## Ці можна?

Ці можна каб раптоўна зрану
Мы больш ня бачылі ўсё цьмяна
Й заміж хлусьні з тэлеэкрану
Мы пачулі б шэлест траў Руяну?

Ці можна, каб зімой халоднай,
Каб мы пачулі пошчак водны?
Ці ў месьце іншым і бэтонным,
Пачулі гоман песьні роднай?

Ці праўдная магчымасьць цуду,
У бяздушшы й сярод бруду
І спантаннае квітненьне ўсюды,
Старажытных сонных грудаў?



**КАВАЛЕЎСКІ Віктар** — нарадзіўся 11 студзеня 1956 году ў мястэчку Радашкавічы Маладэчанскага раёну Менскай вобласьці. У 1973 годзе скончыў менскую сярэднюю школу № 72, а пасьля — Красноярскую вайсковую радыётэхнічную вучэльню. Служыў камандзірам тэхнічных аддзелаў у Кыргызстане і Казахстане. У 1981 годзе аддаў у палітаддзел партыйны білет. Пасьля звальненьня з арміі працаваў інжынэрам, тэхнікам, фатографам. Скончыў у 1989 годзе курсы дакумэнтальнага кіно.

З 1992 году жыве разам зь сям'ёй у Аўстраліі. Выбраны на пасаду сакратара Беларускага Аб'яднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі ў 1997 годзе, а двума гадамі пазьней — на пасаду старшыні Аб'яднаньня. У 1999 годзе разам з айцом Міхаілам (Бурносам) арганізаваў Беларускае Гістарычнае Згуртаваньне ў Аўстраліі. Аўтар кніг: "Беларусы ў Адэлайдзе", "Янка Ролсана і яго творы", "Беларуская эміграцыя ў Паўднёвай Аўстраліі". Аднавіў друк часапісу "Новае Жыцьцё" з 2003 году.

# Засынае Аўстралія

Чытаючы напісаныя малюнкі-апавяданьні з аўстралійскага жыцьця ў розных замежных публікацыях, аўстралійцы сьмяюцца над састарэлым уяўленьнем іншаземцаў аб Аўстраліі, але... падумаўшы трохі, дабаўляюць з сур'ёзным тварам наступнае.

У Аўстраліі насамрэч па вуліцах скачуць кенгуру, ля дамоў на кручаным гальлі эўкаліптаў сядзяць сьмешныя мядзьведзі каала, страўсы эму, не сьцішаючы бегу, губляюць на драўляныя насьцілы вуліцаў свае пёры, якія імгненна падымаюць мясцовыя модніцы і ўтыкаюць на хаду ў свае капялюшыкі. У іх пільна ўзіраюцца дэндзі-джэнтэльмэны, адрываючы свае вочы на момант ад старонак фінансовых газэтаў.

Па начах па вуліцах аўстралійскіх гарадоў блукаюць галодныя сабакі дзінга і выюць, выюць, выюць. А абарыгены-рабы, адпрацаваўшы пад зямлёй цяжкі дзень, перадаюць беламу босу поўную золата тачку і бягуць па пустыні некалькі кілямэтраў да высокага берагу, што ля адной-адзінай рэчкі. Там усю ноч гарыць вогнішча і скачуць размаляваныя голыя абарыгенкі пад музыку пералівіста-гулкіх дыджарыду. Адбіткі вогнішча пырскаюць каляровымі пэйсамі некуды ўніз, на чорны цень павольна-мутнай рэчкі Марэй.

То тут, то там сярод таямнічай воднай плыні бачацца белыя ствалы эўкаліптаў, падобныя да падцягнуўшых адну нагу ўверх чапляў, якія быццам чакаюць на блукаючых па дне карпаў.

У цёплым акіяне, які плёскаецца вакол Аўстраліі, павольна грэбаючы лапамі, сьцерагуць здабычу алігатары, а веліканы-кіты падымаюць у паветра расквечаныя вясёлкай фантаны вады.

А ў сярэдзіне кантынэнту, на бязьмежнай аўстралійскай прасторы, шукаюць траву табуны дзікіх аўганскіх вярблюдаў, ля якіх часам віхрам зьяўляюцца зь небыцьця наравістыя арабскія коні. Там з рэдкіх зарасьнікаў саланчакоў насьцярожана высоўваюць свае рылы дзікія сьвіньні, ды маланкавым жоўтым агеньчыкам прамільгне пухмяны хвост лісіцы.

Валіцца да долу сьпякота дня, і цягне да людзей свае кіпцюры халодная ноч. А на галовы апошніх падарожнікаў рассыпаюць сваё зьзяньне, праляцеўшы праз пустынны далечны космас, пратонныя водбліскі зорак Паўднёвага Крыжа.

Аўстралія засынае...

# Як пеўніка півам аблілі
## (праўдзівая байка)

Дазвольце падаць сябе вам, калі мо хто мяне ня ведае. Завуць мяне кумаром Ай Чынным. Па памерах я невялікі, жыву ў цяньку, сьвету белага ня бачу. Такіх кумароў, як я, шмат навокал. Усе іншыя кумары, бачыш, ціснуцца высмактаць поўную кроплю крыві, ды прыкумарыцца да нечага вялікага і файнага. Я дык не такі. Мне для крывасмактаньня падыходзіць усялякая жывая істота. Кумар я ў гадах, таму прыходзіцца ўсюды так званае вастрыла з сабою цягаць. Мо хто ня ведае, што ж такое вастрыла? Дык гэта самая што ні на ёсьць найпатрэбнейшая рэч для такога кумара, як я, бо маё собскае джала тупіцца, бач, вельмі хутка. Не пасьпяваю вастрыць. Такія справы...

Што? Чаму завуць мяне Ай Чынным? Дык у нас тут навокал кожная кумарыная істота мае прозьвішча. І ўсе пачынаюцца на Ай. Парадак такі, бачыш. Мода такая. Ёсьць сярод нас і Ай Дзінны, і Ай Клінны й нават Ай Сьлінны. Дык і краіну, у якой мы жывем, таксама завуць на Ай — Ай Страліяй. Ня чулі? Ну нічога, пачуеце.

Кажу ж вам, гарачка ў нас тут бывае такой, што ні адна шчыліна не дапамагае. Мая сваячка ня так даўно зьехала да свайго новага прыхаджора ў нейкую далёкую, халаднейшую краіну. З-зыША называецца. Кумароў там! Але як яны там жывуць, што смокчуць і зь якога шыша, цяжка мне вам сказаць. Бо мне тут у маёй Ай Страліі занадта добра. Дык вось. Шле мне лісты тая сваячка з таго далёкага З-зыША. Калі ліст дойдзе, а калі міма лупіць. Паспрабаваў я дазнацца чаму. Ну і дазнаўся. Прапускае тая сваячка, бывае, у адрасе маёй краіны літару «т». Пішу я ёй, каб пісала ня Ай Сралія, але як мае быць і па-навучонаму — Ай Стралія. Не, качан сьляпы, зноў лупіць па-старому. Што дакажаш гэткаму ёлупню? Як навучыш? Што? Прабачце, трохі з-з-зьяжджаю ўбок ад тэмы. З-з-зьвіняйце за гэта.

Ведаю, абяцаў, абяцаў. Пра таго пеўніка. Дык воз-з-зь.

Але пачакайце. Дадам трохі пра нашае кумарынае жыцьцё. Мне, бачыш, хапае паўкроплі якой хаця крыві смактануць і будзь здароў. Многа ня трэба. Дурні гоняцца за большым і губляюць праз гэта ня толькі добра насмактанае, але і жыцьцё кумарынае таксама. А ж ёсьць і такія, што аб'ядноўваюцца ў нейкія суполкі па інтарэсах і ў розныя там асацыяцыі кумарыныя і смокчуць ня кожную групу крыві, але толькі самую найсмачнейшую. Што за кумар'ё?

Я дык наскокваю на што магчыма, бо ў маім узросьце шмат не палётаеш па навакольлі. Надоечы заўважыў хлопца з-з-зь дзеўкай, прысеў на дрэва, пачакаў, пакуль яны адзін на аднаго глядзець скончаць і пачнуць справай з-з-займацца. Скок тады адразу на хлапчуковы зад і вастрыла ў рукі. Тачу, прыглядаюся. Ведаю, што іншае кумар'ё будзе зь мяне зараз сьмешкі раз-з-зводзіць, асабліва тыя, што з асацыяцыяй па інтарэсах, а мне дык усё гэта бяз роз-зьніцы. Гайсаю, знацца, як карабель на тых хвалях. Улупіў сваё джала і смакчу, бачыш. Толькі скончыў сваю паўкроплю смактаць, як адчуў, што хлапец руку падняў. Раз-з-з. Хоча па мне рэз-знуць. І рэзнуў! Так рэзнуў па свайму заду, што перад на другім канцы зямлі выскачыў. Дзяўчына войкнула й ціха так шаптанула – адлятаю, каханы. Куды яна там адляцела, я ня ведаю, бо сам ужо шыбка набіраў вышыню.

Што? Прабачце. Абяцаў, абяцаў...

Але хачу дабавіць пра адну кумарыху спачатку. Добрая такая кабета. Бывае, прыляціць да мяне й так мне джала наточыць, што я два тыдні лётаю, як маладзён той. Аднойчы, бачыш, згубіў сваё вастрыла...

Што, з-з-зьвініце? Ну дык пачынаю.

Жыў-быў певень. Малады, прыгожы ды й вельмі гаваркі. Кукарэкаў ня толькі, калі віднец пачынае, але ў любую гадзіну суткаў, за што яму добра скублі хвост іншыя пеўні. Пасьпяваў наш пеўнік усюды. Усё прыкмячаў, пра што пазьней без упынку кукарэкаў што ні крок.

Дазнаўся ён аднойчы, што існуе мясцовага лесу аб'яднаньне так званых Беларужовых Венікаў. Назвалі так, бачыш, таму што бальшыня сяброў гэтага аб'яднаньня нарадзілася ў далёкім ад нашага месцы, у іншым лесе, што ад нас празь сёмае балота ля самае Гургановае гары. Ну, вядомая справа, маюць нашыя лесавікі там сваякоў, бацькоў і сяброў. Ну і, вядома, шлюць ім адтуль сардэчныя людзі беларужовыя венікі, якія рэжуць менавіта з тых самых вядомых на ўвесь наш лес беларужовых дрэваў.

Атрымаюць, бач, нашыя мясцовыя дзівакі пару новых венікаў і пачынаюць у сваіх аб'яднаньнях і групоўках абмяркоўваць даўжыню дубцоў і прыгажосьць лістоў. Пра пах беларужовы гаворкі йшлі асобныя. Асабліва ў лазьні. Налупяць нашыя хлапцы адзін аднаму сьпіны і крычаць у вуха: «Чуеш пах беларужовага лесу? Чуеш Бацькаўшчыну?» Сіпіць другі ў адказ, аж стогне, бедны: «Чую. Ай жа балючыя гэтыя венікі з-з-зь Бацькаўшчыны!» А яму ў другое вуха ўжо другі хлапец крычыць: «Дык хіба ж не падабаецца?» «Ой жа падабаецца», – шэпча першы. «Ой жа падабаецца! У нашым лесе такіх венікаў аніяк не знайсьці». І сам, бедны, плачам заходзіцца. А яму крычаць: «Плач! Як там нашыя беларужы плачуць. Успомніў, сірата».

Ну дык дазнаўся наш пеўнік пра гэтае беларужовае аб'яднаньне і вырашыў пралезьці туды, каб дазнацца больш. А тут, бачыш, і перавыбары ў тым аб'яднаньні падышлі. Размаляваў наш пеўнік сваё пер'е ў бел-ружовыя колеры і паляцеў на агульны сход.

А там – піск і віск. Гвалтам крычаць вераб'і-падшывальцы, нешта гукае сава, моўчкі шчурыцца воўк-дзяцюк. Ужо выбралі на старшыню барадатага дзятла, ад чаго воўк толькі ляснуў з-з-зубамі. Вось падалі галасы за дзятліху рыжую на скарбніка. «Ах такую тваю», – толькі мыкнуў бабёр. Ужо прайшоў на месца сакратара белагаловы бусел, ад чаго вавёрка аж падскочыла.

Засталася адная толькі пасада. Называлася яна кручана-цікава – публічны ахфіз-зэр. Заварушыўся наш пеўнік. Праца, напэўна, і няцяжкая, думаў ён. Ды й гучыць вельмі прыемна і па-вайсковаму: публічны ахфіз-зэр! Можа, пагоны выдадуць, а там, глядзі, і зброю якую і ўніформу зь лямпасамі. Усе пявуньні тады яму ў ногі падаць будуць. Зажмурыў наш пеўнік вочы ад асалоды...

Штурхануў пеўнік куліка балотнага, каб ягоную кандыдатуру выстаўляў. Акатурхаўся кулік і адразу зацьвіркаў: «Пеўніка давай! Пеўніка патрэбна. Глянь, спадарства лясное, які ў яго прыгожы бела-ружовы хвост! Наш-ш пеўнік!»

Што, з-з-зьвініце? Так. Праскочыў пеўнік наш у камітэт тых Беларужовых Венікаў.

А як праскочыў, дык адразу пачаў усім крычаць і кукарэкаць, што ён амаль усё сваё жыцьцё толькі і думаў, як працаваць на агульныя інтарэсы і як моцна ён любіць нашыя беларужовыя венікі. А каб ніхто не сумняваўся, то на кожным паседжаньні крычаў: «Я нават пер'е абскубу, толькі дазвольце ў вашай лазьні ляснуць пару разоў па маёй ахфіз-зэрскай сьпіне самым найлепшым беларужовым венікам».

Пасьля першага паседжаньня адбылося другое. Потым трэцяе. Рэчы вырашаліся нецікавыя і пеўніку ўжо занадта абыякавыя. Дый усе пыталіся, калі ж ён пачне нешта рабіць. Надаваў наш пеўнік усім шмат абяцанак і з-з-зьнік. Лётаў па лесе і крычаў усім, што ён ахфіз-зэр.

Клічуць пеўніка на паседжаньне, прымушаюць. «Нашто клічаце?» – кукарэкае пеўнік. «З-з-з-заняты я вельмі важнай справай публічнай. Купляю прыгоды прыватныя разам з публічнымі і перакладаю ў торбу з казкамі. Ніяк не магу!» Пашчабяталі нашыя дзятлы з буслямі паміж сабой і вырашылі ўсе пытаньні без таго пеўніка.

Неўзабаве прыляцеў да іх у госьці з-з-зь летувіскага лесу, што за морам-акіянам, вядомы прадстаўнік. Няма пеўніка на афіцыйнай сустрэчы. Зьбіраліся сябры аб'яднаньня на вялікае сьвяткаваньне-гарохалушчэньне, клікалі пеўніка, не даклікаліся. Не з-зьявіўся наш пеўнік, бо гарох лушчыць – справа цяжкая, а ён заняты перакладаньнем казак з аднае торбы ў другую.

А дзяцел-старшыня нешта ўсё стукае, дзяўбе й лётае па навакольлі. Вось нарэшце скончыў лічыць наш дзяцел усе беларужовыя венікі й кліча сяброў аб'яднаньня на сьвята, бо набралася іх ня больш і ня менш, а 25! Зьбірае ўсіх. На гэтае сьвята дастаў ахвяру ад цара лесу мясцовага – цэлы кош бульбы, мех жыта ды бочачку мёду салодкага.

Дазнаўся наш пеўнік пра кош бульбы, дык паляцеў на паседжаньне і акурат зь дзьвярэй закукарэкаў: «Дзе ліст прысланага? Хто бульбу лічыў? Мо й мёд безь мяне лізанулі? Адказвай, скарбнік, а то як дзеўбану!»

Кажуць яму, што ўсё падлічылі і паважылі безь ягонай найсьвятлейшай асобы, як дазналіся, што ён найважнейшай справай быў заняты, перакладаючы казкі тыя з торбы ў торбу. Зрабілі безь ягонай пеўнікавай міласьці. Зараз іншае пытаньне вырашаецца – дзе ж знайсьці якое месца добрае й вялікае, каб народ за стол пасадзіць ды бульбу з жытам рассыпаць на сталы на сьвяткаваньне тое. Пісалі, кажуць яму, да санавітых асобаў, нат у школу красамоўства мясцовую, але ніяк да паразуменьня не прыйшлі. Чвэрць жыта паабяцалі за рэнту хаты якой. Мёд наліваем, але ніхто ня хоча нас, бо баяцца, што дзяцел будзе дзюбай лупіць, а буслы пачнуць клякатаць безь перапынку.

«А дайце мне трохі часу, – пеўнік кукарэкнуў. – Я ж то змагу дамовіцца. Нават з той школай красамоўства, якая мае вельмі прыгожую хатку пасярод лесу». Пакруцілі дзятлы з бусламі галовамі й пагадзіліся.

Паляцеў пеўнік наш да школы красамоўства. Ля школы хатка тая прыгожая стаіць. Не вялікая і не маленькая. Якраз тое, што і патрэбна. Чыстая, хоць і саломай крытая.

І так пеўнік дзюбаў у шыбу, і гэтак кукарэкаў – ня чуе ніхто. Тут кулік балотны, сябра знацца, кажа пеўніку, каб праз-з-з шчыліну пад страху ўціснуўся. Можа, здолее пралезьці. І насамрэч, пралез пеўнік наш, але так падціснуўся, што аж дых заняло, ды й пагубляў праз гэтую бяду сваё прыгожае бела-ружовае пер’е..

Агледзеўся пеўнік наш. Адсопся.

Бачыць: за сталом бык сядзіць і піва п’е. Пачаў наш пеўнік адразу кукарэкаць, што ён ёсьць самы што ні на ёсьць ахфіз-зэр і найлепшы быку таму сябра. Слухаў бык, слухаў, ды як рыкне: «З-здароўкацца трэба! А то як бразну куфлем зь півам па тваёй галаве, то адная дзюба толькі і застанецца!»

Прыціх пеўнік наш, апусьціў аблезлы хвост ды пачаў паволі круцялькі плясьці і навакол быка хадзіць. Амаль на ліску не наступіў. Ліска ласкава так кажа: «Ідзі, пеўнічак, сюды, я табе новую казку ў торбу пакладу». Певень наш, хоць бяз казак жыць ня мог, але датумкаў убок адскочыць і больш блізка да ліскі не падыходзіў.

З быком тым урэшце дамовіўся ў тую раніцу наконт рэнту хаткі. Але ня так запрог, відаць, бо раніцай дамовіўся, а пад вечар бык празь вераб’япадшывальца навіну прыслаў, каб дзяцел даслаў спачатку ліст да крумкача вучонага, дзе напісаў бы, што ён не хто іншы, як мужык просты і дурань дурнем як ні круці. І калі напіша дзяцел праўду гэткую, то тады крумкач той са школы красамоўя адпусьціць дурню-дзятлу ўсе зробленыя і нязробленыя грахі. Тады ўсё будзе залатвена ўмомант і хатку здадуць у рэнту пад дамоўленую колькасьць жыта й бульбы зь мёдам безь ніякага супыненьня.

Узышоўся наш тут дзяцел. Пытаецца ў пеўніка; «Што ж так? Чаму да бульбы зь мёдам папера патрэбная?»

Пеўнік і кажа, што круцілася ля крумкача таго сарока зь белай чупрынай, якая, трэскаючы нечым, крычала, што дзяцел красамоўе не паважае, крумкача тым абражае, і што гэта ёсьць не што іншае, як мужыцтва! Праз гэта павінен дзяцел прабачэньня прасіць і пісьмова толькі!

Закруціў наш дзяцел галавою ад абурэньня, ледзь з дупла ня вываліўся. Падхапіла яго дзятліха і кажа, каб ён так да галавы ня браў, бо ён да школы красамоўя не належыць, і ніхто яго прымусіць прасіць пісьмова прабачэньня за ўсе зробленыя і нязробленыя грахі ня можа.

Усхарахорыўся наш дзяцел і перадае празь вераб’я новую вестку пеўніку-ахфіз-зэру: перамовы супыніць, хаткі той, саломай крытай, ня трэба, знойдзецца нешта ў іншым месцы.

«Як так?» – закукарэкаў пеўнік. «Мяне ліска амаль ня зьела, бык мне пагражаў, я здароўе паклаў на беларужовую грамадзка-публічную справу, праз шчыліны пралазіў, пер’е пагубляў. Ня можаш так рабіць! Я ёсьць ахфіз-зэрам!»

«Магу!» – крычыць наш дзяцел. «Ужо зрабіў! Даю сваё дзятлава слова!»

«Вось як?» – ускрычаў певень. «А зярняткі чаму безь мяне лічылі? А мёду таго хто лізануў? Па-а-атрабую адказу! А чаму мяне не даклікаліся і не паведамілі? Па-а-атрабую адказу! А мой аблезлы хвост куды зараз падзеці? Па-а-атрабую адказу!»

Пачаў тут певень лётаць па лесе і ўсім скардзіцца на дзятла і на дзятлава дурное кіраўніцтва. Кукарэкаў пра недавер, канфлікт мядовых інтарэсаў, пра тое, што занадта многа ў камітэце дзятлаў і буслоў і замала пеўняў зь бела-ружовымі хвастамі.

Прыляцеў нарэшце да самаго быка.

А сядзеў той бык у хатцы той самай і піў піва. Закукарэкаў з ганка пеўнік наш аб непрызнаньні ягоных публічных заслугаў, аб хвасьце аблезлым, пра дзятла-мужыка і засільле буслаў-клякатуноў.

Слухаў бык, слухаў, потым як зараве: «Здароўкацца трэба!»

І як бразнуў пеўніку куфлем па галаве, дык толькі дзюба і засталася.

Быў пеўнік казкамі набіты, застаўся півам паліты.

Ды й ліска дзякавала пану быку за закусь да выпіўкі.



**КАПЧЫК Пятрусь** — нарадзіўся 23 красавіка 1944 году ў вёсцы Раўнапольле Пухавіцкага раёну Меншчыны. Вучыўся ў Раўнапольскай пачатковай школе, Караваеўскай сямігодцы, Рудзенскай сярэдняй школе. Потым вучыўся ў Макееўскай пэдвучэльні, Менскім каапэратыўным тэхнікуме, а вышэйшую адукацыю здабываў на філялягічным факультэце Дагестанскага ўнівэрсытэту ў горадзе Махачкале.

Працаваў у Кулябе (Таджыкістан) у рэдакцыі абласной газэты “Кулябская праўда”.

Ад 1983 году жыве ў горадзе Ізяслаў Хмяльніцкай вобласьці (Зах. Украіна), працуе выкладчыкам замежнай літаратуры ды польскай мовы ў школе, дзе таксама вядзе гурток “Зорка Вэнэра”, навучаючы ягоных сяброў беларускай мове, літаратуры, гісторыі Беларусі.

Удавец.

Піша апавяданьні, гумарэскі, перакладае з францускай, нямецкай, польскай, украінскай ды шэрагу іншых моваў на беларускую.

# Вам хаханькі ...

## (гумарэска)

— У вашай цырульні пагаліцца можна?

— Калі ласка, сядайце.

— Яно можна і сесьці. Толькі вы сумленна, спадар майстар, скажыце: крэсла ў вас, таго... не шкапыртнецца?

— Не разумею.

— А што тут, шаноўны, разумець. Вось сяду я, напрыклад, у гэтае крэсла, а сядзеньне р-раз! — і праваліцца. Тады што? Вам хаханькі, а я магу на ўсё жыцьцё калекам застацца. Адзін мой знаёмы вось так сабе язык адкусіў.

— Ды што вы! Ня бойцеся, сядайце. Крэсла новае, мэханізаванае. Вось націскаю на пэдаль — падымаецца, вось тут націсну — апускаецца. Усе выгоды.

— Ну дзякуй, даражэнькі, заспакоіў. А скажыце мне, спадар майстар, а брытка ў вас як? Не разумееце? Я цікаўлюся, ці добра навастрылі інструмэнт. А то ў непрыемнасьць можна ўскочыць. Сядзеш да вашага брата, а ён я-ак пацягне тупою альбо вышчарбленаю — аж яскаркі з ваччу пасыплюцца. Валосьсе са скураю зьдзірае. Адзін чалавек апавядаў...

– Брытва ў мяне клясная. Бы маслам памазаў. Нават не адчуеце.

– Вось-вось. Таму я і баюся сядаць.

– У чым справа?

– А вы не зарэжаце?

– Вы што, жартуеце?

– Якія там жарты, галубе шызы! Я верабей страляны. Вам галоўнае што? Плян. Вось і цісьнеце. А пакутуе хто? Мы, кліенты. Злавіў галаву, напрыклад, майстар, а брытва вострая. Тык! І гатова. Носу або вуха як і не было. Яшчэ і за работу ўтрая даражэй зьдзярэце.

– Слухайце, спадар!

– А што тут слухаць?! Я – чалавек прамы. Праўду-матку ў вочы кідаю. Твар у мяне далікатны, інтэлігентны. Зь ім абыходзіцца трэба асьцярожна. А дзе гарантыя, што вы мне вось гэтую бародаўку ці прышчык ня зрэжаце? Самі ж хваліліся, што брытва вострая.

– Вы зьдзеквацца прыйшлі?

– Х-хе, вы бачылі такога? Хто з каго зьдзекуецца? Самі, скурадзёры, калечаць і рэжуць людзей, а пасьля гэтага на нас жа, кліентаў, наракаюць. А яшчэ сярод вашага брата ёсьць і такія, хто "пад мухаю" на работу прыходзяць. І брытву, нягоднік, у рукі бярэ. Хіба ж можна такому давяраць сваё жыцьцё? У адным часапісе вычытаў...

– Ды змоўкніце Вы нарэшце!

– О-о-о, а я што казаў? І ў гэтага рукі трасуцца. Відаць, зь перапою! І бледны як нябожчык. Ну і час настаў!!! Ужо ў восьмую цырульню заглядваю сёньня, а путнага цырульніка знайсьці не магу.

# БАЙКІ ПРОЗАЮ

## Выпадак з Вожыкам

Мядзьведзь, абраны на пасаду Ільва, на сваё мядзьведжае месца вылучыў Вожыка.

– Не пацягну! – сказаў Вожык. – Я спэцыяліст па яблыках!

– Ня строй дурня! – зароў Мядзьведзь. – Калі ты да яблыкаў дарос, дык і да вулею дацягнесься.

Папрацаваў Вожык тыдзень і пачаў прасіцца з пасады назад. Ды толькі ў Мядзьведзя – на пасадзе Ільва – не дапрасіцца!

І раптам... На Вожыка пасыпаліся ананімкі.

Выклікае Мядзьведзь калючага да сябе:

– Падводзіш, Вожык! Пачытай, як цябе расьпісалі!

"З пчоламі зьнюхаўся, трутням патурае. Зводка пра ліпавы медазбор – суцэльная ліпа..." – чытаў пра сябе Вожык.

– Так, галубе! – працягваў Мядзьведзь. Мёд – спакусьлівая штука! Спачуваю, але нічым дапамагчы не змагу!

Вожык маўчаў. І на паніжэньне пайшоў безь пярэчаньняў...
...Ананімкі на сябе ён напісаў сам!

## Як лячылі вярблюда

Да лекара Асла прыйшоў на прыём Вярблюд.
– Страўнік, – кажа, – баліць. Калючкамі на імянінах аб’еўся.
Лекар агледзеў хворага.
– Калі і адкуль падалі?
– Ніколі і ніадкуль! – запэўніў лекара Вярблюд.
– А горб? У вас жа горб! Значыць, падалі! Пералом пазванкоў, потым туберкулёз. А Вам і здаецца, што баліць страўнік. Адлюстраваны боль.
– Горб – гэта ў мяне ад прыроды. А страўнік... Прыпішыце што-небудзь.
– Хворы! – сурова абарваў яго лекар. – Вы не ў рэстарацыі, каб на свой выбар замаўляць.
Вярблюд зьніякавеў, моўчкі апусьціў галаву.
– Зробім аналізы, паглядзім здымкі. У гіпсавы ложак пакладзем... гадоў на дзесяць.
– На дзесяць гадоў? А вы мяркуеце, што я пражыву яшчэ дзесяць гадоў?!
– Нічога, – падбадзёрыў яго Асёл. – Падлечыцеся, пазбавіцеся ад горба – сто гадоў пражывеце!
– Дык я ж Вярблюд! – сказаў Вярблюд. – Куды мне да ста, мне б да трыццаці, ня больш...
– Гэта з гарбом – да трыццаці, – патлумачыў яму Асёл. – А без горба!... Тут галоўнае – пазбавіцца горба...

## Лінейка

Шчырасьць яна лічыла сваёю лепшаю якасьцю. Яна не знаходзіла ані крывых, ані ламаных, ані іншых ліній. Словам, Лінейцы здавалася, што яна мела самы правільны спосаб жыцьця. Яна і іншым намагалася прышчапіць свае прынцыпы.
Асабліва даставалася Алоўку: яму часьцяком даводзілася мець справу зь Лінейкай.
– Малюй раўнютка! Не пазірай па баках! – павучала яна. Не крыві душою! Аловак быў шчырым хлопцам і нават ня думаў крывіць душою. З гэтае прычыны яго пачынала браць нудота ад такой настаўніцы.
– Ты ж прамы, – зноў і зноў гаварыла яна, – значыцца, не адхіляйся ад мяне!
Не, гэта было ўжо занадта! Колькі можна выслухоўваць такія лекцыі!
Зажурыўся Аловак. Лінейка яго падтачыла. Ня вытрымаў. Зламаўся.

## Ліслівы падначалены

Леў нецяк запытаўся ў Зайца:
– Скажы, спадар Касы, за якія такія мае якасьці ты мяне так бязьмерна паважаеш?
Заяц усьміхнуўся і ліслівa адказаў:
– За тое, што вы мой бос! Гэтага для мяне дастаткова.
– Добра, спадар Касы. Згодзен. Кіраўніка любіць і паважаць трэба. А што, калі б я ня быў тваім кіраўніком?
– Спадар Леў! – самавіта адказаў Заяц, тады б вы мне не задавалі такіх пытаньняў.

## Думкі ўслых

Змагаўся са злом у іншых. З сабою даўно заключыў мірнае пагадненьне аб узаемным ненападзеньні.

* * *

Не рабіце нічога курам на сьмех. Куры пачуцьцём гумару не валодаюць!

* * *

Крадучы час у іншых, даўгалецьця сабе не заробіш.

* * *

Талент не купляецца, але часьцяком распрадаецца вельмі танна.

* * *

Калі чалавек маўчыць, верагодна, яму на самой справе няма чаго сказаць.

* * *

Ахвотна прапаноўваў сваю падтрымку тым, хто ўпэўнена стаяў на ўласных нагах.

* * *

Каб слова не разыходзілася са справай, ён намагаўся больш гаварыць і менш рабіць.

* * *

Пра густы можна спрачацца. Безгустоўнасьць заўсёды бясспрэчная.

* * *

Ён стаяў такою гарою за праўду, што з-за яго праўды зусім не было відаць.

* * *

Праблема “бацькоў і дзяцей” ніколі не старэе. Старэюць толькі дзеці, калі становяцца бацькамі.

* * *

Хваліў сябе сам, бо лічыў, што ніхто іншы лепш гэтага ня зробіць.

* * *

Зьеў зубы ў сваёй справе, а разам зь імі... і лепшых супрацоўнікаў.

* * *

Рэўнасьць – сястра каханьня! Але як шалёна б’юцца гэтыя сёстры!

* * *

Ня ўмеючы лётаць, на высокую адміністрацыйную пасаду не ўзьляціш: трэба, каб падсадзілі!



**ЛІЦЬВІНАВА Яна** — псыхоляг, почырказнаўца, нарадзілася 25 чэрвеня 1972 году ў Слоніме. Пэўны час жыла і працавала ў Менску. Апошнія 3 гады жыве ў Празе, гадуе дачку і двух сыноў.

# Тыдзень Сьвятога Мікалая, альбо Як апошнія сталі першымі

## Гісторыі з табару

### Анёл і яблыкі Беласьнежкі

“Беласьнежка вярнулася!!!” — злосна шыпела на ўвесь калідор старая прыбіральшчыца, падмятаючы сьмецьце. Адразу за ёю паказалася дзяўчына з жудасна сінімі кругамі вакол амаль што чорных вачэй. Сапраўды Беласьнежка — бледная матавая скура, чорныя раскошныя валасы, толькі вось вочы не падымае, нешта ўсё хавае позірк. Яна ўвайшла ў пакой, цягнучы за сабою вялікую кайстру. Празь якое імгненьне гэтая кайстра вылецела адтуль у суправаджэньні агульнавядомай пад назвай “ненарматыўная лексіка” лаянкі: “... валі адсюль, каб вочы нашы цябе ня бачылі! Як толькі зямля такіх носіць”, — прывіталі й разьвіталіся зь ёю суседкі. Беласьнежка быццам не заўважыла гэткай сустрэчы і зноў паспрабавала заняць сваё месца пад сонцам — моўчкі падхапіла кайстру, урэшце рэшт падняла позірк, абвяла ўсіх дэманічна пакутлівымі вачыма й разьмясьцілася на вольным ложку ў куце.

На гэты раз павылятали з пакою суседкі. Бразнулі дзьверы. Жанчыны сабраліся на агульнай кухні, каб абмеркаваць недарэчнае вяртаньне.

Беласьнежка была сумнавядомай у лягеры пэрсонай. Як яе звалі насамрэч, так ніхто і не даведаўся. Прыехала яна тыдзень таму зь вялікім жыватом — была цяжарная. Увесь час трымала каля вуха мабіл ды скардзілася па-баўгарску, што нейкі Ганс ня хоча нават падыходзіць да тэлефону.

Ганс – выпадковы патэнцыйны бацька, хутчэй за ўсё, не плянаваў перайсьці ў сапраўдныя, прынамсі, у гэтым выпадку. Неяк высьветлілася, што Беласьнежка пасьпела пражыць зь ім нават некалькі тыдняў, а потым той нечакана зьнік, не заплаціўшы за люксусную кватэру, якую зьняў у Старым месьце ў Празе.

Клясычная прыгажосьць Беласьнежкі не давала ёй жабраваць – “працу” знайшла з аплатай “па дамове”, увечары праз ноч, няпыльную і старую, як жаночы лёс. Апошні тыдзень перад родамі папалася паліцыі, што прыняла як нечаканую ўдачу – адразу ж і скарыстала параду вопытнай каляжанкі з Вацлаўскай плошчы – папрасіла прытулку. За кошт чэскіх падаткаплацельшчыкаў была перавезеная ў табар, дзе яе паставілі на амэрыкана-эўрапэйскія харчы й падсялілі да ня вельмі зараз ласкавых зь ёю суседак.

Яна пакінула яго, сваё дзіця, нават не спытаўшы, хто гэта – хлопчык ці дзяўчынка, не паглядзеўшы яму ў нованароджаныя вочкі. Яно, гэтае дзіцятка, засталося ў радзільным доме, абласканае сястрычкамі ў блакітных халатах, якія цалавалі й ціскалі яго замест матулі-недарэкі, каб яно, ня дай Бог, у гэтыя першыя імгненьні жыцьця не здагадалася, што нарадзілася самотным. Ёй не паведамілі, колькі важыў той анёл, ці ёсьць у яго радзімыя адмецінкі, якія ў яго валасы. Яна толькі спытала, дзе паставіць подпіс. А на наступны вечар проста зьбегла адтуль у табар, прыхапіўшы тую пацёртую кайстру. Іншага дому ў яе не было.

Жанчыны гаманілі на агульнай кухні, нехта прынёс на пачастунак чырвоныя яблычкі ды мандарынкі – Мікулаш падараваў за добрыя паводзіны. Калі Беласьнежка зьявілася ля пліты, каб заварыць гарбату, усе дэманстратыўна выйшлі, забыўшыся на яблыкі. Тая ж падышла да чорнае шыбы вакна і прастаяла, гледзячы ў яе, пакуль уся вада ня выкіпела і імбрык не пачаў трэскаць ды плавіцца на агні. Яна глядзела ў цемру – што яна там бачыла? Машынальна качала па стале чырвоныя яблыкі і ўглядалася, мо, у сваё адлюстраваньне. Маленькі хлопчык падбег да стала і ўтаропіўся ў яблыкі. Беласьнежка дастала з кішэні шакаляднага Мікулаша ў фальзе, моўчкі працягнула, але дзіця спалохалася прапановы чужой жанчыны й з плачам зьбегла. Беласьнежка рашуча раскрышыла цукерку ў руцэ і кінула апошні позірк на зоркі. Выходзячы з кухні, яна ня ўцяміла, як ад вакна адляцеў у цемру залатавалосы анёл – ён так і не дачакаўся, што яна яго заўважыць і пакліча.

Раніцой Беласьнежка залівіста рагатала перад дзьвярыма сталоўкі ў кампаніі людзей, выразы твараў якіх не пакідалі нават малое надзеі на схільнасьці да мастацкіх каштоўнасьцяў – яна і тут знайшла сабе “няпыльную” працу па спэцыяльнасьці: “Лічыце самі, хто першы, а хто апошні!”

Да яблыкаў, што засталіся на стале, больш ніхто не дакранаўся.

## Мата Хары й няспадзяванка

Дзіўна, але яе не сустрэлі. Дзяўчына спрабавала тэлефанаваць на вядомы нумар, але ніхто не адзываўся. Прасядзела на вакзале больш за 2 гадзіны – марна. Раней проста немагчыма было сабе ўявіць, каб ён не чакаў яе на пэроне з кветкамі ў любы час пры любым надвор’і. Нават сьмяялася з та-

го, што ён такі шалёны, быццам няма ў чалавека іншых спраў, як толькі сустракаць ці праводзіць яе? Мо нешта ўцяміў урэшце рэшт? Што б ні здарылася, але прыйдзецца ёй самой са сваімі справамі разьбірацца. Добра, што яна правучылася ў гэтай краіне некалькі гадоў і ведала яе амаль як сваю.

Справы, на жаль, складіся ня вельмі. Праўду кажучы, дрэнь яе справы, хоць плач. Свае ж і здалі. Ня тое, каб зусім свае, а так, адна сумнавядомая кантора, ад якой па маладосьці атрымала "дабро" й троху матар'яльнага забесьпячэньня на навучаньне за мяжой, дала зразумець, што зь ёй больш ня лічацца, як раней. Намёку было дастаткова, астатняе – справа розуму. А яна была надзвычай разумная дзяўчына, пралічыла ўсе магчымыя хады і зразумела, што мусіць уцякаць, каб гэтыя "свае" яе не скарысталі ў апошні раз.

Шлях да табару яна добра ведала зь ягоных расповедаў. Гонар прыйшлося прыхаваць, нічога, возьмем іх інтэлектам. Рэмарка перачытваць будзе цікавей, на ўласнай скуры адчуўшы пакуты ягоных герояў! Зь дзяцінства Лампа ведала, што менавіта інтэлект яе выратуе, бо сярод сяброўак была якімсьці брыдкім качанём. Яшчэ і з імём бацькі перастараліся – трэба ж было назваць дачку Яўлампія. У школе неяк усе пачалі ёй казаць проста Лампа, што нават падабалася. Лампа ды Лампа, усё лепш, чым Еўка, як яе звычайна звалі дома. Там, у канторы, яна таксама была запісаная Лампай, але гэтая кніга для яе ўжо прачытаная, не, Эрых Марыя, такія старонкі лепш не перагортваць, а пакінуць у мінулым.

Шчыра кажучы, яна не сумнявалася ў дапамозе Анатоля. Ён быў старэйшы за дзяўчыну, сапраўдны джэнтэльмэн: падарункі, кветкі, сур'ёзныя размовы. Усё ня так, як з аднаклясьнікамі, у якіх ні грошай, ні шарму, толькі адныя натуральныя патрэбы, пасьля якіх раніцой яшчэ й каву падавай. Анатоль жа, наадварот, разумеў, як зрабіць прыемнае. Каву прыносіў у ложак разам са сьвежай газэтай, па вечарах хадзіў зь ёю ў рэстарацыю, не дазваляў псаваць прыгожыя рукі гатаваньнем ежы. Ніколі не прыходзіў без ласункаў, бо яна ж вучыцца, і яе гіпэрмазгам патрэбна энэргія шакалады. Нават срэбраны бранзалет, што так спакусьліва зіхаціць на яе тонкай руцэ – яго падарунак. А якія размовы яны вялі, пра гэта звычайныя сьмяротныя могуць толькі марыць! "Эротыка ды палітыка" – вось на які лёзунг Лампа замяніла ягоныя трывіяльныя "сэкс, наркотыкі, рок-н-ролл". Магчыма, на інтэлект яна і злавіла Анатоля, бо надта ўжо ён пакутаваў у сям'і, дзе не знаходзіў паразуменьня. Толькі коратка распавёў, што жыве дзеля дзяцей.

Тут, у табары, дзяўчына вельмі пакутавала і шкадавала, што адна. Адной было складана выжыць пасярод гэтае натуральнае дзікасьці. Дзікія паводзіны мужчынаў, пустыя й бессаромныя размовы жанчын, прыніжаючыя правілы, ганебны расклад жыцьця. Гэтыя арабы, грузіны, чачэнцы проста не давалі праходу, вар'яцелі, калі бачылі яе сьветлыя валасы, зграбную постаць. Да сталоўкі дабіралася па-партызанску – хуткімі перабежкамі. Увечары зусім носу за дзьверы пакою не паказвала. На шчасьце, знайшлося выйсьце.

Аднойчы ў чарзе па туалетную паперу (зусім як у савецкія часы!!!) да яе зьвярнуўся стары. Ён прапанаваў ёй сваю паперу, бо мусульмане ж не карыстаюцца, ім не патрэбная!!! Пасьмяяліся, разгаварыліся. На занятках

па чэскай мове ў мясцовай школе для дарослых нешта ў старога не атрымліваецца. Неўзабаве яны дамовіліся, што Лампа яму дапаможа. Сталася так, што, наадварот, ён дапамог ёй. Дзед аказаўся зусім ня просты: ён быў старэйшы за ўсіх сваіх землякоў у табары, што аўтаматычна зрабіла зь яго самую паважаную асобу. Гэтым дзяўчына і скарысталася для асабістае бясьпекі. Дастаткова было раз прайсьціся побач зь ім вакол бараку, як усе дзікуны зразумелі, што да Лампы нельга ня тое што падыходзіць, а нават глядзець у яе бок лішні раз.

Так і пайшло ў іх: яна яму навуку, ён ёй – бясьпеку. У старога, які насамрэч быў ня дзедам, а татам, на радзіме загінула амаль уся сям'я – жонка і тры сыны. Сюды ён прывёз малодшага, якому пашчасьціла падчас "зачысткі" быць у склепе. Ад раніцы да ночы яны маліліся Алагу, а ў вольныя хвіліны пілі гарбату. Лампа хутка даведалася пра іхнія пляны перайсьці мяжу і ўладкавацца ў іншай, "нармальнай", як яны казалі, краіне. Трывіяльна, але яны хоць ведалі, чаго чакаць, аб чым марыць. Яна ж, апынуўшыся сам-насам з сабою, зразумела, што без Анатоля ня вытрывае. А ён не адгукаўся: Інтэрнэт і мабіл маўчалі.

...Гэта толькі яму падавалася, што пазнаёміліся яны выпадкова. Насамрэч кантора пралічыла формулу знаёмства, і Лампа адпрацавала на "выдатна", бо добра ведала, на якіх струнах яго чулай натуры зыграць. Хлопец так і не зразумеў, чаму кату пад хвост пайшла ўся ягоная дзейнасьць, бо сьвята верыў ва ўдачу й чысьціню Лампіных памкненьняў. Нездарма кажуць, што самае бясьпечнае месца – пад лямпай. Вось і ён, літаральна, калі-нікалі знаходзячыся "пад Лампай", быў пад найлепшым кантролем. Анатоль ашалеў ад іх адносінаў, давяраў ёй свае пляны, заўсёды раіўся. У рэдкія дні, калі яны ня бачыліся, лаптоп раскаляўся ад ягоных лістоў. Скарыстаўшы вакацыі, Лампа зьехала дадому зь лёгкім сэрцам – хацела трошкі адпачыць. На яе дамашні адрас пачалі прыходзіць пачкі з падарункамі ад яго, уводзячы родзічаў дзяўчыны ў роспач: мала што з-за мяжы, дык яшчэ і ад жанатага. Іміджу сур'ёзнага палітыка яна яго пасьпяхова пазбавіла, і "там" на яго ўжо высока ня ставілі. Ды і роля Маты Хары дзяўчыне надакучыла. Анатоль жа, як вялікае дзіця, пачаў закідваць яе лістамі, прыніжаўся, маліў застацца хаця б сябрамі. Каб не мяжа, дык пехатою бы за ёю пайшоў. Вось чаму зараз, калі яна нарэшце зноў тут, Лампа ніяк не магла зразумець ягонага маўчаньня.

Тры афрыканцы каля сталоўкі былі апранутыя па-сьвяточнаму, але пазнаць у іх постацях можна было, бадай, толькі чорта. Кампанія шпацыравала па лягеры й даводзіла ўсіх мінакоў да стану дзікага рогату. Белыя крылы Анёла ніяк не пасавалі да яго чорнага твару. Падмарозіла, дарожкі абледзянелі, пераапранутыя нэгры коўзаліся, падалі і рагаталі ўсё грамчэй. Лампа ня вытрымала, выйшла да іх. Пабачыўшы на вуліцы старога з сынам, памахала ім. Той падаўся ў яе бок, пахіснуўся, узмахнуў няёмка рукамі і паваліўся на сьвежы лёд. Пералом на роўным месцы. Чорт-Анёл-Мікулаш падхапілі яго, шкадуючы нагу, на руках аднесьлі да лавачкі. Вось табе і сьвята. Прыехала "хуткая", забрала небараку, Лампа паабяцала дагледзець ягонага сына, пакуль стары вернецца са шпіталю.

У іхным пакоі дзяўчына апынулася ўпершыню. Агледзелася, прапанавала сама заварыць гарбату малому. На вочы патрапіў стос газэтаў ды ча-

сапісаў. Пачала перагортваць і неўзабаве пабачыла знаёмы твар – проста вочы ў вочы глядзеў на яе з каляровага развароту Анатоль. Прагледзела па старонцы ў пошуках інфармацыі – і ў роспачы паваліласяна чужы ложак. Вось яно: тыдзень таму "...быў зьбіты ўначы невядомымі, у непрытомнасьці праляжаў на холадзе некалькі гадзін...". Зараз у коме, "...будзем спадзявацца на лепшае".

Нечакана Лампа адчула фізычны боль ад непапраўнасьці таго, што здарылася. І зайздрасьць – зайздрасьць да старога, бо ён зламаў толькі нагу. Яна ж паламала жыцьцё. Сорамна, што ня першае. На жаль, не апошняе. Як сказаў клясык, "на заходнім фронце безь перамен". Ланцужок бранзалету танюткаю зьмейкаю запульсаваў на дрыжачай руцэ.

## Самагубства па-альбанску

Паліцаі ўжо прызвычаіліся да гэтае штовечаровай забавы. Нават спрачаліся на грошы, ці сёньня гэта зноў паўторыцца. На гэты раз перамог стары пракураны Гонза, што паставіў на візыт Альяшава брата 50 крон. Зразумела, адразу ж пачаў чакаць з напарнікам на заканчэньне працоўнае зьмены, каб абмяняць у сьмярдзючай гасподзе выйгрыш на пару піва. Што праўда, то праўда – нарагаталіся яны сёньня ўвечар так, што перапалохалі вартавых сабак. Тыя нават не брахалі – вылі ўжо больш за гадзіну. Мо, напужалі нават Мікулаша – нешта ня бачна яго ў цемры.

Высокі цёмнавалосы хлопец вызначаўся сярод іншых жыхароў табару тым, што не размаўляў ні на якой мове, акрамя роднае – альбанскае. Табар, у сваю чаргу, вызначаўся татальным яе няведаньнем. Першыя дні Альяш па-дэбільнаму ўсьміхаўся ўсім насустрач, чым выклікаў натуральную нянавісьць большасьці – чаго лыбіцца, пачвара, жыцьцё ж ня цукар. Сваёй сьветлай ды чыстай фірмовай вопраткай ён таксама не прыдбаў сяброў, а, хутчэй, прыцягнуў да сябе ўвагу мясцовых злодзеяў, што прыглядаліся да яе з мэтамі, далёкімі ад прыстойных. Да таго ж традыцыйная чэская кухня, ад якой прыходзілі ў захапленьне афрыканцы ды мясцовыя паліцаі, што таксама харчаваліся ў лягернай сталоўцы, зусім не падавалася яму ядомай. Такім чынам, Альяш пабадзяўся па тэрыторыі пару-другую дзён і запакутаваў ад клясычнае дэпрэсіі. Дзівак-чалавек, не знайшоў роднаснае душы, каб паразмаўляць.

На шчасьце, роднасная душа знайшла яго сама, а каб ня схлусіць, яе да Альяша падсяліў камэндант, якому было надзіва ўсё роўна, зь якой нагоды пакутуе альбанец.  Душа звалася Серж, прыехаў ён зь Віцебску й размаўляў па-беларуску, што, у сваю чаргу, было ўсё роўна Альяшу. Аднак новы сусед быў інтэлігентны і чыстаплотны, да таго ж свой вольны час прысьвячаў вывучэньню чэскай мовы – сьпяшаўся як мага хутчэй інтэгравацца ў новае грамадзтва. Гэта было тое, што і дапамагло. Альяш вельмі хутка навучыўся ад Сержа пары-тройцы абавязковых выразаў. Дзякуючы надзвычайным лінгвістычным схільнасьцям ужо на наступны дзень альбанец даволі хутка дамовіўся зь мясцоваю дзятвой на гульню ў сьнежкі, большасьць зь якіх і прыняў на сваю гаротную высачэзную паставу.

Але вячэрнія забавы, якія так палохалі табарскіх сабакаў, да філялёгіі й лінгвістыкі ня мелі аніякага дачыненьня. Справа ў тым, што Альяш меў старэйшага брата. Зразумела, таксама альбанца. Толькі насуперак малодшаму тоўстага й румянага. Ён трымаў піцэрыю ў бліжэйшым мястэчку, куды Альяшу не было магчымасьці пакуль што выйсьці. Але брат мог да яго прыяжджаць. Ён і наведваўся штовечар. І не з пустымі рукамі. Заўсёды, як толькі зачыніць сваю піцэрыю, адну, але найвялікшую піцу ён прыладжваў да багажніку матацыклу й вёз брату. Спыняўся каля плоту, яшчэ на вольнай тэрыторыі й клікаў паліцая-ахоўніка. Прасіў перадаць Альяшу. А той ужо маячыў побач, але за плотам, на табарскай тэрыторыі. Паліцай важна адказваў, што харчы перадаваць нельга. Карантын. Патрабаваньні гігіены. Брат некалькі хвілінаў стаяў, нібы не разумеючы, што рабіць далей. Потым махаў рукой Альяшу, сядаў на матацыкал і ад'яжджаў зь піцаю дадому. На наступны вечар адбывалася тое ж самае.

Праз колькі дзён паглядзець на братэрскую любоў пачалі зьбірацца сатабарнікі ды іншыя паліцаі. Сцэнар не мяняўся. Толькі Альяш паглядаў на брата чым далей, тым больш адчайнымі вачыма. Народ вакол браў актыўны ўдзел у абмеркаваньні лёсу піцы ды вычвараўся ў красамоўных адзнаках інтэлектуальных здольнасьцяў гэтае сям'і. Усе каму не лянота раілі: "Прывязі дзьве – адну ім аддасі, другую мо брату перададуць!", "Кідай праз плот, мы зловім!" ці наогул: "Найміся лепш на працу да нашае сталоўкі". Альбанец трываў на законным шляху. Бадай, ня лепшы выбар у гэтай сытуацыі.

Як толькі чуўся гук матору ад'яжджаючага матацыклу, Альяш хмурнеў і пачынаў наразаць кола за колам па лягернае тэрыторыі. Паліцаі ішлі да дзяжуркі, каб вызначыцца, хто сёньня ў выйгрышы й будзе частаваць. Сусед Альяша па пакоі пляваў праз плячо і з выкрыкам: "Вось дурань жа... дык дурань..." выпраўляўся па сьлядах маладога альбанца, каб падчас мацыёну на галодны страўнік папрактыкавацца ў ненарматыўнай лексыцы з чужамоўнай граматыкай.

Але сёньня Серж не пайшоў за сябрам. Дзяўчаты з жоўтага бараку запрасілі яго на вячэру з нагоды сьвята Мікалая. Паабяцалі варэнікаў, бульбачкі з часныком ды маслам, а мо і яшчэ чаго гарачэйшага. Альяш таксама быў паклікана, але аддаў перавагу падтрыманьню сваяцкіх сувязяў. Кожныя тры-чатыры хвіліны Серж і вясёлая кампанія магліназіраць, як ля іх вакна праносіцца ў цемры альбанец, нешта пры гэтым мармычачы сабе пад нос. Ён рабіў кола за колам па лягерных дарожках, інтэрвалы паміж яго зьяўленьнямі ў акне станавіліся ўсё меншымі. Нарэшце, ён кудысьці зьнік. "Хіба чорт яго пабраў", – паведаміла кемлівая аматарка варэнікаў, калі па агульных падліках Альяш мусіў бы ўжо два разы аб'явіцца, ды не паказаўся – і прапанавала выпіць за дзіўную Альбанію, што родзіць такіх дзіўных мужчынаў, праз якіх тры тосты Серж адчуў пэўную патрэбу. Ня толькі натуральную ў такіх выпадках, але і надзвычайную – ён павінен быў знайсьці Альяша. Дзяўчаты аж заходзіліся ад жаданьня накарміць гэтае вялікае дзіця чужой культуры.

Дзьверы былі адчыненыя, плэер Альяша ляжаў на ложку не прыхаваны. У пакоі было цёмна і ціха. Але Серж нейкім сёмым пачуцьцём зразумеў, што нешта тут ня тое. Запаліў сьвятло, зазірнуў пад ложак, невядома навошта адчыніў шафу. Нідзе нікога. Выйшаў у прыбіральню.

Поўня кантрастам вызначыла тонкі доўгі сылюэт чалавека, які прыладзіў пятлю на столь ды няўмела, на шчасьце, скарыстаўся самаробнай шыбеніцай – доўгія ногі самымі канцамі падэшваў краналіся падлогі. Дзякуй Богу, гэтага было дастаткова, каб ён не павесіўся насамрэч. Серж падхапіў сябра ці ня ў самы апошні момант. Інстынкт самазахаваньня спрацаваў – Альяш скарыстаўся падпорай і выкарабкаўся. Дзяўчаты ўмомант працьвярозелі, калі пабачылі двух мужыкоў, якія, абняўшыся, плакалі ў прыбіральні. “Ты першы чалавек, якога я пабачыў перад сабою ў новым жыцьці, ты мой сябар навекі,” – хлопец размазваў сьлёзы й смаркачы па кашулі Сержа. “Спадзяюся, што не апошні”, – Серж ласкава ўглядаўся ў ягоныя вочы.

Піцу больш не прывозілі.

## Каханьне за плотам: чортава вясельле

Сорам, злосьць і бясьсільле – вось што адчуваў ён, калі зразумеў, што, пакуль ня скончыцца карантын, выйсьці адсюль не атрымаецца. Падобна было на тое, што ня толькі Мікулаша, але й Каляды ён сустрэне сярод маляўнічых краявідаў Маравіі, на жаль, за кратамі. Гэтыя краты не давалі яму спакою. Калі паглядзець здалёк, дык можна і не заўважыць – такі тоненькі ды зграбны той плот вакол табару. Але як гэта вытрымаць свабодалюбіваму энэргічнаму журналісту, які яшчэ колькі дзён таму хвіліны не ўяўляў бяз працы! Жыцьцё ў стылі “драйв”, бесьперапынны маратон падзеяў, прыколы й гумар – усё засталося ў мінулым, усё зьмянілася кардынальна. Зараз ягоная рэчаіснасьць – манатоннасьць ды патрэба спаўняць нешта нецікавае.

Дзякуй Богу, існуе яна, сапраўдная зорачка ягонага лёсу, дзяўчына, якая нібыта самым небам была пасланая яму насустрач. Мо, каб нарэшце ў свае 35 менавіта побач зь ёю, дваццаціпяцігадовай, ён адчуў сябе сапраўдным мужчынам? Хто ведае, якім чынам была
 пэратасавана ягоная калода, але і на гэты раз джокер выпаў яму – насуперак прымаўцы, каб пашчасьціла і ў гульні, і ў каханьні.

Кастусь на Радзіме быў дастаткова вядомым у сваіх колах чалавекам. Каб ня гэтая сытуацыя, ніколі б ня зьехаў, бо ўсе дзеяньні, усе свае намаганьні прысьвячаў барацьбе за незалежнасьць. Нават пра сям’ю забываўся – ведаў, што неяк вытрымаюць, павінны справіцца самыя, бо ёсьць грамадзкае жыцьцё, ёсьць мэты, шлях да зьдзяйсьненьня якіх ведае ён і ягонае атачэньне.

А зараз ён павінен будаваць з нуля сваё новае жыцьцё ў іншай краіне. Брр, агідна, але “лёс склаўся так...”. Кожная раніца пачынаецца са звароту да свае сілы волі, дзень ператвараецца ў барацьбу за выжываньне асобы. Ці мо за ўтварэньне новае? Але ня трэба хлусіць сабе самому. Раніца прыносіць і прыемныя моманты. Ён ужо прызвычаіўся, што апаўночы атрымае ад Лёлі эратычнае пажаданьне добрага сну, з думкамі аб ёй апалове на сёмую раніцы тая ж “Калыханка” не ягонага мабілу падыме яго. Штодзённая ранішняя sms-ка – і Кастусь выскоквае з ложку, хутка нацягвае джынсы і

вылятае за дзьверы, бо немагчыма ж нават прачытаць гэтае прывітаньне пасярод ненавісных яму суседзяў па пакоі, пад іх недарэчныя падколкі – што яны разумеюць у каханьні!!!

"Сонейка маё, як спалася? Сумую па табе штохвілінна. Прымай мой гарачы пацалунак ..." – далейшыя радкі выклікалі ў яго нетрадыцыйныя эмоцыі, бо Лёля пісала такія рэчы, ад якіх пачырванелі б нават цагляныя сьцены бараку. Недзе на пэрыфэрыі яе эпісталярнай спадчыны засталося паведамленьне аб нараджэньні там ягонага дзіцяці, у новым жыцьці Кастуся такое недарэчнае. Ён быў быццам у ліхаманцы. Калі-нікалі ў лістах Лёлі трапляліся граматычныя памылкі, але гэта нават падабалася, бо рабіла закаханага як быццам вышэйшым, разумнейшым за дзяўчыну, дазваляла адчуваць сябе яе гаспадаром. На пачатку адносінаў ён марыў, што стане для яе накшталт настаўніка, зможа яе нечаму навучыць, але хутка стала зразумела, што некаторым рэчам дзяўчо само навучыць каго хочаш.

Ён акунуўся ў гэты раман увесь, з галавы да ног, як кажуць, "сьпёкся" хлопец. Каб не гарачы імпэт сяброўкі ды не адмысловыя абставіны, ён, можа, ніколі й не зьвярнуў бы на яе ўвагі, бо там, у мінулым жыцьці, вакол яго таўкліся самыя вытанчаныя сталічныя прыгажуні. Але тут, пазбаўлены інтэлектуальнага асяродзьдзя, сярод адвечнай прыроднай прыгажосьці гэтая непасрэдная маладзіца з брутальнай фрызурай падавалася яму амаль што Лаўрай – толькі, на шчасьце, зусім не цнатлівай.

Сёньня ж Мікулаш – трэба нешта выдумаць, каб павіншаваць любую, бо яна ж зусім яшчэ дзіця, ёй падабаюцца маленькія сюрпрызы. Хутка прабягаюць пальцы па кнопках мабіла – адказ гатовы, спатканьне на старым месцы ў той жа час. Яны дарослыя людзі і могуць рабіць, не саромеючыся, што хочуць. Вось толькі дзе? Гэтае пытаньне, што ўвесь час займала яго, бессаромна вызірала і зь яе вачэй, чыталася ў яе рухах, агортвала яе трохі спэцыфічным пахам. Недзе ён чытаў, што гэта фэрамоны. Ці эндарфіны? Якая розьніца, калі гэтая жанчына як быццам створаная для яго.

На працягу дня яны толькі пераглядаліся й перапісваліся, бо вакол іх шмат было зайздросных вачэй – так-так, каханьне ды шчасьце адных заўсёды выклікае ў іншых розныя пачуцьці. Лёля самааддана пасылала яму паветраныя пацалункі праз усю сталоўку, калі бачыла Кастуся ў агульнай чарзе, ці падбягала ззаду й закрывала яму вочы маленькімі пяшчотнымі рукамі, якія ўвесь час пахлі фарбамі – мастачка ж! Зрэдку, калі суседзі былі занятыя гульнёй у футбол (ёсьць у жыцьці шчасьце!), ён выклікаў яе sms-кай да сябе ў пакой, дзе яны ня толькі малявалі, дай Бог ім здароўя. Але часьцей за ўсё ім заставаўся толькі вечар. Добра, што ён на пачатку зімы прыходзіць рана і прыводзіць з сабою спрадвечную маладзёвую сяброўку, такую доўгачаканую цемру.

Прыхаваўшы ў кішэні маленькага шакаляднага Мікулаша, які дастаўся яму зь вячэраю, Кастусь накіраваўся на край табарнай тэрыторыі, да развалінаў старога падмурку, дзе захавалася яшчэ ад вар'яцкіх іншаземных рук старая лавачка пад ліхтаром: маладым сьветла, і ніхто ня бачыць з-за адлегласьці. Лёля ўжо чакала яго, кінулася насустрач. Абхапіўшы ласкава, прытулілася. "А ў мяне для цябе сюрпрыз!" – радасна працягнула цукерку. Ён засьмяяўся й перадаў, натуральна, з вуснаў да вуснаў сваю: такую ж самую. "Ну, вось і заручыліся, маё сонейка."

Калі яны троху супакоіліся й вярнулі лавачку да першапачатковага стану, бо ад Лёліных габарытаў яна троху пасунулася, надышоў час размовы. “Пра што ты марыш, гарачая мая?” “А ты па чым тужыш?” Перад іх вачыма зь вячэрняе імглы паўставаў сылюэт гары, што была на адлегласьці каля кілямэтру, але, зразумела, ужо на свабодзе, за плотам, і таму была для іх недасягальнай. Яны амаль маліліся на недасяжную гару, гэта стала ўжо часткай штовечаровае гульні. “Бачыш той агеньчык, што мільгае ў хатцы на яе вяршыні? Я мару там быць з табою, каб гэта мы, а не нехта іншы запалілі гэты агеньчык. А ён бы разам з нашым каханьнем сьвяціў некаму іншаму, вось так, маё Сонейка!” – і яна засьмяялася шчасьліва й бесклапотна, як быццам званочак на лузе недзе ў яго родных мясьцінах.

Кастусь падхапіўся й выцягнуў з кішэні аркуш паперы. “Паслухай, каханая, я зусім забыўся, сёньня сьвята, хацеў табе зрабіць сюрпрыз. Дарваўся ўрэшце да Інтэрнэту й знайшоў шмат цікавага. Вось, глядзі, сьпіс розных прыгожых мясьцінаў, куды мы можам патрапіць разам, ды адрасы гатэляў, дзе нішто ня зможа нас патурбаваць”. Яны схіліліся над гэтым пропускам да шчасьця. Яе смаляныя валасы перабльталіся зь ягонымі сьветлымі пасмамі. – “Ой, навошта маніш, Сонейка маё, гэта ж вясельны тур? Ты ж ужо жанаты, я ўсё разумею...” – але хітрыкі яе вочак зазьзялі ад прадчуваньня так доўгачаканай прапановы. “Ласка, тое, што было, – у мінулым, зараз ёсьць мы з табою, жонцы я прапанаваў разысьціся, справіцца й сама, так што справа амаль што вырашаная. Лепш скажы, які гатэль ты выбрала для нас?” – “Ня так хутка, любы, пасьпеем, зараз я выбіраю твае абдымкі!”

Яны не адчувалі больш холаду, іржавае паверхні старой лавачкі, што рыпела пад распаленым жаночым целам, тактычнага “Кхе-кхе” нейкага дзеда ў чырвоным плашчы й капелюшы. Перад імі маячыў той агеньчык наверсе гары, што асьвяціў гэты шлюб за кратамі. Яна глядзела ў ягоныя вочы, а ён бачыў перад сабою зьдзяйсьненьне – але яшчэ не разумеў, што зьдзейсьнілася. Толькі адчуваў, што гэта быў першы крок да пад’ёму – і вось ён ужо не апошні, калі-небудзь і ён, Кастусь, узначаліць Сьвята жыцьця, стане зноў першым.

Маленькі сьмярдзючы чорцік недзе пад лавачкай чыхнуў, пачухаў азадкам прамёрзлую зямлю пад асклізлым хвастом і пацягнуўся за тым старым дзедам з кіем – шкада пакідаць такую “цёплую” кампанію, але яго чакае новая праца, тут усё вырашана.



**МАЎЧУН Анатоль** — нарадзіўся ў самым пачатку 1930-х гадоў у вёсцы Абруб на Глыбоччыне. Пасьля Другой сусьветнай вайны разам з бацькам выехаў жыць у Польшчу на “вернутыя землі” ў Памор’і. Зараз жыве ў Познані.

Друкаваў свае творы ў беластоцкай газэце “Ніва”.

# Арэна

Было пад поўдзень. Цягнік спыніўся, кандуктар абвесьціў назву станцыі... А за хвіліну пэрон апусьцеў, і залягла цішыня. Толькі сонейка грэла, можна сказаць, на ўсю моц — на гэта ж лета — ды конікі недзе ў траве палохалі цішыню сваёй музыкай.

Выйшла, што я сёньня быў адзіным пасажырам, які затрымаўся ў гэтай мясьціне. Вяскоўцы, пэўна, даўно карыстаюцца аўтобусным транспартам або проста езьдзяць на сваіх машынах. Куды ім спатрэбіцца. Бо каму цяпер хацелася б ісьці зь вёскі да станцыі два, а мо і тры кілямэтры, да таго ж яшчэ і з багажом часам. Зараз гэта ня тое, што было паўстагодзьдзя таму...

Са станцыі, мінуўшы вакзал, я выйшаў на прамую дарогу, дакладней кажучы, проста ў лес. Лес тут быў кругом, толькі кавалак за станцыяй, побач лесу, быў вузкай паласой засеянага жытам сялянскага поля. Між полем і станцыяй стаялі два домікі. У адным зь іх жыў некалі мой сябра Франц, сын царскага салдата, які трапіў у нямецкі палон. Пазьней гэты палонны ажаніўся зь немкай, сам ён быў родам недзе з-пад Кельцаў, і так на гэтай зямлі Паморскай дачакаўся (але толькі пасьля Другой сусьветнай вайны) польскай дзяржаўнасьці.

Дарога ўвесь час вяла лесам. Надвор’е было цудоўнае. Навокал цішыня зьвінела птушынымі галасамі. Ледзь улоўны пошум дрэў, якія гаманілі пра нешта зь ветрам, выклікаў настрой крыху таямнічы, але радасны. Лес падаўся мне такім, як некалі: знаёмым, блізкім. І аж цяжка было паверыць, што столькі часу прайшло з той пары, як я разьвітаўся з гэтай ваколіцай.

Сягоньня надарылася нагода быць адгэтуль недалёка. Грэх было не наведаць гэтых мясьцінаў, дзе маладосьць дасьпявала. І вось я на дарозе, па якой столькі разоў вандраваў. Калі з бацькам, калі сам... Ажылі ўспаміны, уяўленьні зьліліся з гаманой лесу, і мне здалося, што быццам чую, як дрэвы адгукаюцца да маіх думак: “О, твой бацька, гэта быў слаўны муж, бываў ён тут і зімой, і ўлетку, любіў прыроду...”Падбадзёрылі мяне такія ўяўленьні, пачуў я ўдзячнасьць усяму, што мяне акружае: і лесу, і ўяўленьням пра мінулае. Я з непрыхаванай узрушанасьцю ўслухоўваўся ў гаману прыроды і маіх успамінаў. А мой бацька сапраўды любіў прыроду. І гэты лес нагадваў яму родныя мясьціны, тым больш, што тутэйшыя крявіды ў многім падобныя да тых далёкіх нашых прастораў. Тут усюды сустрэнеш і бярэзьнік, і сасоньнікі. Ёсьць тут і тарфяныя балоты, і багна з чарніцамі-п’яніцамі. Кругом процьма азёр і маляўнічых лагчын ды ўзгоркаў...

Зрэшты, для мяне гэтая лясная дарога зь вёскі на станцыю была некалі пачаткам усіх дарог у сьвет – і блізкі, і далёкі. Бо паўстагодзьдзя таму, каб падацца куды, адзіным сродкам маглі быць толькі калёсы, ровар, ну і самым надзейным – цягнік вось з гэтай самай станцыі. Таму пасьля мінулых доўгіх гадоў, калі я ізноў тут апынуўся, не маглі не ўваскрэснуць успаміны тадышніх, мо крыху і прызабытых вобразаў майго жыцьця. Так як і дзяцінства, не праляцела ж маладосьць бясьсьледна, быццам праз сон ці пустыню. Частка яе ажыцьцяўлялася, між іншым, вось і ў гэтай вёсцы, у якую іду зараз гэтай вось дарогай. Гаворка ідзе пра Семчына (за немцамі Heirichsdorf). Гэта адна са старэйшых вёсак каля Драўскага возера, якое ў Польшчы займае другое месца па глыбіні і мае шмат астраўкоў і заліваў. (Аднойчы на Вялікдзень мы вырашылі з Янакам Пшыкрдзіньскім абысьці возера кругом па беразе. Узялі з сабою плед, газэты са сьвяточным гумарам, шмат сьвяточных харчоў і пайшлі каля возера. Праўда, нам не было сьпешна. Па дарозе часта адпачывалі, то елі, то чыталі, захапляючыся краявідамі. Вярнуліся позна, канца возера так і ня ўбачыўшы. Толькі адзін сусед з нас пасьмяяўся, што мы хутка справіліся, бо прайсьці 65 кілямэтраў без падрыхтоўкі ён бы не рызыкнуў.)

Ці вылучаецца Семчына нечым асаблівым? Ну, скажам, пра гэтую вёску Г. Сянкевіч намякае ў сваім “Патопе”. Для мяне, можа, тым, што тут пачаў я, хоць зь вялікім спазьненьнем, хадзіць ізноў у школу. Але, відаць, найперш тым, што калі мы па шматлікіх вандроўках пасьля ваеннай неразьбярыхі тут затрымаліся, хоць і ў апусьцелай старой хаце ў канцы бакавой вуліцы, то маглі ўжо адчуць пачатак нейкай стабільнасьці. Раней на “вернутых землях” панавала замяшаньне. Тут жылі немцы і былі яшчэ таксама людзі, зьвезеныя немцамі з амаль усёй Эўропы. Неўзабаве прыехалі рэпатрыянты, зь якімі і мой бацька прыцягнуў мяне сюды (хаця сам адпакутаваў сваё недзе ў лягеры Osnabruck), думаючы, што тут можна будзе жыць спакайней. Прыяжджалі сюды і тыя, хто разьлічваў толькі на пажыву. Паўсюдна чуліся мовы ўсіх суседзяў Польшчы. Пасьля яшчэ толькі ў вёсках моладзь вечарамі сьпявала па вуліцах “Распрагайце, хлопцы, коні...” або “П’ём мы гарэлку, п’ём мы гарэлку, будзем піць віно...” Некалькі год мінула, пакуль людзі пакінулі дома карыстацца мовамі тых рэгіёнаў, адкуль яны прыехалі. Нарэшце пачалі паміж сабой жаніцца, ехаць у гарады і расплывацца ў моры штодзённасьці...

Зь Семчынам у мяне зьвязана і яшчэ адно здарэньне, якое было хоць і дробнае, але прынцыпова паўплывала на мой сьветапогляд. Мой бацька там наведаў раз суседа, які абаграваў памяшканьне, спальваючы кніжкі, пакінутыя нямецкім гаспадаром. Бацька прынёс тады некалькі расейскамоўных кніг. Між імі "Історию Малой России" ў трох частках (выданьне 1842 году, надрукаванае "съ изданія 1830 г."). З гэтай кніжкі я ўпершыню тады даведаўся пра Вялікае Княства Літоўскае і пра агульныя рысы пачаткаў гісторыі ягонай (паводле кнігі "Литовской России").

З такімі роздумамі-ўспамінамі набліжаўся я амаль да канца лесу. Далей было па абодвух баках дарогі поле, закалыханае лёгкім ветрыкам залацістай збажыны. На канцы дарогі, якая патанала недзе сярод дрэваў палацавага парку, бліснулі "зайчыкі" ў шыбах едучай па дарозе ў маім напрамку машыны. Такое ўмяшальніцтва ў мой заварожаны ўспамінамі настрой нечага нечакана чужога прымусіла мяне зьмяніць маршрут. Я павярнуў з дарогі ў лес, спадзеючыся дайсьці да шашы, а там далей да возера, адкуль ужо можна было кінуць вокам на поле, дзе некалі гаспадарыў мой бацька. Дый само возера Вільчкова! На якой жа колькасьці карцін увекавечаны ягоныя берагі? Частка гэтых рысункаў і малюнкаў (вясковага мастака-немца) выпадкова захавалася ў мяне і да сёньня. (Пра гэтае возера людзі казалі, што пад ім затопленыя нямецкія фабрыкі. Але ці праўда гэта?)

А вось як тыя краявіды з карцін выглядаюць сёньня, варта паглядзець. Увайшоўшы ў лес, трапіў я на сьцяжынку сярод густых соснаў, але хутка яе згубіў. Пачаўся паміж дрэў густы зарасьнік, празь які было цяжка прабрацца. Трэба было нават крыху зьмяніць і напрамак. Змарыўшыся і спацеўшы, нарэшце... аслупянеў ад зьдзіўленьня. Пасярэдзіне гушчара скрывалася прасторная паляна, да якой, здавалася, не было ня толькі ніякай дарогі, але нават сьцежкі прахожай. Расла там роўненька, хаця і ня кошаная, як на сенажаці, трава. Здаецца, было гэта царства конікаў і пчол. Ды цішыні. Адчувалася тут нешта ўрачыста-сьвяточнае. Калізэй прыроды? Я ж тут жыў некалі недалёка. Часта як хлопец блукаў па лесе і ні сам гэтага месца ня бачыў, і ніхто пра яго не гаварыў. Відавочна, успамінаючы ўсю дарогу пра мінулае, узрушаны шкадаваньнем непаўторнага, цяпер кожную зьяву прыроды буду бачыць у чароўных колерах. А такая паляна магла служыць пляцоўкай для муштры, скажам, нямецкіх спэцслужбаў. Была ж тут недалёка такая школа, якую сам Гітлер наведваў. А можа, паляна засталася з прагісторыі, і некалі тут чараўніцы рыхтавалі свае мётлы да палёту на лысую гару?

– Ты што, на лысай паляне заблудзіўся? – пачуў я зьнянацку за сабой. – А можа, на начлег месца шукаеш?

Я аж уздрыгануўся ад нечаканасьці. Некалькі крокаў ад мяне стаяў майго росту чалавек з іранічнай усьмешкай на твары. "З-пад зямлі вырас ці што?" – падумаў я, гледзячы на немаладога ўжо мужчыну.

– І што маўчыш? – пачуў я быццам знаёмы голас.

– Фэлікс? – вырвалася ў мяне зь недаверам.

– О, здагадаўся! Выходзіць, што мы ня надта зьмяніліся. Ну. Прычоска ў нас, скажам, парадзела. Але што цябе прывяло ў гэты лясны гушчар? Ды якое ліха цябе ўвогуле гоніць па белым сьвеце ў такую сьпекату?

– А што? Можа, ты тут сторажам, калі так цікавісься?

– Сам жа ты некалі казаў, што “кіем таго, хто не пільнуе свайго”, – засьмяяўся Фэлікс. – Але ці ня лепш на хвілінку сесьці на траву ў засені, каб пагаварыць, з сонечнымі праменямі не спаборнічаючы?

Мы выгодна селі, выпрастаўшы ногі, і я пастараўся паясьніць:

– Быў у радні дык і сяброў рашыў наведаць. Толькі перш над возерам пабыць хацеў. Ну і глянуць на колішняе бацькава поле.

– Поле твайго бацькі і ўсю зямлю за возерам войска на палігон яшчэ за нашай маладосьцю забрала. А сяброў? Ці хто з нашага пакаленьня ў вёсцы яшчэ застаўся? Дый калі хто застаўся, то пытаньне, ці будзе такі пэнсіянэр зацікаўлены ўспамінамі таго пасьляваеннага часу? А і ты сам, што асабліва цікавае захаваў у памяці? Можа, тое, што калхозьнікі з суседняга каапэратыву хацелі міліцыю клікаць, калі ты іхныя калёсы з драбінамі фатаграфаваў, бо палічылі, што робіш гэта на загад заходніх шпіёнаў?

– Пастой жа ты! Калхозьнікамі ў нас тады называлі радыёкропкі, да кожнага гаспадара былі яны падключаныя з радыёвузла. А здымкі калёсаў хацелі рабіць чыгуначнікі са Шчэціну. Яны ж у рамках супрацоўніцтва “горад – вёсцы, вёска – гораду” ўвесь дзень рабілі ў полі рамонт гаспадарчых машынаў, а вечарам выступалі ў п’есе Гогаля ў залі Фэльціхі для вясковых гледачоў.

– Калі ты такі дакладны, дык пэўна ведаеш, што крыху пазьней, – загарачыўся Фэлікс, – усе машыны ад вяскоўцаў пераняў РОМ (дзяржаўная станцыя). Экспэрты ацанілі, што тыя машыны – ужо ні да чаго не прыгодны лом. А лета было сухое, і жыта пачынала сыпацца...

Слухаючы ягоныя выказваньні, я прыгадаў, як ён любіў зьдзеквацца зь мяне. Пакуль бацьку ўдалося гаспадарку неяк на ногі паставіць, зь ежай было туга часам. Зьбіраў я шчаўе, а цётка зь яго халаднік рабіла. Фэлікс тады перш дапытваўся, з чаго той халаднік варым, якія прыправы дадаём. А потым насьмейваўся: “А не забыўся цётцы кветак з агуркоў прынесьці?” Або чым іншым дакучаў. Бо ў іх гаспадарка была багатая. А вось цяпер, калі аб ім самым хацеў што даведацца, адказ быў кароткі: “Усё магло быць лепш”.

А дзень пачаў да вечара схіляцца. Неба зрабілася шэрым і, здавалася, што і дажджу не пашкадуе.

Мой сябра схамянуўся. Прапанаваў падкінуць мяне на станцыю. І, каб я сабе не забіваў галаву ўспамінамі, раіў: “Шкада часу і нэрваў.” А я, ідучы да машыны, запытаўся, што сталася зь велізарнымі рыцарамі з дрэва, якія з алебардамі ўчатырох пільнавалі лесьвіцы ў палацы, у якім цяпер знаходзіцца сярэдняя школа.

– Ім пашанцавала, – сказаў ён, – мужыкі не пасьпелі парэзаць іх на дровы, цяпер яны зарабляюць грошы, стоячы ў музэі ў Шчэцінку.

“Па-мойму, – дадаў ён праз хвілінку, – усялякае строцьце, тыя музэі, гісторыя, процьма нацый, усё гэта зьяўляецца тармазам прагрэсу, які жыцьцё мусіць пераадольваць на шляху ў імкненьні да новых дасягненьняў”.

Я ўжо больш пытаньняў сябру не задаваў, толькі задумваўся: навошта я ўлез на тую паляну? Арэну непрадугледжаных здарэньняў. Хаця падзеі дня не збыліся ж бяз выбару майго рашэньня... Дый лепш самому праверыць рэчаіснасьць, чым давяраць сказанаму блізарукім ці дальтонікам...

Разьвіталіся мы каля станцыі. Машына Фэлікса мільганула маланкай і зьнікла ў цемры лесу. Крыху пазьней я, едучы ў вагоне, глядзеў у вакно, па шыбіне якога бубнілі кроплі дажджу, і ў некаторыя моманты цяжка было разабрацца, якія станцыі мінаем. На адной убачыў на сьцяне вялікага дому рэкляму са здымкам Фэлікса! “Найздаравейшы халаднік...!”

Што ж, значыць, у кожнага свая непадрыўная ісьціна....

## Кліч

Крывёй і попелам суседзі,
вятры – пяском спакон вякоў
нашых падзей сьляды зацерці
імкнуцца. Нам гатовы зноў

накінуць ролю – ў нашай хаце! –
чужым пакорных х а л у ё ў.

Дык дзе ж паэты? Бард дзе шчыры,
які не пашкадуе струн,
ў людзкія сэрцы звонам ліры і
праўдай ўдарыць, як пярун?

Складзе пра продкаў нашых эпас,
за годнасьць стане змагароў...

Прачніцеся ж пакуль ня позна!
А мо памерлі ўсе? Ну што ж,
не пашкадуе вецер жвіру...
й магілаў зграя груганоў...

*19 студзеня 1998 году*



**МУРЗЁНАК Пётр** – нарадзіўся 26 лютага 1930 году ў вёсцы Чарэмушнікі Падзісенныя Пастаўскага раёну Віцебскай вобласьці (тады было Віленскае ваяводзтва Польшчы). У школу пайшоў з шасьці гадоў і да 1939 году скончыў тры клясы польскай школы. З 1939 па 1941 год вучыўся ў савецкай школе. Пры нямецкай акупацыі, пасьля выгнаньня немцамі з партызанскай зоны ў 1943 годзе, жыў у Паставах, дзе скончыў 6-ю клясу. У 1945 годзе закончыў сямігодку савецкай школы. З 1946 па 1949 год вучыўся ў Пастаўскай пэдвучэльні.

1949-1950 навучальны год працаваў настаўнікам Вайшкунскай сямігодкі Пастаўскага раёну. У 1950 годзе пачаў працаваць настаўнікам Васілінскай сямігодкі, адкуль быў узяты ў армію, дзе праслужыў роўна тры гады. Пасьля арміі зноў працаваў настаўнікам. З 1954 па 1959 год вучыўся завочна ў Мазырскім пэдагагічным інстытуце на фізыка-матэматычным факультэце.

Жанаты. Жонка, Даната Генрыхаўна, таксама настаўніца. Выхавалі двух сыноў, Пятра і Генадзя.

# Нявыдуманыя гісторыі з жыцьця

## Трагічнае каханьне

*Ганна – красачка дзяўчынка,*
*Рост у меру, тонкі стан,–*
*Пазайздросьціць ёй былінка,*
*Што аздобіла курган.*
*Вочы Ганьніны – дзьве зоркі,*
*Броўкі – выгібы крыла,*
*Грудкі – дзьве блізьніцы – горкі,*
*Як сад, Ганна расьцьвіла.*

Так пісаў Якуб Колас пра прыгажуню Ганну ў сваёй паэме “Сымон-музыка”.

Я ж вам хачу расказаць пра другую прыгажуню Беларусі, толькі яе ўжо звалі Аліна. Усё, аб чым я буду расказваць, – шчырая праўда, аб чым мне расказала мая жонка Даната, якая была сьведкаю тых сумных падзеяў. А старэйшыя сёстры Данаты былі сяброўкамі Аліны.

Дзея адбывалася пры Польшчы ў Заходняй Беларусі, калі дзяўчыне, якая выходзіла замуж, трэба было мець пасаг: падушкі, пярыну і шафу з адзеньнем. Ды яшчэ зямлі гэктары са тры, што было самым дарагім для селяніна. Па-другое, у большасьці выпадкаў лёс маладых вырашалі бацькі, не зьвяртаючы ўвагі на каханьне. Жанілі і выдавалі замуж па разьліку: маладую прыгожую дзяўчыну выдавалі за нялюбага старога, бо ён быў багаты, а малады хлопец браў старую, калі ў яе было многа зямлі. Добра ведаю адзін выпадак, калі я працаваў першы год настаўнікам у вёсцы Вайшкуны Пастаўскага раёну. Хлопца звалі Андрэй. Ён мне расказаў пра сябе. Служыў ён парабкам у адной багатай сялянкі, якая мела многа зямлі і лесу. Было яму 20 год, а яна была старэйшая за яго на цэлых 30. І пажаніліся. У 1949 годзе яму было 30, а ёй ужо 60. Едучы аднойчы з кірмашу на сваёй кабылцы (толькі ў гэты час пачалі арганізоўваць калгасы, і некаторыя збывалі коней – усё роўна адбяруць), ён і кажа: “Маю дзьвюх кабылак і ня ведаю, як збыць”. Пытаюся: “А дзе ж другая?” – “На печы”, – кажа. Што ж, такія часы былі. Але вернемся да нашай гісторыі.

Нарадзілася Аліна ў мястэчку Дунілавічы (цяпер Пастаўскі раён Віцебскай вобласьці) у беднай сялянскай сям’і. У бацькоў яна была адна. Бацькі выхавалі яе добрай, паслухмянай, працавітай, добразычлівай да людзей. Любілі яе ўсе: і старэйшыя, і маладзейшыя, і дзеці. Яна была заўсёды вясёлай, жыцьцярадаснай, прымала актыўны ўдзел у розных мерапрыемствах Дунілаўскага касьцёлу, кіравала падрослымі дзяўчаткамі ў час працэсіяў, вучыла іх, як паводзіць сябе ў час маленьня, як прыслугоўваць ксяндзу. І вырасла яна вельмі прыгожай. Падабалася яна вельмі многім хлопцам. А ёй падабаўся толькі адзін – Мар’ян Сівіцкі.

Бацькі Мар’яна жылі на хутары, недалёка ад Дунілавіч, на беразе маляўнічага возера Сьвідна. Жылі заможна, мелі зямлю, прыгожы дом, вялікі сад. Бацька быў доктарам, а пры Польшчы дактары добра зараблялі. Маці была хатняй гаспадыняй, але мелі яшчэ і прыслугу. Як выхоўваўся хлопчык Мар’ян, цяжка сказаць. Канечне ж, бацькі бераглі сваю рэпутацыю. У іх ён быў таксама адзін. Усе бацькі сваіх дзяцей любяць, а калі ў сям’і толькі адзін – тады тым больш. Нельга сказаць, што ён быў эгаістам, але каханьне часам робіць чалавека непрытомным, калі гэтаму каханьню перашкаджаюць бацькі. Вырас Мар’ян і закахаўся ў Аліну.

Вось так і пакахалі адзін аднаго Аліна і Мар’ян. Ён вучыўся ў Вільні таксама на доктара. Улетку і ўзімку прыяжджаў на канікулы. І гэта былі для іх шчасьлівыя імгненьні. Вырашылі пажаніцца. Мар’ян пачаў размову з бацькамі. Бацька яго быў прагрэсіўных поглядаў і ня вельмі супярэчыў выбару сына. А з маці былі справы горшыя. “Толькі праз мой труп”, – як кажуць у народзе. Як жа яна магла ажаніць свайго сына, зь вядомым прозьвішчам доктара, зь беднай сялянкай – “мужычкай” – як яна лічыла. І ніякія перамовы і просьбы на каленях яе не пераканалі. А ён Аліну вельмі кахаў. Кахала і Аліна яго. Ён не мог уявіць жыцьця безь яе. І вось, у час апошняй гутаркі з маці, якая ўсё стаяла на сваім, у час вялікай душэўнай узрушанасьці, Мар’ян выстраліў у родную маці і пабег да Аліны. Каб нікому яна не дасталася – застрэліў і яе. Маці Аліны, падаіўшы карову, вярталася ў хату. Пачула стрэл і адчула нядобрае. Разьмінулася з Мар’янам на парозе. Глянула ў спальню. На ложку ляжала Аліна, сьцякаючы крывёй.

Страшная вестка аб сьмерці Аліны разьнеслася з хуткасьцю маланкі па мястэчку і навакольных вёсках. Плакалі ўсе. Прыехала паліцыя, шукалі Мар'яна, ды нідзе не знайшлі. А ён хаваўся на дрэве габрэйскіх могілак, якія былі разьмешчаныя праз дарогу з каталіцкімі, чакаў пахаваньня маці і Аліны. Але выявілася потым, што маці засталася жывой, хаця і цяжка параненай.

Хавалі Аліну ў цудоўны чэрвеньскі дзень у моры кветак і моры сьлёз. Сабраліся людзі зь мястэчка і з усёй ваколіцы. А Мар'ян сядзеў на дрэве і назіраў за ўсім, таксама абліваючыся сьлязамі. Калі пачало цямнець, Мар'ян зьлез з дрэва, прыйшоў да магілы Аліны і на бліжэйшым ад магілы дрэве выразаў нажом: "Аліна прагне белых ружаў". Потым абняў магілу і застрэліўся, дзе яго і знайшлі. Пахавалі яго каля могілак, бо, па хрысьціянскіх законах, самазабойцам на могілках месца няма.

Вось чым скончылася маміна нязгода. Маці доўга лячылася, нікуды не выходзіла з дому, саромелася людзей, шкадавала аб тым, што здарылася, але было ўжо позна. Узьненавідзелі яе і людзі.

Зараз мы жывём у зусім іншым веку. Слова "пасаг" пайшло ў небыцьцё. Але часамі і зараз некаторыя бацькі хочуць умяшацца ў жыцьцё маладых. Не рабіце гэтага, бо гэта можа ня скончыцца дабром.

А пра Аліну народ склаў песьню:

*У аўторачак раненька,*
*Чуць сонейка ўзышло,*
*Прыйшоў Мар'ян да Алі*
*Сказаць ёй пра ўсё.*
*- Аліна дарагая,*
*Што я табе скажу:*
*Забіў я маму родну*
*І сам сябе заб'ю.*
*- Навошта нам страляцца,*
*Навошта так рабіць,*
*Калі мы можам весела*
*З табою век пражыць.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сьпявалі яе па-беларуску і па-расейску ня толькі ў Пастаўскім раёне, а па ўсёй Беларусі. Калі нам давялося пабыць на Беларускім Палесьсі, пачулі гэтую песьню і там. Людзі былі ў захапленьні, калі Даната расказала ім гісторыю песьні.

## Зламаныя лёсы

Чым больш мы сталеем, тым больш хочацца вярнуцца ў нашую маладосьць – вясну нашага жыцьця. Прыемна ўспомніць першыя нясьмелыя крокі падыходу да дзяўчыны, першы танец, першыя спатканьні. Маладосьць нашая прыпала на пасьляваенныя галодныя і халодныя гады. Хадзілі

ў саматканым адзеньні і ў ботах на драўляным ходу. Але нам было добра, бо мы былі маладыя.

У 1946 годзе я паступіў у Пастаўскую пэдагагічную вучэльню, дзе давалі нам невялікую стыпендыю і кармілі за яе два разы ў дзень: сьнеданьнем і абедам. Жылі ў інтэрнаце. Пакоі былі разьлічаныя на 11 студэнтаў з адным сталом і адной печкай-шчыткам. Хатнія заданьні выконвалі па чарзе, бульбу варылі на вячэру – таксама па чарзе. Ложкаў не было. Дырэктар пэдвучэльні Паныш А.С. прывёз нам гарбылёў (аполкаў), цьвікоў і сталярныя інструмэнты і сказаў: "Зрабіце сабе ложкі". Ну і рабілі. Вядома ж, якія былі з нас майстры. Памятаю ложак Віктара Б. У яго ён атрымаўся чамусьці высокі. Калі ён засынаў, то зь яго часам жартавалі. Трэба было толькі крыху папіхнуць, і ложак складваўся разам зь Віктарам на падлогу. Гэта былі сьмех і сьлёзы. Цяжка было. Але ж жылі і вучыліся.

Добрых успамінаў заслугоўвае дырэктар пэдвучылішча Паныш Антон Станіслававіч, былы франтавік, які многа бачыў гора і сьлёз. Ён быў для нас як родны бацька, клапаціўся аб нашым быце, але што ён мог зрабіць большае ў тыя бедныя гады? Ніколі не забудзем нашых цудоўных выкладчыкаў: Марыю Вікенцеўну Ясюнас (загадчыцу вучэбнай часткі), якую мы называлі мамай, Селіванчыка Аляксандра Міхайлавіча – выкладчыка расейскай літаратуры, Рыко Алену Афанасеўну – выкладчыцу матэматыкі, Сасноўскага Барыса Афанасевіча – выкладчыка фізыкі, Кулікоўскую Валянціну Іванаўну – мовазнаўцу, Лідзію Цімафееўну – выкладчыцу гісторыі, Лідзію Якаўлеўну – выкладчыцу біялёгіі, Надзею Аляксандраўну – выкладчыцу беларускай мовы і літаратуры, Надзею Осіпаўну – выкладчыцу пэдагогікі і псыхалёгіі, Хмырова Мікалая Іванавіча – кляснага кіраўніка і выкладчыка ваеннай справы і фізкультуры, і іншых.

А ў суботу вечарам у вучэльні праводзіліся розныя мерапрыемствы, прысьвечаныя палітычным сьвятам, чыталіся лекцыі на міжнародныя тэмы, лекцыі па розных прадметах, арганізоўваліся сустрэчы з вайскоўцамі і г.д. Сіламі студэнтаў ставіліся п'есы па праграме. А пасьля кожнага мерапрыемства былі танцы пад наглядам дзяжурнага настаўніка. Музыкантамі былі студэнты Мышко Міша і Міхасёнак Лёнька.

На першым курсе знаёміліся між сабой, прыглядаліся адзін да аднаго. Пасябраваў я з добрымі хлопцамі: Кіёнкам Генадзем, Бараноўскім Пятром, Сіповічам Чаславам, Дзеравянкам Міхаілам і іншымі. А зь Яўгенам К. мы сядзелі за адным сталом роўна тры гады. У двух паралельных клясах першага курсу было многа дзяўчат, нашых равесьніц. І якая была дарагая ўсьмешка дзяўчыны, якая табе падабалася! А з усьмешкі і жартаў пачыналася сяброўства, а потым і каханьне. А ўжо да канца другога курсу можна было вызначыць і пары закаханых: Аркадзь К. і Галіна Г., Валодзя С. і Аня С., якія потым і пажаніліся. Мне спадабалася дзяўчынка Даната Мажэйка, асабліва пасьля яе выступленьняў на сцэне вучылішча ў розных ролях. Вельмі добра ўжо ўсё ў яе атрымоўвалася, як у прафэсійнай артысткі. А я ж марыў мець жонку ня менш як артыстку. 30 красавіка 1948 году пасьля танцаў я прапанаваў правесьці яе да інтэрнату, дзе яна жыла. І яна пагадзілася, а я быў ад гэтага на сёмым небе. І гэтая дата стала для нас гістарычнай, бо і зараз Даната дапамагае мне што-небудзь прыпомніць у напісаньні гэтай гісторыі, бо яна сябравала з Валяй Д., аб лёсе якой і пойдзе размова.

А пакахаў Валю мой сябра Яўген. І ўсё ў нас атрымоўвалася так, што наша чацьвёрка была неразлучнай. Пасьля танцаў у суботу любілі прайсьціся па нашым прыгожым горадзе Паставы. Хадзілі па цэнтральнай плошчы гораду, па яго вуліцах аж да “маскоўскіх курантаў”, якія гучалі ў 12 гадзін ночы з гарадзкога радыёвузла. У нядзелю ішлі ў гарадзкі сасновы парк “Гарбарка”, разьмешчаны на беразе става на рацэ Мядзелка. Тут была лодачная станцыя, дзе можна было ўзяць лодку і паплаваць на ёй гадзіну-дзьве, нарваць лілеяў, якія Даната з Валяй вельмі любілі. А мы зь Яўгенам веславалі. Вечарамі хадзілі ў гарадзкі кінатэатар, дзе дэманстраваліся прыгожыя мастацкія фільмы. Але ня ўсё вечна. Тры гады вучобы праляцелі імгнення. А што далей? А далей нас чакала праца. Я з Данатай і Яўген засталіся ў Пастаўскім раёне, а Валя паехала на радзіму – у Сьвірскі раён.

Валя была цудоўная дзяўчына, душэўная сяброўка, вельмі ўспрымальная да чужых лёсаў, да гераінь мастацкіх твораў, фільмаў. Яна добра вучылася і была добрая швачка-самавучка, дапамагала ва ўборах ўсім сваім сяброўкам, якія яе моцна любілі. І яна вельмі кахала Яўгена. Моцна перажывала разлуку. Але жыцьцё не стаяла на месцы. Добрую дзяўчыну і там заўважылі. І да яе стаў заляцацца местачковы хлопец зь Вішнева – Юзік. Гэта быў прыгожы малады хлопец, варты каханьня Валі. І ён прапанаваў Валі выйсьці за яго замуж. Бацькі з абодвух бакоў былі згодны. Але ж Валя не згаджалася, бо яна па-ранейшаму кахала Яўгена.

Паўгода Валя чакала ліста ад Яўгена. А ён працаваў у адной сямігодцы Пастаўскага раёну. Там яму спадабалася настаўніца Таня. Лістоў Валі не пісаў. Неяк Валя даведалася яго адрас і напісала ліст, прасіла прыехаць.

І Яўген прыехаў. Ён паабяцаў, што ажэніцца зь ёю, але трэба трохі пачакаць. Якая была прычына ягонага “пачакаць”, я ня ведаю. Але гэтае “пачакай” зацягнулася надоўга.

Калі Валя адмовіла Юзіку, чакаючы Яўгена, то ён проста зьнік зь мястэчка, што і бацькі нават ня ведалі, куды дзеўся. А Яўген да Валі так больш і не прыехаў, зрабіў вельмі непрыгожа, зламаў лёс дзяўчыны, якая яго вельмі кахала. А ці кахаў ён яе? Гэта аднаму Богу вядома. Зламаў ён лёс і другому чалавеку – Юзіку.

Якія ж лёсы напаткалі нашых герояў?

Пасьля ўсяго, што адбылося, Валя пераехала ў іншае месца і ў іншую школу. Ні з кім не хацела сустракацца і знаёміцца, жыла ў адзіноце. У гэтай школе яе прызначылі дырэктарам. І толькі праз восем гадоў яна выйшла замуж за вясковага хлопца, нарадзіла і выхавала двое дзетак, дала ім вышэйшую адукацыю: сын – юрыст, а дачка – лінгвіст. Але і з мужам яна пажыла нядоўга, любіў выпіць, разьвялася. І так яна засталася адзінокай да старасьці. Радасьць у яе была адна – яе добрыя дзеці.

А калі дзеці яшчэ былі малымі – прыяжджала да нас у госьці. Зь Яўгенам мы жылі ў адной вёсцы, і ён у той час быў старшынёй сельсавету. Была субота, і ў сельсавет прыехала адна маладая пара зарэгістравацць шлюб. І Валі захацелася паглядзець на Яўгена. Сядзелі мы ў залі, а Валіна ўся ўвага ў час цырымоніі была зьвернутая толькі на яго. Здавалася, яна больш нікога ня чула й ня бачыла, а толькі яго. І ў канцы сказала: “А ўсё ж я яго дагэтуль кахаю”.

Яўген таксама ажаніўся (толькі і ня з Таняй), выхаваў з жонкаю Надзеяй двух сыноў – інжынэра і афіцэра арміі. З 1989 году – на пэнсіі.

А што ж здарылася зь Юзікам? Каб не адна цікавая акалічнасьць, яго, напэўна, і не знайшлі б. Зь Вішнева людзі ехалі на машыне на кірмаш у Смаргонь. Машына сапсавалася ў глухім месцы: ніякай вёскі, ні людзей. Прайшоўшы туды-сюды, яны заўважылі воддаль ад дарогі хутар, куды і пайшлі па дапамогу. Вось тут яны і пазналі Юзіка. А ён пасьля адмовы Валі, будучы ў вялікай роспачы, пайшоў куды вочы глядзяць і трапіў да адзінокай жанчыны, якая і прытуліла яго.

Вось так былі зламаныя лёсы двух цудоўных людзей. А колькі гэта каштавала нэрваў, хваляваньняў бацькам і ўсім родным!

## Вячэрня (або ўсяночная)

Гісторыя гэта адбылася з нашымі добрымі сябрамі, якія прасілі не называць іхныя імёны. Будзем проста называць іх “мужык і жонка”.

Каму ж зь веруючых людзей ня хочацца наведаць касьцёл ці царкву ў ноч перад Вялікаднем, памаліцца, пачуць запаветнае “Хрыстос уваскрос!” ды пасьвенціць “пасху”? У Беларусі гэта рабілася ўсё проста. Ксяндзы і сьвятары выяжджалі нават у вёскі перад Вялікаднем для гэтага. Але ж гэта ў Беларусі.

Пасяліліся нашыя сябры ў мінулым (2006) годзе ў вялікім і незнаёмым горадзе Канады толькі за тыдзень да Вялікадня. І вось жонка майго сябра ў Вялікую суботу падрыхтавала кошычак з “пасхай” і пайшла ў касьцёл. А касьцёл зь іхняга вакна – як рукой падаць, хаця да яго, як потым выявілася, кілямэтры са два з паловай. Мужык не пайшоў, бо ён быў пасьля толькі што зробленай яму апэрацыі “панскай” хваробы. Ня ведаю, чаму толькі яе назвалі панскай, бо ці была яна калі ў паноў. Была яна ў працавітых мужыкоў ад цяжкай працы і ў сталым узросьце. Адным словам, ён застаўся дома.

А жонцы хтосьці сказаў, што вячэрня пачнецца а сёмай гадзіне вечару. Ну, і каб не спазьніцца, яна выйшла а шостай гадзіне. У касьцёле высьветлілася, што вячэрня пачнецца толькі а восьмай гадзіне, так што давялося пачакаць. Маліліся да 9.30, але “сьвянцонкі” не атрымалася. Як той казаў, “што край – то звычай”. У касьцёлах тут чамусьці ня сьвенцяць, а царква ад іх была далёка.

Калі выйшлі з касьцёлу, адна добразычлівая канадыйка прапанавала жонцы падвезьці яе дамоў, і тая з задавальненьнем пагадзілася. Калі паехалі, кіроўца машыны спытала яе, куды везьці. А жанчына назву вуліцы і забыла. Нумар дому ведае, а вуліцу – толькі па прыкметах. А растлумачыць таксама ня можа – праблема з ангельскай мовай, а кіроўца беларускай мовы ня ведае. На курсы ангельскай мовы муж і жонка не пайшлі, хаця ўжо былі падаўшы заявы. Спалохаліся, што ня змогуць выседзець на тых занятках некалькі гадзінаў, бо ім абодвум было ўжо за 70. Ды і памяць ужо ня тая, каб вучыцца ў такім узросьце. А яшчэ будуць хвалявацца, калі іх да дошкі выклічуць, ды, крый божа, яшчэ “двойку” ўлепяць. Такім чынам, яны

вучыцца не пайшлі, вырашылі займацца самастойна. Дзеці ім купілі падручнік ангельскай мовы ў двух тамах з гукавым дадаткам да тэкстаў. Вучыліся самыя і нешта ж ведалі, як ім здавалася. Але выявілася, што ня гэтак усё проста.

І вось жонка едзе. Але ж вядома, як у жанчын: сустрэла адну сяброўку – трэба ж зь ёй паразмаўляць, сустрэла другую – таксама. А пасажырка сядзіць як на агні, ёй жа хочацца хучэй дабрацца дамоў да хворага мужыка. А тую другую сяброўку здалёк не зразумець: ні то жанчына, ні то мужчына – у штанах ды з цыгарэтай у зубах. А жонка глядзіць на іх і думае, ці ня робяць яны якую замову супраць яе. А дом ужо недалёка відаць. І яна вырашыла ўцячы ад клапатлівай аховы. Як толькі вылезла з машыны і накіравалася ў напрамку дому, тут жа кінуліся за ёй ужо дзьве сяброўкі. Як жа маглі яны адпусьціць яе на ноч гледзячы: а калі зноў заблудзіць, калі ня знойдзе дому? На ўсе довады жанчыны, што яна ўжо бачыць дом і сама дойдзе, яны не зьвярталі ўвагі, а можа, не разумелі яе тлумачэньня. А недалёка несьлі службу на машыне два паліцыянты, вось жанчыны і аддалі няшчасную ня менш клапатлівым паліцыянтам. Вось тут яна і сьлёзку пусьціла.

Ну а ў паліцыі з чаго пачынаюць: хто ты і адкуль? Адрас? А тая яго ня ведае. Тэлефон? Тэлефон ведала і сказала, што мужык яе дома. Звоняць да мужыка, а таго дома і няма. Значыць, паліцыю завяла ў зман. Вось яны цяпер і ейны кошычак праверылі з чырвонымі яйкамі, булкай ды каўбасой – а можа, там бомба, а можа, перад імі тэрарыстка. Звоняць на паліцэйскі ўчастак, ня ведаюць што рабіць. Жанчына тады ў голас, пачала паказваць дом і, як магла, тлумачыла ім. Напэўна, штосьці зразумелі, нездарма ж яны вучылі ангельскую мову. Давезьлі да дому, паднялі там на ногі ўсё домакіраўніцтва, каб завесьці яе на кватэру, бо ключоў жа няма ў яе, іх мужык забраў. Адчынілі кватэру, а мужыка няма, і жонка зноў у плач. Паліцыянты ж не сказалі ёй, калі званілі, што яго дома не было. Пачалі яго шукаць у кватэры: у шафах, пад ложкамі, нават у лядоўню заглянулі. Знайшлі фотаальбом, загадалі паказаць мужыка і пайшлі шукаць яго.

А сябар мой, прачакаўшы жонку да 10-й вечара, пайшоў яе шукаць. Пайшоў па той жа вуліцы, па якой і яна. Касьцёл быў відаць і ноччу. Мужык ішоў па вуліцы, аглядаўся, каб што-небудзь запомніць і не заблудзіць, бо быў у гэтым месцы ўпершыню. Прайшоўшы ў канец вуліцы, павярнуў улева. І зноў некалькі разоў аглядаўся. А вось справа і касьцёл. Думаў жа сустрэць па дарозе – не сустрэў. Ну і доўга ж моляцца! – падумаў. Але, падышоўшы да касьцёлу, ён убачыў, што там ужо зачынена. Вось тут чалавек і абамлеў. Дзе ж яна, дзе ягонае сонейка, што здарылася зь ёю? І ён пайшоў назад. Але што гэта, няма ніякіх прыкметаў, што запамінаў. Ён згубіў тую вуліцу, па якой ішоў. У галаве зараз была толькі адна думка: дзе жонка? Бядак быў у роспачы. Калі днём з вакна глядзеў на касьцёл, то здавалася, там і вуліцаў няма, а як пайшоў, то раздарожжа за раздарожжам. І запытацца няма ў каго, на вуліцах ніводнага чалавека, усе добрыя людзі ўжо сьпяць.

У адным дварышчы заўважыў людзей, якія завіхаліся каля машыны. Запытаўся ў жанчыны, як трапіць на патрэбную вуліцу, тая паказала. Але мужыку здалося, што гэта ў процілеглым напрамку. І ён пачаў зноў блудзіць. Толькі ўявіце і паспачувайце: горад зусім незнаёмы, а ўжо позьняя

ноч на двары, ды з малым запасам ангельскіх слоў. Ідзе насустрач малады чалавек. Запытаўся ў яго, а той сам ня ведае такой вуліцы, відаць, таксама прыежджы. Але ж мужык ішоў і шукаў сваю хату. Празь некаторы час яго дагнала машына, і небараку нічога не заставалася рабіць, як падняць руку. Машына спынілася, і добры чалавек прапанаваў падвезьці. Сеўшы, мужык адразу прызнаўся кіроўцы, што грошай у яго няма. Той толькі ўсьміхнуўся і давёз да патрэбнага дому. Наш герой выйшаў з машыны і шчыра падзякаваў кіроўцы. Хацеў запытацца яго імя, прозьвішча, адрас, каб потым падзякаваць праз газэту, але не хапіла слоў.

Але што гэта? Перад домам стаіць паліцэйская машына з двума маладымі паліцыянтамі. Ну ўсё, думае, штосьці з жонкай здарылася нядобрае. Пытаецца, ці жывая жонка. Маўчаць. А можа, так пытаўся, што не зразумелі. Ідзе ў дом, а паліцыянты за ім, заходзіць у ліфт, а яны сьледам, адчыняе кватэру, і тут са сьлязамі выбягае ягонае сонейка, жывое і не параненае. Кінулася яна дзякаваць паліцэйскім за вяртаньне мужыка, а мужык дзякаваў ім, што знайшлі жонку і зноў злучылі іх. Гэта ўжо адбылося пасьля апоўначы, у першыя хвіліны Вялікадня, і яны пачалі дзякаваць Богу, што ўсё добра скончылася. Але ўсяночная яшчэ працягвалася, бо пасьля ўсяго пражытага яны доўга заснуць не маглі.

І ў заключэньне сваёй гісторыі мой сябар сказаў, што ён і ягоная жонка задаволеныя, што жывуць у Канадзе, сярод добрых, чулых, спагадлівых людзей і паліцыі.

## Мілыя краявіды

Мы часта кажам: “Якая прыгажосьць вакол!” І калі гэтую прыгажосьць чалавек часам не заўважае з-за бурлівага жыцьця, з-за працы дома і на службе, то гэта недаравальна. Спыніцеся на хвілінку! Паглядзіце наўкола! Ідучы на працу, гляньце на сонейка, на неба, паглядзіце на дрэвы, якія проста ўсьміхаюцца вам, падымаючы ваш настрой. Прыгажосьць можна знайсьці ва ўсім, нават у асеньнім панурым і дажджлівым дні, ня кажучы ўжо пра майскую першую навальніцу зь вясёлкаю на небе. А прыгажосьць ночы зь сярпочкам-месячыкам ды зоркамі? Прыгледзьцеся да разнастайнасьці расьлін, рознакаляровых кветак. Пасеялі насеньне кветак у зямельку, у якой толькі свой, асабісты, колер. А вырасьлі кветкі і зацьвілі празнымі колерамі. Адкуль жа ўзяліся тыя колеры? Ці ж гэта ня Божы цуд! Толькі трэба глянуць вакол і ўбачыць гэтую прыгажосьць. А зіма, зь яе сьняжынкамі-зорачкамі, а мароз, які малюе на вокнах розныя ўзоры, вартыя любой мастацкай галерэі – усё прыгожа!

Чалавек сам зьяўляецца часткаю прыроды, непарыўна зьвязаны зь ёй. Ён будуе прыгожыя вёскі, гарады з дамамі разнастайнай архітэктуры, будуе прыгожыя дарогі, каналы і г. д. Жывучы ад маленства на сваёй радзіме, чалавек “прывыкае” да ўсяго прыгожага і проста перастае заўважаць гэтую прыгажосьць: пяе салавей, ну і хай сабе пяе на здароўе; клякоча бусел, ну і няхай клякоча і г.д. Але калі чалавек трапляе ў іншую краіну, зусім незнаёмую яму, ён як бы абуджаецца, яму хочацца ўбачыць нешта новае,

цікавае, чаго не было на яго радзіме. Адначасова ён успомніць і бусла, і салаўя, якіх, магчыма, недастаткова слухаў і любаваўся імі, аб чым вельмі пашкадуе. Вось і хачу расказаць аб сваіх уражаньнях па прыезьдзе ў Канаду да сваіх дзяцей і ўнукаў. Калі вучыўся ў школе і паказваў на мапе Канаду, мне і ў галаву не прыходзіла думка, што я калі-небудзь туды прыеду. Але ж во прыехаў. Тады мне гэтая краіна здавалася загадкавай, далёкай, незнаёмай. Ну што ж, будзем разгадваць.

Зь першых праходак па горадзе Атава з намі сустракаліся зусім незнаёмыя людзі, віталіся з намі і заўсёды ўсьміхаліся. І гэта адразу прыдало нам сілаў жыць тут, падняло наш настрой пасьля сумных дзён расстаньня з радзімай. Знаёміліся з горадам, з прыгожымі вуліцамі, дамамі-катэджамі розных канструкцый, з мноствам кветак каля іх і дрэў розных парод, асабліва разнастайнасьцю клёнаў – сымбаля Канады.

Неўзабаве пасьля нашага прыезду сын Пётр прапанаваў нам падарожжа да Ніягарскага вадаспаду. Незабыўнае відовішча, як кажуць, “ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць”. Уражаньне незвычайнае. На катэры падплылі да самага яго падножжа з аглушальным громам-шумам. Але мы ня толькі ўбачылі вадаспад. Па дарозе туды і назад мы ўбачылі, перш за ўсё, прыгожыя асфальтавыя дарогі, у многіх месцах прабітыя ў скалах. І ўражаньне склалася такое, што ўся Канада стаіць на скалах. Прыгожыя горы, пакрытыя хваёвымі і лісьцёвымі дрэвамі, паміж імі даліны з прыгожымі гарадамі, вёскамі, хутарамі-фэрмамі са статкамі кароў і коней. Многа маляўнічых азёр і рэчак. А возера Антарыё – гэта ж мора ўнутры краіны. Праездам заглянулі ў вялікі і прыгожы горад Таронта. Па дарозе назад наведалі горад Мідленд, касьцёл у ім, вакол якога разьмешчаны помнікі пакутнікам розных краін, сярод якіх і два беларускія: Памятны Крыж і помнік ахвярам сталінізму. Праехалі па запаведніку – нацыянальнаму парку, дзе сустракалі ласёў і малых ласянят, аленяў, якія спакойна стаялі перад аб’ектывамі фотааматараў. І ўсё гэта нас зьдзіўляла – дзікія жывёлы не баяцца людзей. Падарожжам засталіся вельмі задаволеныя. Але вернемся зноў у горад.

У лесе дзікія жывёлы людзей не баяцца, а ў горадзе тым больш. Тут многа вавёрак – чорных і шэрых. На шумных вуліцах даводзілася назіраць аленя і лася, спакойна перасякаючых дарогу, спыняючы аўтамабільны рух. Аднойчы назіралі качку з качанятамі, як яны пераходзілі таксама шумную вуліцу. А ўвосень у сад да нашай знаёмай завітаў мядзьведзь, якому захацелася паласавацца яблыкамі, наламаў сукоў. У людных месцах гораду сустракалі і шэранькага, і беленькага зайчыка.

Праз горад працякае прыгожая і шырокая рака Атава, месцамі з парогамі. У выходныя дні тут многа адпачываючых. На сваіх машынах прывозяць маторныя лодкі, каб паплаваць на іх. На вадзе поўна ветразяў. Сын Генадзь завёз нас на востраў на рацэ, дзе таксама многа адпачываючых. А побач спакойна шчыплюць траўку дзікія гусі, на фоне якіх мы сфатаграфаваліся. Для нас гэта таксама дзіва.

Даводзілася палавіць вудачкай рыбкі на рэках Атава і Рыдо, пападалася нешта падобнае да беларускага акуня. На берагі выпаўзаюць малыя чарапашкі. А на мелкаводзьдзях можна сустэць чаплю. Метраў за 5 ад мяне праплыла выдра – вельмі асьцярожная жывёліна, але і яна нікога не баіцца.

З прыстані на рацэ Рыдо лавіў рыбу, і да мяне прыплылі дзікія маладыя качаняты. Глядзяць на мяне ўверх, як бы чаго просяць. Ну я і кінуў аднаго чарвячка. Гляджу – ім спадабалася. А мне таксама. На гэтым мая рыбалка і скончылася.

Яшчэ некалькі слоў пра птушак. Кардынал – вельмі прыгожая птушка з чырвоным апярэньнем ды з чубком, яе мы празвалі канадыйскім салаўём. Добра сьвішча, прыгожа, але яму не пашкодзіла б зьлётаць на курсы да свайго сябра – беларускага салаўя. Прыгожая птушка Робін, але ўжо вельмі бедны ў яе запас нотаў. Ластавачкі ёсьць падобныя да беларускіх, а некаторыя адрозьніваюцца цалкам чырвоным брушкам. Верабей чырыкае пабеларуску, шпак таксама. Многа шпакоў тут зімуе, што нас таксама зьдзіўляе. Зімы ж тут бываюць і суровыя. Што ж яны ядуць?

Лясы тут непраходныя, не ўсунеш і носа. Але ж грыбоў знайшлі на палянах і на лясных сьцежках. Грыбы тыя ж, што і ў Беларусі: падасінавікі, падбярозавікі, сыраежкі.

І яшчэ мне спадабалася, як выводзяць на гуляньне сабак, асабліва зімой, у “кажушках”. А чаму ў “кажушках” – раскажу. Аднойчы ўвосень (а было гэта яшчэ ў Беларусі) прыйшла да нас адна бабулька дапамагчы капаць бульбу. І ў час адпачынку яна распавяла нам цікавую гісторыю. Жыў у іхняй вёсцы дзядок, якога чамусьці празывалі Сёха. Ён быў вельмі клапатлівы гаспадар. Хлеў быў халодны, дык ён шыў кароўкам і коніку такія-сякія адзеньні ўзімку. А сабачку пашыў ён кажушок. І трэба ж такому здарыцца, што ноччу прыйшоў воўк і панёс і сабачку, і кажушок. І вось, калі я зараз бачу адзетага сабачку, я ўспамінаю дзядульку Сёху. А тут яшчэ адна бабулька водзіць свайго чатырохлапага выхаванца ня толькі ў “кажушку”, але і ў тапачках на кожнай лапцы. А ў дажджлівае надвор’е выводзяць у дажджавічках.

І пра рознакаляровую восень Канады. Калі ў Беларусі мы восень называем “залатой”, то тут яна – рознакаляровая і ўсё з-за тых жа клёнаў, іх разнастайнасьці: адны яшчэ зусім зялёныя, другія ўжо бурыя, трэція зусім чырвоныя, ну а чацьвёртыя, такія як і ў Беларусі – жоўтыя.

Вось колькі новых і добрых уражаньняў у мяне аб новай для мяне краіне – Канадзе.

Але ж я хацеў бы расказаць і аб прыродзе роднай Беларусі, якую ніяк нельга выкінуць з памяці. Паўночная частка Пастаўскага раёну разьмешчана ў межах Дзісенскай нізіны, а паўднёвая – Сьвянцянскіх градаў. У паўночнай частцы цяжка было для будоўлі знайсьці камень, каб падкласьці яго пад вугал. Тады дапамагала рака Дзісенка, у якой іх і шукалі. Затое ў паўднёвай частцы раёну межы сялянскіх палосак былі выкладзеныя каменьнем, пакуль жылі аднаасобна. Паўночная частка – раўніна, паўднёвая – узгоркавая. Найвышэйшы пункт 240,4 м – гара Маяк (пад Лынтупамі). З поўначы Пастаўскі раён мяжуе з Браслаўскім і Шаркаўшчынскім раёнамі.

Мяжа праходзіць па рацэ Дзісна (Дзісенка, як мы яе зь любоўю называлі). Гэта мая родная рэчка, на якой я вырас, навучыўся плаваць, лавіць вудачкай рыбку. А рыбы было многа і розных відаў (плотка, язь, акунь, ёрш, лешч, лінь, пячкур, уклейка і г. д.). Вадзіўся і сом. Перапраўляліся людзі на другі бераг пры дапамозе парому, які мог зьмясьціць дзьве фур-

манкі. Аднойчы пад поаром падышоў вялізны сом і плаваў пад ім, а хвост відаць. Ён любіў цёмныя, глыбокія мясьціны ў рацэ, але чамусьці не вярнуўся на сваю базу і аблюбаваў цень пад паромам. Прыйшлі два мужыкі лавіць яго: адзін з касой, будзе адразаць хвост, а другі з восьцямі (вілы з насечкамі) – будзе калоць. Па камандзе: "Раз, два, тры", – сом так лупануў хвастом, што не засталося ні вілаў, ні восьцяў.

Хочацца расказаць пра самае цікавае відовішча – крыгаход. У час паводкі вясной рака выходзіла зь берагоў, затапляла агароды, а ў самыя сьнежныя гады вада прыходзіла і ў хлявы, хаця вёска наша Чарэмушнікі Падзісенныя (былі яшчэ і Чарэмушнікі Пагарныя) і стаяла на высокім беразе. А лазьні, разьмешчаныя на беразе, проста плавалі. Іх прыходзілася прывязваць дротам, але бывала, што і яны плылі разам зь лёдам. Як рэчка дастаткова напаўнялася вадой, лёд ламаўся і пачынаў рухацца. Усім хацелася, каб гэта адбывалася днём, бо ноччу ня ўбачыш такой прыгажосьці. У час ледаходу і старыя, і малыя выходзілі да рэчкі. Гэта быў шум, трэск, крыгі падымаліся ўгору, падалі, ламаліся. А малыя дзеткі яшчэ хацелі й "пакатацца" на іх, але побач стаялі бацькі. Былі і лёдавыя запоры.Тады лёд спыняўся, нагрувашчваўся адзін на другі, утвараўся мост, па якім можна было перайсьці раку. Але гэта было вельмі небясьпечна. У гэты час у школах заўсёды былі канікулы. Мая сястрычка Надзея і яе сяброўкі вучыліся ў Казьянах у 5-й клясе. Заўтра пачыналіся заняткі. А тут спыніўся лёд. Бацькі ўзялі калы ў рукі і павялі дзяўчат. І ўсё абышлося добра.

Па рацэ сплаўлялі ганкі (плыты) аж у Рыгу. Яшчэ польскія ўлады хацелі Дзісенку зрабіць суднаходнай ракой. Па рацэ супраць цячэньня пры дапамозе коней цягалі вялізныя лодкі – "Лайбы", на якіх былі прыстасаваньні, пры дапамозе якіх з дна ракі прыбіралі вялізныя камяні да берагу.

У раёне і наогул у Беларусі многа азёр. Нездарма Беларусь называюць "сінявокай". І ўсе яны прыгожыя, маляўнічыя. Але самым прыгожым і вялікім зьяўляецца возера Нарач – беларускае мора, як мы яго называлі. Мы кожны год езьдзілі туды са школьнікамі, дзе купаліся ў чыстых яе водах, плавалі на лодках і на вялікім катэры. Берагі возера ўяўляюць сабой цудоўныя пясчаныя пляжы з тысячамі адпачываючых у санаторыі "Нарач" і доме адпачынку "Нарач", пабудаваных у сасновым бары. А водмель цягнецца ня менш як 150 мэтраў. Ды яшчэ возера ўпрыгожвае востраў, парослы кустамі. Кажуць, аднойчы, а можа, і неаднойчы, адзін мужык прыладзіўся там гнаць самагонку, а міліцыянт вырашыў яго злавіць. Але ў мужыка хапіла пільнасьці, каб абвесьці міліцыянта вакол пальца. Пакуль міліцыянт шукаў самагоншчыка, апошні забраў свае каштоўныя кроплі, сеў у лодку, прыхапіўшы на буксір лодку міліцыянта, і вярнуўся дамоў. А міліцыянт "загараў" там некалькі дзён.

На беразе возера Нарач быў пабудаваны помнік партызанам, куды зьяжджаліся людзі з усёй Беларусі 3 ліпеня – у дзень вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Выступалі хоры, аркестры, артысты. Тут можна было сустрэць сваіх сяброў па пэдвучэльні, армейскіх сяброў, пасядзець зь імі за гасьцінным столікам і прыпомніць маладосьць.

Ня менш задавальненьняў атрымоўвалі, калі наведвалі бліжэйшыя ад нас азёры Споры, Споркі, Загач. Вельмі прыгожае возера Споры з востравам пасяродку, з крутымі, высокімі берагамі й помнікамі Першай сусьвет-

най вайны – нямецкімі ўмацаваньнямі. Тут фронт прастаяў цэлых тры гады. На процілеглым беразе разьмешчана прыгожая вёска Шыркі, якая адлюстроўваецца ў возеры.Тут заўсёды можна было бачыць качак, ныркоў і белых лебедзяў. Мне тут пашэнціла злавіць самую вялікую рыбіну ў маім жыцьці – ліня. А было гэта ў другую нядзелю ліпеня – у дзень рыбака. Можаце сабе ўявіць, як я высока падняў галаву, калі вяртаўся вёскаю дамоў.

І яшчэ пра адно раньне, зьвязанае з рыбнай лоўляй, якое я не магу забыць. Ішоў  на невялічкае азярко Споркі. Выходзіў а чацьвёртай гадзіне раніцы, калі толькі-толькі пачынала сьвітаць. Салаўі працягвалі сьпяваць (а наш край быў сапраўды салаўіным), да іх далучаліся жаваранкі, сустракаючы новы дзень. А зязюлі як бы пераклікаліся між сабой. І каго толькі не сустрэнеш на мяжы дня і ночы: і зайку, і вожыка, і курапатку. І, здаецца, што ты ў нейкім чароўным царстве, і гэта можа быць толькі перад узыходам сонца, і ні ў які іншы час. А прыйшоўшы да возера, якое пакрыта яшчэ туманам, убачыш пералётную зязюлю і пачуеш яе адвечнае “ку-ку!” І гэта так усё дорага і міла, і западае ў душу навек.

А якія прыгожыя лясы ў нас, бярозавыя гаі, дубровы. Лясы чыстыя, незасьмечаныя, грыбок здалёку можна ўбачыць. Многа кошыкаў давялося перанасіць: і баравікоў, і падбярозавікаў, і падасінавікаў, а восеньню – апенек. Аднойчы прайшоўшы ў Рубяжанскім лесе ад хутара Кляматы да хутара Храпуна, гэта каля кілямэтру, я набраў поўны кошык адных баравікоў. Больш не было куды класьці, і я папрасіў у Храпуноў кошык і на зваротным шляху напоўніў і яго. У далейшым я заўсёды браў посуд у запас. Але аднойчы і гэта не дапамагло. Зьбіраў апенькі ў Барадзінскім лесе. І чым забіраўся далей у лес, то іх станавілася больш. Набраў дзьве пасудзіны і больш няма куды класьці. Прыйшлося зьняць кашулю і зрабіць зь яе посуд, які і набраў поўны. Лясы багатыя ня толькі грыбамі, але і арэхамі, малінамі, чарніцамі, журавінамі, брусьніцамі.

Давялося наведаць і Белавескую пушчу, зь яе векавымі дрэвамі і яе гаспадаром – волатам-зубрам. Пабыўшы там, можна ўявіць, як выглядала Беларусь у далёкім мінулым.

Люблю я сваю прыроду, люблю назіраць за птушкамі, слухаць іх сьпевы. Люблю назіраць. Давялося бачыць нават нараджэньне стрэлкі (стракозы). Але два пытаньні засталіся для мяне невядомымі: як буслы ляцяць у вырай і як павучок робіць мост паміж дрэвамі, каб потым зрабіць сетку. Жураўлі, гусі, качкі ляцяць клінам, шпакі і гракі – стаяй. А як буслы? Бачыў, як зьбіраюцца восеньню ў стаі. А як адлятаюць – ня бачыў.

Адкажыце, калі ласка, хто ведае. І не забудзьце пра павучка.



**ПРЫСМЫЦКАЯ Вольга** – нарадзілася 12 траўня 1979 году ў Баранавічах, Беларусь. У 2001 годзе скончыла Баранавіцкі вышэйшы пэдагагічны каледж па спэцыяльнасьці настаўнік ангельскай і расейскай мовы і літаратуры. Некалькі гадоў працавала ў школе ў родным горадзе, потым вучылася і працавала ў Варшаве. У 2006 годзе апынулася ў Амэрыцы. Зьяўляецца сяброўкаю некалькіх беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў і моцна кахае сваю любую Бацькаўшчыну Беларусь.

Пісаць невялікія апавяданьні пачала, калі апынулася па-за межамі Беларусі, у Польшчы. Далёка ад Бацькаўшчыны, у Амэрыцы, жаданьне пісаць зрабілася мацнейшым.

Піша пра Беларусь так, як яе адчувае, з павагай і любоўю.

# Дзед Сьцяпан

– Ат, каб цябе халера пабрала…

Дзед Сьцяпан толькі ўключыў тэлевізар, як сьвятло ў хаце і ва ўсёй вёсцы згасла.

– Ну, што, ізноў? Цяпер да панядзелка будзем чакаць, пакуль хто з райцэнтру прыедзе, каб наладзіць, – адазвалася з ложку ягоная жонка, бабка Наталя. – Ідзі ўжо спаць, дзед. Чаго ў пацемках сядзець?

Спаць не хацелася. Дзед Сьцяпан уключыў радыё, адразу палілася знаёмая музыка, а потым дыктар пачаў чытаць навіны. Ага, ну, як і раней: прэзыдэнт казаў, прэзыдэнт паехаў, прэзыдэнт адзіны, усенародна абраны… людзі на плошчы…

Забрахаў на падворку сабака, і ў хаце зрабілася няўтульна і страшна. Людзі? На плошчы? У намётах?

Дыктар працягваў гаварыць, што людзей няшмат, у асноўным моладзь, за грошы амэрыканскія стаяць, не шануюць выбар народу…

Але дзед Сьцяпан ужо даўно навучыўся слухаць уважліва. Значыць, ня вытрымалі. Пайшлі-такі на вуліцы, на плошчу. Божа, у самым Менску, у таго пад бокам!

Але, глядзі ж ты, не спужаліся, выйшлі.

Думкі раіліся ў галаве дзеда Сьцяпана, як пчолы. І ўсё роўна яны дурныя! Прэзыдэнт у нас адзіны, выбраны народам. А можа, ім рабіць няма чаго? Дык вось хай да нас у вёску едуць, працы ўсім хопіць. А то адныя старыя засталіся.

Ну, дурныя ж, дурныя дзеці! Божа, зіма ж яшчэ. Холадна ж, сьнег абяцалі.

Трэба ж вучыцца, працаваць, а ня мітынгі рабіць. Хто ж будзе працаваць? Але ж зусім розуму няма!

А дыктар усё гаварыў і гаварыў.

Перастаўшы ўжо слухаць, дзед Сьцяпан цяжка падняўся і, ледзьве перастаўляючы ногі, падышоў да ложку.

Спачатку ён хацеў абудзіць жонку, але, перадумаўшы, пачаў распранацца.

Праз пару хвілінаў прагучаў гімн і радыё змоўкла.

Перастаў брахаць сабака, і ў хаце зрабілася ціха-ціха. Чуваць было толькі, як маліўся мокры ад сьлёз дзед Сьцяпан: “Божухна, дапамажы нам... Трымайцеся, дзеткі...”



**СНАРСКАЯ (Дзідык) Іна** — нарадзілася ў горадзе Полацку ў 1965 годзе. Скончыла будаўнічы факультэт Наваполацкага політэхнічнага інстытуту і філялягічны факультэт Палтаўскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту.

З 1987 году жыве ў Палтаве. Працуе рэдактарам тэлебачаньня Палтаўскай абласной дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Лтава". Аўтар і рэжысэр каля 100 дакумэнтальных фільмаў і тэлевізійных перадач. Сяброўка Саюзаў пісьменьнікаў Беларусі і Украіны, Нацыянальнага Саюзу журналістаў і Саюзу кінематаграфістаў Украіны. Ляўрэат літаратурна-мастацкай прэміі імя Васіля Сіманенка. Аўтар шматлікіх публікацыяў у пэрыядычнай прэсе Беларусі і Украіны, пяці паэтычных зборнікаў: "Пацеркі" (1994), "Пачакай, мая птушка" (1998), "Лясная панна" (2001), "Кветка гарынь" (2005), "Дві землі — дві долі" (2006). Вершы Іны Снарскай перакладаліся ўкраінскаю, румынскаю, ангельскаю мовамі.

Іна Снарская — сяброўка Вялікай Рады ЗБС "Бацькаўшчына", кіраўнік культурна-асьветнага аб'яднаньня беларусаў Палтавы "Агніца".

# ВЕРШЫ

А калі згарбеюць плечы,
А калі зьнямеюць рукі,
А калі засьмягнуць вусны,
А калі здранцьвееш ты,
Ацалеюць толькі крылы —
Дзьве магутныя дубровы,
А ў дубровах шчырым словам
Пракавечныя званы.

* * *

Па-беламу — трава,
Па-чорнаму — няволя,
Галосіць удава
Савою ў чыстым полі.

Па-чорнаму – сьнягі
Пярыну сьцелюць душам,
Дзе волаты ляглі,
Там і сірот задушаць.

А пушчы хараство
Сьпяліць птушыны вырай,
Лятучае яство
Успомніць сны пра крылы.

Успомніць даўніх дзён
Жывую таямніцу:
Хто ў вышыні анёл,
Той на зямлі – крыніца.

А прашчур скажа нам:
“Не будзі яко черві...”
І херувім, як храм,
Асьвяціць шлях вячэрні.

* * *

Навекі сонца гарады
Закрытыя ад здрады цемры,
А я сьпяшаюся ў мяды,
У прасьвятлёны зорны церам.

А там рака – нашчадак ніў
Шчасьліва сьвеціцца зямлёю,
І адмысловыя агні
Гараць у ветраках зялёных.

Лунае сьмех, цьвітуць сады
І лёгка так, што мудрасьць сэрца,
Ачышчаная ад бяды,
Сьвяткуе свой узьлёт над сьмерцю.

Маё жыцьцё цяпер Тваё...
На падваконьні сьвечка цьвеліць,
А я ўжо, вольная ад цела,
Плыву ў блакіт Тваіх гаёў.

## Беларусі

Вочы мае – вякі,
Я мяняла вас на шаўкі,
Я мяняла вас на рызьзё,
А ў руках – адзін чарназём.

Каб ты срэбрам быў, чарназём,
Я б цябе захінула рызьзём,
Загарнула б цябе у шаўкі,
Толькі веру маю пакінь.

Я – чарніца гэтай зямлі.
Я – званіца, мой звон памяні.
Я – блудніца, даруй, не гані,
Не кідай у мяне камяні.

## Ваўкалака

Я зьвяроў вучыла размаўляць,
Я чытала ім лісты і кніжкі,
Ды глядзелі вочы ваўчанят
Празь мяне ў сусьвет лясны, няблізкі.

Я зьвяроў вучыла маляваць,
Ім палітру падбірала зь неба
І з дажджом мяшала зарапад,
А яны жадалі толькі хлеба.

А сьпявалі мы амаль адно,
Калі поўня адчыняла вокны,
У вачах сьляпучае сяйво
Адбівалася абразам воўчым.

Як сірочы плач хістаў зямлю,
То выцьцё ваўчынае сьціхала.
Я сьпявала песьню не сваю –
Ваўкалакам выла і стагнала.

Я сьпявала, а вакол ваўкі
Абарону ланцугом трымалі,
Калі людзі з-за маёй ракі,
Як на ловы груганьнё склікалі.

Як на ловы, як на вечны скон
Замаўлялі мне хаўрус сабачы.
А ваўкі не разумелі слоў,
Толькі разумелі голас плачу.

Я зьвяроў вучыла размаўляць.
Я людзей прасіла спачуваць...

## Попіпаўка

*“Як Піліпаўка настане,*
*то ваўкі ідуць гайнёю...”*
***(З Тураўскага слоўніку)***

Вочы ў душу заглядаюць зьверам,
Вочы душу пазбаўляюць веры.
Вечар у верасьні – мой нарачоны –
Б’ецца галінай халоднай і чорнай.

Воўк мне на плечы лапы кладзе,
Будзе ён побач сядзець і глядзець:
Вочы у вочы, агмень у агмень
Вечна са мною вечны мой цень.

Побач са мною – мудрэйшы, чым я,
Побач са мною – кат і судьдзя.
Будзе сьціскаць у цісках галаву,
Будзе мой боль ападаць на траву...

Высьлізнуць я ад яго не змагу –
Шляхам зьвярыным у ноч пабягу.
Поўня вугельным крылом празь мяне
Нешта завые і нешта сьпяе...

Вочы мае вырываюцца ў цень,
Рукі мае загаворваюць дзень,
Косы мае адліваюцца ў поўсьць, –
Хто гаспадар тут, а хто толькі госьць?

Як чалавеку ваўка зразумець?
Будзе адзін з нас сядзець і глядзець:
“Ты, чалавек, чалавекам застаўся?
Што, небарака,
папаўся, папаўся?..”

* * *

Адна зямля падставіла рукі,
Каб ня ўпала на дол.
Ліўся дождж, і кропляў мудрыя гукі
Загаворвалі боль.

Другая зямля ратавала слова,
Дзе вусны агнём пякло,
Дзе птушка ляцела, ляцела на волю,
Шукала жытло.

І гэтыя белыя, чыстыя строі –
Зары сьветлы ўздых
Выткалі мне дзьве зямлі, дзьве долі,
Дзьве песьні маіх.

* * *

Чароўная чапля на белай назе
У ноч пераходзіць вандроўніцай змрочнай.
Супыніцца час у сьляпучай вадзе
Адчайнаю песьняю, ветрам паўночным.

І птушка крыло пакладзе на кусты,
Сунічную сьпёку і чорныя вочы.
Чатыры дарогі натоляць масты,
Якія ўсю ноч у душы крываточаць.

* * *

І ластаўка сьляпая прыляціць,
Калі сплыве зара на падваконьне,
Парэжа крылы аб лязо прадоньня,
Як у вачэй тваіх папросіць піць.

І кінецца да вокнаў, як у рукі,
І паспрабуе зрушыць цішыню.
Той ашалелы звон разьбітых гукаў
Пасыплецца крывава на зямлю.

І пацякуць па бездарожжы ночы
Гады мае, павіснуць на плячах,
Як рызманы у жудасным бязвочны,
Як рэха анямелае ў вяках.

І, можа, ты мяне тады пачуеш,
За плечы возьмеш, схіліш галаву,
Мяне, чужую, да грудзей прытуліш,
Сівую, пакладзеш мяне ў траву.

* * *

Мы вярталіся дадому,
Дзе стагодзьдзі, нібы дзень,
Дзе зялёны погляд долі
Адбіваецца ў вадзе.

Мы вярталіся да лесу,
Да пагоркаў і травы,
Дзе аддана правяць мэсу
Пчолы, шэршні, салаўі.

Я табе чытала кніжку
Без старонак і лістоў,
Плёў павук за ніткай нітку,
Ткаў пасаг гадоў на сто.

Мы вярталіся да раю,
Ты – Адам, а Ева – я.
Бог шчасьлівых не карае
Пакуль верыць ім зямля.

* * *

Не вянчаліся мы ў храме,
А гарэлі ў небе сьвечкі,
І каней цыгане ўкралі,
І халодны быў той вечар.

Пацалуй мяне, каханы,
Каб у полі не замёрзла,
Наш дыван барвінкам тканы,
Што нам лютыя марозы!

Мой каханы нечаканы
Галубамі прыгалубіш
І сардэчны гора-камень
Адагрэеш ў дзіва-грубе.

Прынясем дары Стрыбогу.
Прошчу нам шукаць ня трэба.
Сэрца ведае дарогу –
Лёнам, лёнам, небам, небам.

## Гармонія натхненьня

Камень, камень рэжа ценем,
Сонца, сонца ясьніць крозы,
Грай, гармонія натхненьня,
Грай, пакуль жывыя сьлёзы.

Серафіму – крылы, крылы,
Немаўляці – сонца, сонца.
Грай, гармонія натхненьня,
Грай, гармонія, бясконца.

За мяжой, мяжой – калыска,
У калысцы – ясны сокал.
Грай, гармонія натхненьня,
І сьляпі пустэчы вока.

Вокны, вокны, мушлі, мушлі, –
Не душы мяне, душа,
Я ляцець дадому мушу
На пярынцы ад крыла.

А гармонія натхненьня
Творыцца на тым крыле:
Вечар, вечар, сьцены, сьцены,
Белы ветразь на стале.

## Сон

*Рыгору Барадуліну*

Мне сьніўся Барадулін малады:
Гарачы, летуценны, апантаны,
Садзіў ён вершаў сонечных сады,
Было яшчэ далёка да бяды,
Яшчэ далей да босага сьвітаньня.

Мне сьніўся Барадулін малады:
Без барады, вясёлы і шчасьлівы.
Ён жартаваў на розныя лады,
Сівелі і марнелі халады,
А мы зрывалі яблыкі і сьлівы.

Напэўна, я губляла галаву –
У боскай поўні мёд піла з далоні.
Ляцелі яблыкі ў гаючую траву
І верылася: толькі тут жыву
І першым, безумоўна, было Слова.

* * *

На мяжы сівых сусьветаў,
Дзе і князь не гаспадар,
Нараджаюцца паэты,
Кожны ў латах, як ваяр.

На мяжы зямлі і неба,
Пераходу-забыцьця
Кожны човен робіць з хлеба –
Жытняй горычы жыцьця.

І плывуць чаўны ня ў Лету,
Не ў завоблачную высь,
А далей ад люці сьвету –
Да пагоркаў і травы.

Кроў лясная на сьвітаньні
Наталіць нябёсаў дно,
І лягчэй паэту стане
На імгненьне на адно.

## Вогнепаклоньніца

“Агню, паддай агню!” –
Мне дзед-каваль зь нябёс даваў урокі,
Калі я падала ў зьнямозе на зямлю,
Калі з аўчынку быў сусьвет шырокі.

“Агню, паддай агню!” –
І хлебам дыхала духмяна паддувала.
Я гэтыя ўспаміны бараню,
Ад ворагаў-вятроў ў душы хаваю.

Мой дзед-каваль каваў само жыцьцё
І гартаваў імгненьні і гадзіны:
“Паддай агню, не падай духам, Іна,
І кожны дзень прымай, як адкрыцьцё”.

* * *

Прачнуўся ў сьнежні майскі хрушч.
Хіба ня дзіва?
Ён перайшоў часоў мяжу
Адзіны.

Як прарастае дзень і лес
З жыцьця і сьмерці,
Той хрушч зь нябёснай печы зьлез
Да сэрца.

Зь якога сьвету пераход,
Зь якой старонкі?
Званы-дарогі сотні год
Сьпяваюць звонка.

На падваконьні ліст жывы
Вусамі круціць,
Замову ён прынёс травы
Ад люці.

## Парасткі
***трыпціх***

### 1

Камень гэты – пачатак травы,
Гартаваны кавалак карэньня.
Веру я: ён жывы, агнявы,
Адзічэлы продак насеньня.

Камень гэты – пачатак дажджу,
Анямелы ад буры і ветру,
Бачыць ён разьвітаньня мяжу
І сьвітанак прарошчвае ў вечар.

Гэта ён вучыць нас сталець.
Нават здрада яго не зламіла.
Ён ляжыць на роднай зямлі,
Значыць, памятае пра крылы.

### 2

Ячменнае зерне – жыцьцё
Гарчыць і гарыць, і сьмяецца...
Ў руцэ беспрытульлем – асьцё,
І птушкаю ў небе – сэрца.

Сяўба прарасьце ў абмалот,
Імчацца, сівеюць стагодзьдзі...
За вокнамі – Новы год,
І новае зерне ўсходзіць.

А сэрцу час – трын-трава,
Зару сустрэчамі мерыць
І вучыць мяне трываць,
Кахаць і марыць, і верыць.

### 3

Трава прарастае ў дажджы.
Сіроцтва маё ўтравела.
Дарога бяжыць, бяжыць,
Сівеюць косы, сівеюць...

Ад веку да веку – дажджы,
Астрогі, званіцы, пагосты...
Мне трэба за ўсіх дажыць,
Адмерыць золкія вёрсты.

Дарога бяжыць, бяжыць...
Трава прарастае ў сэрца:
“Хто ты на зямлі, скажы,
А потым — ня страшна ўмерці”.

* * *

Ляціце, вятры, ляціце,
Лавіце мой дом, лавіце,
Я буду ценем на плячах мяцелі,
А пасьля цішынёй,
Я буду гукам,
Распраўлю рукі
Над соннай зямлёй.
Ляціце, вятры, ляціце,
Лавіце мой дом, лавіце...
Я — ваша пяшчота,
У сонечных сотах
Пачуеце голас мой.



**СОКАЛАЎ-ВОЮШ Сяржук** — нарадзіўся паўстагодзьдзя таму ў вёсцы Астроўшчына на Полаччыне. Жыве ў Нью-Ёрку. Піша вершы, прозу, займаецца драматургіяй і перакладамі. У мінулым стагодзьдзі выдаў кніжку вершаў і кампакт-дыск ім жа самім напісаных і прасьпяваных твораў. У гэтым стагодзьдзі — кніжку прозы й яшчэ адзін кампакт. Дзякуючы жонцы й тром сынам мае досыць часу на грамадзкую дзейнасьць. Сябра партыі БНФ.

# ПЕРАКЛАД
(з расейскай)

*Уладзімір НАБОКАЎ*
*Владимир НАБОКОВ*

## Вынішчэньне тыранаў

### 1

Росту ягонай улады, славы адпавядаў у маім уяўленьні рост меры пакараньня, якую я хацеў бы да яго ўжыць. Так, ад пачатку мяне задаволіла б ягоная параза ў выбарах, астуда да яго натоўпу, потым я ўжо прагнуў зьняволеньня яго ў вязьніцу, яшчэ пазьней — выгнаньня на далёкую пляскатую выспу з самотнай пальмай, падобнай да чорнае зоркі заўвагі, якая адвеку зьлятае ў пекла адзіноты, ганьбы, бязмоцтва; цяпер, нарэшце, толькі ягоная сьмерць магла б мяне наталіць.

Як статыстыкі выяўна паказваюць ягонае ўзыходжаньне, малюючы колькасьць ягоных прыхільнікаў у выглядзе паступовага росту фігуркі, фігуры, фігурышчы, мая нянавісьць да яго, так як і ён, скрыжаваўшы рукі, пагрозна разьдзімалася пасярод поля маёй душы, пакуль не запоўніла яе амаль цалкам, пакінуўшы мне толькі тонкі сьвятлівы вобад (больш падобны да кароны вар'яцтва, чым да венчыка пакутніцтва); але я прадбачу і поўнае сваё зацьменьне.

Першыя ягоныя партрэты, у газэтах, у вылажках крамаў, на плякатах (яны таксама растуць у нашай багатай наападкі краіне, якая крывяніць і плача), атрымліваліся напачатку нібыта расплывістымі, – гэта было тады, калі яшчэ я сумняваўся ў сьмяротным выніку маёй нянавісьці: нешта яшчэ чалавечае, а менавіта магчымасьць няўдачы, зрыву, хваробы, ці мала чаго, у той час слаба трымцела празь сякія-такія ягоныя здымкі, у разнастайнасьці яшчэ няўстойлівых паставаў, у зыбкасьці вачэй, што не знайшлі яшчэ гістарычнага выразу, але спакваля ягонае аблічча зацьвярдзела, ягоныя сківіцы й шчокі на афіцыйных фотаэтудах пакрыліся боскім глянцам, алеем народнай любові, лякам завершанага твору, – і ўжо нельга было ўявіць сабе, што гэты нос можна высмаркаць, што пад гэтую губу можна залезьці пальцам, каб выкалупнуць захраску ежы з-за гнілога сечніка. За спробнай разнастайнасьцю прыйшло кананізаванае адзінства, зацьвердзіўся, цяпер знаёмы для ўсіх, каменнацьмяны позірк ягоных неразумных і нязлосных, але ў нечым нясьцерпна жудасных вачэй, трывалая мясістасьць абцяжэлага падбародзьдзя, мосяж маслакоў і ўжо звыклая для ўсіх карыкатурнікаў сьвету рыса, якая амаль машынальна вытварае фокус падабенства, тоўстая зморшчына праз увесь лоб, – тлушчавы адклад думкі, а ня шнар думкі, вядома. Мушу думаць, што яго націралі мноствам патэнтаваных бальсанаў, інакш мне не зразумелая мэталёвая дыхтоўнасьць твару, які я калісьці ведаў хваравіта-азызлым, кепска паголеным, так што быў чуцён шоргат валаскоў аб брудны крухмальны каўнерык, калі ён паварочваў галаву. І акуляры – куды падзеліся акуляры, якія ён насіў у юнацтве?

**2**

Я ніколі ня толькі не хварэў на палітыку, але наўрад ці калі-небудзь прачытаў хаця б адзін перадавы артыкул, хаця б адну справаздачу з партыйнага паседжаньня. Сацыялягічныя задачкі ніколі не займалі мяне, і я да сёньня не магу ўявіць сябе ўдзельнікам якой-кольвек змовы ці нават чалавекам, які папросту сядзіць у задымленым пакоі і абмяркоўвае з палітычна ўсхваляванымі, напружана сур'ёзнымі людзьмі спосабы барацьбы ў сьвятле апошніх падзеяў. Добрацьчалавецтва мяне не перайма̀е: і я ня толькі ня веру ў рацыю якой заўгодна бальшыні, але наагул схільны перагледзець пытаньне, ці варта імкнуцца да таго, каб усе чыста былі напаўсытыя і напаўадукаваныя. Я ведаю, апроч таго, што маю радзіму, цяпер ім прыгнечаную, чакае ў далёкай будучыні мноства іншых узрушэньняў, незалежных ад якіх бы ні было дзеяньняў сёньняшняга валадара. І ўсё ж такі: забіць яго.

**3**

Калі багі, бывала, набывалі зямное аблічча і, у ліляватых апратках, сьціпла і моцна ступалі мускулістымі нагамі ў не запыленых пакуль плесьніцах ды зьяўляліся сярод палявых працаўнікоў ці горных пастухоў, іхная боскасьць ані не была гэтым паніжаная; наадварот – у зачараваньні чалавечнасьці, якая спавівала іх, было надзвычай выразнае аб-

наўленьне іхнай наземнай сутнасьці. Але калі абмежаваны, брутальны, малаадукаваны чалавек, на першы погляд, тандэтны фанатык, а насамрэч самавол, жорсткі і змрочны плыжнік з хваравітым гонарам – калі такі чалавек шыецца ў багі, то хочацца перапрасіцца перад багамі. Дарэмна мяне сталі б пераконваць, што сам ён нібыта і не даткнуўся, што яго ўзвысіла і цяпер трымае на жалезабэтонным пасадзе няўмольнае разьвіцьцё цёмных, заалягічных, заарланцкіх ідэяў, на якія спакусілася мая радзіма. Ідэя падбірае толькі сякерышча, у чалавечай волі дарабіць сякеру – і ўжыць.

Зрэшты, паўтараю: я кепска знаюся на тым, што для дзяржавы карыснае, што шкоднае і чаму здараецца, што кроў зь яе сыходзіць ані ў знак. Сярод усіх і ўсяго мяне займае толькі адна асоба. Гэта мой супарат, маё насланьнё і разам з тым нешта нібыта мне прыналежнае, мне аднаму аддадзенае на суд. Ад раньніх гадоў, а я ўжо немалады, зло ў людзях мне здавалася асабліва агідным, задушліва невыносным, яно вымагала неадкладнага абсьмяяньня і вынішчэньня, – між тым як дабро ў людзях я ледзьве заўважаў, настолькі яно мне заўжды ўяўлялася станам нармалёвым, неабходным, чымсьці дадзеным і неад'емным, як, скажам, існаваньне жывога мае на ўвазе здольнасьць дыхаць. З гадамі ў мяне разьвіўся найтанчэйшы нюх на благое, але да дабрыні я пачаў ужо ставіцца крыху інакш, бо зразумеў, што ейная звычайнасьць, якая абумоўлівала маю да яе няўвагу, – звычайнасьць такая незвычайная, што зусім няпэўна, што знайду тую дабрыню заўсёды пад рукой, калі спатрэбіцца. Таму я пражыў цяжкое самотнае жыцьцё, у нястачы, у мэбляваных пакоях, аднак заўсёды ў мяне было расьсеянае адчуваньне, што дом мой за рогам, чакае мяне і што я ўвайду ў яго, як толькі ўпраўлюся з тысячай уяўных справаў, што запоўнілі маё жыцьцё. Божа мой, як я ненавідзеў тупасьць, квадратнасьць, як бываў я несправядлівым да добрага чалавека, калі прыкмячаў у ім што-небудзь сьмешнае, накшталт скнарнасьці ці пашанотнасьці да багацелькіх. І вось цяпер перада мной ня проста слабая рошчына зла, якую можна атрымаць з кожнага чалавека, а зло наймацнейшай сілы, без дамешку, агромністае начыньне, поўнае да гарлавіны і закаркаванае.

**4**

З маёй дзіка квітучай дзяржавы ён зрабіў разьлеглы гарод, у якім асаблівым клопатам ахінутыя рэпа, капуста ды буракі; а таму ўсе жарсьці краіны зьвяліся да жарсьці зелянінай, земляной, тоўстай. Гарод па суседзтве з фабрыкай, зь неадменным гукавым удзелам недзе заманэўранага цягніка, і над усім гэтым безнадзейнае белаватае неба прымесьцяў – і ўсё, што сюды ўяўленьне само па сабе дадае: плот, іржавая бляшанка сярод дзядоўніку, бітае шкло, бруд, выбух чорнага мушынага гуду з-пад ног... вось цяперашні вобраз маёй краіны – вобраз гранічнай тугі, але туга ў нас у пашане, і аднойчы ім кінуты (у звальную яму глупства) спокліч "Палова нашай зямлі мусіць быць уробленая, а другая заасфальтаваная" паўтараецца дурнямі, як нейкі выказ вяршыні чалавечага шчасьця. Добра яшчэ, каб ён нас жывіў той вартай жалю існай,

якую калісьці вычытаў у нейкіх кірмашовых сафістых; ён жывіць нас шалупіньнем ад гэтай ісьціны, і спосаб думаньня, які патрабуецца ад нас, пабудаваны ня проста на крывамудрасьці, а на ейных абломках і абмоўках. Але мне і не на тым залежыць, бо, зразумела, была б ідэя, у якой мы ў ярме, самаю натхнёнаю, самаю захапляльнаю, асьвяжальна мокраю і наскрозь сонечнаю, ярмо заставалася б ярмом, таму што нам навязвалі б яе. Не, галоўнае тое, што ў часе росту ягонай улады я пачаў заўважаць, што грамадзянскія абавязкі, павучаньні, абмежаваньні, загады і ўсе іншыя гатункі чыненага нам уціску ўсё больш і больш прыпадабняюцца да яго самога, выяўляючы несумненную крэўнасьць з пэўнымі рысамі ягонага характару, з падрабязнасьцямі ягонае мінуўшчыны, так што празь іх, гэтыя павучаньні і загады, можна было б узнавіць ягоную асобу, як спрута праз мацкі, тую ягоную асобу, якую я адзін зь нешматлікіх добра ведаў. Інакш кажучы, усё навокал набывала ягонае аблічча, закон пачынаў да сьмешнага прыпадабняцца да ягонай хады і жэстаў; у зялянінных зьявіліся ў незвычайнай аквітнасьці агуркі, якімі ён так прагна карміўся ў юнацтве; у школах уведзенае навучаньне цыганскай барацьбе, якою ён рэдкімі хвілямі халоднай жвавасьці займаўся на падлозе з маім братам дваццаць пяць гадоў таму; у газэтных артыкулах і ў кнігах угодлівых бэлетрыстых зьявілася тая адрывістасьць мовы, тая ўяўная ляпідарнасьць (бессэнсоўная ў сутнасьці, бо кожная кароткая і нібыта выбітая фраза паўтарае на розныя лады адзін і той казённы труізм або пляскатае ад зацяганасьці агульнае месца), тая сіла словаў пры слабасьці думкі і ўсе іншыя крыўляньні стылю, яму ўласьцівыя. Неўзабаве я адчуў, што ён, ён, такі, як я яго помню, праточваецца паўсюль і заражае сабой спосаб мысьленьня і побыт кожнага чалавека так, што ягоная бяздарнасьць, ягоная маркота, ягоныя шэрыя навыкі рабіліся самім жыцьцём маёй краіны. І нарэшце, закон, ім пастаўлены, – няўмольная ўлада бальшыні, штосэкундавыя ахвяры стодзішчу бальшыні, – страціў які б ні было сацыялягічны сэнс, таму што бальшыня гэта ён.

## 5

Ён быў адным з таварышоў майго брата Грыгорыя, які ліхаманкава і паэтычна захапляўся скрайнімі гатункамі грамадзянскасьці (якія даўно палохалі нашую тагачасную ціхмяную канстытуцыю) у апошнія гады свайго кароткага жыцьця: утапіўся ў дваццаць тры, калі купаўся летнім вечарам у вялікай, вельмі вялікай рацэ, так што цяпер, калі прыгадваю брата, першае, што ўяўляецца мне, гэта – бліскучая паверхня вады, зарослая алешнікам выспачка, да якой ён ніколі не даплывае, але вечна плыве скрозь дрыготкую смугу маёй памяці, і доўгая чорная хмара, што перасякае іншую, пульхна ўзьбітую памаранчавую – усё, што засталося ад сыботняе навальніцы ў перадняздзельным, чыста туркусовым, небе, дзе зараз пратнецца зорка, дзе зоркі ніколі ня будзе. Аб той час я занадта быў захоплены жывапісам і дысэртацыяй пра ягонае пячорнае паходжаньне, каб уважліва судакранацца з гуртком маладых людзей, якія завабілі майго брата; я, зрэшты, прыпамінаю, што пэўнага гуртка і не бы-

ло, а што па-простаму сабралася некалькі юнакоў, шмат у чым адрозных, часова і нямоцна зьвязаных паміж сабой цягай да бунтоўных прыгодаў; але сучаснасьць заўсёды так заганна ўплывае на прыгаданае, што цяпер я міжволі вылучаю яго на гэтым невыразным тле і ўзнагароджваю гэтага ня самага блізкага й ня самага гучнага сярод таварышоў Грыгорыя той глухой, засяроджана панурай, глыбока сьвядомай воляй, якая зь бяздарнага чалавека лепіць урэшце поўную трыюмфу пачвару.

Я яго памятаю ў чаканьні майго брата ў цёмнай сталоўцы нашага беднага правінцыйнага дому: ён прысеў на першы-лепшы зэдлік і адразу ж узяўся чытаць пакамечаную газэту, выцягнутую з кішэні чорнага пінжака, і твар ягоны, напалову схаваны шкляной прылбіцай дымістых акуляраў, набыў грэбліва-сьлязьлівы выраз, нібыта яму трапіўся пасквіль. Памятаю, ягоныя меставыя, абы-як забарсаныя боты былі заўсёды пыльнымі, нібыта ён толькі што прайшоў пехатой шмат міляў трактам, спаміж незаўважаных ніваў. Каротка пастрыжаныя валасы шчаціністым мыском выходзілі на лоб, – яшчэ не прадбачылася, відаць, ягоная сёньняшняя кесарская пляхота. Пазногці вялікіх вільготных рук былі так пакусаныя, што балюча было за перацягнутыя падушачкі на кончыках агідных пальцаў. Ён тхнуў казлом, галеў і быў непераборлівы ў начлегах.

Калі мой брат зьяўляецца (а Грыгорый у маіх успамінах заўжды запазьняецца, заўжды ўваходзіць захаканы, нібы страшэнна сьпяшаецца жыць і ўсё адно не пасьпявае, – і вось жыцьцё, урэшце, сышло безь яго), ён без усьмешкі з Грыгорыем вітаецца, рэзка ўстаўшы і зь дзіўнай адвалокай падаючы руку; здавалася, што, калі своечасова не схапіць яе, яна са спружынным гукам сыдзе назад у прышпільны закаўраш. Калі ўваходзіў хто з нашай сям'і, ён абмяжоўваўся пахмурным паклонам, – але затое дэманстратыўна падаваў руку кухарцы, якая, узятая ўроспудзь і не пасьпеўшы абцерці даланю да поціску, абцірала яе пазьней, нібы наўздагон. Мая маці памерла незадоўга да ягонага зьяўленьня ў нашай хаце, бацька ж ставіўся да яго з той самай няўважлівасьцю, зь якой ставіўся да ўсіх і да ўсяго, да нас, да жыцьцёвых нягодаў, да прысутнасьці брудных сабакаў, якіх прыграваў Грыша, і нават, здаецца, да сваіх пацыентаў. Затое дзьве старыя мае цёткі шчыра пабойваліся “дзівака” (вось ўжо ніякім дзіваком ён ня быў), як, зрэшты, пабойваліся яны і іншых Грышыных таварышоў.

Цяпер, праз дваццаць пяць гадоў, мне пачасту даводзіцца чуць ягоны голас, ягоны зьвярыны рык, несены грамамі радыё, але тады, памятаю, ён заўсёды гаварыў ціха, нават зь нейкім прыхрыпам ці прышэптваньнем, – вось толькі гэтае знакамітае гнюснае задыханьнейка ягонае напрыканцы фразаў ужо было, было... Калі, апусьціўшы галаў і рукі, ён стаяў перад маім братам, які яго вітаў ласкавым воклічам і ўсё яшчэ імкнуўся злавіць хаця б ягоны локаць, хаця б кашчавы плячук, ён здаваўся на дзіва каратканогім, верагодна, з прычыны даўжыні пінжака, які даходзіў у яго да паловы сьцёгнаў, – і нельга было разабраць, чым вызначаная прыгнечанасьць ягонай паставы, ці то панурай сарамяжлівасьцю, ці напружаньнем сьвядомасьці перад паведамленьнем нейкай цяжкой, благой весткі. Мне здалося апасьля, што ён нарэшце паведаміў яе,

скончыў зь ёй, калі жахлівым летнім вечарам прыйшоў з рэчкі, трымаючы ў абярэмку бялізну і каламянкавыя штаны Грыгорыя, але цяпер мне думаецца, што вестка, якой ён заўсёды поўніўся, усё ж была ня тая, а глухая вестка пра ўласную пачварную будучыню.

Часам праз прачыненыя дзьверы я чуў ягоную хваравіта адрывістую гаворку з братам; або ён сядзеў за гарбатным сталом, ламаючы абаранак, адводзячы начныя савіныя вочы ад сьвятла газьнічкі. У яго была дзіўная і непрыемная манэра паласкаць рот малаком, перад тым, як яго праглынуць, і абаранак ён кусаў, асьцярожна крывячы рот, – зубы былі кепскія, і здаралася, падманваючы кароткім ахаладжэньнем вогненны боль адкрытага нэрву, ён штохвілінна ўцягваў паветра з бакавым сьвістам, а таксама памятаю, як мой бацька змочваў для яго ватку брунатнымі кроплямі з опіюмам і, беспадстаўна пасьміхаючыся, раіў зьвярнуцца да дантыста. “Цэлае мацнейшае ад часткі, – адказваў ён сарамяжліва-груба, – эрго я сваё зуб’ё здужаю”; але я цяпер ня ведаю, ці то сам я чуў ад яго гэтыя драўляныя словы, ці потым іх перадавалі як выслоўе арыгіналу... але толькі, як я ўжо сказаў, ён арыгіналам ані ня быў, бо ж ня можа жывёльная вера ў сваю каламутную зорку ўважацца за своеасаблівасьць; але пагляньце ж – ён уражваў бяздарнасьцю, як іншыя ўражваюць талентам.

## 6

Часам ягоная прыродная панурасьць зьмянялася сутаргамі нейкай дурной зазубрыстай весялосьці, і тады я чуў ягоны сьмех, такі самы пранізьлівы й нечаканы, як лямант коткі, да чыёй аксамітнай цішыні так прызвычайваесься, што ейны начны голас здаецца чымсьці вар’яцкім, шатанскім. З гэткім крыкам ён прыцягваўся таварышамі да гульняў, да валтузьні, і высьветлілася, што рукі ў яго слабыя, а затое ногі – жалезныя. І аднойчы адзін зь юнакоў-пракуднікаў паклаў яму жабу ў кішэню, і ён, ані каб залезьці туды пальцамі, пачаў зьдзіраць пацяжэлы шарак і ў гэткім выглядзе, шыза-чырвоны, расшматаны, у шмізэтцы на ірванай нацельнай каптанцы, быў засьпеты злоснай гарбаценькай панначкай, цяжкая каса і атрамантна-сінія вочы якой шмат каму так падабаліся, што ёй ахвотна даравалася падабенства з чорным шахматным конікам.

Я ведаю пра ягоныя любоўныя схільнасьці і сыстэму заляцаньняў ад яе ж самой, цяпер, на жаль, нябожчыцы, як бальшыня людзей, якія блізка ведалі яго ў маладосьці, быццам сьмерць ягоная супольніца і зводзіць зь ягонага шляху небясьпечных сьведкаў ягонага мінулага. Да гэтай жвавай гарбухі ён пісаў альбо навучальна, з папулярна-навуковымі вандроўкамі ў гісторыю (пра якую ведаў з кнігібак), альбо цёмна і вадка скардзіўся на іншую жанчыну, якая засталася мне невядомай, (таксама, здаецца, зь нейкай цялеснай хібінай), зь якой нейкі час дзяліў прытулак і ложак у самай змрочнай частцы места... шмат бы я даў цяпер, каб адшукаць, распытаць гэтую невядомую, але, пэўна, і яна бясьпечна мёртвая. Цікавай рысай ягоных пасланьняў была іхная паскудная цягучасьць, ён намякаў на падкопы таямнічых ворагаў, працягла палемізаваў зь нейкім паэтам, вершыкі якога вычытаў у календары... о, калі б можна

было ўваскрасіць гэтыя каштоўныя клятчастыя старонкі, сьпісаныя ягоным дробным паніклівым почыркам! Ды дзе там, я ня памятаю зь іх ніводнага выразу (ня надта гэта мяне цікавіла тады, хаця я слухаў і сьмяяўся) і толькі цьмяна-цьмяна бачу ў глыбіні памяці стугу на касе, худы лучок, шпаркую смуглявую руку ў гранатавай бранзалетцы, якая камечыць ліст, і яшчэ лаўлю буркатлівы гук жаночага здрадлівага сьмеху.

**7**

Паміж марай пра пераўладкаваньне сьвету і марай самому гэта ажыцьцявіць паводле ўласнага погляду – розьніца глыбокая, канодная; аднак ані брат мой, ані ягоныя сябры не адчулі асаблівай розьніцы паміж сваім бясплотным паўстаньнем і ягонай жалезнай прагай. Празь месяц па сьмерці брата ён зьнік, бо перанёс сваю дзейнасьць у паўночныя правінцыі (гурток зачэзнуў і разваліўся, пры тым што, наколькі мне вядома, ніводны зь ягоных астатніх удзельнікаў на палітыка ня выйшаў), і неўзабаве дайшла чутка, што тамтэйшая праца, памкненьні і спосабы ўзялі накірунак зусім процілеглы ўсяму таму, пра што гаварылася, думалася, на што спадзявалася ў тым першым юнацкім асяродзьдзі. Вось я прыгадваю ягонае тагачаснае аблічча, і мне дзіўна, што ніхто не заўважыў доўгага куртаватага ценю здрады, які ён паўсюль за сабой валок, хаваючы канцы пад мэблю, калі сядаў, і блытаючы адбіткі лесьвічных парэнчаў, калі яго праводзілі зь лямпай. А можа, гэта нашае чорнае сёньня адкідае туды свой цень? Ня ведаю, ці любілі яго, але прынамсі брату і іншым імпанавалі і ягоная змрочнасьць, якую ўважалі гушчынёю душэўных сілаў, і жорсткасьць думак, якая здавалася вынікам перажытых ім патаемных бедаў, і ўся ягоная непрэзэнтабельная абалонка, якая нібыта мела на ўвазе чыстае, зыркае ядро. Што хаваць – мне і самому аднойчы падалося, што ён здольны да шкадаваньня, і толькі пазьней я вызначыў дакладнае адценьне гэтага шкадаваньня. Аматары танных парадоксаў даўно адзначылі сэнтымэнтальнасьць катаў, – і сапраўды, панэль перад мяснымі заўсёды мокрая.

**8**

Першымі днямі пасьля загіну брата ён усё патрапляў мне на вочы і некалькі разоў у нас начаваў. Гэтая сьмерць ня выклікала ў яго аніякіх заўважных прыкметаў засмучэньня. Ён трымаўся так, як заўсёды, і гэта зусім не карабаціла нас, таму што ягоны заўсёдны стан і так быў жалобным, і заўсёды ён так сядзеў дзе-небудзь у куце, за чытаньнем чаго-небудзь нецікавага, г. зн. заўсёды трымаўся так, як у хаце, дзе здарылася вялікае няшчасьце, трымаюцца людзі, недастаткова блізкія ці недастаткова чужыя. Цяпер жа ягоная сталая прысутнасьць і змрочная цішыня маглі прыняцца як суворае спачуваньне, спачуваньне, бач ты, замкнёнага мужнага чалавека, які і незаўважны, і неадлучны (нерухомая маёмасьць спачуваньня) і пра якога высьвятляеш, што сам ён быў цяжка хворы ў той час, калі трымаў бяссонную ноч на крэсьле, сярод чаляднікаў, сасьлеплых ад сьлёз. Але ў гэтым выпадку ўсё гэта быў страш-

ны падман: калі і цягнула яго да нас тады, то гэта было толькі таму, што нідзе ён так натуральна ня думаў, як сярод стыхіі сумоты, адчаю – калі на стале стаіць непрыбраны посуд і некурцы просяць папіросаў.

Я выразна памятаю, як я разам зь ім выправіўся на выкананьне аднэй з тых маленькіх фармальнасьцяў, аднэй з тых пакутліва-каламутных справаў, якімі сьмерць (у якой заўсёды ёсьць нешта ад чыноўніцкай цыганіны) стараецца як мага на даўжэй праблутаць тых, хто засталіся жывымі. Хтосьці, напэўна, сказаў мне: "Ён пойдзе з табой"; ён і пайшоў, стрымана пракерхваючы глотку. Якраз тады (мы ішлі па пухкай ад пылу незабудаванай вуліцы, паўз платы і нагрувашчаныя дошкі) я зрабіў штосьці, пра што ўспамін ува мне праходзіць ад цемечка да пятаў, як электрычная корча нясьцерпнага сораму, падахвочаны бог ведае якім пачуцьцём, – ня столькі, можа быць, удзячнасьцю за спагаду, колькі спагадай да спагады чужога, я ў похапе нэрвовасьці і недарэчнага памкненьня душы ў хадзе ўзяў і сьціснуў ягоную руку, – і мы абодва адначасна зьлёгку спатыкнуліся; усё гэта доўжылася імгненьне, – але, калі б я тады абняў яго і дапаў вуснамі да ягонай страшнай залацістай шчаціны, я б ня змог цяпер адчуваць большай пакуты. І вось праз дваццаць пяць гадоў я думаю: мы ж ішлі ўдвох па пустэльных мясьцінах, і ў мяне быў у кішэні Грышын рэвальвер, які, ня памятаю зь якіх меркаваньняў, я ўсё зьбіраўся схаваць; я ж мог яго ўтрупяніць стрэлам ва ўпор, і тады не было б нічога, нічога з таго, што ёсьць цяпер, ні сьвятаў пад залевай, гіганцкіх урачыстасьцяў, у часе якіх мільёны маіх адназемцаў праходзяць пешымі шыхтамі, з рыдлёўкамі, матыкамі і аграблямі на рабскіх плячох, ні гучнавяшчальнікаў, якія аглушальна множаць адзін і той усюдыісны голас, ні патаемнай жалобы ў кожнай другой сям'і, ні гамы катаваньняў, ні атупеньня, ні пяцісажневых партрэтаў, нічога... О, калі б можна было кіпцюрамі ўчапіцца ў мінулае, за валасы выцягнуць назад у сёньня страчаны выпадак, ізноў уваскрасіць тую пыльную вуліцу, пусткі, цяжар у задняй кішэні штаноў, чалавека, які ішоў побач са мной!

## 9

Я тоўсты й млявы, як шэксьпіраўскі Гамлет. Што я магу? Ад мяне, сьціплага настаўніка маляваньня ў правінцыйнай гімназіі, да яго, які сядзіць за мноствам чыгунных і дубовых дзьвярэй у невядомай каморы галоўнай сталічнай турмы, ператворанай для яго ў замак (таму што гэты тыран называе сябе "палонным волі народу, што абраў яго"), – адлегласьцьць амаль неймаверная. Хтосьці мне распавядаў, захаваўшыся са мной у склеп, пра сваю далёкую крэўную – старую ўдаву, якая вырасьціла двухпудовую рэпу, за што была ўшанаваная найвышэйшым прыймом. Яе доўга вялі мармуровымі калідорамі, бясконца перад ёй адмыкаючы і за ёй замыкаючы ізноў калейку дзьвярэй, пакуль яна не апынулася ў белай бязьлітасна асьветленай зале, уся абстаноўка якой складалася з двух залачоных крэслаў. Там ёй было сказана чакаць. Празь нейкі час за дзьвярыма пачулася мноства крокаў і, з пачцівымі паклонамі, прапускаючы адзін аднаго, увайшлі чалавек пяць ягоных целаахоўнікаў. Спалоханымі вачыма яна шукала яго сярод іх; яны ж глядзелі

не на яе, а наўзьверш ейнай галавы, і, завінуўшыся, яна ўбачыла, што ззаду, празь іншыя дзьверы, якіх яна не заўважыла, няклумна ўвайшоў сам і, спыніўшыся, паклаўшы руку на сьпінку крэсла, звычна падахвотна разглядаў дзяржаўную госьцю. Потым ён сеў і прапанаваў ёй сваімі словамі расказаць пра ейны подзьвіг (адразу ж быў прынесены служкам і пакладзены на іншае крэсла зьлепак зь ейнага сьлецціва), і яна цягам дзесяцёх незабыўных хвілінаў апавядала, як рэпу пасадзіла, як цягнула яе зь зямлі і ўсё не магла выцягнуць, хаця ёй здавалася, што прывід ейнага нябожчыка мужа цягне разам зь ёй, і як давялося паклікаць сына, а потым унука ды яшчэ двух пажарнікаў, якія адпачывалі ў пуні, і як, нарэшце, цопаючы цугам, выцягнулі пачвару. Ён быў, як выглядала, уражаны ейным вобразным апавяданьнем. "Вось гэта паэзія, – рэзка зьвярнуўся ён да сваіх прыбліжаных, – вось у каго б спадарам паэтам вучыцца", – і, злосна загадаўшы адліць зьлепак у бронзе, выйшаў прэч. Але я рэпы не рашчу, так што пратачыцца да яго мне немагчыма, ды і калі б я пратачыўся, як бы я данёс запаветную зброю да ягонага лагва?

Часам ён зьяўляецца народу, – і хаця не падпускаюць да яго блізка, і кожнаму даводзіцца падымаць цяжкія тронкі выдадзенай харугвы, каб былі занятымі рукі, і за ўсімі назірае незьлічоная варта (не гаворачы пра выведнікаў і шныпароў), надта спрытнаму і рашучаму чалавеку магло б пашчасьціць адшукаць прашчэмку, скразную сэкунду, нейкі мізэрны драбок лёсу, дзеля таго, каб рынуцца наперад. Я перабраў ва ўяўленьні ўсе гатункі зьнішчальных сродкаў, ад клясычнага кінжалу да плябейскага дынаміту, але ўсё гэта марна, і нездарма я часам сьню, як націскаю раз за разам сабачку мяккага, разьлезлага ў руцэ пісталета, а кулі адна за другой вывальваюцца з рулі або, як бясшкодны гарох, адскокваюць ад грудзей усьмешлівага ворага, які між тым нетаропка пачынае сьціскаць мае рэбры.

## 10

Учора я запрасіў да сябе ў госьці колькі чалавек, адно з адным незнаёмых, але зьвязаных паміж сабой адной і той жа сьвятой справай, якая так пераўвасобіла іх, што можна было нават заўважыць няпэўнае паміж імі падабенства, якое сустракаецца, скажам, паміж падстаркаватымі масонамі. Гэта былі людзі розных прафэсіяў – кравец, масажыст, лекар, цырульнік, пекар, – але ўсе яны мелі тую самую абдуласьць паставы, тую самую ашчаднасьць мерных рухаў. "Анягож!" Адзін шыў для яго адзежу і, значыць, здымаў мерку зь ягонага нятлустага, а ўсё ж бакастага цела зь дзіўнымі, жаночымі клубамі й круглай сьпінай; значыць – кранаў яго, пачціва лез у падпахі й разам зь ім глядзеў у люстэрка, абвітае залатым павоем; другі й трэйці пранікалі яшчэ далей: бачылі яго голым, драсавалі яму цяглiцы і слухалі сэрца, паводле рытму якога ў нас, кажуць, неўзабаве будуць пастаўленыя гадзіньнікі, г.зн. у абсалютна літаральным сэнсе ягоны пульс будзе ўзяты за адзінку часу; чацьверты яго галіў, з шоргатам водзячы ўніз па шчоках і ўверх па шыі нясьцерпна для мяне спакусным лязом; пяты, урэшце, пёк для яго хлеб, – паводле звычкі, паводле глупства ўкладаючы ў ягоную любімую булку разынкі

замест атруты. Мне хацелася дакрануцца да гэтых людзей, каб хоць якнебудзь пасаўдзельнічаць у іхных таямнічых, іхных д'ябальскіх маніпуляцыях; мне здавалася, што іхныя рукі прапахлі ім, што празь іх ён таксама прысутнічае... Усё было вельмі добра, вельмі напышліва. Мы размаўлялі пра рэчы, якія яго ня тычацца, і я ведаў, што, калі імя ягонае згадаю, у кожнага зь іх у вачох прамільгне адна і тая жрэцкая трывога. І калі раптам высьветлілася, што на мне гарнітур, пашыты маім суседам справа, і што ем я скаромны піражок, які запіваю адмысловай вадой, прапісанай суседам зьлева, то мной завалодала жахлівае, нечым у сьне шматзначнае пачуцьцё, ад якога я адразу прачнуўся – у маім жабрачым пакоі, з жабрачым месяцам у незанавешаным вакне.

Усё ж я ўдзячны ночы і за такі сон: апошнім часам нуджуся ад бяссоньня. Гэта так, быццам мяне загадзя прывучаюць да найбольш папулярнага катаваньня, што ўжываюць да цяперашніх злачынцаў. Я пішу "цяперашніх", таму што ад таго часу, ад якога ён пры ўладзе, зьявілася як бы зусім новая парода дзяржаўных злачынцаў (іншых, лапезных, уласна, і няма, таму што найдрабнейшы крадзёж вырастае ў скарбалупства якое, у сваю чаргу, разглядаецца як спроба падтачыць існуючы лад), вышукана слабых, зь незвычайна празрыстай скурай і прамяністымі вірластымі вачыма. Гэта парода рэдкая і шмат вартая, як жывы акапі ці самы дробны лямур, і таму палююць на іх з палкасьцю, да самазабыцьця, і кожная злоўленая асобіна сустракаецца ўсенародным пляcканьнем у ладкі, хаця па сутнасьці ніякай асаблівай працы ці небясьпекі ў паляваньні няма – яны зусім ручныя, гэтыя дзівосныя празрыстыя зьвяры.

Палахлівая пагалоска цьвердзіць, што ён сам ня супраць наведаць засьценку... але гэта наўрад ці так: міністар поштаў не штампіць лістоў, а марскі – не пялёскаецца ў хвалях. Мяне наагул вадзіць ад хатняга пляткарскага тону, якім гамоняць пра яго рахманыя нядобразычліўцы, зьбіваючыся на асаблівы гатунак прасьцяцкага жарту, як у старажытнасьці народ прыдумляў казкі пра чорта, у балаганны сьмех строячы забабонны страх. Брыдотныя, сьпешна прыстасаваныя показкі (узьбежныя да нейкіх старажытных ірляндзкіх узораў) або закулісны факт з праўдзівай крыніцы (хто ў ласцы і хто не, напрыклад) заўсёды патыхаюць лёкайскім. Але бывае і шмат горш: калі мой знаёмы N., у якога ўсяго тры гады таму пакаралі сьмерцяй бацькоў (я ўжо не кажу пра ганебныя ўціскі, якім сам N падпадаў), заўважае, вярнуўшыся зь дзяржаўнага сьвята, дзе чуў і бачыў яго: "А ўсё ж, ведаеце, у гэтым чалавеку ёсьць нейкая "*моц*!" – мне хочацца заехаць N. у пысу.

## 11

У сваіх суклонных лістах вялікі замежны мастак кажа пра тое, што да ўсяго прастыў, ва ўсім зьняверыўся, усё разьлюбіў, усё – апрача аднаго. Гэтае адно – жывое рамантычнае трымценьне, што да гэтага часу яго ахапляе пры думцы пра ўбоства ягоных маладых гадоў у параўнаньні з шыкоўнай паўнатой пройдзенага жыцьця, са сьнежным бляскам дасягнутай ім вяршыні. Тая першапачатковая невядомасьць, тыя пацёмкі паэзіі і смутку, у якіх малады мастак быў загублены на роўных правах зь

мільёнам дробных тых, яго цяпер прыцягваюць, узбуджаюць у ім хваляваньне і ўдзячнасьць – лёсу, промыслу, а таксама ўласнай творчай волі. Наведаньне мясьцінаў, дзе ён гараваў калісьці, сустрэчы зь нічым не выдатнымі прыстаркамі-аднагодкамі, поўныя для яго такой складанай зачараванасьці, што вывучэньня ўсіх падрабязнасьцяў гэтых пачуцьцяў хопіць яму і на будучую тагасьветную покваль духу.

І вось, калі я ўяўляю сабе, што наш жалобны кіравец адчувае, калі судакранаецца са сваім мінулым, я выразна разумею, па-першае, што сапраўдны чалавек – паэта, а па-другое, што ён, наш прыяцель, увасобленае адмаўленьне паэты. Між тым замежныя газэты, асабліва тыя, што вечарнейшыя, дасьведчаныя, як проста міраж ператвараецца ў тыраж, любяць адзначаць легендарнасьць ягонага лёсу, уводзячы натоўп чытачоў у агромністы чорны дом, дзе ён нарадзіўся, дзе да гэтага часу нібыта жыве такая самая галота, якая без канца разьвешвае бялізну (галота дужа шмат перыць), і тут жа друкуецца бог ведама як здабыты фотаздымак ягонай радзіцелькі (бацька невядомы), асадзістай жанчыны з чубчыкам, з шырокім носам, якая служыла ў піўніцы ля заставы. Відавочцаў ягонага хлапецтва й юнацтва засталося так мала, а тыя, хто ёсьць, адказваюць так асьцярожна (у мяне, авохці, не запытаўся ніхто), што журналісту патрэбная вялікая сіла выдумкі, каб намаляваць, як сёньняшні ўладца ў хлапецтве верхаводзіў у ваяўнічых гульнях або як у юнацтве чытаў да пеўняў. Ягоныя дэмагагічныя посьпехі падаюцца як стыхія лёсу, – і, зразумела, шмат увагі надаецца таму цёмнаму зімоваму дню, калі, абраны ў парлямэнт, ён з шайкай сваіх супольнікаў парлямэнт арыштаваў (пасьля чаго войска, мэкаючы, неадкладна ўзяло ягоны бок).

Легенда ня надта, але гэта ўсё ж легенда, у гэтым адценьні журналіст не памыліўся, легенда замкнёная і адасобленая (г.зн. гатовая зажыць сваім, выспавым, жыцьцём), і замяніць яе на шчырую праўду ўжо немагчыма, хаця ейны герой яшчэ жывы; немагчыма, затым што ён адзіны, хто мог бы праўду ведаць, не пасуе ў сьведкі, і не таму, што ён унада або хлус, а таму, што ён “запамят**а**лы”. О, вядома, ён памятае старых ворагаў, памятае дзьве-тры прачытаныя кнігі, памятае, як у дзяцінстве шынкар напаіў яго півам з гарэлкай або як адцьвічыў за тое, што ён зваліўся зь верху дрывотні і стаптаў двух куранят, г.зн. нейкая нязграбная мэханіка памяці ў ім усё ж працуе, але калі б яму было багамі прапанавана стварыць сябе са сваіх успамінаў, з умовай, што створанаму вобразу будзе падараваная несьмяротнасьць, атрымаўся б неданосак, каламуць, сьляпы і глухі карузьлік, ня здольны ні да якой несьмяротнасьці.

Наведай ён хату, дзе жыў часінай жабрацтва, ніякае трымценьне не прабегла б па ягонай скуры, хіба што трымценьне злобнай хцівасьці. Затое я ўжо ж наведаў ягонае былое жытло! Ня той шматкорпусны будынак, дзе, кажуць, ён нарадзіўся і дзе цяпер музэй ягонага імя (старыя плякаты, чорны ад вулічнага бруду сьцяг і – на ганаровым мейсцы, пад шкляным каўпаком – гузік: усё, што атрымалася зьберагчы ад ягонага ашчаднага юнацтва), а тыя гідкія нумары, дзе ён правёў некалькі месяцаў у часы ягонай блізкасьці да брата. Папярэдні гаспадар даўно памёр, жыхароў не запісвалі, так што аніякіх сьлядоў ягонага тагачаснага побы-

ту не засталося. І думка, што я адзін на сьвеце (ён жа бо забыўся гэтую сваю стаянку, – іх было так шмат) ведаю, поўніла мяне пачуцьцём асаблівага задавальненьня, нібыта я, хто кранаецца гэтай мёртвай мэблі і глядзіць на дах у вакно, трымаю ў кулаку ключ ад ягонага жыцьця.

## 12

Цяпер у мяне быў яшчэ госьць: досыць задрыпаны дзядок, які, відаць, быў у стане наймацнейшай узбуджанасьці, – абцягнутыя глянцаватай скурай рукі дрыжэлі, прэсная старэчая сьляза вільгаціла ружовыя адвароты павекаў, блядая чарга адвольных выразаў ад дурнаватай усьмешкі да крывога маршчака пакуты бегла па ягоным твары. Маім пяром ён вывеў на шматку паперы лічбу знамянальнага году, ад якога мінавала амаль паўстагодзьдзя, і дзень, месяц – дату нараджэньня кіраўца. Ён паглядзеў на мяне, прыўзьняўшы пяро, як бы ў нерашучасьці працягваць ці толькі ацэньваючы затрымкай надзвычайнае каленца, якое зараз выкіне. Я адказаў падахвочна, і тады ён напісаў іншую дату, на дзевяць месяцаў ранейшую ад першай, падкрэсьліў падвойнай рысай, расчапіў быў вусны для трыюмфальнага сьмеху, але заміж гэтага закрыў раптам твар рукамі… “Далей, далей”, – сказаў я, торгаючы гэтага кепскага актора за плячо, і, хутка здалеўшыся, ён палез у сваю кішэню і падаў мне тоўсты цьвёрды фотаздымак, які праз гады набыў цьмяна-малочны колер. На ім быў зьняты моцны малады чалавек у жаўнерскім мундуры; фуражка ягоная ляжала на крэсьле, на сьпінку якога ён з драўлянай нязмушанасьцю апусьціў руку, і на заднім тле можна было разгледзець несапраўдныя балясы, вурну. Пры дапамозе двух-трох злучальных паглядаў я пераканаўся, што паміж рысамі майго госьця і бясьценным, пляскатым тварам жаўнера (упрыгожаным вусікамі, а зьверху сьціснутым вожыкам, ад якога лоб падаваўся меншым) падабенства няшмат, але што ўсё ж гэта без сумлеву адзін і той чалавек. На здымку яму было гадоў дваццаць, здымку ж было цяпер пад пяцьдзясят, і без намаганьняў можна было запоўніць гэты прабел часу банальнай гісторыяй аднаго з тых трэйцяга гатунку жыцьцяў, знакі якіх чытаеш (з пакутлівым пачуцьцём перавагі, часам непраўдзівай) на тварах старых гандляроў рызьзём, вартаўнікоў мястовых гайнікаў, азлобленых інвалідаў. Мне захацелася выпытаць у яго, як ён жыве з гэтай таямніцай, як нясе цяжар пачварнага бацькоўства, бачыць і чуе штохвілінную ўсенародную прысутнасьць свайго атожылка… але тут я заўважыў, што скрозь ягоныя грудзі прасьвечвае беспарадны ўзор шпалераў, – я выцягнуў руку, каб затрымаць гасьця, але ён растаяў, па-старэчы калоцячыся ад холаду зьнікненьня.

І ўсё ж ён існуе, гэты бацька (або яшчэ нядаўна існаваў), і калі толькі лёс ня даў яму выратавальнай няведы адносна імя ягонай хвіліннай сяброўкі, божачкі, якая пакута блукае сярод нас, ані важачыся сказацца – і, можа быць, яшчэ таму асабліва гойстрая, што ў гэтага заняшчаснага чалавека няма цалкавітай пэўнасьці ў сваім бацькоўстве, – то бок баба ж была гуляшчая, у выніку чаго такіх, як ён, жыве, можа быць, на сьвеце некалькі, што нястомна вылічваюць тэрміны, кідаюцца ў пекле збыткоўных лічбаў і недастатковага ўспаміну, ганебна марaць зда-

быць выгоды зь цемры мінулага, баяцца неадкладнай кары (за памылку, за блюзьнерства, за празьмерна паскудную праўду), у таямніцы таямніцаў ганарацца (усё ж такі моц!), вар'яцеюць ад сваіх выкладак і здагадак... жахліва, жахліва... жах.

## 13

Час ідзе, а я між тым захрасаю ў дзікіх млосных марах. Мяне гэта нават зьдзіўляе: я ведаю за сабой нямала ўчынкаў рашучых і нават адважных, ды і не баюся ані пагібельных для мяне наступстваў замаху, – наадварот, – зусім не ўяўляючы сабе ягонай хвормы, я, аднак, выраза бачу лупцоўку, якая пачнецца адразу ж пасьля акту, – чалавечая віхура, якая хапае мяне, полішынэлевую ўрыўкавасьць маіх рухаў сярод прагавітых рук, трэск разадранае вопраткі, асьляпляльную барву ўдараў – і потым (калі раптам выйду жывым з гэтай віхуры) зялезны ашчапер ахоўнікаў, вастрог, хуткі суд, катавальню, плаху, – і ўсё гэта пад грамавы шум майго магутнага шчасьця. Я не спадзяюся на тое, што мае суайчыньнікі адразу адчуюць і снаё вызваленьне, я нават дапушчаю інэрцыйнае ўзмацненьне прыгнёту... Ува мне нічога няма ад грамадзянскага героя, які гіне за свой народ. Я гіну толькі за сябе, за сваю добрасць і ісьціну, за тую добрасць і за тую ісьціну, якія цяпер перакручаныя й растаптаныя ўва мне й па-за мной, а калі для каго-небудзь яны такія ж дарагія, як і для мяне, тым лепш; калі ж не, і радзіме маёй патрэбныя людзі іншага кшталту, чым я, ахвотна гаджуся са сваёй непатрэбнасьцю, а справу сваю ўсё ж зраблю.

Жыцьцё занадта паглынутае й ахутанае маёй нянавісьцю, каб мне быць хоць на колькі-небудзь прыемным, а нудаты й чарнаты сьмяротных пакутаў я не баюся, тым больш што спадзяюся на такую патолю, на такі ўзровень зачалавечага быцьця, які ня сьніцца ні барбарам, ні пасьлядоўнікам старажытных рэлігіяў. Гэткім чынам, розум мой чысты, і рука вольная... а і ўсё ж ня ведаю, ня ведаю, як яго забіць.

Ужо я думаў: ці не таму гэта так, што забойства, намер забіць, нясьцерпны, паводле сутнасьці, нікчэмны, і ўяўленьне, якое перабірае спосабы і гатунак зброі, творыць працу ганебную, хвальш ад якой тым больш адчуваеш, чым больш праведная сіла, што штурхае цябе. І яшчэ: можа быць, я ня мог бы яго забіць з гідлівасьці, як іншы чалавек, які адчувае лютую агіду да ўсяго, што поўзае, ня ў стане расьціснуць рабака ў баразьне, таму што гэта было б для яго так, як бы ён абцасам ціснуў пыльныя канцы сваіх уласных вантробаў. Але якія б тлумачэньні я ні вышукваў для сваёй нерашучасьці, было б неразумна хаваць ад сябе, што я мушу яго зьнішчыць і што я яго зьнішчу, – о Гамлет, – месяцовы ёлуп...

## 14

Цяпер ён сказаў прамову з нагоды закладкі новай шматяруснай цяпліцы і заадным пагаварыў пра роўнасьць людзей, пра роўнасьць каласоў на ніве, прытым для вельшай паэзіі вымаўляў: кляса, клясы і нават клясіцца, – ня ведаю, які прыкры шкаляр парадзіў яму ўжыць гэты

сумніўны архаізм, затое цяпер разумею, чаму апошнім часам у часапісных вершах трапляліся такія выразы, як “ашкалёпкі штkла”, “рачныя прогі” або “і мудра нашы вэтрынары вылечваюць млечных кроў”.

Цягам дзьвюх гадзінаў грымеў у нашым месьце грамадны голас, вырываючыся ў розных ступенях моцы з таго ці іншага вакна, так што, калі ісьці па вуліцы (што, зрэшты, уважаецца як небясьпечная непачцівасьць, – сядзі і слухай), атрымліваецца ўражаньне, што ён цябе суправаджае, абрынаецца з даху, вокраччу прабіраецца ў цябе паміж ног і, зноўку ўспалынуўшы, дзяўбе ў цемя, – квахтаньне, карканьне, крак, карыкатура на чалавечае слова, і няма куды ад Голасу схвацца, і тое самае адбываецца цяпер у кожным месьце, у кожнай вёсцы маёй шчасна атлумленай радзімы. Ніхто, апрача мяне, здаецца, не заўважыў цікавай рысы ягонага надсаджанага аратарства, а менавіта паўзаў, якія ён робіць паміж націскнымі фразамі, дакладна так, як гэта робіць нашчэнт п’яны чалавек, што стаіць ва ўласьцівай п’яным незалежнай, але незадаволенай адзіноце пасярэдзіне вуліцы і вымаўляе абрыўкі лаянкавага маналёгу з надзвычайнай важкасьцю гневу, запалу, пераканаnньня, але цёмнага паводле сэнсу і прызначэньня, прытым штохвілінна спыняецца, каб набрацца сілаў, абдумаць наступны пэрыяд, даць слухачам дапяць, – і, вытрымаўшы паўзу, даслоўна паўтарае толькі што вывергнутае, такім тонам, аднак, быццам яму спаў на розум яшчэ адзін довад, яшчэ адна зусім новая і бясспрэчная думка.

Калі нарэшце ён засох і бястварыя бясшчокія трубачы сыгралі наш аграрны гімн, я ня толькі ня зьведаў палёгкі, а наадварот, адчуў сум, страх, страту; пакуль ён гаварыў, я, прынамсі, пільнаваў яго, ведаў, дзе ён і што робіць, а цяпер ён ізноў распусьціўся ў паветры, якім дыхаю, але ў якім ужо няма адчувальнага асяродку.

Я разумею гладкавалосых жанчынаў нашых горных пляменаў, калі, пакінутыя каханкам, яны штораньня ўпартым націсканьнем брунатных пальцаў, шпількай з туркусавай галоўкай праколваюць наскрозь пупок глінянаму балванчыку-выяве ўцекача. Апошнім часам я часта займаюся тым, што спрабую пры дапамозе ўсіх сілаў душы ўявіць плынь ягоных клопатаў і думак, спрабую патрапіць у тахт ягонаму існаваньню, каб яно паддалося й абрынулася, як вісячы мост, ваганьні якога супалі б з шыхтовымі крокамі ідучага па ім аддзелу жаўнераў. Аддзел таксама загіне, як загіну я, звар’яцеўшы ў тое імгненьне, калі тахт злаўлю, і ён у сваім далёкім замку ўпадзе нежывым, але пры кожным іншым гатунку тыраназабойства я не застаўся б цэлым. Зраньня прачнуўшыся, гэтак а палове на дзявятую, я намагаюся ўявіць сабе ягонае абуджэньне – ён устае ня рана і ня позна, а ў сярэдні час, дакладна таксама як ледзь не афіцыйна мянуе сябе “сярэднім чалавекам”. А дзявятай я, як і ён, задавальняюся шклянкай малака і салодкай булачкай, і калі гэтым днём у мяне няма заняткаў у школе, працягваю пагоню за ягонымі думкамі. Ён прачытвае некалькі газэтаў, і я прачытваю іх разам зь ім, шукаючы, што можа спыніць ягоную ўвагу, хаця разам з тым ведаю, што яму ўжо напярэдадні быў вядомы агульны зьмест сёньняшняй газэты, ейныя галоўныя артыкулы, зводкі і справаздачы, так што ніякіх асаблівых падставаў для дзяржаўнага роздуму гэтае чытаньне ня можа яму даць. Потым да яго пры-

ходзяць з дакладамі і пытаньнямі ягоныя падручныя. Разам зь ім я даведваюся, як там маецца чыгуначны транспарт, як пацеецца цяжкой прамысловасьці і колькі цэнтнэраў з гектару дала сёлета азімая пшаніца. Разважыўшы некалькі просьбаў пра зьлітаваньне і накрэсьліўшы на іх нязьменную адмову, алоўкавы крыж – знак сваёй сардэчнай непісьменнасьці, – ён да другога сьняданьня ўчыняе звычайны шпацыр: як у шматлікіх абмежаваных, пазбаўленых уяўленьня людзей, хадзьба – улюбёнае ягонае фізычнае практыкаваньне, а гуляе ён па ўнутраным садзе замку, што быў калісьці вастрожным дваром. Ведаю я і сьціплыя стравы ягонае трапезы і пасьля яе адпачываю разам зь ім, перабіраючы ў галаве пляны далейшага росквіту ягонае ўлады або новыя захады ў прыцінаньні крамолы. Днём мы аглядаем новы будынак, форт, форум і іншыя хвормы дзяржаўнага дабрабыту, і я ўхваляю разам зь ім вынаходніка новае форткі. Абед, звычайна парадны, з удзелам урадоўцаў, я прапускаю, але затое да ночы сіла маёй думкі падвойваецца, я аддаю разам зь ім загады газэтным рэдактарам, слухаю справаздачу зь вечаровых паседжаньняў і, адзін у сваім цямнеючым пакоі, шапчу, жэстыкулюю і ўсё больш звар'яцела спадзяюся, што хоць адна мая думка супадзе зь ягонай думкай, – і тады, я ведаю, мост лопне, як струна. Але нешанцунак, знаёмы надта ўпартым гульцам, перасьледуе мяне, карта ўсё не выпадае, хаця нейкую таемную сувязь я ўсё ж, напэўна, зь ім наладзіў, бо гадзіне аб адзінаццатай, калі ён кладзецца спаць, я ўсёй сваёй істотай адчуваю правал, пустку, сумную палёгку й слабасьць. Ён засынае, ён засынае, і паколькі на ягоным арыштанцкім лажве ніводная думка не хвалюе яго перад сном, то і я атрымліваю адпачынак і толькі зрэдку, ужо безь якой бы там ні было надзеі на посьпех, стараюся скласьці ягоныя сны, камбінуючы ўрыўкі ягонага мінулага з уражаньнямі цяперашняга сучаснага, але, верагодна, ён сноў ня сьніць і я працую марна, і ніколі, ніколі ня грымне сярод ночы ягоны манаршы храп, каб гісторыя магла адзначыць: дыктатар памёр у сьне.

## 15

Як мне пазбыцца яго? Я не магу больш. Усё наладаванае ім, усё, што я люблю, абплюванае, усё стала ягоным падабенствам, ягоным люстэркам, і ў рысах вулічных мінакоў, у вачох маіх бедных школьнікаў, усё больш выразна і больш безнадзейна прабіваецца ягонае аблічча. Ня толькі плякаты, якія я абавязаны даваць ім перамалёўваць, толькі тлумачаць лініі ягонай пэрсоны, але і звычайны белы куб, які даю ў малодшых клясах, мне падаецца ягоным партрэтам – ягоным найлепшым партрэтам, быць можа. Кубічны, страшны, як мне пазбыцца цябе?

## 16

І вось я зразумеў, што ў мяне ёсьць спосаб! Была марозная, нерухомая раніца, з бляда-ружовым небам і камлыгамі лёду ў пашчах смокаў; стаяла паўсюль пагібельная цішыня; праз гадзіну места прачнецца – і як прачнецца! У той дзень сьвяткавалася ягонае пяцідзесяцігодзьдзе, і ўжо

людзі выпаўзалі на вуліцы, чорныя, як ноты, на тле сьнегу, каб своечасова сьцягнуцца да пунктаў, дзе зь іх утвораць розныя цэхавыя шэсьці. Рызыкуючы страціць свой малы заробак, я не ладаваўся ў гэты сьвяточны шлях, – іншае, больш важнае займала мяне. Стоячы ля вакна, я чуў першыя аддаленыя панхвары, балаганны заклік радыё на скрыжаваньні, і мне было спакойна ад думкі, што я, я адзін, усё гэта магу прытнуць. Але, выйсце было знойдзенае: забойства тырана ўчынілася цяпер такой будзённай і хуткай справай, што можна было зьдзейсьніць яе, не выходзячы з пакою. Зброяй для гэтай мэты былі ўсяго толькі альбо стары, але ў выдатным стане рэвальвэр, альбо гак над вакном, які, відаць, некалі служыў для падтрымкі гзымсу з запонай. Другое было нават і лепш, таму што я ня быў пэўным у дзейснасьці дваццаць пяць гадоў праляжалага патрону.

Забіваючы сябе, я забіваў яго, бо ён увесь быў ува мне, сыты сілай маёй нянавісьці. Зь ім заадным я забіваў і створаны ім сьвет, усё глупства, баязьлівасьць, жорсткасьць гэтага сьвету, які зь ім разросься ўва мне, выціскаючы да апошняга сонечнага пэйзажу, да апошняга дзіцячага ўспаміну, усе скарбы, сабраныя мной. Ведаючы цяпер сваю ўладу, я цешыўся зь яе, нясьпешна рыхтуючыся да замаху на сябе, пераглядаючы рэчы, перачытваючы гэтыя мае запісы... І раптам неверагоднае напружаньне пачуцьцяў, якое асільвала мяне, падпала пад дзіўную, як бы хімічную метамарфозу. За вакном разгаралася сьвята, сонца перачароўвала сінія сумёты ў іскрысты пух, над дальнімі дахамі бліскаў нядаўна вынайдзены геніем з народу фаервэрк, маляўніча-зіхоткі пры дзённым сьвятле. Народная эйфарыя, дыямантавыя рысы кіраўніка, спалошныя ў нябёсах, сьвяточныя колеры шэсьця, што віецца празь сьнежнае покрыва ракі, павабныя карданажныя сымболі дабрабыту айчыны, разгайданыя над плячыма разнастайна і прыгожа аформленыя лёзунгі, простая, бадзёрая музыка, руя сьцягоў, задаволеныя твары партнюгаў і нацыянальныя строі дзябёлых дзевак – усё гэта на мяне абрынулася малінавай хваляй расчуленьня, і я зразумеў свой грэх перад нашым вялікім літасьцівым Спадаром. Ці ня ён угноіў нашыя палі, ці не ягонымі клопатамі абутыя жабракі, ці не яму мы абавязаныя кожнай сэкундай нашага грамадзянскага быцьця? Сьлёзы раскаяньня, гарачыя добрыя сьлёзы, пырснулі з маіх вачэй на прываконьне, калі я падумаў, што я, які адвярнуўся ад дабрыні Гаспадара, я, які сьлепа адмаўляў прыгажосьці ім створанага ладу, побыту, дзівосных новых парканаў пад гарэх, зьбіраюся згарнуць рукі, – важуся, такім чынам, замахвацца на жыцьцё аднаго зь ягоных падданых! Сьвята, як я ўжо казаў, разгаралася, і, увесь мокры ад сьлёзаў і сьмеху, я стаяў ля вакна, слухаючы вершы нашага лепшага паэты, якія дэклямаваў па радыё цудны акторскі голас, з барытанальнай гульнёй у кожнай рысачцы:

Грамадзяне, згадайце блага дні
як бяз бацькі мы ўсе гнілі
Так бяз хмелю ні прага, ні смага,
ні піўца, ні сьпяўца б не далі

Ўявіце: рэпаў ня маем
ні бручкі, ні кабачкоў
Так і песьня, што сёньня ўздымаем,
тохла ў градах сваіх радкоў

Мы йшлі сьцяжынай уторанай
горкія елі грыбы
аж покуль брама гісторыі
ня дрыгнула ад грукадзьбы

Аж покуль беласьцю кіцельнай
зьзяючы верным сынам
з усьмешкай сваёй варажыцельнай
Ўладар не зьявіўся нам.

Але, зьзяючы, так, грыбы, так, варажыцельнай, – слушна... я, бедны сьляпак, цяпер зьнянацку відушчы, падаю на калені і каюся перад табой. Карай мяне – ці не, лепш зьлітуйся, бо кара твая – літасьць, а літасьць – кара, якая азорвае пакутлівым, дабратворным сьвятлом усю маю няпраўнасьць. Ты наш гонар, нашая слава, наш сьцяг! Веляпышлівы, добры наш волат, які пільна й любоўна наглядае за намі, клянуся ад гэтага часу служыць табе, клянуся быць такім, як усе іншыя твае выхаванцы, клянуся, што буду твой непадзельна, – і так далей, і так далей, і так далей.

**17**

Сьмех, уласна, і ўратаваў мяне. Адолеўшы ўсе прыступкі нянавісьці й адчаю, я дасягнуў той вышыні, адкуль відаць як на далоні сьмешнае. Разрагатаўшыся, я выгаіўся, як той паказкавы мужчына, у якога лопнула скула ў глотцы, калі ён пабачыў пракудныя выкруты пудаля. Перачытваючы свае запісы, я бачу, што ў стараньні паказаць яго страшным я толькі зрабіў яго сьмешным, – і пакараў яго менавіта гэтым – старым выпрабаваным спосабам. Які ні сьціплы я сам у ацэнцы свайго бязладнага твору, нешта, аднак, мне падказвае, што напісаны ён пяром незвычайным. Далёкі ад літаратурных забаваў, але затое поўны словаў, якія гадамі выкоўваліся ў маёй гняўлівай цішыні, я ўзяў шчырасьцю і насычанасьцю пачуцьцяў там, дзе іншы ўзяў бы майстэрствам і прыдумкай. Гэта ёсьць заклён, замова, так што ад цяпер замовіць рабства можа кожны. Веру ў цуд. Веру ў тое, што нейкім чынам, мне невядомым, гэтыя запісы дойдуць да людзей, ня сёньня і ня заўтра, але ў нейкім аддаленым часе, калі ў сьвету будзе дзянёк поквалі, каб заняцца раскопкамі, – напярэдадні новых непрыемнасьцяў, ня менш дзівосных, чым цяперашнія. І вось, хто ведае... дапускаю думку, што мая выпадковая праца ўчыніцца несьмяротнай і будзе спадарожнічаць вякам, – то гнаная, то ўзьнесеная, нярэдка небясьпечная і заўсёды карысная. Я ж, цень бяз костак, буду рады, калі плод маіх забытых бяссоньніцаў паслужыць на доўгія часы нейкім патаемным сродкам супраць будучых тыранаў, тыгроідаў, прыдуркаватых мардавальнікаў чалавека.

*Бэрлін, 1936 г.*

## Тлумачэньні некаторых перакладзеных словаў:

| *беларускае* | *расейскае* |
|---|---|
| в**ы**лажка | витрина |
| добраць | благо |
| кнігі**і**бка | брошюра |
| лучок | ключица |
| скарбалуп | казнакрад |
| лапезны | нескладный, угловатый |
| узьбежны | восходящий |
| суклонных | закатных |
| покваль | досуг |
| унадны | пристрастный |
| запамяталы | непомнящий |
| адцьвічыць | выдрать |
| балясы | балюстрада |
| г***а***йнік | сквер |
| успалынуўшы | взмыв |
| турк***у***савай, турк***у***с | бирюза |
| прыцінаньне | пресечение |
| камлыга | глыба |
| смок | водосточная труба |
| руя | оргия |



**ШЧУР Макс** — нарадзіўся 5 сьнежня 1977 году ў Берасьці. Вершы спрабуе пісаць з 12 гадоў, некаторыя зь іх публікаваў у абласным і рэспубліканскім друку ("Бярозка", "Першацьвет", "ЛіМ", "Полымя").

З 1994 году — студэнт менскага Лінгвістычнага ўнівэрсытэту, сябра антыпартыйнай групы "Чырвоны Жонд". Аўтар вершаванай п'есы "Сьмерць тырана" (1997). З 1998 году жыве ў Чэхіі, навучаецца на філязофскім факультэце Карлава ўнівэрсытэту (гішпанская і гішпанаамэрыканская літаратуры). Перакладае з чэскай, ангельскай, гішпанскай. Выдаў зборнікі вершаў "Спадыня Адзіноцтва" (Берасьце, 1993), "Амфітэатар" (Гданьск, 1999), "Раньні збор" (Стакгольм, 2006). Друкаваўся ў часапісах "Крыніца", "Правінцыя", "Nihil", "Arche", за мяжой — "Ariel" (Швэцыя), "Plav", "Babylon" (Чэхія). Заснавальнік сайту www.niamiesta.net

# СОЛА RENNT

"Калі ласка, просьба ўсім спусьціцца на свае палубы, празь некалькі хвілінаў мы прыбываем у порт!... Каманда парому зычыць вам прыемнага падарожжа".

Гэтую фразу я чуў безьліч разоў на шляху ў Швэцыю й са Швэцыі — звычайна яна гучала па-ангельску, па-швэцку і па-нямецку. Гэтым разам, аднак, я вяртаўся праз Данію і ехаў ня ў Прагу, а ў Мюнхэн — у госьці да свайго даўняга менскага сябра і брата па духу, дзе той працаваў цягам летніх вакацыяў. У Празе, дзе я вучыўся, мне не было дзе жыць — да пачатку кастрычніка інтэрнат быў зачынены. На запрашэньне сябра я вырашыў правесьці верасень у Мюнхэне, месьце, якое сымбалізавала для мяне Фрэдзі Мэркюры, гістарычнае Радыё Свабода, піўны путч, а таксама адзін альтэрнатыўны кінатэатар і адзін відэасалён, дзе ільга было пазычыць Джармуша. Я вяртаўся са Швэцыі, дзе тыдні два працаваў (зразумела, не зусім легальна) на разносе газэтаў, актыўна кідаў паліць, іграў на гітары на вуліцы, спрабаваў запісаць (ізноў не зусім легальна) свае песьні ў шыкоўнай студыі палацу Культуры на галоўнай плошчы, і ўжо ня мог дачакацца, як буду распавядаць аб усім гэтым свайму таварышу па вымушанай студэнцкае эміграцыі.

Адарваўшыся ад кнігі, я заўважыў побач са мною мажную жанчыну ў блакітным працоўным халаце, якая мачала швабру ў вядро й зьбірала-

ся мыць падлогу паверху для пасажыраў. Са зьдзіўленьнем я адзначыў, што, апроч яе, навокал не было нікога з маіх спадарожнікаў, якія дагэтуль спакойна сядзелі побач са мной, у парах ці паасобку, і пацягвалі каву, моўчкі ці пад гаманок. Куды яны падзеліся? – зьдзівіўся я, устаў, паклаў кніжку ў маленькую торбу цераз плячо (мае рэчы засталіся ў аўтобусе) і скіраваў да лесьвіцы, якая вяла ўніз, на палубу для перавозкі аўтобусаў і машынаў.

Унізе мяне чакаў сюрпрыз: палуба была пустой. Сьвежы начны вецер урываўся ў агромністае чэрава парому цераз разяўленую браму, па жалезнай падлозе хадзілі людзі зь нейкімі рацыямі ў чорных камбінэзонах паромшчыкаў. На прыстані было пуста – мокры асфальт зьзяў усімі колерамі ночы. Сьветлафоры былі не зялёнымі, а чырвонымі. Аднак самым непрыемным, што мяне зьдзівіла, была цішыня: як быццам паром апусьцеў ужо значны час таму.

Яшчэ не разумеючы, што адбылося, я кінуўся да паромшчыка ў акулярах і зьвярнуўся да яго па-ангельску:

– А дзе ўсе? – спытаўся я як мага спакайней і ўдакладніў: – Дзе мой аўтобус?

Той махнуў рукой у кірунку мокрага асфальту.

– Усе зьехалі, – адказаў той неахвотна. – Хвілінаў дзесяць таму.

Я больш ня мог стрымліваць свайго абурэньня.

– Гэтага ня можа быць! Яны мяне пакінулі! Там усе мае рэчы! У вас няма магчымасьці зь імі зьвязацца? – спытаўся я, з надзеяй пазіраючы на ягоную рацыю.

Паромшчык пасьміхнуўся і пахітаў галавой.

– Хіба толькі па тэлефоне, калі ў шафэра ён ёсьць, і калі вы яго ведаеце.

Натуральна, ніякага тэлефону ў аўтобус я ня ведаў. Карацей, я зразумеў, што паромшчык мне нічым не дапаможа. Усьведамленьне маёй безвыходнасьці было жахлівым. Аўтобус з усімі маімі рэчамі – гітарай, кнігамі, вопраткай – зьехаў дзесяць хвілінаў таму ў невядомым мне кірунку. Я зірнуў на гадзіньнік: была дванаццатая. Я прыгадаў, што а палове на першую ночы аўтобус павінен быў прыбыць у Капэнгаген. Гэты порт, наколькі я ведаў, быў да яго найбліжэйшы.

– Далёка адсюль да Капэнгагену? – спытаўся я ў паромшчыка, які ўжо адышоўся ад мяне.

– Трыццаць кілямэтраў, – сказаў ён.

Што ж, трыццаць кілямэтраў – ня так і шмат. У мяне ёсьць на іх паўгадзіны. Мне крыху палегчала: я паверыў, што змагу дабрацца да Капэнгагену стопам альбо таксоўкай. Толькі дзе іх знайсьці? Але гэта не праблема: у гэтым невялічкім гарадку яны павінны быць, а грошай у мяне хопіць... Не марнуй часу, хутчэй!

Я выбег з парому з сумкай цераз плячо (я быў апрануты ў шорты і майку, бо не чакаў, што апынуся на вуліцы сярод ночы, калі пачало сур'ёзна халадаць) і рынуўся бегма ў кірунку, дзе, як мне здавалася, я напаткаю непазьбежнае ў адным з капэнгагенскіх гарадкоў-сатэлітаў таксі. Аднак мяне чакала расчараваньне: порт быў не ў гарадку, а хутчэй у вёсцы. Да таго ж, як абвяшчаў агромністы надпіс, да яе быў яшчэ

дзесьці кілямэтар па шашы, на якой не было ніводнай машыны — захалусьце. Я ад душы плюнуў і кінуўся бегчы па ўскрайку дарогі.

Я бег ужо дзесяць хвілінаў, калі міма мяне праехала першая машына — я памахаў ёй, але яна не спынілася. Тое самае другая. Я пачынаў стамляцца. Балазе, неўзабаве зьявіліся сьветлафоры — цывілізацыя блізка. Я зірнуў на гадзіньнік: 00:15. Час яшчэ быў, таму што аўтобус, як было напісана на квітку, пакідаў Капэнгаген а 00:50 — у яго было дваццаць хвілінаў стаянкі на галоўным вакзале.

Вось і першае скрыжаваньне: машына спынілася на сьветлафоры. Я падбег да яе, пагрукаў у шкло — мне адчынілі.

— Вы не ў Капэнгаген?

— Не, не, — стомлена адказаў дацкі бюргер пачцівага веку.

— А дзе тут можна знайсьці таксоўку?

Ён пасьміхнуўся.

—Тут? Ну, калі вам пашчасьціць... Спытайцеся на запраўцы.

Хвілінаў праз пяць бегу я сапраўды ўбачыў запраўку. Ніякай таксоўкі каля яе не стаяла. Усё ўва мне пачынала паціху халадзець. І тут — цуд! — на супрацьлеглым баку вуліцы я ўбачыў таксі, якое нетаропка пад’яжджала да запраўкі.

Я замахаў рукой — кіроўца спыніў не адразу, нібы неахвотна згадаўшы пра свой прафэсійны абавязак.

— Паедзем у Капэнгаген? — сказаў я яму задыхана.

Кіроўца нагадваў нейкага гнома з казкі пра Ўладара пярсьцёнкаў: у яго амаль не было шыі, і вялікая галава зь вялікімі вылупленымі вачыма вырастала проста з плячэй. Ён быў увесь нібы ўціснуты ў крэсла і трымаўся за руль абедзьвюма рукамі. На ягоным амаль дзіцячым твары была напісаная тыповая сялянская нерашучасьць.

— Колькі? — спытаўся я, не даючы яму адмовіцца.

— Ну... Ня ведаю... — нарэшце адказаў ён. — Мой працоўны дзень ужо скончыўся... 100 дацкіх крон.

— Паехалі, — сказаў я, сядаючы ў машыну. — Мне трэба ў цэнтар, на галоўны вакзал. Толькі... — каб мне язык адняло з маёй сумленнасьцю! — у мяне няма дацкіх грошай, адно швэцкія.

Ён уздрыгануўся.

— Не, не, — пакруціў ён галавой, якая зь цяжкасьцю варочалася пры адсутнасьці шыі. — Швэцкія — ноў гуд. Толькі дацкія.

— Паслухайце, — сказаў я, губляючы цярплівасьць, аднак спрабуючы быць умольным. — Мой аўтобус пакінуў мяне на пароме і зьехаў з усімі маімі рэчамі. Мне трэба засьпець яго яшчэ ў Капэнгагене — праз трыццаць хвілінаў ён выяжджае з цэнтральнага вакзалу ў Гамбург. Калі ласка, дапамажыце мне, у мяне няма часу мяняць грошы...

Ягоны роздум цягнуўся недзе хвіліну — нарэшце ён уздыхнуў, кіўнуў галавой, і мы выехалі. Мне адлягло — я выцер пот і ўтаропіўся ў дарогу.

Увесь час я пазіраў то на дарожныя знакі, то на гадзіньнік, то на лічыльнік. Апошні, у адрозьненьне ад кіроўцы, працаваў надзвычай хутка (на ім было ўжо 50 дацкіх крон), тым часам як знакі паказвалі яшчэ 25 кілямэтраў да Капэнгагену, а на гадзіньніку ўжо была палова на першую

ночы. Я пачаў нэрвавацца і папрасіў кіроўцу ехаць хутчэй – балазе шаша была амаль пустая. Аднак да ста кілямэтраў на гадзіну ён так і не наважыўся дацягнуць. Пэрыядычныя ангельскія выгукі горычы з нагоды майго падарожніцкага нешанцунку пакідалі яго даволі абыякавым. Нарэшце я зразумеў, што патрапіць у цэнтар да адыходу аўтобусу мы ўжо не пасьпеем – да Капэнгагену яшчэ 15 кілямэтраў, а там усюды прыйдзецца стаяць на сьветлафорах...

– Паслухайце, – кажу я яму, – можа, вы ведаеце, па якой дарозе яны паедуць у Гамбург?

Ён зразумеў мой намёк і хітануў галавой.

– Тут толькі адна дарога, – сказаў ён. – Калі хочаце, мы можам паспрабаваць злавіць яго там.

– Выдатна, – сказаў я.

– Праўда, у мяне мала бэнзіну...

– Зірніце, – я паказаў яму маю торбу, у якой, апроч квіткоў, дакумэнтаў, капэрты з грашыма, кніжкі й нататніку, нічога не было, – вось усе мае грошы, якія я зарабіў (у мяне было недзе 350 швэцкіх крон). Паедзем так далёка, наколькі іх хопіць – абы толькі іх злавіць... – Ідэя тэлефанаваць у дарожную паліцыю з-за такой драбязы падалася мне глупствам.

Кіроўца пагадзіўся і зьвярнуў у бок выезду з Капэнгагену. Здавалася, мая сытуацыя нарэшце сталася яму зразумелай і нават у чымсьці кранула. Хуткасьць узьнялася да ста дваццаці кілямэтраў на гадзіну, аднак час ішоў няўмольна: аўтобус ужо выяжджаў з Капэнгагену, а мы яшчэ не дасягнулі патрэбнае нам гамбурскай шашы. Але я не баяўся, што ён нас абгоніць: я быў упэўнены, што мы будзем здольныя яго дагнаць. Абы толькі гэтая сустрэча адбылася як мага раней, каб не прыйшлося насамрэч аддаваць яму ўсе мае грошы...

Наступная гадзіна гэтай ночы была гадзінай адноснага спакою. Мы ехалі па пустой, нібыта закінутай шашы, як у тым аднайменным кіно, спрабуючы дагнаць цень майго аўтобусу. Аднак увесь час нам сустракаліся толькі вялізныя вагавозы, якія я кожнага разу прымаў за аўтобус.

Зірнуўшы праз нейкі час на лічыльнік, я ледзь не самлеў: лічба на ім ужо амаль удвая перавышала колькасьць наяўных у мяне грошай. Я сядзеў моўчкі і лепей глядзеў на асьветленую фарамі дарогу перад намі, каб ён не зьвярнуў увагі на маё хваляваньне. Увесь час я спрабаваў пралічыць і параўнаць нашу хуткасьць з хуткасьцю аўтобусу – мае падлікі пераконвалі мяне, што ён усё яшчэ павінен быць недзе перад намі.

Калі на гадзіньніку была ўжо амаль палова на другую, а ніякага аўтобусу не было і блізка, кіроўца павярнуў да мяне галаву і сказаў, як быццам яму было няёмка:

– Мне трэба вяртацца, іначай у мяне ня хопіць бэнзіну на зваротную дарогу.

– Няўжо мы ад'ехалі так далёка? – сказаў я, каб не падаць выгляду.

Калі ён паказаў мне на мапе, дзе мы знаходзімся, я ледзь не ашалеў – мы былі амаль на другім канцы выспы, кілямэтраў 100 ад Капэнгагену.

Машына спынілася, і ён зірнуў у мой бок, чакаючы ад мяне разьліку.

Я зразумеў, што прасіць яго пакінуць мне хоць частку маіх грошай ня мае сэнсу. Але няўжо ён высадзіць мяне аднаго, на пустой шашы, бяз грошай, пасярод невядомай мне краіны, пасярод ночы? Усё гэта залішне нагадвала нейкае кіно – і ў гэты момант у мяне, як у нейкага з маіх любімых кінагерояў, узьнікла думка: ты павінен змагацца за сябе. Адкінь умоўнасьці. Калі б ты зараз грукнуў гэтага гнома чым-небудзь па галаве, усе зробленыя табой грошы засталіся б табе. Магчыма, калі б я ўмеў вадзіць машыну, я так бы і зрабіў. Здаецца, маё маруджаньне напалохала яго, нібыта ён прачытаў мае думкі, і мне зрабілася шкада яго яшчэ больш, чым сябе. Пасаромлены, я працягнуў яму ўсе мае грошы.

Я вылез з машыны. На кілямэтры навокал разьляглася агромністая ноч. Асьвятленьня на шашы не было – адно толькі зьзяў слабенькі месяц. Краявід змусіў мяне прыгадаць кніжку пра сабаку Баскэрвіляў. Амаль інстынктыўна я кінуўся назад, да асьветленай машыны.

– Прабачце, – кажу я яму, – я вельмі вам за ўсё ўдзячны, але ці не маглі б вы пачакаць, пакуль мяне хтосьці падбярэ? Тут жа цёмна, мне ня хочацца заставацца аднаму...

– Не-не-не, – пахітаў ён галавой. – Мне трэба вяртацца дадому. Больш я вам нічым не магу дапамагчы. Паспрабуйце стапаваць, можа, вам пашчасьціць... – гаворачы гэта, ён імкнуўся не пазіраць мне ў вочы.

“Ну, чорт з табой,” – падумаў я, яшчэ раз падзякаваў яму і даволі рэзка зачыніў дзьверы. Машына разьвярнулася і неўзабаве зьнікла зь відавоку.

“Ня можа такога быць!” – лаяў я яго ў думках. “Кінуць чалавека пасярод шашы, бяз грошай, амаль што голага, уначы! У нас бы таксіст у жыцьці гэтага не зрабіў! Якая шкода, што я ўсё-ткі ня даў яму па башцэ!”

Я агледзеўся: шаша, натуральна, ня мела ўзбочыны для пешаходаў, адразу за жалезным бардзюрам пачыналіся густыя кусты. Маю ўвагу прыцягнуў нейкі гук: нешта са сьвістам расьсякала паветра. Узьняўшы галаву, я ўбачыў у слабым месяцовым сьвятле высачэзны, большы за ўсе дагэтуль мною бачаныя, вятрак, які варочаўся нечувана хутка, нібы адмяраючы апошнія хвіліны майго жыцьця, ягоны сьвіст нагадваў ківач з апавяданьня По. Ува ўсім гэтым было штосьці жудаснае. Я вылез на бардзюр: пад месяцовымі промнямі зьзялі... хвалі! Тут да мяне дайшло: шаша пралягае пасярод мора! Я стаяў на вузенькай, хутчэй за ўсё, штучнай палосцы зямлі сярод бязьмежнага мора, пакрытай асфальтам. Наўкол не было нікога. “Божа, – падумаў я, ды ты ж тут насамрэч можаш да раніцы памерці ад холаду, і ніхто цябе ня знойдзе! Альбо нават калі так – бяз грошай у чужой краіне ты прападзеш, табе нічога не застанецца, як толькі вярнуцца ў Капэнгаген і скончыць сваё жыцьцё бяздомным жабраком у Хрысьціяніі”... У гэты момант пачуўся далёкі гук, які імкліва нарастаў: набліжалася машына. Я падрыхтаваўся да таго, каб спыніць яе любым коштам.

Аднак насамрэч мне прыйшлося хутчэй ад яе ўцякаць, прыціснуўшыся да бардзюру: агромністы трак, падобны да танку, на ўсёй хуткасьці праляцеў каля мяне і ледзьве ня зьбіў. Спыняцца ён, натуральна, не зьбіраўся, хаця ў магутным сьвятле фараў ня бачыць мяне ня

мог... Божа, колькі часу мне прыйдзецца чакаць наступнай машыны? Ад думкі дагнаць аўтобус я цяпер канчаткова адмовіўся.

Не прайшло пяці хвілінаў, як на мяне з драпежным рыканьнем рынуўся яшчэ адзін трак. Прыціснуўшыся да ўзбочыны, я замахаў рукой — безвынікова. Той праляцеў зь яшчэ большай хуткасьцю, чым першы. Я паглядзеў яму ўсьлед і раптам убачыў, як запаліліся чырвоныя агеньчыкі, да мяне даляцеў гук тармазоў — вагавік усё-ткі спыніўся мэтраў за сто ад мяне, як мне падалося — чыста выпадкова. Я кінуўся яго даганяць, баючыся, што кіроўца ад'едзе, ня ўбачыўшы пры шашы нікога.

Аднак ён мяне ўбачыў. Калі я падбег да высокіх дзьвярэй, тыя ўжо былі адчыненыя.

— Я думаў, што ты — прывід! — ня верачы сваім вачом, сказаў мне мажны вусаты датчанін у майцы і з цыгарэтай у зубах. — Як ты тут апынуўся? Ты наагул нармальны? Сядай!

Мяне ня трэба было запрашаць два разы.

— Едзем хутчэй, — таропка вымавіў я, не пасьпеўшы павітацца. — Мне трэба дагнаць свой аўтобус — я страціў шмат часу...

Мая гісторыя яго павесяліла. Ехаць хутчэй ён не зьбіраўся — ён быў стомлены і крыху сонны пасьля доўгай дарогі, таму няма дзіву, што прыняў мяне за духа — ён вяртаўся, як ён казаў, з Парыжу, адвёз груз, а цяпер зьбіраўся на ноч дадому, да жонкі й дзяцей, якіх ня бачыў ужо некалькі тыдняў.

— Ды плюнь ты на гэты аўтобус, — пераконваў мяне гаспадар закуранай кабіны, абклеенай голымі дзеўкамі і футбольнымі камандамі, — яшчэ большы флегматык, чым ягоны папярэднік-таксіст. — Паехалі да мяне, я жыву якіх 40 кілямэтраў адсюль. Пап'ем піва, а раніцай патэлефануем у іхную фірму — не прападзе твая гітара...

Я не даслухаў: мяне нібы ўдырыла токам. Нас абганяў белы аўтобус зь лягатыпам маёй транспартнай пасажырскай кампаніі і знаёмымі нумарамі.

— Гані! — закрычаў я. — Гэта ён! Сыгналь!

Шафэр паслухмяна пачаў сыгналіць, міргаць фарамі, зьлёгку націснуў на газ — марна: аўтобус аддаляўся ад нас з шалёнай хуткасьцю.

— He's driving like hell, — пакруціў галавой кіроўца. — Нам яго не дагнаць.

— Фак! Фак! — крычаў я, бухаючы кулакамі ў панэль перад сабой. — Няўжо нельга нічога зрабіць?

— Што я зраблю? — пацiснуў плячыма кіроўца. — Паехалі, кажу табе, піва пап'ем...

Калі б у мяне быў пісталет, я б, напэўна, пачаў па гэтым аўтобусе страляць. Увесь абсурд сытуацыі намаляваўся ў мяне перад вачыма з гранічнай жорсткасьцю: на працягу дзьвюх гадзінаў я гнаўся цераз усю Данію на таксі за аўтобусам, які ўвесь гэты час быў ззаду мяне, прасраў усе свае грошы, а зараз упусьціў яго, калі ён быў ад нас літаральна ў некалькіх мэтрах. Майму гневу не было межаў!

— Ну, як хочаш, — кажа кіроўца, — а мне трэба паварочваць. Дык што, не паедзеш са мной?

Я адмахнуўся: высаджвай мяне тут. Толькі папрасіў паказаць на мапе, дзе мы знаходзімся.

Пакуль ён даставаў мапу, я краем вока заўважыў на панэлі перад сабой прыкрытыя нейкімі паперамі дацкія банкноты – там было кронаў пяцьсот. Крымінальная думка яшчэ раз мільганула ў мяне: прысабечыць іх, пакуль ён не глядзіць. Але зрабіць гэтага я ня мог. Я выскачыў на шашу і захлопнуў дзьверцу – яшчэ адзін папутчык пакінуў мяне сам-насам з маім горам.

Амаль ня думаючы, што рабіць, я пабег. Я зразумеў, што калі не дагоню аўтобус цяпер, я больш ніколі ня ўбачу ні яго, ні сваіх рэчаў, а сам застануся ў гэтай краіне ўсур'ёз і надоўга. Дзякуй богу, мы прынамсі былі ўжо на цьвёрдай зямлі – на кантынэнце, і вакол павінны былі жыць людзі.

І сапраўды, нейкая машына неўзабаве зьявілася ззаду мяне. Бяз роздуму я кінуўся з узбочыны на шашу і перагарадзіў машыне шлях у позе Леанардавага чалавека-зоркі – аднак машына са сьвістам аб'ехала мяне й рынулася далей, ледзь не перакуліўшыся. Што я ў думках крычаў у бок кіроўцы, лепей ня ведаць.

З наступнай машынай мне пашанцавала больш: тая ехала нашмат павальней. Зазірнуўшы ў яе, я ўбачыў у салёне перапалоханую сям'ю: кіроўца, яго жонка і трое ці чацьвёра дзяцей пазіралі на мяне вылупленымі ад цікавасьці вачыма. Я скарагаворкай патлумачыў яму, у чым справа, махаючы рукой у бок зьніклага аўтобусу – бацька сям'і выслухаў мяне і сказаў, што ўзяў бы мяне, калі б у яго ў машыне было месца. Я зноў падзякаваў, зноў вылаяўся і зноў пабег.

Падабраў мяне толькі наступны легкавік – у ім нейкі малады немец з залатым ланцугом на шыі вяртаўся з дыскатэкі пад гукі нейкага тэхна. Ён адразу ўцяміў, што мне патрэбна ў порт, і растлумачыў, што той ужо блізка. Хвілінаў праз дзесяць ён высадзіў мяне перад шлагбаўмам, які перакрываў уезд у гавань, і паехаў у іншы бок. Я зноў пабег – да порту было яшчэ болей кілямэтру. Я бег доўга, як мне падалося, але сілаў у мяне ўжо не было: да паліцэйскага пастарунку, ля якога я здалёк заўважыў машыну, я падышоў пешкі.

Нарэшце – прадстаўнікі ўладаў! Вось хто мне павінен дапамагчы! Я ўварваўся ў пастарунак з патрабаваньнем падкінуць мяне да прыстані – прысутныя паглядзелі на мяне, як на вар'ята. Там былі хлапец і дзяўчына ў дацкіх паліцэйскіх уніформах, яшчэ адзін тлусты стары паліцыянт у акулярах (як высьветлілася пазьней – кіроўца) ды два маладзёны, якія, як я зразумеў, аказаліся затрыманымі хуліганамі.

Флегматызм дацкай паліцыі далёка пераўзышоў флегматызм таксіста і дальнабойшчыка разам узятых. Мне сказалі пачакаць – чакаць прыйшлося хвілінаў пятнаццаць. За гэты час, напэўна, я пасьпеў бы ўжо неяк дашкандыбаць да гавані сам. Ехаць старому кіроўцы нікуды не хацелася – калі ён, нарэшце, атрымаў на гэта дазвол, ён зусім не сьпяшаўся завесьці машыну і крануцца зь месца. Ехаў ён, бадай, ня з большай хуткасьцю, чым я бег. Аднак цуд стаўся праўдай: мы ўехалі ў прыстань, і я ўбачыў ля берагу высокі белы сілуэт парому. "Гэта – яны!", усклікнуў я ў думках, падзякаваў паліцыянту, выскачыў з машыны ледзьве не на хаду і пабег да карабля. Дзьверы якраз зачыняліся. Толькі туды патрапіць – там я пакажу гэтым ідыётам, што мяне кінулі!

Я ўзьляцеў па нахіленым асфальтаваным узьезьдзе да брамы парому і загрукатаў кулаком у жалеза. Мой грук, як ні дзіўна, пачулі – да ілюмінатару падышоў стары паромшчык, гэтым разам ужо немец, зь незадаволеным выразам твару.

– Пусьціце! – крыкнуў я. – Там мой аўтобус!

Ён ня мог мяне чуць, але ж, я думаю, зразумеў, у чым справа – ягоны твар здрыгануўся ва ўсьмешцы, ён адмоўна пахітаў галавой і... памахаў мне ручкай. Мне вельмі закарцела яго забіць. У гэты момант карма аддзялілася ад прычалу – я трымаўся за яе рукой, здавалася, гэта я сам падштурхнуў яе ў мора. Я рэзка адышоўся назад: між мною й караблём у мяне пад нагамі раскрылася глыбокая прорва, дзе ў некалькіх мэтрах унізе плюхалася чорная вада. Сеўшы на ўскрайку гэтай прорвы, я пазіраў усьлед сваім рэчам, якія паплылі ў Гамбург, тым часам як стары паліцыянт у машыне пазіраў на мяне і, напэўна, ня мог стрымаць рогату. Была трэцяя гадзіна ночы.

– Калі наступны паром? – спытаўся я яго.

– Праз паўгадзіны, – адказаў ён. І сапраўды, на даляглядзе ночы зьявілася гурба агнёў, якая кіравалася да нас. – Шчасьліва заставацца.

Я зноўку застаўся сам. Была цішыня, толькі дзесьці паблізу рагаталі й сьпявалі песьні ў дупу п’яныя датчане з бляшанкамі піва ў руках – за глыток піва, здаецца, я б аддаў зараз усё на сьвеце. Чаму такія рэчы павінны адбывацца менавіта са мной? Я ўжо другі раз на працягу ночы даганяў свой аўтобус, і ў другі раз ён ад мяне пасьпяхова ўцякаў. Але цяпер я быў да яго блізка як ніколі: я ведаў, дзе ён і куды кіруе. Падставы здавацца не было.

Паром падышоў да берагу, брама адчынілася, зь яе пачалі выяжджаць машыны. Праз колькі хвілінаў загарэўся зялёны ліхтар, і ў порт памалу пачалі кіраваць усемагчымыя транспартныя сродкі, ад матацыклаў да вагавікоў. Я азірнуўся і вачом сваім не паверыў: сярод іх зьявіўся амаль такі ж самы аўтобус, як мой, белы зь лягатыпам той самай фірмы. Я ўзгадаў, што бачыў яго на вакзале ў Стакгольме ў час ад’езду, і ў мяне зьявілася надзея. Я падышоў да кіроўцы ў белай фірмовай кашулі і паказаў яму свой квіток:

– Вітаю, – кажу. – Я ехаў з вашай фірмай у Мюнхэн, але яны пакінулі мяне ў Капэнгагене. Зь імі ўсе мае рэчы. Вы не маглі б узяць мяне з сабой да Гамбургу, а тым часам неяк зьвязацца зь імі і паведаміць, каб яны мяне пачакалі?

Кіроўца пасьміхнуўся.

– Не хвалюйцеся, – кажа. – Мы сустракаемся зь імі ў Гамбургу а чацьвёртай гадзіне – яны нас пачакаюць. Але вам пашанцавала: у нас спазьненьне на паўгадзіны...

Хто ж мог ведаць! Фактычна я праехаў усю Данію сваім ходам абсалютна дарэмна: калі б я застаўся на паўгадзіны ў тым порце каля Капэнгагену, я б сустрэў іх яшчэ там і не згубіў бы марна столькі грошай і сілаў... Калі я ўсё-ткі даеду да Мюнхэну, то замест грошай прывязу свайму сябру толькі блытаны аповед аб гэтай бязглуздай і непатрэбнай начной пагоні, у якім выстаўлю сябе перад ім поўным ідыётам...

Усьведамленьне гэтага мяне канчаткова дабіла. Ня памятаю, як я

зайшоў на паром, як сеў у іхны аўтобус, як даехаў зь імі да Гамбургу, як прывітаўся з кіроўцамі свайго аўтобусу (якім спачатку хацеў даць у морду, але сілаў злаваць на іх у мяне ўжо не было), як узрадаваўся, калі ўбачыў у багажы сваю гітару й валізу… Памятаю толькі, што на пароме я ўбачыў хлопца, які стаяў каля попельніцы з цыгарэтай – шчасьлівая думка прыйшла мне ў галаву. Дрыготкім голасам я папрасіў у яго цыгарэту і запальніцу – ён не адмовіў. Перад гэтым я не паліў тры месяцы… Тая цыгарэта была самай смачнай у маім жыцьці.

*28.12.2006, Прага*

# ВЕРШЫ

* * *

Я пры жыцьці нашу жалобу
па сьвеце й па сабе самім.
Што б я ні бачыў, ува ўсім
я бачу горшую палову.

Я гэтым сьмешны менавіта,
хоць сам з задавальненьнем кплю.
Лічыце, што я быццам сплю
пад гук будзільніку нябыта
(пстрычка рытмічна б’е іглу
ці цыгарэту сібарыта),
а вы, лічыце – не, нібыта.

* * *

У пятніцу ўвечары цішаю поўняцца офісы,
вачмі выядае натоўп бамбаньеры дамоў,
і дзесь шакалядкі дзьвярыма ў нязнанае ломяцца,
і джойнтаў букеты задурваюць пусткі галоў.

У попельніцах недапалкі выкладваюць свастыкі,
і пёркам падушкавым плавае ў шклянцы лімон,
і ладзяць пачваркі на прынца жыцьця порнакастынгі,
і душацца …ам дамы, што дзеці бліном.

Тым часам ты ў доме сваім перачытваеш “Фауста”,
сьцякае крывёй па старонцы зьнясілены зрок,
сьціскаеш піўную бутэльку ў руцэ замест фаласа
і думаеш – дабраславеньне яно ці сурок?

*   *   *

О, пахі, пахі, пахі, пахі!
Вясновы Дэлфт, застойны Брэст,
тонкія сэрцаў апранахі,
асобнай долі маніфэст.
Бадун – найлепшы падарунак,
хаця й апошні, днём пазьней;
адзіны дзейны паратунак
ад недацямнасьці людзей.
Нібы ў той барадатай фразе:
прыйшоў, убачыў і прасраў.
Куррыкулум ува ўнітазе
часу бязвыхадна застраў.
Фэст: напаўхрост, напаўпамінкі.
Мацней з гадамі элемэнт
другі. Свой шлях да палавінкі
прайшоў і набухаўся ўшчэнт,
і заблукаў у трох ялінах:
якой зь іх упрыгожыць кут?
Танчэйшую вазьмі, асілак,
звалі пінком яе, будзь крут!
Хваінкі ў поўсьці дывановай
ня зьесьць ніякі пыласмок,
і вывадак зь яліны новай
спарыцца з рэштай пад шумок.

## Дзень мігрантаў

Малако замерзла ў месяцовай рэторце –
не напіцца, як яе ні куляй.
Году ў сьпіну Каляды ўвапхнулі кортык,
каб жыцьцё магло пачацца з нуля.
Для каханьня мала гэтага сьвету,
каб сябе перадаць. Ягоны шал –
узнагарода за ўсе пакуты дагэтуль
двух разлучаных розумаў, боскі безнал.
Я – што раб, развучаны быць свабодным.
Чым разрыў пазьнейшы, тым большы боль.
Адчуваеш сябе Борхэсам ці Бонды
ад няменьня амбіцый быць сам сабой.

## Новы, 2007-ы

Стрэльбішча па ўсім даляглядзе –
па шарох каляровых б’юць кулямёты,
абсыпаючы головы там, залягла дзе
абарона ад дывановага лічбавага налёту.

Пахне біялягічнай пагрозаю!

З крыкамі птушак узьлятаюць ракеты,
людзі гуртуюцца разам ад боязі –
вярнуць мінулае ёсьць іхнай мэтай,
тым часам як нашай – прачнуцца цьвярозымі.

* * *

Мая паэзія памерла –
яе забіў бяздушны друк.
Цяпер яе кранацьме хеўра
тысячы пальцаў, сотні рук,

што зь ёю прыйдуць разьвітацца –
якая ж гожая ў труне!
Ня лезьце толькі цалавацца
ні да яе, ні да мяне.

* * *

*А. І.*

Дзень разыдзецца, быццам тэлік,
год разносіцца, быццам бот,
пяць гадзінаў цэлых,
скарыстаўшы келіх
з каньяком, адмерае рот.

Па-над мостам раскіне вэлюм
птаства спуджана, як сіло,
і захочацца вельмі
двум розным целам,
каб іх штосьці ў адно зьвяло.

Ды навошта, бог на promille*,
пакуль вочы яднае шрыфт –
за сьпіною крылы
дзьвюх ног ня ў сілах
наш адтэрмінаваць абрыў.

**адзінка вымярэньня колькасьці алькаголю ў крыві.*

## Банкі

Нібы для пэльмэняў цеста,
як лямпачкі безь сьвятла,
нібы на сьпіне яечня –
ваш вымерлы рытуал.

Засмок важкі нежаноцкі,
бо матчын, поўны вагню,
ад сьмерці курчыўся хоць бы,
я ні на што не зьмяню.

*  *  *

*П.Х.*

Увечары ўзімку ў зімовае вопратцы сьпёчна,
а зранку на сонца балюча глядзець, бы на сьмерць,
зь якой мы знаёмыя, як і са шчасьцем, завочна.
Адзін успамін толькі ў лужыне памяці зьмерз,

у верасьні, Мюнхэне, прыцемках тысячагодзьдзя.
Нібы валяр'янка, суцішвае водарам грог.
У кляштары быццам, хавацца на аўтазаводзе,
каб крочыць пасьля на шынком упрыгожаны рог,

пусьціўшы, бы птушак, па сьвеце дзяцей мэталічных.
Удома чакаюць згрызота, кіно, алькаголь.
Жыцьцё ёсьць усюды на сьвеце такім безаблічным
для тых, хто нічога ня хоча чакаць ад яго.

## Yerba Mate

Шаманскі напой насамрэч цягне ў іншыя землі,
дзе зараз вясна – набліжае сутоньне нэон,
і фарба напою ўласьцівая стойкае зелені,
і горад наўкол выглядае, бы гэта ня ён.

На некалькі месяцаў сьвет перанесены ў будучыню:
дзяўчаты ў кавярнях балбочуць аб новых хлапцах,
і я сваё цела, чужым падзяўбанае вуду, чыню,
гумовую ляльку-каўчэг, ратавальны пасаг.

Калі яго хтосьці надзьме, яно плыцьме слухмяна
па муці стаячай, генэалягічнай ракі.
Адно не малюйце на шчоках зарослых румянаў –
іх выядуць злыя, салёныя хваль языкі.

*  *  *

З вакна, на падваконьні-аналоі
чытаю прыпавесьць, тытунь – як фіміям,
а ўсьцяж перада мной, як на далоні –
раю господняга тутэйшы філіял.

Звон водзіць званара, нібыта рыба.
Гарбатаю настойваецца гук.
Зямля паўсюль сьвятлейшая за неба,
як у старых галяндцаў – вочы псюк.

Качкі курсуюць у стаўка нэўтральных водах,
З гары здымае іх мароз-шпіён.
Майго місіянэрства асяродак –
зімы арандаваны павільён.

* * *

*Пахне сьнег. Надзеяй пахне.*
***Б.Рэйнэк***

Сьнег пахне, быццам учарашні хлеб,
дастаны з поўнага дзівосамі сэрванту.
Ягоная цнатлівасьць, сьвежасьць – блеф.
Тым большы смак для знаўцаў дэспэранта*.

Давай ізноў гуляць, нібыта мы
наканаваныя адно аднаму.
Лотківача замёў сьляды кармы.
Вагнямі поўніцца судока дому.

* *штучная мова, створаная на падставе зьніклых моваў сьвету, незафіксаваных на пісьме*

* * *

Раніца – доўгае сола
на плястыкавай бутэльцы
за няйменьнем расолу.
Гэтак трубяць тапельцы.

Бурбалкі – быццам ноты.
Прэч з пасткі-раскладушкі.
Плачу па страце цноты
сьмехам адкажуць птушкі.

* * *

Вечар. Проста праехацца ў цягніку
з макулятурай у пляцаку.

Семафоры – апошнія сьведкі Калядаў.
Вясной запахла з-за даляглядаў.

Вуж з айчынным арнамэнтам на гарбе
ў вядомы бар завядзе цябе,

дзе ў клязэце – пах савецкай цырульні,
дзе шарм наведвальніц – неадольны,

дзе дамы шыі ў манто заматалі,
нібы балерыны – таліі,

дзе вырашаць крыжаванку рахунка
надзіва слушна й надзіва хутка.

* * *

Дождж – вадкія кванты
бела-шэрага дня.
Стан душы адэкватны
чысьціні насланьня.

Прэч з каюты на палубу
зь небам замест вады.
Можа, цела шчэ й спала бы,
каб ня ў страўніку дым.

Надзімаюцца ветразі
грудзяў і жыватоў.
Мы наўрад ці ўжо вернемся,
да сябе – пагатоў.

* * *

Вясна – як лекар. Не пасьпееш распрануцца –
яна ўжо пасылае на рэнтген.
У бочцы чэрапу нат не спрабуй замкнуцца
ад цела, набарака Дыяген,

бо ўжо і ў ёй папахвае навозам.
Пахі дзяцінства сочаць за вуглом,
каб рот запхнуць анучкаю з наркозам,
а потым сэрца прапіхнуць калом.

І раптам – тут! – аўтобус аж з Гародні,
і твары беларускія за шклом.
Прывет! Мы несвабодаю падобны
выйсьці з салёну ці ўвайсьці ў салён.

## Вялікдзень

Вясна здаецца мне асэксуальнай.
Сутоньня дачакацца ўсё цяжэй.
Яйкі й ірты крывёю мэнструальнай
фарбуюць, каб прадаць падаражэй.

Са сьпячкі абуджаюцца кузуркі
бяз сэнсу й дай-прычыны навакол,
і сонца прачышчае кроў рачулкі,
бы антыалерген ці дэмідрол.

Прырода ўдасканальвае скульптуру
дзяўчыны павуціньнем паміж ног,
і радасна, што сьмерці дыктатуру
перахітрыць прынамсі хтосьці змог.

* * *

Дзень Кнігі: лёгка паміраць
і цяжка разыходзіцца.
Красуе ў клюмбе папараць —
як мы, зямлі палоньніца.

У садзе між каменьчыкаў
зь японскімі банзаямі —
прыроды ў цацку зьменшанай —
высока папаўзла яна.

Паклон цярплівасьці такой!
Яна пакуль ня ведае,
што колькі ні цягнуцца ёй,
ня стане яна кветкаю.

## “Акварыюм” на Вінаградах

*Б.Г.*

Не Бадхідхарма з доўгай барадой,
не іранічны колер акуляраў,
ня лёгка прадказальныя акорды,
ня выкрыкі натхнёных неафітаў
дапамагаюць зарыентавацца
ў блытаных словах новай песьні,
дзе я згубіўся, бы ў сабе самім,
а ненападабняльны востры голас

і піцэрскі акцэнт у розных мовах,
дыханьне, на якім я вырас,
дапамагаюць усьвядоміць нерэальнасьць
таго, што адбываецца са мною
й запэўніцца ў рэальнасьці таго,
хто дваццаць год быў улюбёным ценем.
Лягчэй убачыць горад залаты,
чым з архітэктарам загадкавым сустрэцца.
Цяпер можна сьмяяцца і крычаць,
калі ўжо зразумеў, што песьні ўзростам
нагадваюць на самай справе віны,
і хай аматары ёсьць маладых гадоў,
якіх п’яніць сучаснасьць этыкеткі,
знаўцамі аддаецца перавага
смаку старых і дарагіх гатункаў.

## Сымэтрыя

Пчала бзужжыць, як перамотка відэа.
І насамрэч, ад пэўнае мяжы
яе жыцьцё ёсьць люстраным паўторам
таго, што ёй прыйшлося перажыць
у часе папярэдняга пэрыяду.
Яе інстынкт: сама быць сабе ўзорам.

* * *

Нібыта сыроватку, п’е з асалодай
труба пасьля ранішняй ванны ваду.
Якою з эзопавых моў ні валодай –
што лепшага імі я апавяду?

Папера ў клязэце нырае мэдузай,
трымаецца ўпарта бычок на плыву.
Як ляльку за розныя ніткі ні тузай –
фрызура ня дасьць апусьціць галаву.

Па вострым каменьні крыжую чыгунку,
як некалі зь цёткай – празрысты ручай.
Нідзе, апроч места, ня знойдзеш прытулку,
як кнігі разумныя ні вывучай.

Адну на дваіх цыгарэту зь віхурай
Папаліш – і зноў у вагонны трыбух.
Як дэманаў зь цела свайго ні выкурвай –
апошні зь іх выйдзе, як выпусьціш дух.

* * *

Вуліцы западаюць адна ў адну
зубцамі плыняў дарожнага руху,
падобна пальцам рук ці радну.
Мэханізм выробляе смурод і задуху.

Тэлевізія ў люстэрку крывым — як кіно.
Дзеці ацэньваюць рэчы нябачным
чырвоным ліхтарыкам. У вакно
піла дыхае разяўленай зяпай сабачай.

* * *

Паэт рушыць з працы начною вуліцай
і думае вершамі ў рытме крокаў.
Дзяўчо насустрач пахне настурцыяй,
паэт яго з радасьцю б адмудохаў.

Нябачны хціваму воку дамскаму,
адліць запыніцца пад кусточкам,
пашле паклон барону цыганскаму,
вакзалу-палацу і курвам-дочкам.

А на пэроне сядзе на зэдліку
і вершы ў сшытачак накрамзоліць,
а потым на хер пашле паэтыку
дзеля бутэлькі ў сваім камзоле.

## Памяці Ўладзімера Каткоўскага

Сёньня яшчэ гнюсьнейшы дзень,
чым звычна. Сонца лезе сьлепнем
у твар, будзільнік-муэдзін
суседа кліча на малебен,

і я кіруюся туды ж,
хоць разумею: бог няісны,
а лёс ёсьць толькі змовай між
людзкою дурасьцю і сьвінствам.

О, віртуальнае жыцьцё!
Набыў сабе дзялянку — шляхціц.
Бы ў вечнасьць собскую, усё
ў яго хацелася б укласьці.

Хто толькі вынесе прысуд,
ці быў у гэтым сэнс, ці будзе?
Адказваць нам — цяпер і тут.
Абвінавацца — бог, мы — судзьдзі.